# Маладосць

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(714) МАЙ, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**



**5**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

# Як помніцца апошняя вайна?

**Аляксандр КАЗІНЦАЎ, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник»:**

— Я яшчэ не настолькі стары, каб помніць вайну. Але, зразумела, не магу не думаць пра яе — столькі жыццей аддадзена ў барацьбе за «победу». Перамогу — беларускае слова тут будзе самым дакладным.

Захапляюся трываласцю пераможцаў і пакутліва перажываю катастрофу распаду СССР: яна знішчыла шмат з таго, што абаранілі нашы бацькі і дзяды. Упэўнены, сумесная перамога народаў Саюза ў самай жудаснай з сусветных войн павінна стаць прыкладам бязмернага гонару, векавым падмуркам нашага адзінства. Даследчыкі, кажучы пра 1991-ы, напэўна, назавуць яго самым трагічным парадоксам сусветнай гісторыі.

Мудрэц Гётэ пісаў: «Толькі той варты жыцця і свабоды, хто дзень за днём ідзе за іх у бойку». Нашчадкі пераможцаў забылі гэту ісціну. Атрымліваючы асалоду ад міру, яны паступова, ледзь прыкметна, здавалі пазіцыі і ў эканоміцы, і ў ідэалогіі (выдатны публіцыст Уладзімір Чывіліхін яшчэ ў 1960-я гады засмучваўся: «…У газетах усё не тое. Словы такія, быццам пустая бочка коціцца з гары, а чалавеку патрэбны цёплыя і "густыя" словы»). Цяперашняму пакаленню, маім сябрам-патрыётам дасталіся ар'ергардныя баі ў 1991-м і 1993-м. На жаль, прайграныя.

Думаючы пра вялікую перамогу, на мой погляд, трэба памятаць і пра тое, што здарылася з намі пры канцы XX стагоддзя. Параза — таксама добрая школа. А досвед закладвае будучыя перамогі рускіх і беларусаў.

**Святлана ДЗЯНІСАВА, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць»:**

— Вайну я ўспамінаю часта. Мо нават часцей, чым гэта трэба чалавеку, які нарадзіўся праз трыццаць гадоў пасля яе. Успамінаецца старэнькая санітарка Фіра Сямёнаўна Мінакер — амаль Ашхен з трылогіі Юрыя Германа! Перамыўшы інструменты, Фіра Сямёнаўна сядала насупраць мяне, сваёй «маладзенькай сястрычкі», і, выціраючы паркалёвай сурвэткай штопферы ды шпатэлі, распавядала чарговы раз пра яўрэйскае гета: «Яно было вось тут, побач з нашай паліклінікай». Пра тое, як, хаваючыся ў падвале, адна яўрэйка ўласнымі рукамі задушыла сваё немаўлятка. Яно раптам пачало крычаць і магло выдаць немцам месца знаходжання не аднаго дзясятка людзей.

Успамінаю чорную з адбітай ручкай патэльню, на якой бабка пякла блінцы на сняданне. Тая патэльня была, бадай, адзіным з хаты прадметам, які «прайшоў вайну». Па абедзе, прагнаўшы карову, бабка сядала на тапчан ля сценкі, што мяжуе з печчу, і ўспаміналa — які ўжо раз па маёй просьбе, — як палілі нашу вёску. Сагналі ўсіх да канавы і прымусілі глядзець на палымнеючыя хаты. А потым вяскоўцы, перш чым пайсці жыць у свінарнік (адзінае, што ў вёсцы ўцалела), вышуквалі ў попеле кожны сваё — міскі, патэльні, відэльцы... Знаходзілі.

Успамінаю руку старэнькага ветэрана, якога бачыла ў Дзень Перамогі ля Камароўкі. Рука трымала марожанае на палачцы. Не за палачку — за марожанае ў абгортцы. Яго постаць, хаду і выраз твару, і тое, як ён трымае гэта марожанае, мне з памяці ніяк ужо не сцерці. Як не сцерці гучання слова, вымаўленага былым жыхаром блакаднага Ленінграда. У інтэрв'ю ён сказаў: «День Перемоги». Перамагаюць жа толькі людзі, якія могуць. Перамога з магчымасцю — аднаго кораня. І значыць гэта, што тая вайна здольна прыносіць новыя ўрокі.

Варта яе толькі ўспамінаць…

**«Беларускае кіно сярэдзіны мінулага стагоддзя звязана ў сваёй масе з тэмай Вялікай Айчыннай. Знята шмат геніяльных фільмаў, закрануты досыць хвалюючыя моманты. І, можна сказаць, раскрыта гэта тэма ўздоўж і ўпоперак, а таму зрабіць нешта лепшае тут ужо не надта атрымаецца. Але мы чамусьці працягваем спекуляваць на гэтай тэме».**

***Тэмы кіно і вайны ў гэтым нумары спляліся ў адно цэлае. Чытайце на старонках 109 — 117.***




*Уладзімір СОДАЛЬ*

# *Каб за край быў умерці гатоў!..*

Францішак Багушэвіч ніколі не быў вайскоўцам — ні ў якім войску не служыў. Але бараніць Бацькаўшчыну яму ўсё ж давялося. Гэта было ў незабыўным 1863 годзе. Ён прыйшоў ў паўстанцкае войска на заклік Кастуся Каліноўскага, які казаў, што чалавек вольны, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае дзе, а ідзе бараніці свой край тады толькі, калі які непрыяцель надыдзе. І такі час для Францішка неўзабаве настаў. Дваццацітрохгадовы, ён свядома ўзяў зброю ў рукі і напраўду быў гатовы ўмерці за свой край. І паміраў, але выхадзілі яго добрыя людзі. Францішкаў патрыятызм быў не на словах, а ягоным глыбокім перакананнем, яго самаахвярнасцю. Тут не было фальшу. Гэта адчувалі і ягоныя наступнікі. Нядзіва, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны нашы дзеячы літаратуры не адзін раз звярталіся да Багушэвічавай постаці і ягонай творчасці. У 1943-м газета «Савецкая Беларусь» змясціла ў літаратурным дадатку падборку патрыятычных вершаў пра Радзіму. І найперш сярод іх былі працытаваны Багушэвічавы славутыя радкі верша «Ахвяра»:

Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умерці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.

А яшчэ на літаратурным дадатку стаялі словы: «Прачытаў — перадай таварышу!» Усё, як у вайну, як на вайне, — з трывогай, з думкай пра перамогу, з марай далучыць народ праз пісьменніцкае слова да змагання, да барацьбы з ворагам. Францішкава слова было тут дарэчы: пісалася ў мінулым XIX стагоддзі, а прыдалося і пры новай нагодзе.

За час Вялікай Айчыннай Кузьма Чорны вяртаўся да Багушэвіча не адзін раз. Вось яго радкі з дзённікавага запісу ад 10-га верасня 1944 года: «Учора ўвечары і сёння да поўдня чытаў К. Федзіна “Горький среди нас”. Чамусьці пасля кнігі К. Федзіна я пачаў думаць пра вечнае, пра Францыска Багушэвіча».

Багушэвічавы пастулаты спрыялі народу ў ягоным змаганні. Калі б мы іх не трымаліся, мо б мы і не перамаглі б. Якраз пра гэта гаворыць Міхась Ларчанка ў артыкуле, напісаным на фоне вайны. Паводле яго слоў, Багушэвічава паэзія «не страціла сваёй каштоўнасці і для канчатковай перамогі над злом чалавецтва — гітлерызме», і для адраджэння Беларусі.

У студзеньскім нумары «Беларусі» за 1945 год быў змешчаны Багушэвічаў, малавядомы тады на Беларусі, партрэт: Францішак у Кушлянскага крою шарачковай світцы, з вялікай раскідзістай барадою і з такімі ж вялікімі, раскідзістымі і адмысловымі вусамі. Сур’ёзны, задуменны, заглыблены. Партрэт пасля чацвёртае старонкі. А перад гэтым быў партрэт з Ленінавай падабізнай на ўвесь рост, затым гімн Савецкага саюза, фота сакратара Ц. С. Гарбунова. А пасля іх усіх — наш Францішак. Магутны, непадкупны, увесь прасякнуты клопатам.

…Каб не здрадзіў за грошы свой люд! Яшчэ адзін магутны паэтычны Багушэвічаў пастулат!

Вольга АВЕРКАВА-ЛІТВІНАВА



# Агні вялікага горада

Сучасны свет мегаполіса перакуліў маю свядомасць з ног на галаву. Вось ужо амаль год я сумую па Мінску ў другім горадзе, другой краіне і імкнуся сфарміраваць сваё непрадузятае стаўленне да таго, што адбываецца навокал, у прыватнасці, у Беларусі.

«Непрадузятае» — даецца складана. Беларусь для мяне — утульная коўдрачка з бавоўны, расцеленая ўздоўж любых вулак. Яна ўкрывае сабой невысокія будынкі і галовы людзей. З-за гэтага мяккага покрыва не чутно цокату абцасаў, вулкі здаюцца нягулкімі, галасы — прыглушанымі, і нават рэха не хоча адсюль адлятаць. Здаецца, тут усё так кампактна і вафельна, што незнарок хочацца акунуцца ў вечнае сузіранне, накрыўшыся той самай коўдрачкай з бавоўны. Раней я гэтага не заўважала. А цяпер мне гэтага не хапае.

Чалавек за сваё жыццё пражывае некалькі жыццяў. Першае — поўнае пагружэнне ў казку, створаную дзіцячым уяўленнем. Далей ідзе маладосць, якая паглынае ўсю чалавечую звышэнергію. Вось тут і высвятляецца, на што ён, чалавек, здольны. Або, іншымі словамі, колькі начэй мы можам пратрымацца без сну, вялізнымі крокамі ступаючы да мэты, якую перад сабой паставілі. Мы зрываем мяккую ўтульную коўдрачку і кідаемся ва ўсе бакі адразу ў пошуках сябе. Пачынаецца перыяд вандровак. Час выпрабаванняў і ўласных адкрыццяў. Цікавы час.

Затым — спеласць. Магчыма, гэта перыяд скарэння, магчыма, этап гармоніі… Адно ведаю дакладна: за супакаеннем ці парадай мне заўсёды хочацца вяртацца Дадому. І мне падабаецца ведаць, што Дом у мяне ёсць, — насуперак таму, што навязвае прывабнае святло вялікага горада. У мегаполіса свае правілы: жыць у кватэры, якую трэба здымаць, марнаваць час у пробках, забыцца на прыроду і вадаёмы, на ціхае свежае паветра і не спыняцца — ні на хвіліну. Праз гэта выпрабаванне д'ябальскі цікава прайсці на другім этапе жыцця. Скажу болей: праз яго проста неабходна прайсці! Каб зразумець, што губляеш, каб усвядоміць, чым сапраўды трэба даражыць, каб навучыцца любіць па-сапраўднаму, каб больш упэўнена буйнымі мазкамі маляваць палатно жыцця.

Мне добра ад думкі пра тое, што я нарадзілася ў Мінску. У горадзе, дзе сонечных дзён, на жаль, менш, чым пахмурных. Мой дом тут, сюды я заўсёды буду вяртацца. Мне зразумелыя меланхалічныя адценні беларускіх мастакоў і інтэлігентнасць, уласцівая, на мой погляд, вялікай колькасці беларусаў. Мне падабаецца гатычная архітэктара беларускага захаду і беларуская рок-музыка. Мне падабаюцца вулічныя джазавыя фэсты і перформансы — усё гэта такое рэдкае, але ўдалае спалучэнене шакаладу з перцам, вафельнае начынне беларускай культурнай паўсядзённасці.

Але я зусім НЕ сумую па беларускім тэлебачанні і тэатры. Вы ведалі, што Парыж па плошчы ў чатыры разы меншы за Мінск?



Вольга ШЭЛЯГОВІЧ

# А нацыя ўсё прагне адукацыі...

**Нягледзячы на «чырванаваты» дыплом прэстыжнай ВНУ (вучылася на «добра» і «выдатна»), я не згодна з меркаваннем мас наконт таго, што вышэйшая адукацыя надае высакароднасці чалавеку. Дзякуючы вышэйшай адукацыі я толькі і ведаю, што нічога не ведаю. Не разбіралася я і ў сваёй прафесіі, пакуль не пачала працаваць.**

Сярэднестатыстычнаму абітурыенту сёння дастаткова вырашыць, ці збіраецца ён атрымліваць вышэйшую адукацыю. Сумненні наконт таго, ува6'ецца ён у навучальную ўстанову з нізкім балам ці не, узнікаюць у адзінак, бо «як маеш грошы, дык і так харошы». Грошы, вядома, бацькоўскія, іх не шкада. А можна прыкінуць, дзе які конкурс, — і пайсці па шляху найменшага супраціўлення: падаць дакументы на непапулярны факультэт. А якая розніца? Як ні круці, «корочка».

Даступнасць вышэйшай адукацыі панізіла яе якасць. Мала таго, што веды, атрыманыя ва ўніверсітэтах, далёка не заўсёды маюць прыкладны характар (у прыватнасці, мне падчас працы ні разу не спатрэбіліся ні вышэйшая матэматыка, ні падрабязная біяграфія Максіма Гарэцкага, ні правільнае вымаўленне выразу «дяди и тети сидели в тени деревьев»). Мала таго, што студэнты не зацікаўлены вучэбным працэсам. Дык сёння ж усё купляецца і ўсё прадаецца. Ніколі не забуду, як маці адной знаёмай перажывала з-за дарагоўлі дыпломаў — маўляў, тысячу долараў каштуе, дзе ўзяць сродкі? Хочацца запытацца: «Твая дачка правучылася пяць гадоў (на бюджэце, дарэчы!), а дыпломную работу напісаць не здольна?» Ці не абсурд? А потым гэткія выпускнікі прыходзяць лячыць і вучыць нашых дзяцей!

Канешне, я згусціла фарбы і напісала агульна. Ёсць разумныя людзі, ёсць тыя, каму наканавана быць вучонымі, дактарамі навук альбо проста спецыялістамі вышэйшага класа. Сярэдняя адукацыя тут не пракладзе шлях да зорак. Акрамя класічных ведаў ім трэба паднапружыцца ў вывучэнні дадатковай літаратуры, займацца самаадукацыяй (гавораць, тыя людзі насамрэч адукаваныя, чыя адукацыя заўсёды нясконачаная). Ва ўсіх астатніх выпадках, на мой погляд, адукацыі патрэбна роўна столькі, колькі хопіць для заняцця той справай, да якой душа ляжыць. Бясспрэчна, ёсць дзясяткі прафесій, асвойваць якія трэба доўга. Я б не хацела, каб мяне апераваў хірург, адукацыя якога зводзіцца да прагляду серыяла «Інтэрны». А ёсць спецыяльнасці — тэхнічныя, будаўнічыя і іншыя, — якія можна атрымаць у тэхнікуме ці каледжы (а то і самастойна, на практыцы) — і працаваць сабе спакойна, з веданнем справы.

Што да журналістыкі, дык увогуле хапіла б трохмесячных курсаў, каб навучыць пісаць па форме. Бо калі хто народжаны плаваць ці поўзаць, ён не паляціць — вучы не вучы. Адна журналістка расказала

мне, як сустрэлася са сваімі аднагрупнікамі на 15-годдзі заканчэння ўніверсітэта. І высветлілася, што з ўсёй групы, а гэта каля 25 чалавек, толькі пяцёра працуюць па спецыяльнасці. Як пісаў Горкі ў п'есе «На дне», адукацыя — лухта, галоўнае талент. Не трэба доўга хадзіць па прыклад. Ёсць у мяне калега, які прынцыпова не заканчваў інстытутаў, але ён лепшы журналіст у маёй рэдакцыі (і не толькі журналіст — пісьменнік). Даў фору іншым высокаадукаваным. І я ўпэўнена, што ў кожнага, хто чытае гэты тэкст, таксама ёсць каго прывесці ў прыклад у дадзеным кантэксце.

Толькі вось які факт: на кіруючыя пасады сёння без вышэйшай адукацыі — ні-ні. А хто з нас хоча заставацца на першай прыступцы службовай лесвіцы? Рытарычнае пытанне, адказ на якое мяне засмучае. Прага да заробкаў і пасад вядзе людзей не па тых дарогах, не да свайго прызначэння, а да доўгіх блуканняў ад аднаго месца пад сонцам да другога — ды не да свайго.

Таму я вельмі паважаю тых, хто слухае кліч сэрца, працуе самаахвярна і чэсна там, куды яно яго прывяло, хто едзе ў непрэстыжную вёску і доіць там кароў, бо яму гэта падабаецца, і да таго ж — хто, калі не ён?

Вось успамінаю фільм «Масква слязам не верыць», эпізод, дзе слесар з залатымі рукамі расказвае, чаму не захацеў славы сваіх сяброў — дактароў навук. Ён расказвае пра рымскага імператара, які ў самы росквіт імперыі адмовіўся ад улады. А калі з Рыма прыехалі, каб папрасіць яго вярнуцца, сказаў: «Калі б вы бачылі, якую я вырасціў капусту, вы б перасталі мяне ўгаворваць».

На якім мы з вамі свеце? Вабіць Боланскі працэс, выклікаюць зайздрасць Кембрыдж і Оксфард са сваёй сусветнай славай, а «капусту вырошчваць» — няма каму.

Генрых Далідовіч

„Незалежнасць Беларусі...
За яе, гэтую волю, у свой
час папляціліся жыццём,
ўкаваліся і пасля гвалтоўнай
смерці лепшыя сыны народа —
і тыя, хто ўтвараў БНР, і тыя,
хто ладзіў БССР.
Цяпер гэтая незалежнасць
літаральна звалілася з неба.
Ды... не адзінкі, сотні і тысячы,
а многія і многія, у тым ліку
і нашы кіраўнікі, здаецца, раз-
губіліся, азіраюцца вакол ды
адмахваюць позіркам недаўні
цэнтр: што рабіць? Як жыць далей
Цяжка, а то і страшна выціскаць
са сваёй душы паслужлівасць
ды няма вопыту адчуваць сябе
рэспублікай дзяржаўнымі. Нават
ужо тое, што ў нас Вярхоўны
Савет ніяк не можа ўвесці
гаспадыняй беларуская мова,
паказвае: у многіх няма эле-
ментарнага разумення, што гіста-
рычная памяць, нацыянальныя
каштоўнасці — адна з умоў існа-
вання дзяржаўнасці, а дзяржаўнасць
не прыхамаць „нацыяналістаў", а
жыццёвая патрэба „кожнага раз-
вітага народа..."
[signature]
„Лісткі запісных кніжак", 1991.




**У многіх краінах Еўропы** ведаюць сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага. Аркестрам кіруе дырэктар навучальнай установы Рыгор Сарока — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, уганараваны нядаўна званнем «Чалавек года Міншчыны». Творчасць маэстра і яго калег-музыкантаў у кантэксце больш як 40-гадовай гісторыі калектыву (а гэта асваенне багатага рэпертуару, прапаганда беларускай музыкі, сусветнай класікі, асветніцкая дзейнасць, гастролі, праца над опернымі пастаноўкамі, запісы дыскаў) адлюстроўвае шыкоўная кніга, выдадзеная ПВУП «Галіяфы». Тэкст пададзены на беларускай і англійскай мовах. Мелаваная папера, каляровыя ілюстрацыі. «Сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага. Галоўны дырыжор Рыгор Сарока» — ёмісты летапіс з выказваннямі творчых асоб.



***ІМЁНЫ ЮБІЛЯРАЎ,*** *якіх Беларускі саюз музычных дзеячаў віншуе ў маі, гучаць далёка за межамі краіны. Міхась КАЗІНЕЦ — дырыжор, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар, стваральнік унікальнага студэнцкага сімфанічнага аркестра «Маладая Беларусь». Доўгія гады маэстра, якому 75, з'яўляецца мастацкім кіраўніком легендарнага Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча. Юрый ГІЛЬДЗЮК — мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі, заслужаны артыст Беларусі, прафесар фартэпіяна; са сваіх 65 гадоў 45 аддаў творчай дзейнасці. На канцэртнай сцэне выступае і ён сам, і яго паспяховыя вучні, лаўрэаты міжнародных конкурсаў — піяністы новага пакалення.*

---

# СКРОЗЬ — «МАЛАДОСЦЬ». НЕ САМАЯ СУМНАЯ КНІЖКА!

**Як ты будзеш яе чытаць? Паслядоўна, старонку за старонкай, перагортваючы іх
пад сёрбанне кавы, — выдатная ідэя.
Дарэчы, Таццяна Сівец, дзявяты па ліку рэдактар «Маладосці», прапануе ўзяць да кавы горкага шакаладу. Таму што яго смак такі ж, як матэрыялы ў часопісе «Маладосць», — з вастрынкай. Добра, калі так.
Працягнем разглядаць варыянты чытання.
«Не ў тым» парадку — пацікавацца на карцінкі, прайсці праз тэкст мастком дыяганалі, схапіцца за вядомае імя, зніякавець ад нейкай спрэчнай думкі і выгукнуць пасля: «Ого, ці-і-кава»…
Ды калі ласка!
Чытай, як падабаецца, чытач.
Яна бо напісана для цябе — гэта кніжка.**

**Ты можаш чытаць яе навat дагары нагамі — яна не зробіцца ад гэтага менш цікавай.**



*Алёна ПАПКО*

# Я ЗАСТАНУСЯ Ў ПАМЯЦІ ТВАЁЙ



***Алёна Папко нарадзілася 24 лютага 1990 года ў вёсцы Сакалова Бярозаўскага раёна. Скончыла факультэт замежных моў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Працуе настаўніцай нямецкай і англійскай моў. Лічыць, што вершы крануць душу чытача толькі тады, калі аўтар зможа ўкласці ў іх свае пачуцці, надзеі і перажыванні.***

* * *

Не родны для мяне і не чужы…
Што падалося — зноў не адгукнецца.
Між намі гарады, як міражы,
І паміж імі б'ецца тваё сэрца.

Згарае ў пазалоце светлых дзён
Рабін пунцовасць на маёй далоні.
Я ведаю: яшчэ гарыць агонь!
І веру — то агонь тваёй любові.

* * *

Мы мяняем з табою гады —
Зноў чарговы стаіць на парозе.
Мы мяняем з табой гарады,
Быццам птушкі ў далёкай дарозе.

На раскошу мяняем любоў,
Часам, дзелім зайздросна інтрыгі.
І мяняем надзейных сяброў
На сустрэчных — імклівых, бы крыгі.

Явар моўчкі застыў над вадой…
Прысмак горычы, прысмак спакусы…
Мы, здаецца, мяняем з табой
Не гады — нашы ўласныя душы.

**ПЕРАЖЫВЁМ**

Перажывём… І радасць, і бяду.
Зноў па-дзіцячы Ясельда журыцца!
Па кладачцы танюсенькай брыду,
І боязна бывае аступіцца.

Адбітак у рацэ жывой вясны
Сагрэе думкі і жыццё міжволі.
Перажывём кахання явы-сны,
Астатняе — залечым зверабоем.

Вунь кропелькі дажджу над галавой
Афарбаваны першаю вясёлкай.
Глядзі, як можна лёгка над зямлёй
Растаць пад сонцам ясным і высокім!

* * *

«Да хуткай… Да новай сустрэчы!»
Як лёгка кахаць і жыць!
На твары тваім праменьчык
Пяшчотнага сонца дрыжыць.
І начыста шчасце малюе
На вокнах мне жнівеньскі дождж.
Магчыма, і нам пашанцуе.
«Да доўгай сустрэчы… усё ж!»

* * *

Я застануся ў памяці тваёй,
А ў думках — навальніцай адгрымлю.
І незаўважна для сябе самой
Адкрыю вокны заўтрашняму дню.

Блакіт нябёс паглядам васількоў
Пяшчотна зачаруе шчэ здалёк.
Вяртаюцца, пакуль жыве любоў,
Пакуль баліць апошні яе крок.

Ды больш няма ў журбе патрэбы мне
Сустрэчна вінаваціць зноў усіх.
Бо што не стала родным — праміне,
Ніколі не ўзгадаецца ўслых.

**РАМОНКІ ЛУГАВЫЯ**

Яшчэ не раз убачымся з табой,
Няхай не родныя, але і не чужыя.
Заліты сонцам ранішнім пакой
І ў гладышы рамонкі лугавыя.

Святлом і я сагрэтаю была,
Таму бяды нібыта не спазнала.
І ўсе радкі, што пра цябе з пяра
Зляталі на паперу, шанавала.



*Марына ЦІТАРЧУК*

# ЛЕГЕНДА ПРА АЛЕНЯ

*Апавяданне*

Сёння Крулеўская кухня кіпіць, бурліць сучасным жыццём. Павольна кружыцца ў паветры апошняя восеньская лістота, якая надзейна беражэ свае таямніцы... Але варта толькі крышачку падслухаць лістападны шэпт — і вы пазнаеце конскі тупат далёкіх дзён. Гэта восень Свеціловічаў і Гарыньскіх. Гэта восень 1524 года.

...Марына Гарыньская, адзіная дачка старога князя, брала свой першы шлюб. Бадай, няма нічога лепшага на свеце як шчаслівы дзявочы час. Дзень шлюбу з каханым чалавекам.

Князя паважалі за мудрасць і багатыя, і бедныя. Стары Зміцер Гарыньскі добра ведаў кошт маладосці і яе прыгожае, але кароткае жыццё, таму і не чыніў дачцэ перашкод, а даў Марыне поўную волю ў выбары суджанага. Свайго будучага зяця, маладога шляхціца Максіма Свеціловіча, прыгожага, зграбнага ды светлага сэрцам, князь Гарыньскі сустрэў фэстам, вартым самой каралевы Боны. Заручоных віталі ўрачыстымі песнямі. Дзеля іх майстры сонечнай Італіі зладзілі самыя прыгожыя танцы, а паркалёвую блакітную сукню маладой, бы кропелькі ранішняй расы, нязмушана і лёгка абсыпалі дыяменты і загадкавыя вільготныя кроплі апалаў. У кожнай жанчыне дрэмле Ундзіна. Таму ў дзень заручын Марына нагадвала адну з іх, з выразнасцю сваіх блакітна-шэрых вачэй, з хвалямі валасоў колеру спелага жыта. Звінелі святочныя келіхі, маладым жадалі шчасця. Заручоныя тады і не ведалі, што шчасце — гэта танюткае восеньскае павуціннне: дзьмухнеш — і няма.

Увечары госці ўсім хаўрусам спусціліся да прыстані Кронана — падзівіцца на «маленькую Венецыю» князя Гарыньскага. І, вядома, пакатацца на гандолах, якія стары Зміцер замовіў у Італіі. Маладых пасадзілі ў самы прыгожы човен і запалілі свечкі ў каляровых ліхтарах.

У самы разгар «воднай вандроўкі» госці пачулі тупат конскіх капытоў. Стары князь выбраўся з чоўна, дзе ён вёў свецкую гамонку з паннай Мальвінай Язерскай, каб сустрэць госця.




***Марына Цітарчук нарадзілася 20 ліпеня 1985 года ў Гродне. Скончыла філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы і магістратуру. Працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у навукова-асветніцкім аддзеле Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Друкавалася ў рэспубліканскай і абласной прэсе.***

— Кастусь Яраш-Заблоцкі? — запытаў на ўсялякі выпадак князь Зміцер чарнявага прывабнага юнака з вясёлымі рудымі вачыма-вішнямі. Вось ён які, Максімаў сябра дзяцінства!

— Так, князю, — малады госць схіліўся ў паклоне.

— Сапраўдны рыцар! — Гарыньскі патрос Кастуся за плечы. — Ну, хадзем, хлопча, да маладых! — і з гэтымі словамі павёў юнака да чоўнаў, дзе загадкава блішчэлі рознакаляровыя ліхтарыкі: зялёныя, як цела яшчаркі, жоўтыя, як малады світанак над Кронанам, чырвоныя, нібы кроплі трывожных кастрычніцкіх захадаў, блакітныя, як веснавая бездань па-над аблокамі. Гучалі лютні і чуўся спеў. Чысцей за ўсіх спявалі маладыя. Іх галасы ліліся і шырыліся, як Кронан вясною...

А назаўтра адбылося княжацкае паляванне, з вясёлым брэхам сабак і зазыўнымі, бадзёрымі гукамі рога. У маляўнічым месцы, якое называецца Крулеўская кухня, для заручоных зладкавалі самы прыгожы шацёр, з шэрага і блакітнага аксаміту.

Світанак яшчэ не набраў сваёй моцы, калі з-за дрэў выкаціўся ружова-жоўты яблык сонца. Абуджалася восеньская прырода верасня. Пачыналася панскае паляванне.

На пачатку восені Свеціловічы і Гарыньскія палявалі аленяў. Гэтая высакародная статная жывёліна нездарма стала сімвалам Гарадзенскай зямлі, дзе шмат слядоў шляхетнасці, дзе стары гонар спачывае ва ўлонні стагоддзяў, у памяці нашчадкаў.

Панна Марына сабралася ехаць разам з маладымі людзьмі, таму апранула светла-зялёны паляўнічы касцюм. Толькі адна пані Мальвіна нявесела лашчыла сіямскую котку і так нізка нахілялася да жывёлінкі, што князь Зміцер не вытрымаў.

— Не дражніце сіямскіх катоў, васпані. Яны падрапаюць вам твар.

Пані Язерская, здавалася, праігнаравала ягоныя словы.

— Згадзіцеся, князю, у кожнай жанчыне ёсць нешта ад коткі, — прамовіла Мальвіна сваім глыбокім сапрана, але неўзабаве змоўкла і сумна ўздыхнула.

— Чаму ўздыхаеце, найсвятлейшая пані Мальвіна? — запытаў Гарыньскі, дастаючы з клеткі паляўнічага сокала. Вочы сіямскай коткі з блакітных адразу сталі зялёнымі, але яна паслухмяна паклала галаву на паркалёвую падушку. А потым умомант апынулася на плячах гаспадыні, нагадваючы прыгожы каўнер.

Пані Язерская зірнула ў маленькае люстэрка. Але раптам, быццам спалохаўшыся нечага, хуценька схавала яго.

— У мяне благое вока, пане, — прашаптала яна. — Мне здаецца, што гэтае паляванне будзе няўдалым. Алені... ну навошта паляваць на такіх прыгожых жывёл? Я ўвесь час адчуваю: нешта здарыцца.

— Вам проста кепска спалася, васпані, — заспакоіў яе князь і, зарагатаўшы, весела дзьмухнуў у паляўнічы рог так, што прысутныя падскочылі.

— Усе вы, мужчыны, аднолькавыя! — пакрыўдзілася пані Мальвіна і загарнулася ў плашч, падбіты гарнастаем.

— Цудоўная раніца! — усклікнуў стары князь, калі разам з дачкой выйшаў з шатра.

— Я такая шчаслівая, бацька! — прашаптала Марына. Зміцер пяшчотна прытуліў да сябе дзяўчыну і пагладзіў густыя валасы, ласкава глянуў у тонкі арыстакратычны твар, у прывабныя вочы. Усё ад маці. Усё, да апошняй рысачкі. Толькі характар ягоны — цвёрды, але змягчаны прыроднай жаноцкасцю пані Эвеліны Гарыньскай.

— Дай Бог табе быць заўсёды такою, як сёння, доню! — шчыра вымавіў стары. Ён добра ведаў кошт маладосці і яе вокамгненную прыгажосць. Яна — як зніч. А зніч пакідае толькі ўспаміны.

Паляванне павінна было вось-вось пачацца. Весела спяваў паляўнічы рог, спрытныя сокалы нецярпліва тапырыліcь у залатых клетках. Бялюткія, як снег, арабскія коні стрыглі маленькімі вушамі і прытупвалі зграбнымі капытамі па траве, якая толькі-толькі пачынала жаўцець. Бярозы і асіны ледзь наважыліся пераапрануцца ў чароўны восеньскі строй. Пранізлівы блакіт нябёсаў перакрэслівалі залатыя сонечныя промні-струны, якія звінелі жыццесцвярджаючай песняй кахання.

І паляванне пачалося там, дзе канчалася лета і нараджалася восень.

Звонкія гукі паляўнічага рога паплылі над лесам. Як горыч, як журба, як прыгодніцкая радасць. Маладыя шляхціцы вырваліся наперад, князь Гарыньскі крыху адстаў на сваёй бялюткай Ружыцы. Мабыць, ён зрабіў гэта наўмысна, бо добра разумеў: моладзь павінна крочыць наперадзе. Да яго пад’ ехала пані Мальвіна.

— І вы на паляванне, васпані? — здзівіўся стары Зміцер.

— Крый Божа! — Язерская ў каторы раз сумна ўздыхнула. — Проста не захацела заставацца сам-насам з журботнымі думкамі.

— Вы пра люстэрка? — князь усміхнуўся. — Пакіньце, васпані, і радуйцеся жыццю!

Пані Мальвіна не паспела адказаць. Ад пераможных гукаў рога, здалося, заклала вушы, і коннікі накіраваліся туды, адкуль ён даносіўся.

Гарыньскі першы ўбачыў аленяў, гонар нашага краю. Прыгожыя, зграбныя, моцныя і хуткія жывёліны былі ў гэты ранішні час гаспадарамі лесу. Ад мудрагелістых галінак рагоў немагчыма было адвесці вачэй.

Пані Мальвіна замерла ў захапленні, а стары князь адчуў паляўнічы азарт.

Высакародныя жывёлы сімвалізавалі ягоны край: моцны, квітнеючы, незалежны. Таму Гарыньскі паспяшаўся туды, адкуль даносіліся салодкія для вуха кожнага паляўнічага гукі.

Тым часам малады пан Кастусь, апынуўшыся на вялізнай паляне, устрывожана агледзеўся. Толькі што юнак праследваў маладога, спрытнага аленя, а той раптам знік з вачэй. Да яго пад´ехала панна Марына.

— Вы не бачылі Максіма, пане Кастусю? — усхвалявана пацікавілася дзяўчына ў Заблоцкага.

— Не, — адказаў той. — Але мы выязджалі разам, васпані. Напэўна, пан Максім гойсае па хмызах, — малады чалавек засмяяўся. Марына таксама ўсміхнулася. — А я ўпаляваў аленя, пані Марына. Толькі ён уцёк.

Раптам Кастусь напружана замёр, схапіў лук, выцягнуў з вышытай бурштынам тулы стралу, прыцэліў і...

— Не трэба такога прыгожага, пане Заблоцкі, — Марына Гарыньская нялоўка і незнарок штурхнула маладога чалавека пад руку. Прыгожыя вочы дзяўчыны неўзабаве зрабіліся вільготнымі. Аднак Яраш-Заблоцкі ўжо выпусціў стралу.

— Дзі-і-і-нь.... — тонка заспявала яна, працінаючы непралазны хмызняк. У зялёны мох пасыпалася пажаўцелае лісце. Мох прыглушыў гук, з якім падае долу жывая істота, пазбаўленая жыцця...

— Вы, паляўнічыя, жорсткі народ! — у голасе Марыны чулася крыўда. Кастусь нічога не адказаў, дапамагаючы дзяўчыне злезці з яе любімай Альбіны. Ды і што ён мог адказаць, калі кожную восень сэрца салодка замірае ад гуку паляўнічага рога, ад брэху сабак, ад чыстага ляснога паветра, настоянага на ранішняй горкай смузе...

— Паглядзім, — прамовіў Кастусь, адсоўваючы хмызы, аднак раптам ён знямеў. Бо на зялёным моху, шчодра прысыпаным жоўтым лісцем, ляжаў ягоны сябра

Максім. Яраш-Заблоцкі здранцвеў. Нахіліўшы галаву, малады чалавек пільна ўзіраўся ў твар Свеціловіча. Надзеі не засталося. Блакітныя вочы нерухома пазіралі ў яснае неба, па-дзіцячы здзіўлена. Гэтыя вочы быццам пыталі навакольны свет: «За што?» Сонечнае святло больш не пакіне свой ружовы адбітак на гэтым маладым твары, бо страла, што працяла сэрца, выпіла жыццё, вокамгненна, прагна, нават не наталіўшы сваёй смяротнай смагі. Зорка Максіма сарвалася знічам, адразу і нечакана, па блакітным схіле восеньскай ранішняй чашы.

Кастусь у роспачы апусціўся на калені побач з сябрам у мох...

— Што там у вас, пане Заблоцкі? — нецярпліва запытала Марына за спінай і... асеклася. Знерухомела, бы нежывая. Не, Максім спіць, проста спіць, а страла... страла ўтыркнулася ў мох побач, змагла б сябе запэўніць Гарыньская, каб не шэры твар Кастуся.

— Гэта я яго... выпадкова, — пачула яна ціхі шэпт. — Я — забойца...

— Не!!! — па лесе пракаціўся роспачны крык дзяўчыны. — Скачыце па дапамогу, хутчэй!

Заблоцкі ў здранцвелай непрытомнасці ўскочыў у сядло і прышпорыў Юпітэра... Праз некалькі хвілін юнак вярнуўся з чалавекам, без якога паляванне немагчымым. Але прыдворны лекар, кінуўшы хуткі позірк на небараку, сумна ўздыхнуў:

— На жаль, ужо нічым дапамагчы не змагу...

Аднак Марына не слухала яго. Дзяўчына раўнамерна, бы маятнік, хісталася з аднаго боку ў другі, седзячы на мяккім дыване з зялёнага моху побач з тым, каго кахае.

— Не веру, не веру вам, — паўтарала яна. — Скачыце, Заблоцкі, да знахаркі...

Маладыя шляхціцы ляцелі ў вёску, бы здані, падхопленыя скразняком. Калі на гарызонце шэрым воблакам закурэў пыл, змоўклі вясёлыя песні. Маладзіцы ў гародах выпрасталіся, як адна, і, прыклаўшы далоні да вачэй, доўга глядзелі ўслед незвычайным коннікам.

Верхавыя спыніліся каля хаты вясковага старасты. Маладыя людзі грукнулі ў дзверы, тыя са скрыпам расчыніліся. З сенцаў паказалася ўскудлачаная галава. Можна было падумаць, што перад шляхціцамі нечакана з'явіўся Хатнік.

— Дзядзька Васіль, як да знахаркі праехаць? — пракрычаў Кастусь, бо стары быў глухаваты.

— Скачыце па дарозе, — ахвотна пачаў расказваць дзядок. — Нікуды не збочвайце. Дарога ўпрэцца ў хатку з пудзілам савы на страсе. Там і жыве Кацярына. Нічога не палохайцеся. Яна жанчына добрая, спагадлівая, разумная. Чым зможа — дапаможа.

— Дзякуй вам, дзядзька Васіль, бывайце здаровы! — загаманілі маладыя людзі і прышпорылі коней. Зноў закурэў пыл пад капытамі.

— Вось моладзь, усё скокам, усё бегма, — добразычліва прабурчаў стараста і зачыніў дзверы.

Хатка знахаркі Кацярыны з пудзілам савы на самым версе выглядала такой старой, што, здавалася, была ўзведзена стагоддзі чатыры таму, калі нашыя продкі пакланяліся сілам прыроды. Можа, яно так і было на самай справе? Бо ніхто не скажа, колькі гадоў магутным дубам, з бярвенняў якога нехта склаў гэтае дзіўнае жытло. У яго не было сенцаў. Таму маладыя людзі адразу пратупалі ў нешта накшталт невялікай залы. На сталі і сценах сушыліся духмяныя зёлкі, сабраныя з любоўю спрытнымі, працавітымі рукамі гаспадыні. На зэдліку сядзела жанчына. Яе

хвалістыя валасы колеру глыбокай медзі спускаліся амаль да падлогі, а вочы былі зялёнымі-зялёнымі, як няспелыя парэчкі, і ласкава ззялі. Жанчына няспешна вычэсвала валасы драўляным грабеньчыкам.

— Валасы ўбіраюць у сябе сонечную сілу, — сказала яна і ўсміхнулася. — Ведаю, саколікі, чаго прыехалі да Кацярыны. Сэрца таго, хто ляжыць цяпер у хмызах, працята стралою кахання.

— Пані Кацярына, хутчэй едзем з намі, бо час не чакае! — усхвалявана загаманілі маладыя людзі.

— Страла кахання — рэч дваістая, — працягвала знахарка, яна быццам не адчувала неабходнасці спяшацца і павольна ўзмахвала грабеньчыкам, апускаючы яго ў цяжкія хвалі валасоў. — Пан Максіме спіць.

Усе прысутныя ўскрыкнулі разам: хто ад жаху, хто ад здзіўлення.

— Ён спіць, — паўтарыла жанчына. — Спіць глыбокім сном. Гэты сон зусім не такі, які ў нас, астатніх людзей. Яго пачуццё да нявесты настолькі моцнае, што ён не вытрымаў яго. На жаль, я не магу абудзіць маладога шляхціца ад гэтага сну. Але ён застанецца жыць, толькі згубіць сваё чалавечае аблічча. Гэта мне прадказалі адбіткі зорак у зёлкавым келіху. У апошнюю жнівеньскую ноч адвар з зёлак набірае магічную сілу. Я пакінула яго, каб сёння хоць крышачку паправіць ужо непапраўнае. Слухайце мяне. Перад захадам перавязіце Максіма да пратокі, ля якой часта спыняюцца алені. З апошнім промнем сонца пакладзіце яго ў студзёную ваду. Не чапайце стралу. Як апусціце спячага, выліце адвар з зёлак у ваду. Хлопец будзе жывы, але ў іншым абліччы. На світанні ён ператворыцца ў бялюткага маладога аленя з залатымі рагамі. Роўна год дзікая жывёліна будзе гойсаць па хмызах. Толькі ў другі дзень верасня маладая нявеста ад захаду да світання зможа пабачыць нарачонага ў вобразе чалавека. Так працягнецца год, або некалькі дзясяткаў гадоў — я не ведаю. Чараўніцтва знікне аднойчы, але ад чаго — зоркі мне не сказалі пакуль пра тое. Мне трэба шукаць гэты адказ...

Засмучаныя ганцы моўчкі вярнуліся да месца палявання. А ўвечары маладога Свеціловіча ўрачыста панеслі да крыніцы. Па шчоках старога князя ліліся слёзы, але Зміцер не звяртаў на іх увагі. Пані Мальвіна схаладзелымі рукамі прыціскала да сябе котку, але сама ледзь трымалася на нагах. На Марыну Гарыньскую было шкада глядзець. Непаслухмянымі пальцамі дзяўчына зняла з валасоў светла-блакітны, амаль белы вэлюм  і загарнула ў яго Максіма. Хвалі самкнуліся над юнаком, абяцаючы спакой.

За кронамі дрэў дагаралі ружова-жоўтыя водбліскі дзённага святла. Сумнае развітанне з маладым шляхціцам ля ракі нагадвала нечым спальванне нябожчыка. Так у старажытнасці рабілі вікінгі. З апошнім промнем сонца Кастусь Заблоцкі выліў у ваду адвар чарадзейных зёлак. Толькі ціхі рачны плёскат і спакойнае шапаценне лістоты абуджалі вячэрнюю вераснёўскую прахалоду.

Пані Марына засталася адна сустракаць світанак. На небе ўжо бялеў маладзік. Ён кідаў срэбныя водбліскі ў ваду крыніцы, проста на заспакоены твар юнака. У празрыстай плыні павольна калыхаліся пасмы бялявых валасоў. Далёка ў гушчары лесу пачалі крычаць совы. Надышоў час гэтых драпежных начных птушак. На вадзе, напоўненай да самога жвіру месяцовым ззяннем, адбіліся на нейкі момант цені завостраных крылаў — зусім нізка над крыніцай праляцелі кажаны. Марыне стала страшна. Апоўначы зямля і неба сустракаюцца. Гэты час багаты на чараўніцтва. Дзяўчыне хацелася пабыць сам-насам са сваім нарачоным. Са сваім болем. Са сваім смуткам. Са сваёй горыччу. Ёй здалося, што нават цьмяныя слупы месяцовага

святла пахнуць палыном. А маладзік рабіў сваю звычайную справу. Ён марудна наблізіўся да зеніту, а потым папоўз да гарызонту ўніз... Неўзабаве нейкі ліхаманкавы, млосны цяжар ахапіў цела Марыны, а павекі здаліся прысыпанымі рачным пяском: горыч страты і бяссонная ноч рабілі сваё: «Мне не трэба спаць, бо світанак ужо хутка», — праляцела ў свядомасці дзяўчыны думка, ды й тая зблыталася, калі стома паваліла яе, непрытомную, проста ў траву...

Марына расплюшчыла вочы, таму што нехта пяшчотна, ціхенька кранаў яе валасы.

— Максім! — голасна ўскрыкнула яна і села. Ды ўбачыла цуд. Над ёй схіліўся зграбны алень, бялюткі, бы зіхоткі снег, а ягоныя рогі ззялі чыстым золатам у промнях світання, калі лес яшчэ не прачнуўся, а на траве пераліваюцца ўжо маленькія дыяменты ранішняй расы. Доўгія выразныя вочы высакароднай жывёліны былі глыбокага сіняга колеру. Як Максімавы...

— Максіме, Максіме.... — роспачна шаптала дзяўчына, пяшчотна абдымаючы аленя за зграбную, прыгожую шыю. — Застанься, любы...

Але жыхар лесу сумна хітнуў галавой і заплюшчыў вочы. На твар Марыны Гарыньскай упала слязіна і, зліўшыся з яе асабістай, скацілася ў траву, адкуль адразу паказалася лілея незвычайнай прыгажосці.

Займалася раніца. Алень на развітанне крануў мяккімі губамі вільготныя вочы дзяўчыны і, пераскочыўшы ручай, знік у лясным гушчары. Да наступнага верасня...

З той пары кожную восень, надвячоркам другога дня першага яе месяца, у лесе Крулеўскай кухні можна ўбачыць сумную маладую паненку ў светлым вясельным строі. Яна падыходзіць да цудадзейнай крыніцы і з апошнім промнем захаду кідае ў студзёную ваду бялюткую лілею. Хвалі расхінаюцца, і з’яўляецца блакітнавокі юнак са светлымі доўгімі валасамі. Але закаханыя могуць быць разам толькі да світання. Усю ноч лес ловіць іх усхваляваны шэпт: заручоныя ніяк не могуць нагаварыцца. Але месяц заходзіць і з’яўляюцца першыя промні. Блізіцца час развітання. Тады адначасова з узыходам сонцам малады шляхціц ператвараецца ў белага аленя і, пераскокнуўшы цераз крыніцу, знікае ў лясным гушчары...



*Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ*

# КАЛІ ТЫ ПОБАЧ — Я ШЧАСЛІВЫ

***Маёй любай Анастасіі***

Ange plein de gaieté[1]
Charles Baudelaire

* * *

я паветраны змей
што вырваўся з рук гандляра
і лунаў у прасторы
абыякава-нудных істот
вонкава падобных да людзей
пакуль не ўчапіўся за тваё падаконне
але як ні дзіўна пачуваюся вольным
галоўнае не перацінай нітку якая нас лучыць
і крый Божа не закідвай на антрэсолі.

## ЗАВЕЯ Ў КАСТРЫЧНІКУ

Завея ў кастрычніку — крышачку дзіўна,
хоць з кліматам гэтым мажліва ўсё —
кволы снег на кляновай далоні
растае, нібы пацалунак на целе тваім.
Паглядзі, як праз вейкі прывабных соснаў
свеціць скупое сонца
і хоча цалаваць табе шыю і шчокі,
а я і не ведаю, як яму не зайздросціць;
чуеш? Вецер спявае тужлівы працяглы блюз —
гэта я без цябе сумую…
Гэта я без цябе сумую!
Мой Анёл,
а завея тым часам просіцца ў госці…



***Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ нарадзіўся 23 студзеня 1987 года ў Крычаве. Вучыцца на біялагічным факультэце БДУ. Паэт, перакладчык, бард. Друкаваўся ў рэспубліканскай прэсе, калектыўных зборніках народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца», калектыўным зборніку «Geniusz loci». Творы перакладаліся на польскую і сербскую мовы.***

[1] Ange plein de gaieté *(фр.)* — анёл весялосці. Шарль Бадлер.

* * *

ад маўчання твайго нямею,
напэўна, таму што не ўмею
пачуцці хаваць у кішэню.
мяне без цябе ўсё меней.

## РУКІ ТВАЕ

**I**

твае рукі пахнуць антонавым яблыкам.
ледзь не ўкусіў цябе за палец.

**II**

калі пісаў гэтыя радкі
яшчэ не ведаў пра цябе
а ўсвядоміў толькі цяпер
што гэта твае мілосныя рукі
як промні ганарлівага сонца
цёплаю вераснёвай раніцай.

## ПАЗЫЧАНАЕ
## Ў ФЭДЭРЫКА ГАРСІЯ

ці то памаранцавы вецер падзьмуў,
ці то палкасць дыхання твайго
распалілі цяпельца ўнутры
прахалоднай кастрычніцкай ноччу.

* * *

…калюжына ў форме сэрца
— яшчэ што прыдумай!
дзе ты бачыў такое?!
— далібог, пасля злівы
я заўважыў яе на асфальце
у сетцы з ядвабна-сонечных ніцяў.
асфальт, закаханы ў хмару,
дачакаўся спагады.
гэтаксама чакаю,
пакуль ты малюеш.

* * *

я не мастак і ў геамэтрыі слабейшы,
чым дзесяцікласнік.
Алоўкам-промнем вымалёўваю цябе,
Шчасце.

* * *

джэмпер пахне
каштанавым подыхам тваіх валасоў
наравістая восень
як з пунсовага яблыка
выціскае з сэрца апошні сок.

* * *

Чорна-бела-туманная кінастужка
з гадоў трыццатых
у маім варыянце — нямая.
Класічны трылер аля Насферату.
Поўнач. Блукаю
па адным са сталічных заспаных
мікрараёнаў
сярод дамоў, дамоў, дамоў,
дамоў, дамоў, дамоў!
Дамоў, дамоў, дамоў!!!
Дамоў з якімі не заключыш.
Якія тут дамовы?!
Да мовы яны глухія…
Дамоў, як хочацца дамоў!
А дзе ён? Дзе твой дом?
У гаманцы худым —
няма ісці куды.
Дамы, дамы…Суздром
дамы, дамы, дамы!!!
Праз трынаццаць узроўняў
тыповага шматпавярховіка
не дакрычацца да Мы.

Як вусцішна ў гэтай турме аднаму!..
Ты не любіш хорару,
цяпер зразумела чаму.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Прачніся, любы
Што з табою?
Ты размаўляў ува сне.
— Не палохайся, любая,
я сніў мінулае.

* * *

Кастрычнік дыктуе сюжэты балад,
журавы развітальна ўверсе картавяць.
Паветра асветлены п'ю дыстылят
і адплёўваю жоўць тужлівых світанняў;
а цела гібее ў халоднай турме,
пад восеньскім сонцам,
нібы пад прасам.
развітанне на хвілю —
маленькая смерць,
паміраю штодня без цябе,
а тымчасам…
Кастрычнік дыктуе сюжэты балад…

**ЗЛОДЗЕЙ**

о, мой злодзей кішэнны,
ты запусціла тонкія спрытныя
пальчыкі ў
маю сардэчную сумку,
але анічога не скрала, —
падарыла мне талеры эрытрацытаў,
аднавіла дыханне,
цеплыню разагнала па жылах,
адагрэла рукі і ногі…
я ў параўнанні з табою —
бандзюга з вялікай дарогі…

* * *

ноч зазірнуўшы ў твае вочы
ад святла іх аслепла і звар'яцела
і я нібы невідушчы шрыфт Брайля
разбіраю на выгінах твайго цела

**ЦЯГНІК**

ты мой цягнік, які не ведае ні станцый, ні вакзалаў,
ні семафораў, ні гудкоў, ні машыністаў.
правадніца,
нібы падлетак, у якога адбіраюць плытку Muse…
выходжу на перон,
іду, і штосьці занатоўваю ў сшытку, і не бачу,
як апынаюся на рэйках,
а ты насустрач рушыш
на хуткасці — амаль другой касмічнай —
і сапраўды, на тваім ложку, нібы ў стратасферы,
глытаю й выдыхаю пругкія аблокі,
хапаюся за промні сонца — рукі,
і жарсна прыпадаю да шляху млечнага! —
і тут — халера! — правадніца торгае стоп-кран!!!
але цягнік губляе колы і над чыгункаю ляціць! —
і толькі матылямі белымі кружляюць
шматкі ад сшытку…

*Уладзімір СЦЯПАН*

# ТРЫ НАВЕЛЫ



***Уладзімір Сцяпан (Сцепаненка) нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў г. п. Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў мастацкае вучылішча і Мінскі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Піша вершы, прозу, п'есы, кінасцэнарыі. Аўтар кніжак прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка». Навелы прадаставіў з уласнай ілюстрацыяй.***

## ДЗЕЦІ

Падобнае можа адбыцца і сёння, але тады я вучыўся ў сёмым класе. Суботнім вечарам, ужо было позна, у дзверы пагрукалі. На парозе стаяў мой аднакласнік. Ён перапалохана міргаў адным шэрым вокам, бо другое заплыло і не расплюшчвалася. Выглядаў падлетак, хоць і трымаў рукі ў кішэнях, пагана, але пытальна свідраваў мяне відушчым вокам. Увайшоў, прыціснуў палец да вуснаў, а потым шэптам папрасіў зачыніць дзверы. Я двойчы павярнуў ключ у замку, таргануў цяжкія калідорныя дзверы.

Мае бацькі з малодшым братам з'ехалі ў вёску. Дома я застаўся адзін. Сашка пра гэта ведаў і прыбег да мяне хавацца. Ён мог, вядома, пераседзець ноч на гарышчы нашага чатырохпавярховага дома. Пачатак верасня. Там цёпла і суха, але цёмна і страшна. Там сушыцца бялізна, а ў цемры кашулі і сукенкі нагадваюць бязногіх прывідаў. Яшчэ ён мог бы схавацца ў сутарэннях, але там учора на нізкія, абабітыя бляхай, дзверы начапілі цяжкі замок. Варыянты былі, але ён прыйшоў да мяне, хоць вялікімі сябрамі мы і не лічыліся.

Праз паўгадзіны мы сядзелі на кухні і елі. Сашка спрытна дзёўб смажаную бульбу правай, а левай рукой прыціскаў да падбітага вока бутэльку з халоднай вадой. У калідорныя дзверы гучна пагрукалі. Сашка спалохаўся, закалаціўся, схаваўся ў прыбіральню, а я пайшоў адчыняць. Хоць і ведаў, але на ўсялякі выпадак спытаў: «Хто там?» За дзвярыма стаяў бацька майго аднакласніка. Ён быў п'яны і злосны, як сабака. Адсунуў мяне і ўвайшоў у кватэру. «Сашка ў цябе?» — прасычэў мужчына ў сінім швэдары. Я прыкінуўся дурнем, сказаў, што ноч, што вельмі позна, што Сашка, напэўна, даўно дома. Добра, што ён не здагадаўся зазірнуць на кухню. Там, на стале, стаялі кубкі з малаком, а побач з патэльняй ляжалі два відэльцы. Начны госць вылаяўся, паказаў мне кулак, памерам з мячык і гучна ляпнуў дзвярыма.

Сашка ціха выйшаў з прыбіральні. Потым я памыў посуд, і мы доўга размаўлялі пра жыццё, лежачы на канапе, у цёмным пакоі. Я ад сцяны, а Сашка з краю. На маё

пытанне, а за што яго так? Сашка патлумачыў, што бацька згубіў, ці прапіў увесь заробак, а цяпер вар'яцее, лезе на сцяну. Думае, што грошы выцягнуў Сашка, прасіў прызнацца па сваёй ахвоце, а калі не, то давядзецца разбірацца па-іншаму. Сашка яму сказаў, што грошы не браў, што нават не ведаў пра іх. Бацька прымусіў сына распранупца дагала і абшукаў. «Уяўляеш, я не хацеў распранацца, так ён мяне ўдарыў, гад. Я стаяў голы, у адных шкарпэтках, як у лазні, а ён крычаў. Не, трываць не буду — уцяку. Паеду ў Чарнігаў, там — цётка, стрыечныя браты. Буду ў Дзясне купацца... А з ім жыць не магу...»

Ужо было тры гадзіны ночы, калі ў дзверы пагрукалі, але ўжо не так моцна, хоць і настойліва. Сашка ўскочыў, сядзеў на канапе. Грукаць працягвалі. Я пайшоў да дзвярэй, а Сашка схаваўся ў прыбіральню, зашчапіўся.

На паўцёмнай лесвічнай пляцоўцы, аблітыя жоўтым святлом, стаялі цётка Ніна і Сашкаў бацька. Цётка Ніна — худзенькая, бледная і заплаканая ў мужчынскім пінжаку, як у паліто. Вочы яе былі чырвоныя і мокрыя, рот крывіўся. Яна папрасіла прабачэння, а Сашкаў бацька вінавата згадаў чорта. Ён трымаў у пальцах пагаслую цыгарэту і шукаў па кішэнях запалкі. Нарэшце ўспомніў, выцягнуў з пінжака на жончыных плячах.

Цётка Ніна спытала, ці не з'яўляўся, ці няма ў мяне яе Сашы, раптам я ведаю дзе ён? Я гучна і бессаромна, як на ўроку, адказаў, што не ведаю і пацёр кулакамі вочы. Цётка Ніна ўздыхнула і паведаміла, што яны ўжо абышлі ўсіх знаёмых, на гарышчы былі, да возера хадзілі, за школай глядзелі, але сына ніхто не бачыў... А потым яна папрасіла перадаць Сашку, калі раптам яго ўбачу, што грошы знайшліся. Тут і Сашкаў бацька цяжка ўздыхнуў, зноў згадаў чорта, падкурыў пагаслую цыгарэту. Ён ужо працверазеў. Папрасіў, каб я прынёс халоднай вады. Я прынёс. Ён прагна выпіў, паглядзеў на свае чаравікі, сказаў, што сам не памятае, як схаваў грошы ў старую ватоўку ў калідоры, а потым жонка знайшла. Цётка Ніна знізала плячыма, як ад холаду, апусціла вочы…

Атрымлівалася, што ён дарма пабіў сына. Але і Сашка малайчына, пачаў яму пярэчыць, вось і давялося пакараць. Ён яшчэ нешта мармытаў сабе пад нос, але я не пачуў, бо не прыслухоўваўся...

Пакуль я паварочваў ключ, гасіў святло, Сашка выйшаў з прыбіральні і на кухні піў ваду з крана. Ён піў так доўга і прагна, што я пачаў смяяцца. І ён смяяўся, але ціха. Мы стаялі на кухні і доўга нервова рагаталі.

«Бачыш, бачыш, яны знайшлі грошы... Ён сам схаваў, а мне морду разбіў... Як быццам я вінаваты, што ён сам не памятае куды схаваў, а потым на



*Малюнак аўтара.*

мяне зваліў... Але я ўсё адно паеду, пайшлі яны!..» — казаў Сашка, калі пералазіў праз мяне да сцяны.

Дамоў вяртацца ён не захацеў, а я і не моцна яго ўгаворваў. Удваіх — весялей. Праз чвэрць гадзіны, калі неба за акном зрабілася шэрым, а зоркі яркімі, Сашка на маё пытанне не адказаў. Ён спаў. Я глянуў на яго твар, на цёмны фінгал, прыпухлую шчаку, і адвярнуўся.

Але заснуць я не мог. Заміналі сашкавы шкарпэткі, кінутыя побач з канапай. Шкарпэткі смярдзелі. Я выцягнуў руку, узяў іх, каб адкінуць далей. Са шкарпэткі нешта вывалілася. Я сеў на канапу і доўга глядзеў на грошы. Грошай, было шмат.

Я нічога не сказаў аднакласніку раніцай, калі ён апранаўся, калі таропка нацягваў шкарпэткі. Я падняўся, калі ён сышоў.

А што тут скажаш?

## АЛЕНІ

Падлеткі, прымусова распранутыя да трусоў і шкарпэтак, нагадваюць маладых аленяў. Наструненых, цёмнавокіх, танканогіх, палахлівых, вялікаротых і неразумных, з цёмнымі капытамі.

Шкарпэткі тады маглі быць якія заўгодна, а вось трусы — не! Найлепшымі і сапраўднымі лічыліся трусы чорныя, кароткія, а калі яны з лампасамі, то ты — герой. З лампасамі, як потым высветлілася, меў трусы толькі адзін мой аднакласнік — Алік Барадаўка. Трусы тыя, набытыя ў «спорттаварах», яму аддаў старэйшы брат — Віталік, бо яму яны былі цесныя. У мяне старэйшага брата не было, таму насіў трусы чорныя, звычайныя. Чаму тады было так, адкуль такая мода, хто прынёс-прывёз? Не скажу, бо не ведаю.

На дошцы вісела палітычная карта свету — рознакаляровая і стракатая, з вялікай ружовай плямай СССР, але што на яе глядзець. Прайшоў дождж. Хмары сплылі. Засвяціла высокае і яснае майскае сонца. Па-над белай школьнай прыбіральняй выгнулася вясёлка. Яна была такая шырокая і яркая, што хацелася глядзець толькі на яе. Можна яшчэ на ногі настаўніцы ў празрыстых капронавых панчохах дзівіцца, але яна села так, што ног не відаць…

А вось слухаць пра колькасць насельніцтва ў далёкіх краінах і адказваць на пытанні не хацелася. Вясёлку першым заўважыў Алік Барадаўка. Ён сядзеў пад вялікім акном, і з раніцы глядзеў не на дошку з задачамі, практыкаваннямі, не на аднакласніц, а на вуліцу. Ён нерваваўся і ўвесь час папраўляў каўнер кашулі, быццам той муляў. Я сядзеў за яго спінай. Спрабаваў чытаць, а калі насоўваў на кніжку сшытак, то бачыў Алікаву патыліцу, худую шыю і вузкія плечы.

На вуліцы было цяплей, чым у класе. Ад школьнай прыбіральні, пабеленай вапнай, моцна патыхала хлоркай. Ні водар мокрага маладога лісця, ні пах асфальта і травы не маглі перамагчы цяжкі смурод хлоркі. А самае галоўнае — ні што не здольна сапсаваць прыўзняты настрой ад хуткага заканчэння восьмага класа. Ні для тых, хто збіраўся ісці ў дзявяты, ні для тых, хто вырашыў паспрабаваць паступіць у тэхнікум ці вучэльню. Усе, як свята, чакалі лета.

Па школьным двары праехаў брудна-шэры, як пластылінавы, міліцэйскі «УАЗік» з закратаваным заднім акенцам. У смурод хлоркі ўблытаўся бензінавы дух.

Праз чвэрць гадзіны ў клас увайшоў дырэктар. Вучні ахвотна падхапіліся. Дырэктар ні з настаўніцай, ні з вучнямі не павітаўся. Яго твар быў напружаны і незадаволены. Праз колькі хвілін шаснаццаць падлеткаў — вучні восьмага «Б» —

пацягнуліся, пад яго пільным і насцярожаным позіркам у дальні канец калідора, у актавую залу. Там днямі пафарбавалі ў арэхавы колер падлогу. Пах фарбы прыемна казытаў горла. Дырэктар перачакаў пакуль апошні падлетак увойдзе ў памяшканне, зірнуў на пусты калідор і ўздыхнуў...

У вялікай зале, пасля паўцёмнага калідора, нязвыкла светла. За сталом два міліцыянеры, як падалося з нявыспанымі, а таму злоснымі тварамі, і ўсмешлівы незнаёмы мужчына ў белым пакамечаным халаце. На рукаве халата рудыя, ружовыя і зялёныя плямкі. Дырэктар прычыніў дзверы, павярнуў доўгі ключ, схаваў у кішэню пінжака, а сам так і застаўся стаяць пры дзвярах, рукі за спінаю. Хлопцы тоўпіліся, пераглядаліся, штурхаліся, але маўчалі. Падэшвы прыклейваліся да бліскучай падлогі, і калі нехта пераступаў з нагі на нагу, то чулася гучнае чпоканне. Найлепей чпокалі падэшвы кедаў.

Не памятаю, хто загадаў распранацца да трусоў, але, здаецца, што незнаёмец у халаце. Бо потым ён і саколкі прапанаваў зняць. Падлеткі нервова пасмейваліся, але няспешна распраналіся. Вопратку пакідалі-паскладвалі па падаконне і невысокую сцэну. Шкадавалі, што не з алгебры, а з геаграфіі прыгналі нас сюды. Шэрая сцяна, свежапафарбаваная падлога, сляпучыя плямы сонечнага святла, цені аконных рам, як краты, і падлеткі ў чорных трусах і шкарпэтках.

Палахлівыя, наструненыя, як загнаныя ў загарадку маладыя алені…

Калі распрануліся, то маладзейшы міліцыянер загадаў усім павярнуцца тварам да сцэны, узняць рукі. Павярнуліся. Рукі ўзнялі і стаім, як на фізкультуры.

Загрукацелі цяжкія табурэткі. Гэта міліцыянеры падхапіліся і абступілі Аліка Барадаўку. Падлетка падвялі да акна і пачалі разглядаць чырвоныя драпіны і сінякі на яго баках, спіне, шыі. Мужчына ў белым халаце таксама падняўся са свайго месца. Ён скрывіў рот, неяк задаволена хмыкнуў міліцыянерам. На ўсялякі выпадак тыцнуў указальным пальцам Аліку ў рэбры, крануў чырвоную драпіну. «Свежыя... Падобна на тое» — узрадавана сказаў мужчына ў халаце. Барадаўка пачырванеў так, што драпіна на шыі зрабілася нябачнай. А праз хвіліну пачаў палатнець, і каб міліцыянеры не падхапілі, згубіў прытомнасць, абсеў бы на падлогу…

Яму загадалі апрануцца. Дырэктар стаяў пры дзвярах, разгублена мружыўся, а потым ніяк не мог патрапіць ключом у замок. Аднакласніка вывелі з актавай залы і звезлі на пластылінавай машыне. Дырэктар тады гучна адно слова сказаў: «Даскакаўся!» На вялікім перапынку толькі і размоў пра Аліка Барадаўку і яго чырвоныя драпіны. Зразумела, што ўсе размовы круціліся вакол таго самага згвалтавання.

Кацьку згвалцілі ў нядзелю.

Яна вярталася з калектарнай станцыі кароткай дарогай, берагам возера-копанкі. Было тое, па словах Кацькі, позна, каля адзінаццаці, амаль ноччу... Такая цемра, што супрацьлеглага берага не відаць, а таму возера здаецца вялікім. Выскачылі з кустоў вербалозу два хлопцы, павалілі, а хто такія, свае ці незнаёмцы, яна агледзецца не паспела. Ударылі, спадніцу на галаву задралі, рукі закруцілі. Яна вырывалася, але так і не здолела. Цёмна там, за возерам, ні месяца на небе, ні ліхтара на слупе... Чырвоныя лямпы толькі на комінах заводскіх гарэлі, каб самалёты не разбіваліся...

У міліцыю Кацька прыйшла ў панядзелак. Маці пасля апоўдня прывяла, каб дачка заяву напісала ды гвалтаўнікоў міліцыянеры злавілі... Кацька прыйшла з сынам — трохгадовым Вадзікам. Малому, пакуль дарослыя разбіраліся ў сваіх справах, далі пагуляцца гумовую палку і кайданкі, а што яны яшчэ могуць даць — там жа не дзіцячы садок, цацак не трымаюць…

Барадаўку забралі, а яго партфель застаўся. Мяне класная папрасіла, каб занёс Алікаў партфель яму дамоў. На вуліцы я залез у руды партфель і выцягнуў яшчэ не

моцна зашмальцаваную калоду карт. Вырашыў, што калі аднакласніка выпусцяць, то і вярну, а калі не выпусцяць, то сам буду гуляць і казаць, што Барадаўка даў мне свае карты на памяць. Спадзяванняў, што Барадаўку не пасадзяць у калонію ні ў мяне, ні ў аднакласнікаў не было. А адкуль ім быць? Драпіны свежыя, чырвоныя, рыхтык ад Кацькіных кіпцюроў.

Мне хацелася каму-небудзь пахваліцца картамі, але ў двары хлопцаў не бачылася. Я прысеў на лаву пад акацыяй, паставіў два партфелі, пачаў габляваць карты, як гэта рабіў Алік, аж пакуль яны не разляцеліся, не рассыпаліся. Цікава, а хто другі гвалтаўнік? Па ўсім атрымлівалася, што міліцыянеры і другога хутка знойдуць.

Па вуліцы праехаў пластылінавы «УАЗік» з закратаваным заднім акенцам. Яшчэ вісеў блакітны дымок над асфальтам, не паспеў растаць, а я разгубіўся. Моцна разгубіўся. Каб курыў, то абавязкова б чыркануў запалкай і зацягнуўся. Але я тады яшчэ не курыў. Хуценька схаваў у кішэню карты. Кацька казала, што яе згвалцілі ноччу, у адзінаццаць, у нядзелю… А ў адзінаццаць мы з Алікам Барадаўкам сядзелі на гэтай самай лаве і гаварылі пра дзевак. Не пра нашых аднакласніц, а пра дарослых, якія школу скончылі. Потым пайшлі на плошчу, каб на тых дзевак паглядзець, вярнуліся ў двор, яшчэ пагаварылі і разышліся, бо заўтра ў школу. Я не мог зразумець, як мой аднакласнік змог быць са мной і за возерам. Як?

І што мне цяпер рабіць? Ісці ў міліцыю і сказаць, што Алік не вінаваты? Адкуль жа тады шнары і сінякі, чаму ён спалатнеў, як той нябожчык? Я вагаўся, не ведаў што рабіць. Усё блыталася… А можа, гэта мы ў суботу сядзелі на лаве, а потым пайшлі да плошчы? Але ў суботу ліў дождж і я глядзеў тэлевізар…

Ахоплены сумненнямі, я падаўся да суседняга дому, да Алікавых бацькоў, каб паведаміць, што іхні сын невінаваты, што дарэмна яго схапілі і са школы звезлі.

У камуналцы, на другім паверсе, пахла варанай капустай, а на пліце гучна смажылася марская рыба. Алікаў бацька моўчкі прыняў партфель. Сказаў, што ведае дзе цяпер яго Алік. Пацікавіўся, а ці ёсць у партфелі дзённік, і куды я збіраюся паступаць пасля восьмага. Пачуў мой адказ і крыва пасміхнуўся. Потым Алікаў бацька выслухаў, пра нядзельны вечар, лаву пад акацыяй, плошчу… Падазрона паглядзеў у вочы, а потым, прыціснуў палец да маіх вуснаў і спытаў, ці не расказаў я гэта яшчэ каму? Пахваліў і папрасіў, каб я пакуль нікому, ні слова… А яго Алік няхай пасядзіць, яму будзе добрая навука, а то зусім не слухаецца, вучыцца не хоча, а толькі глядзіць, дзе што ўкрасці… Я паабяцаў маўчаць. У калідор выйшла Алікава маці. Яе твар быў заплаканы і сумны. Яна чамусьці пагладзіла мяне па плячы і сказала, што яе Алік харошы хлопчык, а потым рыба затрашчала і яна заспяшалася да пліты.

Праз пяць дзён Алік Барадаўка вярнуўся, а яго старэйшага брата Віталіка арыштавалі, і другога хлопца ўзялі. Кацька аднога з гвалтаўнікоў пазнала, а калі Віталіка ўбачыла, то здзівілася, хмыкнула яму ў твар і пальцам каля скроні пакруціла.

Алік з тыдзень ні з кім не размаўляў. Сядзеў і ў акно глядзеў, пазногці кусаў. Перажываў за старэйшага брата. Потым, пасля ўрокаў мы пайшлі купацца. Вада была цёплая. Алік распрануўся. На ім новыя, крыху велікаватыя, трусы з чырвонымі лампасамі. Выдатныя спартыўныя трусы, бліскучыя. Ён заўважыў з якой зайздрасцю я на іх гляжу і засмяяўся. Можа, першы раз за шмат дзён.

Ён сказаў, што пакуль быў у міліцыі, то ўвесь час маўчаў. Яго нават рот прымушалі разяваць, каб упэўніцца, што язык не адкусіў. Ні пра старэйшага брата, ні пра бацьку гаварыць не хацеў. Скінуў новыя трусы, каб не мачыць, і пабег па беразе возера, па плыткай вадзе, як алень… А потым паплыў. Над вадоў толькі галава на худой шыі…

## АФІЦЫЯНТ

Ян спаў на правым баку. Калені ўпіраліся ў сцяну, правая рука пад шчакой, левая, са сціснутым кулаком, на прасціне. Махровая прасціна абгортвала цела, як вільготную гліняную скульптуру. Бацька паглядзеў на сына і прычыніў дзверы. Пайшоў снедаць. Ён намазаў белы хлеб маслам, паклаў тонкі скрылік сыру, адкусіў, запіў кавай з малаком і падумаў пра сына афіцыянта.

Калі паснедаў, то пайшоў прайсціся. Гадзіну гуляў па парку, назіраў за жанчынай з каратканогім сабачанём, за цяжарнай жанчынай у цёмных акулярах, якой было нязручна на мулкай лаве пад каштанам, за маладой жанчынай у бліскучых чырвоных шортах, якая прабегла побач і пакінула водар, які яго ўсхваляваў, але пра які ён хутка забыўся, бо думаў пра свайго дваццацігадовага сына, што працаваў афіцыянтам.

Ян спаў на жываце, абдымаў падушку, быццам плыў і трымаўся за яе. Прасціна спаўзла на падлогу. Нага ляжала на назе, вопратка — на спінцы крэсла, старыя разбітыя красоўкі — пад крэслам. Побач з красоўкамі ляжаў пачак цыгарэт. Бацька падумаў і паклаў цыгарэты на крэсла, на пакамечаную майку, а красоўкі вынес у калідор. Дзверы ў пакой сына не прычыніў.

Наліў чайнік, паставіў на пліту.

Чайнік свістаў, а сын не ўставаў.

— Адзінаццаць гадзін трыццаць хвілін — гучна, пастаўленым голасам радыйнага дыктара сказаў бацька. — Прачынайся, сын, нам трэба пагаварыць пра тое, што ты будзеш рабіць, пра тваю будучыню. Калі ты думаеш, што і далей будзеш працаваць афіцыянтам, то я, сын, кажу шчыра — супраць. Мне не падабаецца, што ты курыш, прыходзіш позна ноччу, выпіваеш, не зарабляеш грошы сваім розумам, што ты — звычайная абслуга, што ты — афіцыянт. Вакол цябе п'яныя гультаі і такія ж жанчыны. Ты чуеш? Мне робіцца сорамна, калі думаю, як табе загадваюць памяняць попельніцу і прынесці шклянку вады, адкаркаваць бутэльку, падаць цукар, хлеб, соль, піва, прыбраць брудны посуд з рэшткамі ежы… Мне брыдка, што цябе не паважаюць і абзываюць афіцыянтам…

Магчыма, бацька і не гаварыў бы далей з тым жа імпэтам і абурэннем, сваім акцёрскім грудным голасам, каб Ян не падняўся і не сеў. Але сын падняўся і сядзеў. Некаторы час глядзеў у падлогу, цёр вочы, збіраў у памяці зруйнаваны сон.

Бацька працягваў гаварыць пра абслугу, вышэйшую адукацыю, інтэлект, грошы, розум, храм, веру, гультаёў, бездухоўнасць грамадства, інтэрнэт, час, які сыходзіць і не вяртаецца, здароўе, якое можа не вытрымаць здзекаў, пра алкаголь і нікатын, якія разбураюць мозг…

— Ты мяне чуеш?

Ян падняўся, пераступіў прасціну і басанож пайшоў у прыбіральню, а бацька ўсё гаварыў. Паўтараў гучныя словы, то ціха, амаль інтымна, то з пафасам і драматызмам.

Ян выйшаў з прыбіральні, перайшоў у ванны пакоя, шчоўкнуў замочкам. Зашаргацела штора, зашумела вада, потым пачулася плёханне і вуркатанне… Так вуркочуць галубы і раздзімаюцца, робяцца круглымі з маленькімі галоўкамі, якія ўпрыгожваюць вогненныя вочкі. Сын прамываў горла, чысціў зубы.

Калі ён ружовы, паголены і ўскудлачаны выйшаў з ваннага пакоя, то знайшоў у шафе чыстую футболку, узяў цыгарэты з крэсла, з джынсаў — запальнічку і пайшоў на балкон.

Свяціла сонца. Ян курыў і глядзеў у двор: кранаў, пагладжваў мочку вуха, дзівіўся на сонца, зеляніну, на рознакаляровыя машыны. Расціснуў недапалак. Бацька

стаяў з кішэннай «Бібліяй», у акулярах. Кніжку трымаў разгорнутай на адлегласці выцягнутай рукі. Карцінна стаяў, як на сцэне, як перад мікрафонам у студыі. Быццам рыхтаваўся агучыць фрагмент фільма, зрабіць чарговы дубль. Ян прайшоў побач, абдаў цяжкім пахам тытуню, не прыпыніўся.

Ён сядзеў на кухні, тонка намазваў маслам і джэмам белы хлеб, выкладаў лусты на вялікую талерку. Акуратна, як кветку. У кубку набіраў колер ад двух пакецікаў кіпень. Ян паклаў нож, аблізаў вялікі палец, на ім блішчала ружовая кропля малінавага джэму.

Бацька стаў у дзвярах з кніжкай у руцэ, з акулярамі на самым кончыку носа. Ён сказаў пранікнёна і ціха, што збіраецца прачытаць прыпавесць пра вінаград і парабкаў. Ян паглядзеў на бацьку і пачаў нажом размешваць чай. Сказаў, што слухаць пра парабкаў і вінаград не хоча, бо баліць галава.

— Дзе мае новыя чорныя чаравікі? Дзе мая белая кашуля? — рэзка спытаў бацька і апусціў кнігу.

— У кафэ… Табе шкада? Прынясу, не хвалюйся.

— Я цябе кармлю, ты не спытаў дазволу і ўзяў мае чаравікі, кашулю. Хіба яны твае?

— Можна падумаць, што яны табе патрэбны. Прынясу.

— Ты пакуль ні капейкі ў дом не прынёс. Ты трэці месяц ходзіш у кафэ. Навошта ты туды ходзіш?

— Я табе сказаў — прынясу.

— Ты жывеш адным днём, як сапраўдная жывёла… — Бацька хацеў яшчэ дадаць.

Але Ян ускочыў, кубак абярнуўся, кіпень разліўся, пацёк на падлогу, а талерка з хлебам не паляцела — засталася стаяць на стале. Ян хутка апрануўся.

— Ідзі і не прыходзь. Падумай над сваім жыццём. Але дзверы майго дому будуць зачынены. Я так вырашыў. Гэта мая кватэра. Твайго тут — нуль, нічога. Табе ёсць куды пайсці. Ты думаеш яна ўзрадуецца? Акрамя мяне ты нікому не трэба. Гэта яна цябе такім выхавала… Ты яшчэ будзеш прасіць у мяне прабачэння. Прыбяжыш. — Пастаўленым голасам прамовіў мужчына. Хацеў дадаць, што ўсё ў жыцці паўтараецца, хацеў расказаць пра сына, які бадзяўся па свеце, але вярнуўся да роднага бацькі. Не да маці, а да бацькі. Але не паспеў.

Грымнулі дзверы. У кватэры стала ціха.

Мужчына ўзяў у прыбіральні швабру і пачаў выціраць падлогу. Потым накрыў бутэрброды другой талеркай і паставіў у лядоўню. Выкінуў пакецікі, спаласнуў кубак, выцер стол і выйшаў з кухні на балкон. Ён убачыў сына, які нетаропка шыбаваў у бок аўтобуснага прыпынку, курыў і прыціскаў да вуха мабільнік.

Ян прыйшоў на працу. Кухар глянуў на яго і здзівіўся, бо было рана, да пачатку працы больш як гадзіна.

— Афіцыян, ты есці будзеш? — Немалады хударлявы кухар прыдумаў мянушку, якая аб'ядноўвала імя і прафесію ў адно слова, вельмі гэтым ганарыўся. Ян зусім не крыўдаваў на кухара, які па гадах Яну, як бацька, а таму гэта падабалася.

— Дзякуй, толькі не шмат.

— Мужчына ў тваім узросце павінен есці, як леў. Каву, гарбату, малако, сок — возьмеш сам. Калі мне было як табе, то я мог з'есці, не паверыш, вялікую патэльню смажанай бульбы і выпіць літр малака. Што, не верыш? Я і сам не веру, але мог…

Ян смачна паеў. Пакурыў. Пераапрануўся. Цяпер на ім была белая кашуля, чорныя штаны, чорныя чаравікі і цёмны фартух. У кішэні фартуха нататнік, аловак, насоўка і жуйка. На кішэні бэйдж. На бэйджы надпіс. Афіцыянт. Ян. Два словы.

Праца пачалася. Дзевяць столікаў на вуліцы, дзевяць у памяшканні. На вуліцы працавалі Іра са Святланай, а ў памяшканні — Ян і Ліза. Сёння пятніца, добрае надвор'е, большасці наведвальнікаў хацелася сядзець пад парасонамі, на паветры. Кухар і яго памагаты працавалі хутка.

У восем прыйшла Эма. Яна заняла свой столік побач з акном. Паклала акуляры, пачак тонкіх цыгарэт, мабільнік і бліскучую запальнічку. Ян павітаўся. Эма зірнула на яго і адказала. Яна была ў светлай кофтачцы і ружовай, шаўковай сукенцы. На нагах белыя чаравічкі без абцасаў. Яна замовіла чылійскае віно, смажаную рыбу, на гарнір зялёную фасолю, моркву і салату, зялёны чай...

— Як справы, Ян?

— Нармальна. — Адказаў малады афіцыянт, калі адкаркоўваў бутэльку і ліў цёмнае віно ў пукаты бакал.

— Дзякуй. — Эма дакранулася да яго рукі. Віно перастала ліцца.

Жанчына пакруціла бакал. Удыхнула яго водар, зрабіла глыток і ўдзячна, так падалося, паглядзела на Яна. Афіцыянт усміхнуўся. Эма — сталая кліентка. Яна прыходзіць некалькі разоў на тыдзень. Яна сябруе з гаспадаром. Прыводзіць сваіх знаёмых. Жанчына займаецца турызмам, праз вуліцу яе кантора з сіняй рэкламай у выглядзе хвалі-воблака і залатога самалёціка. Але сёння жанчына адна. Ян ведаў, што Эме трыццаць пяць, бо вясной яна тут адзначала дзень нараджэння. Ведаў, што яе дачка вучыцца за мяжой, ведаў што Эма свабодная. Ведаў, што ён ёй падабаецца. Яна заўсёды над ім пасмейваецца і пакідае на чай. З ім Эма ніколі не сварылася, а з афіцыянткамі здаралася.

А палове на дзявятую Эма паклікала Яна і папрасіла замяніць попельніцу. Ён падышоў, замяніў. Жанчына паказала пальцам, каб ён нахіліўся, каб сказаць на вуха. Ян нахіліўся. Эма ўздыхнула ў вуха, дакранулася да мочкі вільготнымі губамі, а потым хутка і моцна ўкусіла. Ян тарգануўся, ускрыкнуў ад нечаканасці, вылаяўся, але хутчэй ад крыўды, чым болю… З перакуленай бутэлькі лілося цёмнае віно на сукенку, на ногі, на абрус. Эма ўсміхалася.

— Які ж ты неасцярожны… І навошта крычаць, не разумею. Я прывезла гэтую сукенку з Галандыі, а ты яе сапсаваў… Сёння толькі другі раз апранула…

Афіцыянт разгубіўся, пачырванеў. Ён выціраў жаночыя ногі сурвэткай, выціраў белыя чаравічкі без абцасаў. Рукі Эмы ляжалі на плячах афіцыянта. Потым яна замовіла машыну. Разлічылася і з'ехала. За ёй заўсёды прыязджала адна і тая ж машына.

Афіцыянтка Ліза паспачувала Яну. І кухар з памагатым паспачувалі. А гаспадар кафэ раззлаваўся.

Калі праца скончылася, Ян пераапрануўся, памыў рукі і твар, выпіў філіжанку кавы, выкурыў цыгарэту і пайшоў дамоў. Па дарозе зайшоў да знаёмага, пасядзелі, выпілі віна, паглядзелі камедыю, пагаварылі пра грошы. Пра сённяшняе здарэнне Ян не расказаў. Дамоў ісці не хацелася і ён крыху пагуляў на аўтаматах. Спачатку шанцавала, потым прайграў, зноў крыху выйграў, а потым прайграў усё і адчуў звыклую спустошанасць.

Прыйшоў дамоў. Бацька не хацеў адчыняць дзверы, але адчыніў. Збіраўся нешта сказаць, але стрымаўся. Ян распрануўся, лёг, накрыўся, павярнуўся тварам да сцяны і адразу заснуў. Яму сніліся аўтаматы, Эма, зялёная фасоля, белыя чаравічкі, чырвонае чылійскае віно, попельніца і белая кашуля на плечыках... Вуха амаль не балела…

Яго разбудзіў бацькаў голас: «Адзінаццаць гадзін трыццаць хвілін… Прачынайся, сын, нам трэба пагаварыць пра тое, што ты будзеш рабіць, пра тваю будучыню. Калі ты думаеш, што…

Васіль ДЭБІШ

# КАЛІ СЫДУЦЬ СНЯГІ



***Васіль Дэбіш нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна. Друкаваўся ў перыёдыцы і шматлікіх калектыўных зборніках. Інтымная лірыка Васіля Дэбіша, напоўненая рамантычнымі перажываннямі, знаходзіць водгук у сэрцах самых патрабавальных чытачоў.***

* * *

Майскі сад — пад маланкамі грому.
Зноў пялёсткі на дол ападаюць
З белых вішань. І бэз каля дому,
Як касцёр залацісты, палае.

Бляск маланкі ў вачах тваіх тоне.
Толькі крок — крок маленькі між намі.
П’ю дажджынкі з тваіх я далоняў
І кранаюся пальцаў губамі.

Гэта ява, ці, можа, мне сніцца?
Я цябе зноў праводжу дадому.
І над намі шуміць навальніца
Залатымі маланкамі грому.

* * *

Сабраўшыся нарэшце з духам,
«Кахаю!» выдыхнуць на раз.
І, апусціўшы вочы, слухаць
Яе заблытаны адказ.

Ад радасці ў нябёсах лётаць
І яркім полымем гарэць,
Не пальчыкаў яе пяшчотных
Крануўшыся, — пальчатак ледзь.

**НАВАЛЬНІЦА**

Грудзей вясёлачкі кранаю.
У высях грымнула нясмела.
На шыбы звонкая, буйная,
Бы камень, кропля паляцела.

Другая, трэцяя… Навалай
Б’е дождж цяжкі па вокнах коса…

Мацнее ён, і ўжо палаюць
Падлога, шыбы і нябёсы.

Ты ўся трымціш. Паружавела,
Бы ў палісадзе мак. «Кахаю!» —
Шапчу табе адчайна-смела…
І навальніца не сціхае.

## СУСЕДКА

**1**

Як бачу я плечы яе і мадонны аблічча,
Душа мая плача, абдымкі мае яе клічуць.
Трымціць маё цела, палонена палкім жаданнем.
Быць хочацца смелым і вейкаў крануцца дыханнем.
Паненкаю стала. Была дзіцяняткам, суседкай.
Хоць вырасла ўжо, ды яшчэ не раскрылася кветка —
Дзіця, што ў князёўны ўвабралася лёгкія строі,
Яму нецікава цяпер захапляцца гульнёю.
Карысці няма ў ланцужках залатых зіхатлівых.
Ці могуць прымусіць мужчыну яны быць шчаслівым!?.
Не жэмчугу ніці мужчынскай душы асалода,
А цела жаночага ранішні сонечны водар.

**2**

Суседка мая! У акно зазірнула зноў лета.
Маю маладосць і каханне напомніла. Дзе ты?
Духмяныя кветкі, маланка бліскучая, ложак.
І з ружаў вяночак дзявочыя грудзі ўпрыгожваў.
Уздыхі і ласкі. І слоў залатое праменне.
Так ноч праляцела, нібы праляцела імгненне.
А ранкам прачнуўся: няма, ты згубілася ў вёснах,
І толькі адзін на пасцелі прымяты пялёстак.

**3**

Суседка мая! Ад мяне ты далёка-далёка.
Нябёсы засланы густою начной павалокай.
Грувасцяцца хмары, і морак зямлю абдымае.
Мінаецца ўсё. Ды кахання святло не згасае.
Ты ў Мінску, напэўна, цяпер або ў іншым дзе месцы.
А я пра цябе ўспамінаю так часта ў Бярэсці.
Сяджу ля каміна і мару пра дзіўную кветку…
Жанчынаю стала мая дарагая суседка.

* * *

Цябе пакахаў, толькі з гэтай нагоды
Я мучыцца змушаны, сохнуць і тлець.
І здзекі з мяне для цябе — асалода.
А мне яны горай за здраду і смерць.
Ды некалі смутак мой згубіцца ў змроку
(канец мае ўсё ў гэтым грэшным жыцці).
І попел халодны адкрыецца зроку,
Дзе полымя зараз хачу я знайсці.

## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Ліецца неба сінява,
Ракой цячэ.
У сініх васільках трава.
І сінь вачэй

Тваіх. Ляціць, знікае з воч
Маёвы хрушч.
І сырадоем пахне ноч
І мёдам з груш.

Пугач стагнаць за рэчкай сціх,
Змоўк птушак хор…
Я здзьмухваю з вачэй тваіх
Пылінкі зор.

* * *

Чакаў я снегу, як калісь даўно
Чакаў твой ліст. І ён прыйшоў сягоння.
Ляцяць сняжынкі прыгаршчамі сноў,
А навакол — бялюткае бяздонне.

З канверта чысты аркуш я дастаў.
Ні слова ў ім. І толькі пах парфумы.
Адбітак вуснаў там, на дне ліста,
Разбаўлены пяшчотаю і сумам.

А мне свой сум нікуды не падзець,
Бо лебедзь ты, я — дзікі чорны воран.
І дзіўна неяк нават: снег ідзе,
А мы не тонем ў белым снежным моры.

Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

# НЕ ПЛАЧ, ЛІЗАНЬКА

*Аповесць*

## ЕВА

— Ах, час, час, — задуменна вымавіла я, калі разглядала свае дзіцячыя рэчы. — Як павольна ты цягнешся ў дзяцінстве і хутка ляціш у дарослым жыцці. Вось мой школьны сшытак мама захавала... І малюнкі разам з самаробнымі паштоўкамі ляжаць...

— Праслязіся яшчэ! — прабурчала на гэта Ева і пачала раздзімаць з жуйкі чарговую бурбалку.

Яшчэ нядаўна Ева была маёй меншанькай. Дачушкай з цікаўным, наіўным позіркам, пульхнымі пальчыкамі, каляровымі гольфікамі ды банцікамі. А цяпер яна іншая... Наравістая, вуглаватая, з завушніцамі-пластмаскамі ў вушах. Пасталеўшая дачка Ева... Яшчэ не дарослая, але ўжо і не дзіця.

— Хопіць ныць і разгойдвацца на крэсле! Зломіш! І жуйку выплюнь! Глядзець брыдка! — не вытрымала я.

— Даруй, — скупа буркнула ў адказ Ева і падскочыла на месцы... Ды так, што старое крэсла злосна затрашчала. З вуліцы даносіўся шум, і дачка падбегла да акна, каб паглядзець, што там робіцца.

— Ой, Ева! Глядзі пад ногі! Нясешся, як без галавы! — ад нечаканасці я ледзь не выпусціла з рук кнігі, якія збіралася пакласці на паліцу.

— Я на хвіліначку! Толькі паглядзець.

На вуліцы, здаецца, дурэлі дзеці. Чуўся свіст, крык, сабачы брэх.

— Што там? У снежкі гуляюць? — працягваючы выціраць пыл на паліцах, пацікавілася я.

— Нічога прыкольнага... Проста дваровыя хлопцы Марка б’юць за нашымі веснічкамі, — расчаравана адказала Ева.

— Як гэта б’юць? — скінуўшы на падлогу ўсе рэчы, кінулася я да акна.

— А няма чаго дурням у нармальную школу хадзіць, — паціснула плячамі Ева. — Ведаеш, як ён смешна плача — гучна з павіскваннем, як хворае парася. Плача, плача, амаль гадзіну, а потым зноў усмешка на твары. Ты б толькі бачыла гэтую дурную ўсмешку!

— Ева, што ты кажаш! — не вытрымала я і выбегла на двор, ратаваць Марка...



***Таццяна Дзямідовіч нарадзілася 13 лютага 1979 года ў Брэсце. Скончыла БрДУ імя А. С. Пушкіна. Кіраўнік літаратурнага клуба «Літара» пры ГДК. Друкавалася ў айчынных і замежных выданнях. Піша больш для дзяцей і падлеткаў. Імкнецца стаць для школьнікаў не строгім выхавальнікам, не ўсемагутным чараўніком, а надзейным сябрам.***

Поўны, нязграбны Марк чорным калабком катаўся па снезе.

— Што ж вы робіце? — крычаў ён і хаваў ад бязлітасных поўхаў аднакласнікаў свой твар у далонях. Брудныя ледзяшы, раніцай знятыя дворнікам з асфальту, ляцелі на спіну хлопчыка і, не разбіваючыся, скоўзваліся ўніз.

— А ну, разыдзіцеся! — злосна крыкнула я, і хлопцы з галёканнем кінуліся ўрассыпную. Я дапамагла падняцца Марку. Яго пунсовыя шчокі былі мокрымі — ці то ад снегу, ці то ад слёз. Ён выцер пабіты нос цёмна-сіняй запэцканай вязанай пальчаткай і, як трохгадовае дзіця, зайшоўся ў плачы.

— Пойдзем, я адвяду цябе дадому! — прапанавала я і падняла з зямлі ягоны пакет ды мокрую шапку.

Марк выплюнуў кроў і, гучна ікаючы ад нястрымнага плачу, паплёўся дадому.

* * *

Я знайшла Еву на гарышчы — з падпухлымі ад слёз вачамі. Яна раззлавана грызла пазногці, шморгала носам і глядзела на мяне вачамі дзікага тыграня.

Я падсела да Евы на падлогу, правяла далонню па яе кудлатых, крыху рудаватых валасах.

— Усё роўна ён у нас дурань, мамачка, ты сама ведаеш, — пакрыўджана сказала Ева, — а я з ім у школе за адной партай сяджу. Уяўлеш, як мне цяжка прыходзіцца. У яго алергія і ён пастаянна чхае! І бегае ў развалку, як курыца. А рыдае як агідна — увесь твар ў саплях!

Я сціснула вусны і раптам падумала: «Дзесьці мы ўжо гэта праходзілі... Цікавая рэч: такое адчуванне быццам мы ўсе ходзім па адных і тых жа дарогах з вечнымі пытаннямі і перашкодамі, толькі кожны ў свой час...»

— Чаго ты маўчыш? — не вытрымала маёй доўгай паўзы перапытала Ева.

— Ведаеш што, пойдзем снедаць... А то бегаеш цэлы дзень і паесці забываеш, — спакойна прамовіла я.

У кухні паставіла перад Евай талерку з баршчом і пачала наразаць хлеб — адрывіста і хутка, гучна грукаючы цяжкім нажом аб шкляную дошку для нарэзкі.

— Зноў чырвоны боршч... І мяса плавае... Фу-у-у-у... Не люблю, калі ў супе плавае мяса і дробна нарэзаная цыбуля, — скрывілася Ева. Яна грэбліва адсунула талерку і схапілася за пачак чыпсаў.

— Пакладзі на месца! Усялякую гадасць ясі, — зноў сарвалася я і рэзкім рухам вырвала чыпсы з яе рук. Пакецік адразу парваўся, і смажаная бульба залатымі манеткамі пасыпалася на падлогу.

Ева зноў надзьмулася, адвярнулася і рукі на грудзях склала.

— І каб пра Марка я нічога дрэннага больш не чула, і смяяцца з яго не трэба, — поўзаючы па падлозе, каб пазбіраць рассыпаныя чыпсы, сур'ёзна загадала я. — Потым вырасцеш і сорамна будзе!

— Ну, мамуля, чаго ты завялася? Даруй мяне... Не хачу я боршч есці. Магчыма, пазней! А чыпсы я сама ўсе пазбіраю. Не нахіляйся так, у цябе ж спіна хворая! — Ева апусцілася да мяне на падлогу і пачала дапамагаць збіраць чыпсы.

— І каб Марка больш не крыўдзілі, — прапусціўшы міма вушэй прабачэнне дачкі, паўтарыла я. — Вунь нашай цётцы Лізе таксама ў школе не ўсё лёгка давалася... Але бачыш, якая яна ў мяне выдатная сяброўка?

— Параўнала Марка і цёцю Лізу, — нараспеў вымавіла Ева: — Цёця Ліза — золата! Якія яна пірагі смачныя пячэ — пальчыкі абліжаш, казкі ўсялякія ведае, гісторыі — страшныя і вясёлыя. Ведаеш, як мне з ёй цікава было, калі я была

зусім малая? Не тое, што з табой! Яна, між іншым, магла гуляць ва ўсё на свеце. Не тое, што ты — у мяч не можаш, бо на руках манікюр, у хованкі таксама нельга — бо пыл падымаецца. Прыйдзеш, бывала, з працы і пазяхаеш. Я цябе і пра тое і пра гэта хачу распытаць, а ты ўсё «адчапіся ды адчапіся». Шкада толькі, што ў цёці Лізы сваіх дзяцей няма. Было б яшчэ весялей...

Я ўсміхнулася, пакруціла галавой і прыціснула дачку да сябе:

— Даражэнькая мая, не ўсё ў жыцці свята, трэба і гатаваць, і прыбіраць, і хадзіць на працу. Не разумею, няўжо я такая дрэнная матуля?

— Добрая, але строгая, — усклікнула Ева, звонка пацалавала мяне ў шчаку і павісла на маёй шыі. — Матуля, любімая!

Я раптам зразумела, як хутка праляцеў час, і што яшчэ называлася «блізкае ўчора», стала раптам беззваротна далёкім, чужым... Быццам бы і не была я ніколі маленькай Рытай, а адразу нарадзілася сур’ёзнай цётачкай, і з першых дзён свайго жыцця гібела на працы.

— У дзяцінстве маленькія праблемы здаюцца вялікімі, невырашальнымі. Мабыць, дарослыя праблемы для дзяцей таксама здаюцца нікчэмнымі? Менавіта таму так цяжка дарослым зразумець дзяцей і наадварот — дзецям мітусня дарослых нагадвае цікавую камп’ютарную гульню, у якой усё магчыма лёгка змяніць адным націскам кнопачкі, — услых разважала я. — Ведаеш, я хачу расказаць табе адну гісторыю.

Ева недаверліва спадылба зірнула на мяне.

— Абавязкова раскажу! — запэўніла я. — Толькі дапамажы мне ў шафе навесці парадак!

— Я хуценька тут усё прыбяру, — усклікнула зацікаўленая Ева і вываліла на падлогу са сваёй шафы ўсе неахайна расстаўленыя на паліцах кнігі.

## ПЕРШАЯ СЯБРОЎКА

Лізанька пераехала ў наш дом даўно, але перавялася ў бліжэйшую школу толькі ў новым вучэбным годзе, калі мы пайшлі ў трэці клас. Лізанька была старэйшай за мяне на два гады, але мы пайшлі ў адзін клас. Справа ў тым, што ў школу мяне ўзялі ў шэсць гадоў, бо я была рослая і чытаць ужо ўмела, а Лізаньку ў восем, бо яна марудлівая. Лізанька ўсё рабіла павольна — гаварыла, хадзіла, нават ела марудна. Я спачатку не звяртала ўвагі на яе дзівацтвы...

Калісьці наш аднапавярховы драўляны дом на дзве кватэры, як забыты востраў, стаяў у тупіку маленькай заводскай вулічкі, якая была заціснута з аднаго боку чыгункай, з другога — лесам. Праз фортку з вуліцы звычайна чуўся брэх бяздомных сабак ды тужлівае «чух-чух». Боязна было і нос выткнуць за веснічкі, асабліва ўвечары, калі праз цемру на калдобістую дарогу глядзела толькі жоўтае вока поўні.

З Лізанькай я адразу пасябравала... Бо яна ніколі ні на што не крыўдзілася і заўсёды дзялілася цацкамі. У яе былі цудоўныя цацкі — замежныя. Яе дзядзька служыў у Германіі і прывозіў адтуль незвычайныя рэчы: гаворачых лялек з гардэробам, жуйкі з мульцяшнымі фанцікамі, вялікіх мяккіх жывёлін. Лізанька заўсёды была гатова аддаць мне проста так самую лепшую цацку.

— Калі хочаш — забірай яе. Назаўсёды забірай, я ўжо ўдосталь нагулялася! — казала яна і ажно прытанцоўвала ад радасці, што ёй удалося мне дагадзіць.

Гэта потым, дома, мне мама выгаворвала, гучна і выразна вымаўляючы кожнае, непрыемна-хвосткае слова:

— Бессаромная! Ці можна прысвойваць чужыя рэчы? Ужо не маленькая, павінна думаць...

— Мне Лізанька дала, — мямліла я.

— Ідзі і вярні цацку, хуценька!

І я цягнулася да Лізанькінай кватэры, ціхенька стукала ў дзверы і нехаця вяртала цацку.

З Лізанькай наогул было цяжка пасварыцца. Бо на дрэннае яна чамусьці не крыўдзілася, а добраму радавалася так, быццам гэтага добрага было ў сто разоў больш, чым ёсць на самай справе.

Зіма ў нашых краях звычайна спазняецца, і пра снег марыш іншы раз больш чым пра падарункі Дзеда Мароза. І вось аднойчы пад Новы год пайшоў доўгачаканы снег! Ён імгненна ўпрыгожыў шэры слотны вечар. Памятаю, як мы шчасліва падстаўлялі снегападу пачырванелыя ад марозу шчокі, лавілі бязважкія сняжынкі...

Ад бадзёрага холаду кружылася галава, і хацелася танцаваць, спяваць, лятаць разам з гэтым бялюткім канфецi!

Удосталь нагуляўшыся, мы зляпілі снягурку. Ну, зляпілі ды зляпілі... На наступны дзень я ўжо на снежную скульптуру і не глядзела. А Лізанька наадварот — кожны дзень папраўляла на ледзяной сукенцы палачкі-гузікі, мяняла маленькія вочкі-каменьчыкі на лепшыя, падфарбоўвала акварэллю пасвятлелыя контуры адзення. І ўсіх, хто да нас на двор заходзіў — паштальёнку цётку Нюру, сябровак нашых мам, Лізанька вадзіла да прыгажуні-снягуркі.

— У нас ёсць дзіва, — казала яна і нецярпліва цягнула гасцей за рукавы. — Пайдзёмце, пакажу.

**НАШ КЛАС**

…Тое, што Лізанька можа быць брыдкай, я зразумела толькі ў школе, калі апынулася з ёй у адным класе.

Калі Лізанька спрабавала чытаць, а чытала яна горш за ўсіх, пры гэтым прыкра прыцмоквала вуснамі, экала і хлюпала носам, увесь клас рагатаў. Яшчэ жудасней справы ішлі ў сталоўцы. Выявілася, што Лізанька не можа прыгожа есці...

І чаму раней я гэтага не заўважала? Бульбяное пюрэ вісла ў яе на барадзе, а кавалачкі катлеты захрасалі ў зубах. Яна дарэмна імкнулася выкалупаць шматкі мяса вільготнымі пальцамі і пры гэтым працягвала чмякаць.

— Брыдота, не магу з ёй сядзець за адным сталом, — аднойчы не вытрымала Вераніка Смірнова, — і навошта дуракоў у нармальныя класы бяруць?

— Я таксама не буду з ёй есці за адным сталом, — абурыўся Ігар Стручок. Ён нядбайна кінуў відэлец у талерку і перасеў за другі стол.

— Брыдота, — паўтарыла Вераніка, адсунула ад сябе Лізанькін кампот і запытальна паглядзела на мяне.

А я прамаўчала...

Лізанька ўвесь дзень «дзякавала» мне за гэта. Яна сядзела за першай партай і не адводзіла ад мяне вачэй. Настаўніца не звяртала на Лізаньку ўвагі, а я ўвесь час чырванела і не ведала, куды схавацца ад яе позірку.

— Рыта, будзь уважлівай! Глядзі на дошку, а не на падлогу! — рабіла мне заўвагі настаўніца.

«Рыта, Рыта, — у думках злавалася я і нервова камечыла ў руках гладкую, падобную да кавалачка пасцілы, сцірку, — будзеш тут уважлівай, як жа...»

А ўрок спеваў у нас вяла маладзенькая і хударлявая настаўніца з вялікімі добрымі вачамі. На першы позірк дык зусім школьніца, нават яе цёмны сарафан школьную сукенку нагадваў! Аднойчы Лізанька зусім асмялела і на перапынку з усімі рэчамі перабралася да мяне. Ну, не выганяць жа было яе са сваёй парты?!

— Саўка ды Грышка ладзілі ду-ду, — хрыплым голасам крычала Лізанька і ўзбуджана дырыжыравала рукамі. З яе твара па-ранейшаму не сыходзіла дурнаватая ўсмешка. Я чамусьці паддалася яе настрою і мяне таксама прабівала на смех. Так бывае — думаеш, як выглядаць сур'ёзнай, а вусны самі па-здрадніцку раз'язджаюцца ва ўсмешцы. Я спрабавала прыкрыць рот спацелымі ад хвалявання далонямі, але беспаспяхова.

— Дзяўчынкі, супакойцеся, — папярэджвала настаўніца. І хоць яе заўвага гучала бяскрыўдна, я адчувала, што мой твар зноў чырванее. З хваляваннем зірнула на Вераніку Смірнову, якая ўвесь час штосьці запісвала ў свой дзённік старасты.

Вераніка Смірнова глядзела на нас з дакорам і па-даросла 
му круціла галавой. Можна было здагадацца, як яна старанна выводзіць аўтаручкай у сваім дзённіку: «Рыта Кажановіч — паводзіны нездавальняючыя».

## ПАЗАКЛАСНАЯ ГАДЗІНА

Неяк на пазакласнай гадзіне настаўніца прапанавала нам выбраць самага дысцыплінаванага і працавітага вучня. Лідара ў вучобе. Яна паабяцала, што прозвішча нашага героя будзе красавацца на школьным стэндзе ля кабінета дырэктара.

— Якія ў каго будуць прапановы? — спытала настаўніца. — Пачнём з дысцыпліны...

У класе ўсе пачалі перашэптвацца, бо адразу так і не вызначыш.

— Рыта Кажановіч самая паслухмяная! — раптам выгукнула Лізанька. — Яе прозвішча ў першую чаргу трэба на школьным стэндзе напісаць!

Я ажно здрыганулася ад нечаканасці. Хтосьці за спінай адразу хіхікнуў, клас загудзеў, як растрывожаны вулей.

— Цішэй, цішэй, — супакойвала ўсіх настаўніца, — няхай гаворыць староста.

Да дошкі з важным выглядам выйшла Вераніка Смірнова. Яна трымала ў руках аўтаручку і ўсё той жа дзённік старасты.

— Рыта Кажановіч на гэтым тыдні паводзіла сябе жахліва, — папраўляючы на носе акуляры, паведаміла яна. — Нават горш, чым наш галоўны неслух Савелій Скавародка! Вы б толькі бачылі, Ала Мікалаеўна, што яна вырабляла на ўроку спеваў!

Я замерла. Мне захацелася стаць маленькай і незаўважнай. Напрыклад, такой як заснуты між шыбамі, матылёк. «Сядзіць сабе там і ніхто яго не заўважае», — думала я, разглядаючы яго далікатныя крыльцы.

— Добра, з паводзінамі Рыты Кажановіч мы разабраліся. Спадзяюся, яна падумае над заўвагамі, — прамовіла настаўніца. — А самай паслухмянай вучаніцай я назвала б нашу старасту Вераніку Смірнову. Бо яна не толькі падае добры прыклад усім вучням, але яшчэ і перажывае за кожнага з вас. Хто «за» — узніміце рукі.

І ўсе вучні, у тым ліку і я, паспяшыліся падтрымаць добрую прапанову настаўніцы.

— А цяпер нам трэба выбраць самага працавітага вучня, — нагадала Вераніка.

— Самая працавітая гэта Рыта Кажановіч, — зноў закрычала Лізанька і высока ўзняла руку.

Клас развесяліўся, хтосьці пачаў апладзіраваць Лізаньцы. Мне ж — хоць пад зямлю праваліся. Пагразіўшы кулаком, я гнеўна зашыпела на Лізаньку:

— Змоўкні...

— Угу, зразумела, вы абедзве працавітыя, — з асуджэннем паглядзела на Лізаньку Вераніка, — асабліва, калі ўспомніць як вы на мінулым тыдні дзяжурылі пасля ўрокаў. Спачатку падлогу памылі, а потым вядро з бруднай вадой вывернулі, а яшчэ кран у туалеце забылі закруціць. А ваду, між іншым, эканоміць трэба. Вада — гэта дзяржаўнае багацце! А калі смецце ў ракавіну забілася б, то наогул бяда магла здарыцца. Яшчэ некалькі хвілін і ў школе быў бы патоп. Добра, што завуч побач праходзіла і пачула шум вады. Працавітыя вы нашы...

«Так усё і было, — успаміналa я. — Мыць падлогу давялося мне, а Лізанька па нехлямяжнасці сваёй перакуліла вядро. А потым анучы паласкаць пайшла ды ў мужчынскую прыбіральню завярнула. Тут я моцна перапалохалася, клікаць яе пачала. А яна пакуль пачула, пакуль зразумела ў чым справа, каля туалета з'явіліся старшакласнікі. Як потым высветлілася, яны ў школьныя майстэрні ішлі. Толькі я адразу і не ўцяміла, ад страху за руку Лізаньку пацягнула, і мы пабеглі прэч, не закруціўшы кран».

— І вучыцца лепш за ўсіх Рыта Кажановіч! Паглядзіце, якія ў яе сшытачкі акуратненькія, літарка да літаркі, хоць на выстаўку адпраўляй, — не сунімалася Лізанька.

— Ды змоўкні ты! — не вытрымала я і выбегла з класа.

…Па дарозе дадому падбівала нагой каштаны... Іх было шмат… На зялёнарудым дыване восені яны выглядалі маленькімі цёмнымі мячыкамі. На іх я спаганяла сваю злосць, бо больш даць поўху нікому не магла — ні неразумнай Лізаньцы, ні ўсёвідушчай Вераніцы Смірновай...

А Лізанька ішла побач і нязмушана распавядала сваёй бабульцы пра школьную сталоўку і нейкія каляровыя налепкі на дзвярах. «Падумаць толькі, — злавалася я, — а тое, што яна мне сапсавала ўвесь дзень, то як бы ўжо і не важна. І чаму мае бацькі не могуць самі мяне забіраць са школы? Ды я б і сама дайшла да кватэры, без дапамогі чужой бабулькі! Немаленькая ўжо! Лепш пакінулі б мяне ў прадлёнцы».

## ПАБЕГ У ПРАДЛЁНКУ

— Значыць, ты хочаш застацца ў групе падоўжанага дня?

— Хачу, мамачка, вельмі хачу, — пераконвала я. — Бо там урокі ўсе разам робяць і менш увага адцягваецца, ды так весялей, а потым дзеці ў парку гуляюць, у кіно ходзяць. А што я буду дома сядзець? Лізанька і яе бабуля яшчэ тая кампанія. Гарбату з булкамі піць ды пласцінкі слухаць… Ну-до-та...

— Як хочаш... Магу пакінуць цябе ў прадлёнцы… Але, май на увазе, што ў школе прыйдзецца быць да самага вечара.

— Ура! — заляскала я ў ладкі. — І мядзведзя мяккага з сабой вазьму. У школу нельга, а ў прадлёнку можна! Усе дзеці бяруць з сабой цацкі — хто ляльку, хто машынку, а хто гульню настольную!

— Бяры, калі хочаш... — пагадзілася мама.

Я клалася спаць з марамі пра цікавыя школьныя падзеі. Уяўляла, як здзівіцца Лізанька, калі даведаецца, што я застаюся ў школе, як нервова затрасуцца яе заўсёды вільготныя ды пухлявыя вусны. Як яна пачне імі прыкра шамкаць і з хваляваннем

скардзіцца на мяне сваёй бабульцы. А я радасна памашу ёй рукой са школьнага акенца:

— Да пабачэння, Лізанька!

Але наступны дзень аказаўся для мяне зусім не цудоўным… Я нават не ўяўляла, наколькі непрыемная для ўсіх Лізанька і як гэтая непрыемнасць перакочвалася на мяне.

— Значыць так, Кажановіч! Адыдзі ад нас на дзесяць крокаў і там гуляй, а то мы тут усе задыхнёмся, — на першай прагулцы заявіла Вераніка Смірнова.

— За вярсту ад цябе смярдзіць Лізкінымі саплямі, — дапоўніў Савелій Скавародка. Агледзеўшыся па баках, ён упэўніўся, што настаўніца за намі не назірае, і падбіў майго мядзведзя нагой. Мяккая цацка высока падляцела, перакулілася ў паветры і трапіла ў лужыну. Медзведзяня бездапаможна распласталася ў цёмнай восеньскай жыжы. Пачарнелая ад холаду лістота прыліпла да яго смешных хударлявых лапак, а светлая мордачка зрабілася чорнай і жаласнай. Здавалася, што медзведзяня заплакала… Заплакала мутнымі кроплямі восеньскай непагадзі… На самай справе гэта плакала я...

— Маленькі мой, — шаптала і выцірала мішуткаву мордачку вязаным шалікам. — Бачыш, які жорсткі гэты свет. Табе пашанцавала, бо ты цацка з паралонавым сэрцам і не можаш па-сапраўднаму перажываць.

Пакуль медзведзяня абсыхала на лаўцы, я хадзіла сюды-туды па жалезным бруску, які быў падвешаны да невялікіх слупоў на іржавых ланцужках. Ад зямлі ўсяго нічога — дзесяць сантыметраў, а ідзеш і вусцішна... Спартыўная прылада гойдаецца ў розныя бакі, адзін нязграбны рух — і ты ляціш уніз. І я падала, злавалася на сваю нехлямяжнасць, балюча кусала вусны... А потым зноў абтрэсвала запэцканыя вільготнай травой калені, узнімалася і імкнулася наноў прайсці па нялёгкай дарозе. Я паглядвала на школьны поплаў, дзе гарэзнічалі дзеці і, здаецца, зайздросціла кожнаму з іх. Упершыню ў жыцці я адчула сябе бездапаможнай і нікчэманай. Быццам Лізанька і сапраўды заразіла мяне сваёй жудаснай хваробай. І цяпер я таксама — непрыгожая, непрыемная, недарэчная...

«Трэба штосьці рабіць, — думала я, — магчыма, трэба паразмаўляць са Смірновай? Яна ж дзелавітая, разумная, а, самае важнае, — галоўная ў класе! Да яе нават настаўніца прыслухоўваецца. Як Смірнова скажа, так і будзе... Урэшце, што я ім усім зрабіла дрэннага? Нічога... Дык вазьму і падыду да іх! Чаго ж мне баяцца?»

І я асмелілася. На наступны дзе падчас прагулкі і пятнаццацігадзіннага хаджэння па ўсё таму ж падвешанаму жалезнаму бруску я набралася смеласці ды аклікнула Смірнову:

— Вераніка! Можна цябе на хвілінку?

— О, нашае дзіва ў пер’ях прысунулася, — усміхнулася ў адказ Смірнова.

— Што, сумна табе без тваёй сяброўкі? — падпела Ярынка Кузэлька, ніхто цяпер табой не захапляецца, няма каму цябе нястомна хваліць.

— Не сяброўка яна мне, проста ў адным доме жывём, бацькі нашы сябруюць, — апраўдвалася я. — Ды я б з такой і сама ніколі сябраваць не стала, і не падышла б да яе блізка. Выпадкова ўсё атрымалася, што тут зробіш... Дарэчы, яна не такая ўжо і тупая. Лізкіна бабуля казала, што цяпер такія хваробы ў сталіцы вылечваюць. І разумова адсталыя дзеці потым яшчэ разумнейшымі за самых разумных робяцца. Лякарствы нейкае ўводзяць. З-за мяжы прывозяць, — схлусіла я. — Хто яго ведае, магчыма, праз пяць гадоў Лізанька будзе як выдатніца Смірнова і прыгажэй за Ленку Федарук. Вось тады яшчэ локці кусаць сабе будзеце, што не хацелі з ёй

сябраваць. Між іншым ёй пасля першых двух уколаў лепш зрабілася... І хадзіць яна значна хутчэй стала, тэкст з дошкі на чацвёрку перапісала! Самі бачылі!

— Не ведаю, якія яна лекі прымае, — падазрона сказала Смірнова, — але, калі ты хаця б на крок да Лізкі наблізішся, мы табе такое ўстроім — мала не будзе. А цяпер урачыста кляніся, што з Лізанькай не будзеш больш вадзіцца. Нідзе, ніколі і ні пры якіх абставінах…

Я разгубілася, утаропілася ў зямлю ды па звычцы пачала кусаць сабе вусны. Не чакала я такога ад Смірновай.

— Ну, кляніся, — настойліва паўтарыла Вераніка.

Я вытрымала некалькі секунд у надзеі, што Смірнова пажартавала. Але ўсе напружана чакалі маіх слоў, і я амаль бязгучна прашаптала:

— Клянуся!

— Гучней кляніся, каб усе чулі! — хтосьці крыкнуў з натоўпу.

— Клянуся з Лізанькай больш не вадзіцца, ні за што, ніколі, ні пры якіх абставінах! — вымавіла я.

— А цяпер трэба зямлі з’есці! — пракрычаў Савелій Скавародка. — А то, што твае словы! Сёння сказала, а заўтра забыла. Ты не міргай разгублена, а зямлю еш, вунь, на клумбе, дзе кветкі растуць.

— Малайчына, Савелій, ідэя пра замацаванне клятвы добрая, — адгукнулася Смірнова. — Толькі навошта зямлю есці? Фу... Не добра гэта... А калі ў Кажановіч пасля такой трапезы апендыцыт схопіць? Мы ўсе адказваць будзем, і зорачак акцябрацкіх пазбавіцца можам. Няхай лепш яна пялёсткі гэтых кветачак пакаштуе! Ажно пяць і ў нас на вачах!

— Так-так, рві і еш! — загадала Кузэлька. — Хуценька!

І я душылася горкім школьным букетам. Тады я была ўпэўнена, што стрымаю клятву і больш ніколі не пушчу Лізаньку ў сваё жыццё.

Але ў наступныя тыдні паразумецца з аднакласнікамі мне было таксама нялёгка. Напрыклад, калі ўсе ішлі па парах, то я заўсёды плялася адна, і на фізкультуры мне не было з кім перакідваць мяч ды сваімі гісторыямі ніхто са мной не жадаў дзяліцца. Але хаця б не гналі са школьнай пляцоўкі і то добра. Я спадзявалася, што з цягам часу ўсё забудзецца і кожны раз перажывала за Лізаньку. Баялася, каб яна не зрабіла што-небудзь нечаканае... Бо ўсе павінны былі пераканацца ў яе хуткім выздараўленні.

Пры гэтым я пазбягала надакучлівую Лізаньку. Не адказвала на яе пытанні, хавала руку ў кішэню, калі тая імкнулася за мяне хоць неяк зачапіцца. У Лізанькі ад крыўды трэсліся рукі, вочы напаўняліся слязамі, але дома яна, на шчасце, не ўспамінала дрэннае. Па-ранейшаму насіла мне цацкі, частавала замежнымі пачастункамі. Я нават не ведала, ці скардзілася яна бабулі, ці даравала мне, або проста ўсё непатрэбна-сумнае выкрэслівала з памяці.

## БАЛЮЧЫ ЎКОЛ



У той дзень пайшоў снег. Дробны, рэдкі... Ён нават на вопратцы не затрымліваўся, адразу раставаў, ператвараўся ў кропелькі-пацеркі. Звычайны непрыемны лістападаўскі снег...

Здавалася, вулічная непагадзь імкнецца завяваць увесь свет і такім падманам пераехаць на нашых рэчах у школу. Бо ў класе батарэі ледзь цяплелі, а сырыя курткі засталіся ў гардэробе. Ногі мерзлі. Калі ж мы выводзілі ў сшытках літары, халодныя

рукі былі асабліва непаслухмянымі. І спаць вельмі хацелася, бо за акном было шэра і золка.

— Давайце, дзеці, яшчэ раз паўторым, якія птушкі ў нас застаюцца ўзімку, — гучна і весела спытала настаўніца. Яна хацела нас, сонных, неяк падбадзёрыць, настроіць на вучобу. — Ну-ка, Лізанька, што ты руку ўсё цягнеш? Адказаць хочаш? Дык мы ж хорам кажам.

— Ала Мікалаеўна, — яшчэ вышэй узняла руку Лізанька і пры гэтым пачала смешна круціцца. — Ала Мікалаеўна!

— Добра, Лізанька, можаш устаць і адказаць. Толькі не спяшайся з адказам, добра падумай.

Лізанька неяк рэзка і спалохана ўскочыла са стула, як быццам ён раптам зрабіўся гарачым. Яна пачала расстаўляць ногі, тапталася на месцы і паглядвала на падлогу, быццам нешта згубіла.

— Ээээ… — мямліла яна, — А-ала Мікалаеўна, а можна мне выйсці...

Не паспела настаўніца кіўнуць, як ля Лізанькіных ног з’явілася лужынка. У класе павісла цішыня. Я адразу і не здагадалася адкуль з’явілася гэтая лужынка. Падумала, магчыма, Лізанька пасля ўрока малявання ваду са слоіка не выліла ці настаўніцкую палівачку вывернула...

— Вось смехата... Наша Лізка ўпісалася, — першым хіхікнуў Савелій Скавародка.

І пасля яго слоў раздаўся ўсеагульны рогат.

— Упісалася, упісалася! — чулася скрозь смех: — Лізка-сцыкуха... Лізка-сцыкуха... — Адзін за адным паўтаралі дзеці.

— Цішэй, цішэй, — супакойвала ўсіх настаўніца. Але яе голас губляўся ў дзіцячым гомане.

— А Рытка нам яшчэ пра нейкія ўколы залівала, — адразу ўспомніла Смірнова. — Будучая піянерка, зорачку ленінскую насіць і хлусіць!

— Цішэй, з кожным магло здарыцца! — гаварыла настаўніца і збянтэжана разводзіла рукамі. — Ну, чаго ж ты марудзіла, Лізанька, трэба было раней руку падымаць.

— А што далей будзе? — калі зазвінеў званок, сабраўшы ў гурток хлопчыкаў і дзяўчынак, абуралася Смірнова, — сёння ўпісалася, а заўтра? Я не ведаю, куды глядзіць кіраўніцтва школы, бацькоўскі камітэт, але, на маю думку, такім вучням у нармальнай школе не месца.

Вераніка папраўляла акуляры і размахвала ўказальным пальцам нібы маленькі, але суровы кіраўнік. Пад яе позіркам было страшна і няўтульна.

А тут яшчэ настаўніца ўсіх паклікала ў сталоўку, на снеданне. Дзеці хуценька сталі па парах. А Лізанька засталася адна. Зрэшты, як і я.

— Кажановіч, дай Лізе руку, — у спешцы прамовіла Ала Мікалаеўна.

— Ні за што! — ускрыкнула я і адвярнулася.

— Хуценька! — раптам раззлавалася настаўніца, — з вамі праблем хоць адбаўляй, а вы яшчэ па ўсялякіх дробязях упарціцеся: тое не буду, гэта не буду... Што за клас у мяне такі!

— Ні за што! — паўтарыла я.

У адказ Ала Мікалаеўна схапіла мяне за руку, ды так моцна, што нават у плячы заныла, і пацягнула да Лізанькі. Яна валакла мяне, як непаслухмянае кацянё да талеркі з сапсаваным агідным супам.

— Вось дык клас на маю галаву, — сярдзіта паўтарала яна. — Ох, і дзеткі...

Я ўсё яшчэ супраціўлялася, хавала руку за спіну — спачатку адважна, а потым зусім не рашуча. Да таго часу пакуль не адчула на сваёй руцэ мяккую потную

далонь! Гэта была Лізанькіна рука! Яна схапілася за мяне, быццам за выратавальны круг. Мне нічога не заставалася, як толькі расціснуць кулак. Я мімаходзь зірнула на яе пальцы з круглымі, шырокімі, зрэзанымі да самай скуры пазногцямі. Яны моцна сцісквалі маё запясце. Вырвацца было немагчыма. І я прашаптала скрозь зубы:

— Не-на-ві-джу... Ты нават уявіць сабе не можаш, як я цябе ненавіджу...

Але Лізанька не разабрала маіх слоў або зрабіла выгляд, што не разабрала, і гучна, каб пачулі, мабыць, і тыя, хто ішоў наперадзе, пракрычала мне на вуха:

— У мяне яшчэ застаўся зефір у шакаладзе! Той, які ты ў мяне ўчора ела, памятаеш? У трохвугольнай скрыначцы з залатымі бліскаўкамі. Я табе прынясу яго! Сёння мая чарга да цябе ў госці ісці! Ура-ўра! Я так люблю хадзіць да цябе ў госці...

«Толькі не гэта, толькі не гэта, — цяжкім рытмам білася ў маёй галаве думка. — Толькі не гэта… Вось быператварыцца ў чалавека-невідзімку, сонечнага зайчыка, што ціхенька скача па падлозе... Няхай пашукала б мяне Лізанька, ды разам з ёй усе тыя, хто мяне так не любіць».

Я апускала вочы ўсё ніжэй і ніжэй, бо сустрэча з дакорліва-насмешлівымі позіркамі аднакласнікаў была невыносна-балючай, быццам бы ступаеш нагамі па бітым шкле.

## ПАКАРАННЕ

— Усё, Рытка, ты папала! Ох, як папала... Караць цябе будзем! — па-хуліганску засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, сказаў Савелій. Ён наблізіўся да майго твару і пагардліва дыхнуў.

Я спалохана азірнулася. Настаўніца прадлёнкі, як на злосць, зноў кудысьці пайшла.

— А ты не глядзі па баках! Знікла Нэля Эдуардаўна... Ала Мікалаеўна яе паклікала па нейкай важнай справе. Так што, гэта надоўга, можа, і на гадзіну, — пачаў запалохваць Савелій, і ў той жа момант сарваў з мяне шапку і кінуў яе на зямлю.

— Вось табе, атрымлівай! — у наступнае імгненне хтосьці моцна штурхнуў мяне ў спіну, і я, не ўтрымаўшыся, паляцела тварам у гразь.

Светла-жоўтая куртачка адразу запэцкалася, тонкія панчохі намоклі, а разбітыя калені запяклі.

— Што вы робіце! — закрычала Смірнова, — навошта так штурхаць Рытку? Так будучыя піянеры не робяць! Трэба на класнай гадзіне вырашаць як пакараць Кажановіч. Па-першае, Рытка падманула нас наконт чароўных уколаў, па-другое, яна не стрымала слова і ўвесь гэты час працягвала вадзіцца з Лізкай. А гэта азначае, што небяспечная для ўсіх Лізка, мае ў класе падтрымку. Яна яшчэ доўга будзе ў нас вучыцца і няславіць наш клас. Тое, што Лізка надула ў штаны яшчэ дробязі. Яна ў наступны раз яшчэ і пакусае каго-небудзь.

— Смірнова, ты свіння! — не вытрымала і з горкай злосцю крыкнула я: — Дзелавітая, тоўстая, агідная свіння... І ўсе вы свінні... Чуеце, свінні!

— За абразу адкажаш, чырвоны гальштук табе ніколі не насіць, — крычала мне ўслед Смірнова.

Я спешна, не азіраючыся, дабегла да школьных дзвярэй. У першы момант здавалася, што толькі там і ёсць выратаванне, але, трапіўшы ў цёмны калідор, я разгубілася. Куды далей? У прыбіральню? Там старшакласнікі... Таксама страшна. У клас да настаўніцы? Але ж я не даносчыца. Таму вырашыла сесці на падлогу ля дзвярэй нашага класа. Слёзы ўсё яшчэ прымушалі мяне ўсхліпваць, яны казыта-

лі шчокі, і я размазвала іх выпацканымі далонямі. Сядзела на халодных дошках, дэманстратыўна выцягнуўшы ногі, і ўяўляла, што знаходжуся на ледзяной камлызе, а ўсе астатнія — аднакласнікі, настаўніца, дырэктар школы плаваюць дзесьці там, далёка-далёка ад мяне, у калідорнай пустэчы.

Ала Мікалаеўна з настаўніцай прадлёнкі сапраўды была ў кабінеце. Я выразна чула іх узбуджаныя галасы. А яшчэ чула разгублены голас Лізанькінай бабулі.

— Куды ж я яе адпраўлю, крывіначку сваю, — казала бабуля. — Інтэрнат для дзяцей з асаблівасцямі ў другім горадзе знаходзіцца. Як жа яна будзе там жыць без сям'і, без падтрымкі? Я ж летась унучку ў сталіцу вазіла, паказвала вопытным урачам. Яны ў адзін голас казалі, што дзяўчынцы лепш вучыцца сярод звычайных дзяцей, у звычайнай школе. Паспяховасць у яе ад гэтага будзе лепшай, і сяброўства з аднагодкамі на карысць пойдзе. Лізанька будзе добрай вучаніцай. Вось убачыце! Яна шчырая, руплівая. Усяму навучыцца — і пісаць, і чытаць і песні спяваць.

— Я спачуваю вам і, паверце, таксама перажываю за Лізаньку, — блытана казала Ала Мікалаеўна. — Але ж Лізе цяжка ў калектыве, як вы гэтага не можаце зразумець? Вось і настаўніца прадлёнкі Нэля Эдуардаўна пацвердзіць... Кпяць з яе дзеці. А тут яшчэ такі інцыдэнт. А ў нас, самі ведаеце, няма дзе панчохі мыць ды сушыць. Гэта школа, а не дзіцячы садок. Ну, не нянька ж я… Зразумейце і мяне...

Як жа мне хацелася ў гэты момант уварвацца ў кабінет і крыкнуць Лізкінай бабульцы:

— Забірайце сваю Лізаньку, куды хочаце забірайце, бо не магу я больш... Не магу з ёй вучыцца ў адным класе!

Каб выразна ўявіць сябе такой рашучай і дзёрзкай, я заплюшчыла вочы і прыціснула далоні да скроняў. Але раптам рыпнулі дзверы — побач стаяла завуч. Я нават не заўважыла, як яна падышла.

— Не разумею, чаму трэці «А» гуляе без настаўніка? Дзеці вырабляюць што хочуць: па клумбе скачуць, кветкі рвуць, — абурылася завуч. — А тут яшчэ ў вас дзяўчынка плача, запэцканая ўся. Як такога вучня пасля заняткаў бацькам вяртаць?

## КРЫЎДА

Калі мая мама размаўляла па тэлефоне, мне ўрокі заўсёды цяжка было рабіць. Бо адразу пачынаеш прыслухоўвацца да кожнага яе слова: хто ажаніўся, хто закахаўся, хто ў каго што пазычыў, колькі каштуюць новыя маміны боты. Дзе ж тут пра надакучлівую матэматыку думаць, калі жыццё дарослае кіпіць ва ўсю. «Гэта ў дзяцінстве ўсё непапраўна, — разважала я. — А дарослым усё можна: тэлевізар падоўгу глядзець, працу памяняць, калі тая цяжкая ці нецікавая. У дарослым жыцці ты сам усё вырашаеш: што апранаць, што есці, чым займацца ў вольны час».

Маці з'явілася ў дзвярах раптоўна, у той момант, калі я задуменна глядзела ў акно і грызла шарыкавую ручку.

— Я так і ведала, — абурылася яна, — як заўсёды, адчыніла каробачку і слухае. Урокі ўжо дзве гадзіны робіш. І навошта забрала цябе з прадлёнкі?

— Задачка цяжкая...

— А ты думай, думай, а то на другі год застанешся за непаспяховасць...

— Пра што я і мару, — агрызнулася і рэзка зачыніла падручнік. Атрымаўся даволі гучны пляскач.

— Бачыш, якая ты! — раззлавалася маці і пагразіла мне пальцам.

— Вось такая! — ускрыкнула я. — Не разумею, чаму дурняў у звычайную

школу бяруць і чаму такія як я з-за гэтага павінны пакутаваць? Вось адкажы мне, навошта Лізаньку ў нашу школу запісалі? Яна ж хворая, дэбілка… Мабыць, з ранейшай школы яе выгналі дык яна да нас і прыйшла. Яе ж спецыяльная камісія ў інтэрнат адпраўляла! Дык не... Лізанькіна бабуля занадта спрытная аказалася — бегала, падарункі каму трэба насіла! І ўсё дзеля таго, каб яе дуру-ўнучку ў нармальную школу ўзялі...

Мамін твар пачырванеў, маршчынкі на ілбе, як спружынкі, расцягнуліся, вусны напружана сціснуліся, быццам я выдала важную таямніцу ці вымавіла нейкае жудаснае закліnanне, пасля якога здарыцца ўсясветны патоп. У чаканні навальніцы я прыціснулася да сцяны і апусціла галаву. Маці моцна схапіла мяне за вуха. Балюча, быццам бы ў дзвярах, заціснула.

— Ах, ты, гадзюка малая, — закрычала маці, — бессаромная. Лізанька твая лепшая сяброўка. Бабуля Вера, можна сказаць, цябе выняньчыла. Чытаць ты ў яе навучылася, і харчы дэфіцытныя бегаеш да іх есці, і па ўсялякіх цырках ды тэатрах разам з Лізанькай яна цябе водзіць! І цяпер, калі што, адразу да Лізанькі бяжыш... Каб не яна, то і сядзела б між чатырох сцен адна! Нічога б не чула і не бачыла! А цяпер вось якую размову пачала. Няўдзячная!

У наступнае момант я апынулася ў пыльным кутку. Ад маіх слёз светлыя шпалеры пакрыліся маленькімі цёмнымі плямамі, квяцістыя ўзоры размыліся, ператварыліся ў маленечкіх пачвар. Прыціснуўшыся шчакой да халоднай сцяны, я яшчэ мацней адчувала сваю адзіноту.

«Што рабіць? Мабыць, памерці… — разважала я і так узрадавалася простаму і, як падалося, надзейнаму рашэнню. — А што? Кветачкі я ўжо ела, у брудзе валялася, вуха таксама ледзь не адарвалі. Чаго ўжо баяцца? Няхай дурніца Лізанька далей жыццём цешыцца, а я магу пасунуцца на гэтым свяце жыцця».

І я вырашыла дзейнічаць, але крыўда раптам растварылася ў суцяшальных слязах ды тужлівых разважаннях. Мне надакучыла быць маленькай, ні да чаго не здатнай. Сваёй смеласцю, дзёрзкасцю я хацела звычайнага спачування...

Як толькі маці пайшла ў краму, я басанож у лёгкім халаціку выйшла на першы мароз і ўпала пластам на зямлю.

Зіма ўрэшце разгулялася, снегу за гадзіну намяло столькі, што можна было на лыжы станавіцца. Ён быў пякучым, а сняжынкі, якія траплямі на вусны, падаваліся салодкімі і пяшчотнымі, як крыху падталае марожанае. І я пачала заграбаць яго прыгаршчамі і піхаць у рот. Язык ад холаду пачаў шэрхнуць, зубы забалелі, ды пальцы ўжо зусім задранцвелі. Зрабілася страшна...

Я раптам зразумела, што мне зусім не хочацца паміраць, а з нецярплівасцю чакаю, калі рыпнуць веснічкі і хто-небудзь з’явіцца побач.

Маці, здавалася, вярнулася праз сто гадоў, але я да канца вытрымала гэта бязглуздае выпрабаванне і дачакалася галоўнага свайго гледача.

— Ты што, зусім здурнела? А-ну дадому, — адразу, як толькі заўважыла мяне, закрычала маці і ад нечаканасці нават торбы з прадуктамі ўпусціла. — Гэта хто яшчэ ў нашым доме цяжкае дзіця? Чаго надумала... Мая ж ты даражэнькая!

Маці разгублена пачала падымаць мяне. Я адным вокам глядзела на яе бледны ў святле начнога ліхтара твар, на моцна сціснутыя ў трывозе вусны, ды глыбокія сумныя вочы. І мне стала шкада маці. Я хуценька ўзнялася, моўчкі паплялася ў кватэру піць гарбату.

## У БАЛЬНІЦЫ

— І ўсё ж у мяне атрымалася! — разваліўшыся на бальнічным ложку, пракрычала я, калі за бацькамі зачыніліся дзверы.

— І дзе ж ты так, мілая мая, прастудзілася? — здзівілася маленькая хударлявая бабулька. Яе ложак стаяў насупраць майго.

— Снег ела, а яшчэ на зямлі ў адной кашулі ляжала, — сумленна прызналася я. — Гэта каб у школу не хадзіць.

— Вось да чаго школа дзяцей даводзіць. Эх, у наш час усё працей было, два класы скончыў і ніякай табе навукі, толькі б вілы ў руках навучыўся трымаць ды карову даіць, — пакруціла галавой бабулька. — А ў дзіцячай бальніцы, гавораць, месцаў няма, дык цябе да нас прывезлі?

— Так, з месцамі там складана, кажуць, што эпідэмія грыпу, — пацвердзіла я і сур'ёзна дапоўніла: — Магчыма, гэта і да лепшага. Мне займацца трэба ўзмоцнена, вунь колькі кніг настаўніца задала прачытаць на зімніх канікулах. А ў дзіцячым аддзяленні смех ды гульні…

У бальніцы я правяла каля двух тыдняў. Ляжанне на прамёрзлай зямлі не прайшло бясследна. Ніякія маміны народныя метады не дапамаглі справіцца з хваробай, і ў мяне пачалося запаленне лёгкіх. У палаце мы ляжалі ўтрох — акрамя старой жанчыны, яшчэ дзяўчына гадоў дваццаці. Яе звалі Соф'я. Яна была падобна да казачнай Васілісы. Ейныя кучаравыя чарнявыя валасы, сабраныя наперадзе абручом, звісалі да пояса, а шырокія густыя бровы падкрэслівалі выразнасць вялікіх цёмных вачэй. Соф'я, як сапраўдная казачная майстрыха, штосьці ўвесь час вышывала, вязала. Спачатку яна рабіла ажурныя сурвэткі, а потым усялякіх вясёлых жывёл.

— У цябе ёсць талісман? — неяк пацікавілася ў мяне Соф'я.

Я здзіўлена паціснула плячыма.

— Тады я тябе падару вось гэтую дзіўную саву. Ёй можна на вушка сваё запаветнае жаданне сказаць. І яно абавязкова спраўдзіцца.

— Казкі ўсё гэта, — махнула я рукой. Але ад падарунка адмовіцца не змагла. Вельмі незвычайная атрымалася ў Соф'і сава — квадратная, з разумнымі вачамі, вострай дзюбай і вяроўчатымі ножкамі.

— Трымай! Не саромся, — падбадзёрыла мяне дзяўчына.

— Дзякуй, Сонечка, — не хаваючы радасці, адказала я.

На ціхім часе, калі ўсе спалі, я гуляла з вязанай савой. То яна ў мяне лятала па розных краінах, знаёмілася з тамтэйшымі людзьмі, пасля чаго выконвала іх пажаданні… То ціхенька спала ў лялечным ложку, узгадваючы ў сне ўсе замоўленыя добрыя справы. Потым сава грэлася ў сонечных промнях, быццам бы зараджалася цеплынёй і светам, і хутка зноў ляцела па сваіх справах. Я вельмі спадзявалася, што яна неяк вырашыць і мае праблемы.

А бліжэй да вячэра ў палату прынеслі перадачы для хворых. Там была пасылка і ад маіх аднакласнікаў. Сярод цукерак і пячэння ляжаў складзены ў чатыры разы сшытачны ліст. Гэта была запіска Веранікі Смірновай. Стараста пісала ад імя ўсяго класа:

«Дарагая, Рыта! Мы вельмі засмучаны тваёй хваробай. Вось да чаго прыводзяць дрэнныя ўчынкі. А, між іншым, ты не толькі маму і настаўніцу хваляваціца прымусіла, але сваімі паводзінамі падвяла ўсіх нас, свой клас, нашу перадавую школу. Але ты не адчайвайся, папраўляйся і хутчэй вяртайся назад. Нічога, мы цябе будзем перавыхоўваць. Бо будучыя піянеры павінны дапамагаць сваім сябрам, якія трапілі ў бяду».

— Цудоўна, — прабубніла я, — і тут Смірнова не абышлася без сваіх павучанняў. Усім класам перавыхоўваць мяне будуць. О, як цікава!

— Правільна, — рассмяялася Соня, — а як ты думала? Дзеці, відаць, у тваім класе сур'ёзныя, клапатлівыя. Вунь пасылку перадалі, і сяброўка твая, Лізанька, праз дзень да цябе заходзіць, салодкім частуе. Перажывае...

— У-гу, перажывае больш за ўсіх, — адкусваючы з хрумстам кавалак яблыка, адказала суседцы. — Я ў яе там як палачка-выручалачка. Як што — адразу за мяне хаваецца...

— Гэта добра, калі нехта чакае ад цябе дапамогі, калі для слабейшага ты апора, — адказала Соф'я.

— Магчыма і добра, толькі я апора дрэнная, слабая. Штурхнеш, і адразу падаю. Бачыш, шнар наназе застаўся? Гэта мне так з-за Лізкі дастался. Ды і не хачу я быць для яе апорай. Самой бы выжыць у гэтым класе.

— Дарэмна, трэба імкнуцца быць моцнай і абараняць слабых, тады і цябе пачнуць паважаць, — параіла Соф'я.

Мне здавалася, што яна кажа па-кніжнаму. Там заўсёды галоўныя героі выказваюцца прыгожа і зразумела. А што ім? Яны ж прыдуманыя, і за іх усё вырашае пісьменнік. Магчыма, ён некалькі дзён разважае, як выратаваць свайго героя, і чым ён адкажа на грубасць. Сапраўднае жыццё іншая справа — яшчэ і падумаць не паспееў, а ўжо ляціш тварам у бруд.

## ДЗІВОСНАЯ САВА

А сава і сапраўды аказалася чароўнай! Я пасадзіла яе на ганаровае месца — на паліцу паміж сваім фотаздымкам і любімай кнігай «Міколка-паравоз». Старалася з ёй больш не гуляць, а размаўляць па-разумнаму, як у бальніцы з Соняй.

Трэцюю чвэрць я закончыла на выдатна, нягледзячы на тое, што па хваробе прапусціла амаль месяц. Ды і вясной часта хварэла. Стан майго здароўя хваляваў бацькоў, таму яны вырашылі перавесці мяне ў іншую школу. Тую, якая была да нас бліжэй, куды мяне раней не прынялі з-за таго, што не мела на той час яшчэ сямі гадоў.

— Усё, Лізанька, я кнігі на наступны год атрымліваць не буду, табе давядзецца без мяне вучыцца ў гэтым класе, — задаволена паціраючы далоні, паведаміла я. — Скончыліся мае пакуты, буду пераходзіць у пятую школу.

— А мая бабуля ведае? — спалохалася Лізанька і нервова затрэсла галавой. — Маці спачатку мяне хацела таксама ў пятую школу адправіць. Але ў гэтай вучылася ты... Чаму ніхто нічога не сказаў маёй бабулі?

— А навошта? Што б гэта змяніла? — я паціснула плячамі. — Ды і якая розніца тваёй бабулі? Я пераходжу ў школу не з-за цябе, а па стане здароўя. Хварэю я часта, разумееш? Хва-рэ-ю!

## ЗДРАДНІЦТВА ЧАРОЎНАЙ САВЫ

Першага верасня я адправілася ў пятую школу. Вунь і адзежу мне па росце падагналі, і бялюткія манжэткі з каўнерыкам я сама сабе старанна прышыла. Самыя прыгожыя выбрала, ажурныя! Хвалявалася, канешне, але маці супакойвала. Казала, што мая новая настаўніца Аляксандра Аляксееўна, добрая і справядлівая, ды і дзеці ў класе цудоўныя. Школа хоць і старэнькая ды маленькая, але ўтульная, і там мне рады. Бо атэстат за трэці клас у мяне выдатны.

На школьным двары, як заўсёды ў першы дзень навучальнага года, было шумна, навокал усё патанала ў букетах, ваенны аркестр граў вясёлую музыку, пахла мядо-

выімі кветкамі, што растуць на клумбе перад школай, пафарбаванымі турнікамі і лаўкамі. Я з хваляваннем шукала свой клас і баялася расціснуць маміну руку. Бо ў такой мітусні можна было і згубіцца.

— Рытка, ідзі да нас... Ты ў нас, у чацвёртым «Б»!

Я павярнулася! Дык гэта ж Лена Камарова! Мы з ёй разам раней у танцавальны гурток хадзілі! Вось гэта ўдача.

— І Вадзім Буд-Гусаім у нас, — крыкнула Ленка. — Памятаеш яго? Ён і цяпер на танцы ходзіць! Адзін на дваццаць дзяўчынак! Уяўляеш, якая смехата?! Ідзі да нас, Рытка!

Я адразу пазнала Вадзіма па адтапыраных вушах і дабрадушным твары.

— Як хораша, — узрадавалася я і адпусціла маміну руку. Адразу стала ў адзін рад з Ленай і Вадзімам.

— У нас новенькая і яна будзе сядзець са мной! — абвясціла ўсім з гонарам Лена. У «А» класе няма новенькіх, у «В» класе няма, а ў нас ёсць!

— І не адна ў нас новенькая, а дзве, — пачула я за спінай голас Аляксандры Аляксееўны, — так што прашу добра прыняць нашых новых вучаніц!

Настаўніца крыху пасунула нашу і без таго шчыльную шарэнгу, і каля мяне стала яшчэ адна вучаніца.

Я адразу павярнулася, каб пазнаёміцца са сваёй канкурэнткай і, нічога не разумеючы, замерла. Побач стаяла і ўсміхалася ва ўвесь рот прыгожа апранутая Лізанька!

— А-а, ты што тут ро-робіш? — пачала заікацца я, усё яшчэ спадзеючыся, што гэта нейкі непрыемны розыгрыш.

— Вучыцца буду, — бадзёра адказала Лізанька. — Я ў той дзень адразу бабулі ўсё расказала. І тое, што ты сыходзіш у другую школу, і што не з-за мяне, а па хваробе. Мы хуценька дакументы забралі і сюды прыйшлі. Спачатку мяне не бралі. Вось толькі ўчора ўзялі. Бабуля вельмі прасіла, каб абавязкова ў «Б» клас запісалі, да цябе. Я ж без цябе — нікуды!

— Ды як ты магла, — зашыпела я і нават руку ўзняла, каб Лізу пляснуць. Праўда, даць поўху ёй я так і не асмелілася. Толькі гнеўна фыркнула: — Ліпучка... Што мне ўсё жыццё цябе цярпець!

Я пачала з неспакоем шукаць вачамі маму. Я ведала, што яна не магла далёка адысці, абавязкова стаіць дзесьці побач і ўсё бачыць. Заўважыла яе ў трох кроках ад доўгай школьнай лавы. Мама напружана глядзела на мяне. Было зразумела, што і яна хвалюецца і, мабыць, баіцца маёй рэакцыі на такі вось жудасны сюрпрыз. «Трымайся, дачка, не нарабі глупства», — чытала я ў яе разгубленым позірку. Не, я не магла так адразу дараваць ёй. Імгненна падбегла да яе, кінула партфель на зямлю і закрычала:

— Ты здрадніца, здрадніца! Чаму раней не сказала? Як ты магла, скажы, як ты магла. Ты ж ведала!

— Цішэй, цішэй, — стала шаптаць мне на вуха маці і пры гэтым моцна прыціснула да сябе. — Ты сама Лізе пра пераход у іншую школу расказала...

— Я нават уявіць не магла, што яна пацягнецца за мной, — усхліпвала. — Я сваімі вушамі чула, як Лізанькіна бабуля ўгаворвала настаўніцу, каб тая не гнала яе з класа. У любым выпадку Лізаньцы дарога ў спецінтэрнат! Як жа яна зноў у нармальную школу трапіла?

— Дочачка, не плач, — супакойвала мама, — ну, што ўжо зробіш? Ісці сварыцца? А з кім? З Лізанькінай бабуляй? Нядобра... Сама разумееш! Яны нашы суседзі, жывём пад адным дахам. І з Лізанькай хочаш не хочаш, а ў цесных сувязях будзеш і сёння, і заўтра. Урэшце, дзяўчынка яна добрая. Нельга так, дачушка...

— Ух, гэта Лізанька, — з нянавісцю прашаптала я і ўселася на лаўку, ды так і праседзела надзьмуўшыся да канца свята.

## ЦЯЖКІЯ ДУМКІ

«Трэба штосьці рабіць, — разважала я потым, калі ляжала дома на канапе. — Вось галаваломку ты мне задала, чароўная совушка. Я падумала ўжо, што ты і на самай справе з казкі да мяне прыляцела. Але якое там чараўніцтва! Цябе ж Соня ў бальніцы пры мне звязала са звычайных нітак ды просценькім металічным кручком. А я, як маленькая дзяўчынка, казак сабе навыдумляла».

На падлозе валяўся партфель, побач сшыткі і пенал. Усё, што з такім трапятаннем я рыхтавала да школы цяпер для мяне не мела аніякай каштоўнасці. Пусты квадратны партфель чамусьці нагадваў мне панурага, пабітага сабаку. Здавалася, ранец-сабака хутка стане жывым і пакусае мяне за тое, што я зрабіла ў сваім пакоі такі беспарадак. Я з трывогай паглядала на партфель, а потым раптам кінула на яго падушку. І трапіла ў цэль. Падушка накрыла злога сабаку і ён стаў нябачным. Так я пазбавілася ад прыдуманага ворага і прынялася зноў думаць.

«Значыць так, — прашаптала я і пачала адзін за адным загінаць на руцэ пальцы. — Па-першае, ад Лізанькі трэба трымацца як мага далей. Па-другое, трэба адразу ўсім паведаміць, што яна за дзяўчынка. Расказаць усё як ёсць, без утойвання. Так усе зразумеюць, што я таксама супраць яе. Што мяне гэта таксама напружвае і абурае. Па-трэцяе, трэба абавязкова пасябраваць з аднакласнікамі. Сёння яны звярнулі на мяне ўвагу, бо я новенькая. А заўтра што? Заўтра я ўжо новенькай не буду... Трэба здзівіць іх нечым іншым. Пытанне — чым?»

Я саскочыла з канапы і пачала хадзіць па пакоі сюды-туды, раздумваючы, чым можна здзівіць аднакласнікаў.

«Нядаўна бачыла цікавую перадачу пра зоркі. Яе паказвалі пасля адзінаццаці гадзін, калі ўсе спяць, — раптам успомніла я. — А я ў выхадныя падоўгу не магу заснуць, таму гляджу тэлевізар праз шчылінку ў дзвярах. Я ўсё падрабязна ўбачыла ў той вечар... І магу ўсё распавесці. Ды, гэта не цікава! — адразу забракавала сваю ідэю. — Каму цікава пра зоркі слухаць, калі ў свеце шмат іншых неверагодных рэчаў? Трэба штосьці іншае прыдумаць, больш арыгінальнае. Ах, успомніла... Яшчэ Лізанькіна бабуля вучыла нас варажыць на Каляды. Гэтага дакладна ніхто не ўмее. Але, зноў Лізанька ў галаву лезе, ды яшчэ са сваёй бабуляй. Гэта дрэнная ідэя».

І тут я выпадкова зачапіла шкляную вазачку ў выглядзе памідорчыка. Яна ўпала на падлогу, і з яе высыпаліся манеткі. Я з захапленнем разглядвала бацькоўскае багацце: манеткі былі розныя па форме, і памерах. Цудоўныя кругляшы, з якіх у хвіліны суму я складвала на дыване ўсялякія мудрагелістыя ўзорчыкі, ці проста гуляла ў музей ці краму. Але толькі так... Пакуль маці не бачыць. Манеткі яшчэ ад дзядулі нам засталіся, а ён у мяне быў калекцыянерам. Я доўга не магла ўспомніць, як называецца чалавек, які збірае манеты. А потым раз — і ўспомніла! Ну, канешне, нумізмат! Колькі разоў маці казала, што дзядуля наш быў нумізматам.

«Усё. Цяпер я ведаю, пра што заўтра дзецям у школе расказаць! — узрадвалася я. — Мой дзядуля вядомы нумізмат. Быццам бы ён усё жыццё правёў у далёкіх краінах, ваяваў з піратамі і шукаў скарб. Ні ў каго такога дзядулі няма, толькі ў мяне».

Я асцярожна сабрала манеты назад у вазачку і толькі адну, самую бліскучую, прыхапіла з сабой у якасці доказу сваёй хлусні.

## УСЁ ІДЗЕ ПА ПЛАНЕ

— А аднойчы на майго дзядулю напалі піраты! — распавядала перад урокамі я. — Уяўляеце: халодная ноч, цемра, на моры хвалі з трохпавярховы дом, на караблі ўсе спяць. У каютах — цішыня… І толькі мой дзядуля, адважны капітан, не спіць! Падоўгу глядзіць у падзорную трубу. Ён ведае, што яшчэ трэба праплыць некалькі міль, і наперадзе будзе бязлюдны востраў. Там, на далёкіх берагах, можна папоўніць харчы! А бананаў там расце! І фінікаў, і ананасаў!

Дзеці абступілі маю парту з усіх бакоў і з цікавасцю слухалі пра жахлівыя і недарэчныя здарэнні майго дзядулі. Андрэй Макарчук, мой сусед па парце, у далонях грэў прынесеную мной манетку. Час ад часу ён расціскаў спацелыя далоні і прыгаворваў:

— Вось дык цуд! Адразу бачна, што не з нашых мясцін манетка... І напісана нешта па замежнаму, магчыма, на пірацкай мове…

— Ведаеце што, — прапанавала Ленка Камарова, — а давайце да Рыткі ў госці сходзім і паглядзім усю калекцыю. Ну, канешне, усім класам не пойдзем. А то на Рытку мама сварыцца будзе. Спачатку ўтрох наведаемся — я, Вадзік і Андрэй.

— Я, я, пайду да Рыткі ў госці, чацвёртая буду, — раптам закрычала Лізанька.

Усе змоўклі і, як мне задалося, спагадліва паглядзелі на Лізаньку. Як на гадавалага малога.

— А ты, аказваецца, да чатырох умееш лічыць, — рассмяяўся Андрэй Макарчук, і яго твар стаў найграна здзіўленым.

— Пяць, шэсць, сем, восем, дзесяць, — у адказ хутка-хутка вымавіла Лізанька.

— Дзевяць прапусціла, — заўважыла Ленка Камарова, — усё, у мараходы цябе не возьмем.

І ўсе адразу засмяяліся.

— А я ўсё роўна прыйду, вось убачыце. Рытка — мая лепшая сяброўка, — нервавалася Лізанька.

— А я дзверы на замок зачыню, званок адключу і лютых суседскіх сабак запрашу, каб яны кватэру ахоўвалі, — буркнула я і разгубілася.

Каля нас стаялі і пераглядваліся Аляксандра Аляксееўна і Лізанькіна бабуля. Яны падышлі да парты так ціха, што мы, захопленыя размовамі, не заўважылі іх.

Чацвёрты ўрок — беларуская мова. Ад вывучэння роднай мовы Лізанька была вызвалена па стане здароўя, таму бабуля яе забірала са школы раней.

Як толькі празвінеў званок, і Лізанька пакінула клас, настаўніца села за свой стол і неяк доўга маўчала, гартала апошнія старонкі школьнага журнала, штосьці там адзначала. Клас таксама маўчаў, чакаючы нечага сур'ёзнага.

— На некалькі хвілін адцягнем увагу ад падручнікаў, — нарэшце сказала Аляксандра Аляксееўна. — У наш клас нядаўна прыйшлі дзве новыя дзяўчынкі — Ліза і Рыта. Не буду доўга хадзіць вакол, думаю, усе заўважылі, што Лізанька не зусім звычайная дзяўчынка. Вучыцца ёй складана, ды і не такая яна жвавая, як усе астатнія вучні. Так што я вас усіх прашу аднесціся да Лізы з паразуменнем і асаблівай увагай. І каб я ніколі не чула ні ад Лізы, ні ад яе бабулі скаргі на вашы паводзіны. Усё зразумелі?

Апошнія словы настаўніца вымавіла крыху ўзмацняючы голас.

Дзеці заківалі галовамі, а Ленка ўзняла руку.

— Аляксандра Аляксееўна, а як ладзіла з дзецьмі Ліза ў папярэдняй школе?

Настаўніца паглядзела на мяне. Я так і не зразумела, ці хацела яна, каб я маўчала, ці чакала адказу на Ленкіна пытанне. Але мне трэба было падзяліцца сваім болем, таму я адразу ўстала і пачала гаварыць:

— Дрэнна ў яе складваліся адносіны з дзецьмі. Здзекаваліся з яе ўсе, смяяліся... А аднойчы наогул здарылася страшнае… — я вытрымала загадкавую паўзу і вымавіла: — Ліза надула ў штаны.

У класе пачуліся смяшкі.

— Хопіць, Рыта, мы не дазволім нікому крыўдзіць Лізу, — жэстам рукі спыніла мяне Аляксандра Аляксееўна.

— Ды што там казаць. Цяжкі яна вучань, — не сціхала я. — У сямнаццатай школе не ведалі, як ад яе пазбавіцца, угаворвалі Лізанькіну бабулю забраць са школы дакументы. Я сама чула, а тая — ні ў якую. А ўяўляеце, як цяжка мне з ёй даводзілася? Бо мы з Лізай суседзі.

— Суседзі? — здзіўлена перапытвалі дзеці. — Тады раскажы, што яна яшчэ вытварала. Так-так, раскажы!

— Ох, шмат чаго, — уздыхнула я.

— Рыта, сядай на месца, — вельмі строга загадала настаўніца і пагразіла мне пальцам.

Мне давялося скарыцца. І я з неахвотай апусцілася на стул. Аднакласнікі ж увесь урок не маглі супакоіцца і пры першым зручным выпадку шапталі:

— Рытка, ну раскажы, раскажы пра Лізку... Ну, хаця б на перапынку...

Я з важным выглядам ківала і адводзіла вочы ўбок. Сёння я была на вышыні! Мала таго, што ў мяне аказаўся дзядуля нумізмат-вандроўнік, дык яшчэ я ведала ўсе таямніцы пра Лізаньку.

## ЛІЗАНЬКА ЗНОЎ ПЕРАМАГЛА

Я навяла ў сваім пакоі парадак. А як жа? Сябры маглі прыйсці ў любую хвіліну. Усё, што месцілася ў кніжнай шафе я перанесла ў шафу для адзення. Пакінула толькі прыгодніцкія кнігі з яркімі ілюстрацыямі, у асноўным пра марскія вандроўкі, потым акуратна перанесла з бацькоўскага пакоя сувенірны драўляны караблік і паставіла яго на накрухмаленую бабуліну сурвэтку. Гэта дзеля важкасці! Цёмныя паліцы я заслала белымі аркушамі паперы і радочкамі паклала на іх бліскучыя манеткі.

Атрымалася, як у музеі! Прымерваючы да сябе ролю экскурсавода, я размахвала доўгай лінейкай і фантазіравала: «У гэтай зале, паважаныя наведвальнікі, вы можаце ўбачыць унікальную калекцыю з дзесяці манет. Гэтыя ашаламляльныя знаходкі прывезены з далёкай і малазнаёмай Афрыкі...»

— Рыта, ты дзе? У акенца паглядзі! Сябры да цябе ідуць, — раптам паклікала мяне мама.

Я кінула на канапу лінейку, шалік, акуляры ад сонца, якія былі часткай майго вобраза экскурсавода, і падбегла да акна. Сапраўды, ля веснічак нерашуча тапталіся Ленка, Андрэй і Вадзік.

— Дык трэба ісці іх сустракаць! — я схапілася за куртку і з цяжкасцю засунула ногі ў шчыльныя скураныя боты.

— Ды не мітусіся ты, самі дарогу знойдуць. У нас заблукаць цяжка — усяго дзве кватэры.

— Не-не, усё ж такі іх сустрэну, — адказала я і, неахайна апранутая, без шапкі, выбегла на вуліцу.

Але аднакласнікаў на двары ўжо не было. «Няўжо пайшлі? — здзівілася я. — Так нечакана? Магчыма, сабакі суседскія напужалі?»

Я падышла да веснічак і паглядзела за агароджу. Па размытай дажджом дарозе ішлі толькі дзве старыя жанчыны з торбамі ў руках. Маіх аднакласнікаў не бачылася.

— Э-э-э, Рытка! Сюды ідзі, — раптам я пачула радасны голас Лізанькі. — Аднакласнікі ў мяне... Ідзі да нас. Бабуля ўжо чайнік ставіць, пірог з хвіліны на хвіліну будзе гатовы.

— Нічога не разумею, — праз некаторы час бубніла я, калі распраналася ў калідоры Лізанькінай кватэры, — сябры, здаецца, да мяне ішлі. Я іх запрашала. Пры чым тут твая бабуля з чайнікам і пірагамі?

— Ну, усё так, — адказала Лізанька і павесіла маё паліто на вешалку. — Але ж я ведала пра гэта і бабулі ўсё расказала. Вось яна да прыходу аднакласнікаў спякла пірог, цукерак купіла. Я, калі ўбачыла іх у акно, адразу выбегла, і бабуля разам са мной. А то яшчэ хвілінка і ў тваю кватэру яны б пазванілі. А ў нас пірог ужо гасцей чакае! Марудзіць нельга, а то астыне.

— А то астыне, — перадражніла я. — Не першы раз ты са сваёй бабуляй мае планы разбураеш. А я ж таксама рыхтавалася да прыходу гасцей. У сваім пакоі ўборку зрабіла, манеткі па палічкам расклала. І не сорамна, табе, Лізанька, вось так, на парозе, чужых гасцей пераймаць?

Мне хацелася плакаць і я з цяжкасцю сціснула дрыжачыя вусны, а потым раптам супакоілася, спадзеючыся, што сябры тут доўга не затрымаюцца. Тым больш, так смачна пах шакаладны пірог, што мне і самой захацелася крышачку затрымацца ў Лізанькі.

— Вось гэта так, — аблізваючы перапэцканыя шакаладам пальцы, казала Лена Камарова, — такіх цукерак зроду не ела, ды яшчэ так многа!

— А ты яшчэ зефір у шакаладзе паспрабуй, — падліваючы гарбаты ў Ленкін кубачак, прыгаворвала бабуля.

— Колькі ў вас тут «смачнасцей», — сказаў Андрэй і выцер сурвэткай цёмны ад шакаладу рот.

— Ну, вось, здаецца, паелі... Можна і да мяне пайсці, манеты паглядзець, — дачакаўшыся, калі сябры наядуцца, нясмела прапанавала я.

— Дык я ж яшчэ вам цацкі не паказала, — успомніла Лізанька. — У мяне самыя лепшыя цацкі ва ўсім свеце. — Лізанька схапіла Лену і Андрэя за рукі і пацягнула іх у суседні пакой.

«Ну, усё, гэта надоўга… — раззлавана падумала. — Я ім пра сур’ёзныя рэчы расказвала — вандроўках ды прыгодах, а яны, як маленькія, цацкі пабеглі глядзець!» Але сваю занепакоенасць я не выдала і незадаволена пацягнулася следам за астатнімі. Аднакласнікі хуценька ўселіся на дыване ля вялізнай скрыні з цацкамі.

А здзівіць Лізаньцы было чым! Нават ужо такіх немаленькіх дзяцей, як мы! Бо яе кватэра была сапраўдным музеем цацак: лялька-прынцэса, што сама ходзіць і размаўляе, мяккі Карлсан з пластмасавым прапелерам, машынка на пульце кіравання, цацачная швейная машына на батарэйках, вялізны канструктар і настольны футбол... Ды шмат чаго там у яе было. Канешне, я ўсё гэта сто разоў ужо бачыла, круціла ў руках, і цяпер мяне моцна злавала, што сябры так зацікаўлены гульнёй, а мая калекцыя нікому больш не патрэбна. Але я сваё нездавальненне хавала і гуляла з усімі спачатку ў настольную гульню «Вандраванне Гулівера», потым — у хатні валейбол...

## СПРОБА АДПОМСЦІЦЬ

У гэтай школе мне падабалася, бо ў мяне з’явіліся новыя сябры — Лена, Андрэй, Вадзім, а яшчэ школьнае жыццё напоўнілася цікавымі справамі. Прадлёнкі, як у малодшых класах, ужо не было, і сумныя прагулкі з дарослымі змяніліся сапраўднымі піянерскімі заданнямі. Напрыклад, мы ўсе разам выходзілі на збор металалому і макулатуры, як сапраўныя цімураўцы, дапамагалі ветэранам, удзельнічалі ў гарадскім парадзе піянераў, палолі градкі ў мясцовым зеленгасе! А яшчэ мяне абралі рэдактарам сценгазеты і я з задавальненнем збірала матэрыялы і афармляла класны стэнд... А быць рэдактарам, як казала наша настаўніца, вельмі ганарова. Бо ўсе цябе паважаюць, як старасту і звеннявых… Бо калі што не так, я магу такога пра свавольнікаў і двоечнікаў напісаць, мала не будзе!

Лізанька неяк сама па сабе адсунулася ў маім жыцці на другі план. Перапынкі ў школе кароткія, тут бы паспець падрыхтавацца да наступнага ўрока. На гульні ды размовы часу не хапала. А ў школьных мерапрыемствах Лізанька мала ўдзельнічала па стане здароўя.

Лена Камарова аказалася цудоўнай сяброўкай. Яна заўсёды штосьці выдумляла, смяшыла нас сваімі гісторыямі, якія чула ад старэйшай сястры, і за што б яна не бралася, усё ў Лены атрымлівалася на пяць балаў. Дзякуючы яе талентам наш атрад стаў пераможцам на конкурсе «Юны артыст», і ў казакі-разбойнікі яна гуляла з асаблівым запалам. Без яе і гульня не гульня...

У той дзень мы таксама рыхтаваліся да класнага мерапрыемства. Пераможцам спартландыі студэнткі-практыканткі абяцалі смачныя прызы і граматы. Выйграць хацелася ўсім. Але ўзнагарода чакала толькі адзін з трох атрадаў.

— Мы будзем мацнейшымі, — казала Ленка. — Андрэя першым паставім, ён самы спрытны. Адразу адрыў будзе вялікі. Заданні на кемлівасць Рыта будзе выконваць. Бо яна ў нас шмат кніг чытае. Адна бяда — наша васьмёрка няпоўная. Ігар Лазавік хварэе. З яго толку мала. Ён толькі булачкі есць і таўсцее, але ўсё роўна не хапае аднаго чалавека ў камандзе. Магчыма, трэба кагосьці з другога класа запрасіць?

І тут да нас прыкульгала Лізанька.

— Я буду восьмай, — сказала яна. — Бабуля ляжыць ў бальніцы і мяне забіраць усё роўна няма каму. Я таксама хачу ўдзельнічаць у спаборніцтвах.

Усе зарагаталі.

— Гэта правал, — развяла рукамі Ленка. — Я ўжо лепш сястру з сабой вазьму. Яна ў мяне хуткая і, хаця старэйшая, па росце мы з ёй амаль аднолькавыя. Ніхто не заўважыць падмены.

— Не, я буду, — заныла Лізанька і ўказальным пальцам падцерла смаркаты нос.

— Ты што? — грукнуўшы сябе па ілбе кулаком, раззлаваўся Андрэй. — Мы ж адразу прайграем. Ідзі лепш соплі павыцірай, бо глядзець немагчыма, як ты іх размазваеш.

— Лізанька, калі табе будзе сумна ў час спартландыі, ты на лаўцы лепш пасядзі, пагляндзі як мы гуляем, — не вытрымала я.

— А я класнаму кіраўніку пайду скардзіцца... Скажу, што вы мяне не бераце ў гульню, — ледзь не плачучы, вымавіла Лізанька і сабралася сыходзіць.

— Ды ты што, стой! — я тузанула Лізу за рукаў.

Я здагадвалася, што, калі яна пойдзе ў настаўніцкую, то даб’ецца свайго. Бо настаўніца абавязкова запатрабуе ад нас узяць Лізу ў каманду. Яна заўсёды яе шкадуе.

— Стой жа, — заступіўшы праход да дзвярэй, крычала я. Але Лізанька ішла, як танк, і зусім не глядзела сабе пад ногі. У наступную хвіліну я адчула востры боль у

ступаку і ўскрыкнула. Гэта Лізанька з усёй сваёй нязграбнасцю стала мне на нагу! Яна паспела ўжо зняць зменны абутак і апрануць вялізныя боты! Абутак ёй куплялі заўсёды на тры памеры большы, бо ў яе былі хворыя ногі. Так што прыціснула Лізанька мне нагу добра, хаця і неспецыяльна! Гэта мяне не на жартачкі раззлавала. У душы запульсаваў камяк лютасці, што спеў усе гэтыя гады, і я не змагла на гэты раз утрымаць яго.

— Вось табе — эстафетная палачка, — гнеўна крыкнула я. — І насунула Лізаньцы на галаву скрынку для смецця, што стаяла каля дзвярэй.

Дзеці ў падтрымку загалдзелі:

— Вось малайчына, Рыта! Так ёй і трэба! — пляскаў у ладкі Андрэй.

Лізанька ж, сарваўшы з галавы сметніцу, уся дрыжала і не магла вымавіць ані слова:

— А ты... Ты... Ты...

А потым яна неяк хутка развярнулася і выйшла з класа.

Першыя хвіліны мяне распірала ад радасці. Нарэшце я адпомсціла ёй за ўсе гады сваіх пакут! Мне так хацелася яшчэ раз дагнаць Лізаньку, шпурнуць ёй услед агрызак, ці таго горш, паставіць падножку, каб яна балюча выцялась аб цвёрдую падлогу. Але прыліў гневу, змяшаны з нейкай незразумелай жорсткай радасцю, раптам змяніўся страхам. Я імгненна спахмурнела і села за першую парту. Аднакласнікі ўсё яшчэ весяліліся, а мае шчокі гарэлі, лоб спацеў... Я пачала дакараць сябе за неабдуманую ўспышку лютасці. У галаве пракручваліся далейшыя падзеі. «Лізанька, хутчэй за ўсё, паскардзіцца класнаму кіраўніку, маёй маме, і, што яшчэ горш, сваёй бабулі... Прыйдзе ў бальніцу і там пры ўсіх пачне расказваць, што я нарабіла. А бабуля Лізіна з інфарктам, — думала я, — колькі ж у маім сэрцы агіднасці, подласці, жорсткасці!»

Але настаўніца вярнулася ў клас без Лізанькі. Яна не ўсміхалася і не сварылася, размову вяла строга, і ўсё пра школьныя справы... Пра Лізанькуе — ані слова!

— А вы Лізаньку не бачылі? — нарэшце не вытрымаў Андрэй і скоса зірнуў на сметніцу, а потым на мяне. Дзяжурныя паспелі ўжо прыбраць смецце. Доказ майго дрэннага ўчынку знік.

— Сёння Лізаньку забрала маці, — патлумачыла яна.

— А хто тады будзе бегаць замест Ігара? — ніяк не супакойваўся Андрэй.

— Ніхто, бо заўтра ён сам прыйдзе ў школу...

Так наша праблема была вырашына і мы на наступны дзень выйгралі спаборніцтвы, атрымалі па шакаладцы і адну на ўсіх грамату. Толькі мне шакаладка здавалася нясмачнай, ды і весялосці асабістай не было.

«Настаўніца прамаўчала, — думалася мне. — Магчыма, Лізанька не паспела ёй паскардзіцца і адразу пабегла да маці, ці проста класны кіраўнік вырашыў прамаўчаць. А вось дома Лізанька абавязкова ўсё раскажа. Тым больш, што заўтра ў мяне дзень нараджэння... Ліза пачне скардзіцца, і яе да мяне не пусцяць. Вось тады мае бацькі і западозраць нядобрае ды пойдуць разбірацца... Ой-ой-ой, як жа мне перападзе!»

## МОЙ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

У зале было святочна... Смачна пахла ежай і мамінымі духамі. Я сустракала гасцей ля дзвярэй, адразу разгортвала падарункі і ахала... Ну, ахала, бо так патрэбна — калі табе штосьці дораць трэба «ахаць». Гэта, каб гасцей не пакрыўдзіць! На падлозе расла горка ўпаковачнай паперы, а дзеці з маіх рук выхоплівалі адзін за адным падарункі і з цікавасцю іх разглядалі.

— Ух ты, якая кніга прыгожая і, мабыць, цікавая... А мне яшчэ такую не купілі, — прыгаворвала Лена, гартаючы падарунак Андрэя, — кнігу Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага». Я, вядома, не стала гаварыць, што такая кніга ў мяне ўжо ёсць і што я даўно яе прачытала...

«Вунь Лена Камарова сшыткі і каляровыя алоўкі прынесла! Добрыя і карысныя рэчы», — думала я.

— Здаецца, усе сабраліся, — сказала мама, — толькі Лізачка чамусьці спазняецца. Рытуля, ты не ведаеш, мо захварэла яна?

Я нервова пачала камячыць сурвэтку, а потым прамямліла:

— Не, не ведаю, мабыць, яна не прыйдзе. Да бабулі ў бальніцу пойдзе.

— Дык бабулю сёння ўжо выпісалі! Лепш ідзі, даведайся, чаго яна так марудзіць.

— Угу, — буркнула я і выйшла за парог.

Не, да Лізы мне зусім не хацелася ісці. Я ўявіла раззлаваны твар яе маці, незадаволены стомлены позірк бабулі і тое, як заўсёды пануры дзядзька Лёша, Лізанькін бацька, скажа: «Ліза не прыйдзе. Я нікому не дазволю здзекавацца над маёй дачкой... Ты ёй больш не сяброўка».

Я стаяла на ганку і доўга прыслухоўвалася да галасоў з Лізанькінай кватэры. Фортка ў іх была адчынена, але выразна пачуць размову ў пакоі я не магла. Да мяне даходзіў толькі пах кампоту з сухой садавіны. Як мне здавалася, горкі пах з дамешкам суму пра мінулае лета. Хутчэй за ўсё, кампот гатавала Лізіна бабуля. Колькі я стаяла — пяць хвілін, дзесяць, пятнаццаць — не ведаю. Але дамоў вярнулася ні з чым.

— А я ўжо гасцей за стол пасадзіла, — павесіўшы маё вільготнае ад снегу паліто, прамовіла мама. — Штосьці ты доўга і без Лізы?

— Захварэла яна, — схлусіла я. — Так, лёгкая прастуда... Я яе крыху паўгаворвала, а яна ні ў якую. Галава, кажа, баліць...

Маці падазрона паглядзела на мяне, але нічога не сказала. Я села да сяброў за стол, і маці разліла нам па шклянках ліманад. Я зірнула на гэты святочны празрыстажоўты шыпучы напой і вырашыла больш не думаць пра Лізаньку. Бо гэта было маё свята, сапраўднае цудоўнае свята з сябрамі!

Але, як толькі зазвінелі відэльцы ды лыжкі, у дзверы пазванілі... Я напружылася, замерла, бо прадчувала, што ідзе да нас Лізін прадстаўнік: ці маці, ці бабуля.

— Рыта, ідзі адчыняй, — папрасіла мяне маці. — Да цябе, мабыць, ідуць.

І мне нічога не засталося, як ісці адчыняць дзверы. Я была адначасова здзіўлена і збянтэжана, калі на парозе ўбачыла Лізаньку. Яна была ў той момант нейкай незвычайнай, чырванашчокай, з асаблівым ззяннем у вачах ды смешнымі завітушкамі на галаве.

— А вось і я, — гучна вымавіла яна. — Прабач, што спазнілася. Бачыш, мне маці прычоску зрабіла! Падабаецца?

— Вельмі прыгожа! — здзіўлена прашаптала я, і ў мяне адразу адлягло ад сэрца. Не чакала я ад Лізанькі такога. Не сапсавала яна мне свята, а выкрасліла ўсё дрэнае з памяці і вось прыйшла да мяне на дзень нараджэння вясёлая і шчаслівая.

— А гэта мой падарунак, — загадкава сказала Лізанька і дастала з пакета блакітную прадаўгаватую скрыначку з залатымі адбіткамі.

Я абамлела! Гэта была мая дзіцячая мара — цудоўная лялька-нявеста. Белыя кудзеркі, тонкі вэлюм, доўгая, ажурная сукенка з бліскучым пояскам. Я такую ляльку ў газеце «Піянерская праўда» бачыла. Адной дзяўчынцы чароўную цацку рэдакцыя газеты падарыла ў якасці прыза за добрыя вершы. Было даслана на паэтычны

конкурс каля дзесяці тысяч лістоў! У тым ліку і мой ліст... Але толькі самай таленавітай дзяўчынцы з Масквы дастаўся прыз. Я перажывала, што не перамагла, і нават выразала фігурку лялькі-нявесты з газеты на памяць. Лізанька ведала пра маю мару... Але дзе ж яна змагла знайсці такую ляльку? У нашых крамах дакладна яна не прадаецца...

— Бабуліна сястра з Масквы прыслала, — быццам прачытала мае думкі, сказала Лізанька.

— Лізанька, гэта ж вельмі дарагі падарунак. Вам давялося так паклапаціцца, — усхвалявалася мая мама.

— Ды што там за клопаты! Бабуліна сястра праз праваднікa знаёмага ўсё перадае, — махнула рукой Лізанька. — На гэты раз тры торбы папа забіраў на вакзале. У адной з іх ляжаў і мой заказ — лялька-нявеста.

— Я памру ад зайздрасці, — запішчала Ленка. — Давайце мы ляльку на тумбачку паставім і будзем усе глядзець на яе.

— А якія туфлікі ў яе бліскучыя, а пад сукенкай ажурныя панталончыкі, — пляскала я ў далоні.

— Я так рада, што табе спадабалася, — проста сказала Лізанька.

І я ўпершыню заўважыла, што ў Лізы вельмі прыгожыя і выразныя карыя вочы з доўгімі густымі вейкамі. Менавіта тады, у тую самую хвіліну, я сабе паабяцала, што ніколі не буду яе крыўдзіць, і злавацца на яе таксама ніколі не буду. Бо сваёй дабрынёй яна не толькі выратавала мяне ад балючых апраўданняў перад дарослымі, а яшчэ і зрабіла мне такі казачны сюрпрыз...

...Цікава, — потым, неаднойчы прыгадваючы гэты выпадак, разважала я, — чамусьці, калі мы робім нешта дрэннае, то пра гэта ўспамінаем доўга-доўга... Мабыць, усё жыццё. І кожны раз сорамна, як быццам ты зрабіў гэта толькі ўчора. Магчыма, нешта дрэннае і не было запланавана. Проста хацелася штосьці змяніць у сваім жыцці — рэзка і адразу, а атрымалася няўмела ды нядобра...

## ЮЛЬКА

***«Не ўсё бліскучае будзе золатам!» Гэта я ў разумнай кніжцы прачытала... Прачытала і нават падкрэсліла ды закладку ў патрэбным месцы паклала. Гэта ж пра яе — Юльку! Нават лягчэй стала, калі гэта выказванне знайшла. Значыць, не адна я ў сяброўцы памылілася. Яшчэ нехта ў такую пастку трапіў у сваім жыцці. Але ж і я выбіраю з кім сябраваць у першую чаргу, з кім — у другую. Вунь з Лізанькай адпраўляюся гуляць толькі тады, калі больш няма з кім. Магчыма, і для Юленькі я стаю паміж Лізанькай і выдатніцай Светкай Панкратавай... — прачытала я ў сваім школьным дзённіку і паглядзела на дачку. Ева, зацікаўленая маім аповедам, прыскорвала падзеі:***

***— Не, ты лепш без загадак раскажы далей! Хутчэй жа!***

***Я паклала дзённік на стол, усміхнулася і працягнула свае ўспаміны.***

Мы з Ленкай сядзелі на нашым любімым старым шырокім пні, што знаходзіўся пад вокнамі яе дому, і ўсхліпвалі. Плакалі, моцна абняўшыся, кляліся ў вечным сяброўстве і абяцалі адна адной пісаць. Ленкін бацька — ваенны. Пяць гадоў яны жылі ў нашым памежным горадзе, а цяпер Ленкінага бацьку разам з усёй сям'ёй адпраўлялі ў Кішынёў. У невялікі грузавік салдаты складвалі шматлікія цюкі. Нават не верылася, што ў аднапакаёвай службовай кватэры магло змясціцца столькі рэчаў.

— Ды, не плачце вы, дурнічкі, — супакойвала нас Леніна мама. — Зямля круглая — сустрэніцеся яшчэ, убачыцеся. А ты, Рыта, тым больш не перажывай, у цябе тут і сябры, і родныя. Не засумуеш. Гэта Ленцы ўсё наноў: знаёмся, звыкайся з нечаканымі парадкамі. Невядома, якія там умовы нас чакаюць... Што зробіш — бацька ваенны! Куды ён — туды і мы. А ў нашай кватэры будзе таксама жыць дзяўчынка, ваша аднагодка. І, здаецца, настаўніца казала, што яна будзе вучыцца ў вашым класе. Лена ад'язджае, а Юля прыязджае. Вось і будзе табе, Рыта, новая сяброўка.

— А калі вы адлятаеце? — шмыграючы носам, спытала я.

— Паслязаўтра, у аўторак, — адказала цётка Ганна. — Так што яшчэ паспееце развітацца.

Але раніцай, калі я па дарозе ў школу зайшла за Ленай, мне адчынілі дзверы чужыя людзі.

— Паехала Лена, — паціснуў плячамі хударлявы мужчына. — А ты Рытай будзеш?

Я разгублена кіўнула.

— Значыць, наша Юля будзе ў тваім класе вучыцца, — сказаў мужчына і крыкнуў углыб кватэры: — Юлька, збірайся хутчэй...

Дзяўчынка Юля мне адразу незвычайнай здалася, як Аліса Селязнёва з фільма «Госця з будучыні». Яе каштанавыя, курчавыя валасы, даўжынёй ніжэй плячэй, былі сабраны ў два хвосцікі і ўпрыгожаны вялікімі жоўтымі гафрыраванымі банцікамі. Школьная форма ў яе была не карычневая, як ва ўсіх у нас, а шэрая, з сінім адлівам. І сукенка была карацей за нашыя, ды яшчэ спаднічка плісіраваная. А фартух наогул быў нейлонавы і такі празрысты, як крылы стракозы... Ніколі я не бачыла ў дзяўчынак настолькі прыгожай школьнай формы! Я нават баялася з Юляй загаварыць. Раптам, падумалася мне, яна і на самай справе з далёкіх нябесных краін да нас прыляцела і нават размаўляць па-нашаму не ўмее.

— Мой бацька спачатку ў Германіі служыў, потым у Чэхіі, — першая пачала размову Юля. — А ты была за мяжой?

Я адмоўна пакруціла галавой.

— Трэба ж, як сумна, — пазяхнула Юля.

І больш па дарозе ў школу мы з ёй не размаўлялі. Я саромелася пытацца, хоць шмат чаго хацела ў яе даведацца... А яна, відаць, вырашыла, што суразмоўца я не цікавы і таму маўчала.

Але, як мы толькі з'явіліся з Юляй у класе, дзеці ад здзіўлення заціхлі і пачалі перашэптвацца. Класны кіраўнік нашага шостага «Б» Ганна Мікалаеўна таксама была, як ніколі, ветлівай. Быццам бы да нас прыйшоў вучыцца будучы касманаўт.

Юлю адразу пасадзілі каля акна, да рыжага Славіка-ціхоні, і ўсе з зайздрасцю пазіралі на першым уроку ў іх бок. Юлькін партфель нагадваў залаты куфэрак з чароўнымі рэчамі! На яе лінейкі ў залежнасці ад нахілу мяняўся малюнак, ластык смачна пах, шарыкавая ручка мяняла колеры... Дзеці ледзь дачакаліся перапынку, каб падразбязней пазнаёміцца з дзіўнымі замежнымі рэчамі. Юля сядзела на стуле, як царыца, нядбайна дэманструючы аднакласнікам настолькі звычайныя для яе прадметы.

— Якія вы дзікія людзі, — хіхікала яна, — нічога ў сваёй правінцыі не бачылі...

Пасябраваць з Юляй у мяне не атрымлівалася. Каля яе заўсёды круцілася Светка Панкратава. І Юля з радасцю ішла з ёй на кантакт, бо тая была выдатніцай. Светка заўсёды дапамагала незвычайнай новенькай — то на кантрольнай сшытак з рашэннем задачы ёй падсуне, то з месца, калі тая ля дошкі адказвае, з усіх сіл падказвае. З вучобай у励кі было зусім дрэнна. Відаць, паўплывалі шматлікія пераезды, а магчыма, там, за мяжой, была не такая складаная школьная праграма як у нас...

Аднойчы Юлька сама да мяне падышла.

— Пойдзем, — прапанавала яна, — сходзім разам у краязнаўчы музей, а то я ў гэтым горадзе яшчэ нічога не бачыла.

Я нават партфель, які ад колькасці падручнікаў ніяк не зачыняўся, на радасцях на падлогу кінула...

— Канешне, — з хваляваннем адказала я, — а калі?

— У суботу ў чатыры гадзіны... Дамовіліся?

У гэты час мы з Лізанькай збіраліся ў кіно... Яна нават квіткі ўжо набыла. Трэба ж, такое прыкрае супадзенне.

— А ў другі час нельга? — асцярожна спытала я.

— Ніяк, — пакруціла галавой Юлька, — у мяне на выхадныя яшчэ басейн запланаваны, бальныя танцы і загарадная паездка з бацькамі на шашлыкі.

— Добра, пойдзем, — хутка згадзілася я, баючыся, што Юлька перадумае і запросіць каго-небудзь іншага з нашага класа.

Дадому я імчалася з усіх ног. Трэба было хутка папярэдзіць Лізаньку, каб тая, пакуль не позна, здала білеты ў касу... Ліза, на шчасце, збіралася ў краму, якая знаходзілася каля кінатэатра. Яна цягнула сетку з пустымі бутэлькамі з-пад малака і па-старэчы крахцела. Маю навіну ўспрыняла са звыклым спакоем.

— Ну, добра, — павольна цямячы, мукала яна: — М-м-м... сходзім у кіно ў іншы раз... Гэтыя мульцікі ўсё роўна кожны тыдзень паўтараюць...

Я прыйшла да музея на пятнаццаць хвілін раней за прызначаны час. Церусіў красавіцкі дождждык, і ў матуліных шырокіх туфлях ды тонкай спадніцы было даволі холадна. Але апранаць зімовыя боты і штаны, перашытыя са старой цёплай мамінай сукенкі, мне зусім не хацелася. Трэба было неяк наблізіцца да модніцы-Юлькі.

Секундная стрэлка рабіла абарот за абаротам. Першыя пятнаццаць хвілін здаваліся да немагчымасці доўгімі, а наступныя дваццаць прайшлі зусім незаўважна. Толькі Юлька ўсё не з’яўлялася. Я глядзела то ў бок тралейбусаў, што адыходзілі ад прыпынку, то на шматлюдны пешаходны тратуар і не магла зразумець, куды ж яна падзелася... На гадзінніку палова пятай і да закрыцця музея заставалася ўсяго нічога. «Магчыма, Юлю мама ў краму адправіла і яна там у чарзе затрымалася, — думала я, — ці заблукала, дарогу не змагла знайсці. Горад жа малазнаёмы, а магчыма, яна ўжо ў музеі?» Апошняя здагадка мне здалася самай рэальнай. «Хутчэй за ўсё, у іх за мяжой цяплей, чым у нас, — працягвала разважаць я, — вось Юлька, таксама як і я, сёння лёгка апранулася. Мерзнуць ёй не хацелася, таму яна зайшла ў музей. Цётачка-назіральніца прапанавала Юле хутчэй перайсці да агляду музейных экспанатаў, каб не хістацца проста так лішнія хвіліны».

Гэтая думка мяне ўзбадзёрыла, і я з поўнай упэненасцю, што ўсё так і было, зайшла ў памяшканне. У музеі было пуста і ціха. Я імкнулася ісці нячутна, але ўсё роўна ў маміных туфлях крокі атрымліваліся гучнымі. Касірша адразу запрыкмеціла мяне і з чаканнем утаропілася ў мой бок.

— Скажыце, калі ласка, дзяўчынка прыгожа прыбраная з доўгімі валасамі ў музей не заходзіла? — з надзеяй у голасе звярнулася я да касіршы.

— Не, не заходзіла, — паціснула плячамі тая, — сёння толькі дзве экскурсіі было. Усе турысты з Расіі.

— Значыцца, яшчэ не прыйшла, — прамармытала я.

— Ды што ж вы так позна сабраліся ў музей? — здзівілася касірша. — Мы ўжо хутка зачыняемся, так што новых наведвальнікаў у залы не пускаем.

— Зразумела, — пакорліва і расчаравана сказала я і выйшла на вуліцу.

Яшчэ некалькі хвілін я чакала Юльку ў прызначаным месцы. Спадзявалася, што яна прыбяжыць, пачне прасіць выбачэння ды скардзіцца на праблемы. І мы перанясём паход у музей на іншы дзень. Але Юлька не прыйшла.

На наступны дзень у школе Юлька была ўся ў справах. Ёй трэба было столькі зрабіць напярэдадні ўрокаў! Перапісаць у Панкратавай матэматыку і рускую мову, нанесці ўдар Алесю падручнікам па галаве, каб адпомсціць за шматлікія приставанні, добра замацаваць на руцэ электронны гадзіннік, які пастаянна расшпільваўся, і запоўніць дзённік. Юлька не паспявала і ад гэтага злавалася. Не, да ўрокаў я так і не адважылася да яе падысці. Іншая справа перад фізкультурай, калі ўсе пераапрануліся, а настаўніка ўсё не было.

— Юлька, ты чаго не прыйшла ў музей? — як мага абыякава спытала я.

— Куды? — быццам не разумеючы, перапытала Юлька, а потым раптам успомніла. — Ах, у музей... Занятая была. Кіно цікавае па тэлевізары глядзела. Не да музею было...

— Трэба ж, — буркнула я і груба ірванула тугую маланку на сваім трыко. Так ірванула, што прышчыкнула сабе шыю. Маленечкая рана непрыемна запякла і пачала крывавіць. Я прыклала да шыі насоўку, а мае вочы напоўніліся слязьмі... І зусім не з-за гэтай раны, а таму што я на Юльку раззлавалася...

## ХІТРАЯ ЮЛЬКА

Але на Юльку я нядоўга дзьмулася. Дакладней, яна нават не ведала, што я на яе пакрыўдзілася. Не хацелася з ёй псаваць адносіны, бо ўсе ў класе заўсёды на яе баку.

«Усе хлопчыкі ў яе закаханыя, а дзяўчынкі з першых дзён здаліся, прызналі яе лідарства, — гледзячы на ўроку літаратуры ў акно, думала я. — Вунь Панкратава вучыцца за дваіх — за Юльку і за сябе. А як Міколка-двоечнік у сшытак да Панкратавай лезе, дык тая адразу настаўніцы скардзіцца. Вунь блізняткі Таня і Ганна дачакаліся сваёй чаргі пакарыстацца Юлькінай замежнай тачылкай і таксама ўсхвалявана глядзяць на новенькую. Ды і я добрая! Няхай за яе тачылкай не бегаю, але, калі тая да мяне на перапынку падыходзіць з нейкай просьбай, то заўсёды спяшаюся дапамагчы.

Мая маці так аднойчы і сказала:

— Ваша Юлька — эгаістычны спажывец!

Толькі я тады хмыкнула, ці многае маці разумее ў школьных справах? Але яна была права. У гэтым я ўпэўнілася пасля яшчэ аднаго непрыемнага выпадку.

Аднойчы я крыху прыхварэла, і мама вырашыла мяне некалькі дзён у школу не адпраўляць, нават участковага доктара выклікала. Я так і падумала, калі ў дзверы пазванілі — урач ідзе. І вельмі здзівілася, калі на ганку заўважыла Юльку. Яна была моцна ўсхвалявана, ніяк не магла адсапціся, а растрапаныя валасы спешна папраўляла:

— Рыт, выручай, Панкратаву на алімпіяду па матэматыцы адправілі, а я сачыненне не напісала. Дай хуценька ў цябе пагляджу!

— Ды я ў школу не іду, — упусціўшы Юльку ў хату, прызналася я. — Хварэю, чхаю, кашляю...

— Тым больш добра, — узрадвалася Юлька. — Табе яно і не трэба гэтае сачыненне. Атрымліваецца, дарма пісала.

— Яно мне вельмі патрэбна, — абурылася я, — настаўніца ўсё роўна патрабуе яго прынесці. Ды і сачыненні я люблю пісаць. Між іншым, гэта «мой канёк». У мяне талент у гэтым ёсць! Адны пяцёркі атрымліваю па літаратуры.

— Ой, не сквапнічай! — прыспешвала Юлька. — Не буду ж я слова ў слова спісваць твой «шэдэўр». Памяняю нешта, іншымі словамі напішу.

Я ўсё яшчэ нерашуча круціла ў руках падручнік па літаратуры, а Юлька ўжо ўселася за стол, з партфеля дастала ручку і сшытак.

— Давай, давай, — сказала яна і паглядзела на насценны гадзіннік. — А то ў школу хутка трэба ісці.

І я саступіла. «Няхай піша, — думала, — сапраўды нешта памяняе, і настаўніца нічога не западозрыць. А то яшчэ з-за маёй сквапнасці Юлька адзінку атрымае. Вось сорам і ганьба мне будзе! Ужо яна зробіць з мяне “ворага народа”. Пры ўсіх чырванець буду».

— Рытусь, ты геній! — хуценька перапісаўшы, усклікнула ззяючая Юлька і загарнула сшытак, — такое сачыненне «забамбіла»! Гэта ж трэба! Ды яшчэ на тры старонкі! Ты не думай, я ўсё змяніла, дзе трэба — па свойму напісала... Паміж нашымі работамі нічога агульнага...

У школу я прыйшла толькі ў наступны панядзелак і адразу сшытак з сачыненнем на стол да настаўніцы паклала.

Ганна Мікалаеўна ўхвальна кіўнула і нагадала:

— У цябе яшчэ верш не здадзены за мінулы тыдзень. Так што падыдзеш да мяне пасля ўрокаў. У мяне будзе невялікі перапынак, і я паспею за гэты час паглядзець тваю працу і верш паспею паслухаць. Дарэчы, разам з табой няхай да мяне падыдуць Славік і Юля. Яны не вывучылі верш у прызначаны час. Што ж, спадзяюся, яны парадуюць мяне.

— Абавязкова ім перадам, — паабяцала я.

У канцы заняткаў мы ўтрох адправіліся ў кабінет мовы і літаратуры. Ганна Мікалаеўна неяк сур’ёзна і недаверліва глядзела на мяне, а перад яе вачамі, на стале, ляжаў мой сшытак з сачыненнем.

— Рыта, ты нічога мне не хочаш сказаць? — крыху памаўчаўшы, спытала настаўніца.

— А што здарылася? — здзівілася я.

— Гэта не тваё сачыненне...

— Чаму не? Маё, — спрабавала апраўдацца я.

— Ты яго перапісала ў другой вучаніцы.

— Гэта няпраўда, — пратэставала я. — Вы ж ведаеце, я заўсёды сама пішу. Мне падабаецца пісаць, літаратура — мой любімы прадмет.

— Тады чаму другая вучаніца нашага класа тыднем раней здала мне такое ж сачыненне? — строга спытала настаўніца і паглядзела на Юлю.

Тая нізка апусціла галаву і вінавата маўчала. Я таксама паглядзела на Юлю. Мне так хацелася, каб яна прызналася ва ўсім. Я думала, што яна смелая і сумленная. Але не тут-та было!

— Дык вось, я атрымала два аднолькавыя сачыненні, — разважала Ганна Мікалаеўна, — адно — раней, другое — сёння. Такім чынам, тое, якое я атрымала сёння, верагодней, было спісана. Таму двойку мне давядзецца паставіць табе, Рыта. Што на гэта нам адкажа Юля?

Юля па-ранейшаму глядзела ў падлогу.

— Гэта твая работа, Юля? — усё яшчэ імкнулася знайсці праўду настаўніца. — І я са спакойным сумленнем магу паставіць Рыце двойку?

Юля кіўнула галавой. Не, яна не выглядала хітрай пераможцай, наадварот, была падобна да рахманай авечкі, якая выпадкова праглынула пунсовую кветачку. Толькі бачылася, што раскайвацца ў зробленным яна не збіраецца і вінаватай у прыкрым супадзенні буду я.

Я не заўважыла, як на маім твары з'явіліся казытлівыя слёзы. Ціхоня-Славік і той не вытрымаў:

— Не магла Юлька на выдатна напісаць, — імкнуўся ён абараніць мяне. — Не стаўце, калі ласка, Рыце двойку.

Я ўдзячна паглядзела на Славіка. Не чакала ад яго такой смеласці. Аказваецца, ён не такі ўжо ціхоня...

— А я пастаўлю, — цвёрда прамовіла настаўніца. — Гэта каб адной і другой была навука.

Я з жахам глядзела, як каля майго прозвішча настаўніцкая ручка выпісвае выродлівага худога лебедзя, і маўчала. Ля маіх ног стаяла блакітная сметніца, я выпадкова зачапіла яе нагой, і з яе выкаціўся вялізны пакусаны яблык. Гэта была такая ж сметніца, як і тая, якую калісьці я надзела Лізаньцы на галаву. Мне так хацелася ўзняць гэтую «карону» над Юлькінымі гафрыраванымі, ззяючымі святочнай жаўцізной, бантамі. Толькі адвагі не хапіла. А магчыма, я проста пасталела і таму стала больш думаць пра наступствы… Пра тое, што адразу тры чалавекі — Ганна Мікалаеўна, Юлька і Славік убачаць якая я смешная і дурнаватая ў парыве сваёй злосці…

## ЮЛЬКІНА КАХАННЕ

— Ліз, падай мне куфэрак. Не, не той, а з маімі бліскучымі заколкамі, — прасіла я, дарэмна імкнучыся нафарбаваць тушшу вейкі. Танная туш балюча шчыкала вочы, склейвала вейкі і збіралася ў кутках малюсенькімі камячкамі.

— Трымай куфэрак, модніца, — назіраючы за мной, любавалася Лізанька.

Упершыню ў жыцці я зрабіла свайму дзіцячаму твару такое жорсткае выпрабаванне: вусны ярка-чырвонай памадай нашмаравала, на павекі паклала зялёныя цені, ды яшчэ шчокі моцна нарумяніла. Па праўдзе кажучы, маё адлюстраванне ў люстэрку мне не вельмі падабалася. Неяк адразу я пастарэла... Але для Лізанькі, як я зразумела, чым ярчэй, тым прыгажэй...

— Ой, Рытка, як ты пасталела... Хутка ад хлопцаў будзе не адбіцца, — выпаліла Ліза.

Я ажно падскочыла:

— Ты што? Якія хлопцы?

— А што? Вунь Юлька твая сабе кавалера ў класе ўжо знайшла, — хіхікнула Лізанька. — На спартсмена Пашку Скурчыка вока паклала...

— А ты толькі заўважыла, — хмыкнула я, — яна даўно ўжо яго абходжвае... Сёння, напрыклад, у бадмінтон запрасіла Пашку пагуляць, учора прымусіла партфель са школы несці. Прыдумала, што спіна баліць, ажно кроку не зробіць...

— Як цікава, — на распеў сказала Ліза. — А яшчэ ўчора яны ў парку разам гулялі. І нават за рукі трымаліся! Я бачыла!

— Няўжо? — перапытала я і пачала змываць вар'яцкі макіяж.

З Юлькай мы, як ні дзіўна, пасябравалі і сядзелі цяпер за адной партай. Не адразу пасябравалі, а толькі ў сёмым класе, калі вучоба пачала адыходзіць на другі план. Захацелася быць дарослай, самастойнай і прывабнай.

З Юлькай было цікава. Яна ўмела прыгожа апранацца, жартаваць з хлопцамі,

уліпаць у неверагодныя гісторыі. На адным тыдні яна магла запісацца ў таварыства аматараў тэатра, на другім — бегла ў танцавальны гурток... Я нават здзівілася, калі яна раптам кінула ўсе свае справы і пачала кожны дзень запрашаць на прагулку ў парк нашага аднакласніка Пашку... Высокі, спартыўны... Нават перамог у абласным чэмпіянаце па боксе... Але ён не казачны прынц з кіно, а з дзяцінства знаёмы і зразумелы хлопец... Я яшчэ памятала яго панурым пяцікласнікам, які вучыўся дрэнна і заўсёды ныў... Не, не разумела я Юльку... З чаго б гэта яна?

І чым бліжэй я падыходзіла да школы, тым мацней мне хацелася адгаварыць сяброўку ад дурной ідэі: заваяваць Пашкіна сэрца. «Так ёй і напішу ў запісцы на ўроку, — разважала я: — Юлька, кінь дурное... Адчапіся ад хлопца, а то і сапраўды закахаецца. Шкада…»

Юлька заўсёды дамагалася свайго... Спачатку ў яе закахаўся сусед-дзевяцікласнік. Ён нават ёй кветкі дарыў і ў кіно запрашаў. Іх кароткі раман скончыўся Юлькіным пагардлівым «фі» і нечаканым «бывай». Але аднойчы Юля ўключыла тэлевізар, а там нашага аднакласніка Пашку паказваюць на п'едэстале ды з медалём...

Толькі я, поўная планаў наконт Юлькінага кахання, зайшла ў клас, як да мяне падышла Панкратава.

— Усё, Рыта, кінула цябе Юлька! — паведаміла яна. — Шукай сабе іншае месца...

— Як гэта кінула? — здзівілася... — Я ж не лялька, не кавалер, а лепшая сяброўка...

— А ты паглядзі на сваю парту...

Я азірнулася. На маім месцы побач з Юлькай сядзеў Пашка. Ён штосьці нашэптваў ёй на вуха, а тая папраўляла яму гальштук і таямніча ўсміхалася.

— О, як вуркацяць, галубкі, — хіхікнула Панкратава.

Я таксама ўсміхнулася і ціхенька, на дыбачках, падышла да парты:

— Юлька, праз хвіліну званок, развітвайцеся ўжо... Спатканне скончана...

Юлька адразу раззлавался, быццам я разбудзіла яе раніцай, падчас прагляду самых салодкіх сноў:

— Ведаешь, Рытка... Шукай сабе іншае месца. Цяпер Пашка будзе тут сядзець... Яму настаўніца дазволіла.

— Як іншае месца? — я разгублена зірнула на свае рэчы, скінутыя з парты на падлогу. — Дык вы можаце спатканне сабе пасля ўрокаў зрабіць, а я хачу на сваім месцы сядзець. Знайшлі, дзе звіць любоўнае гняздо!

— Дагаворышся ў мяне... Сяброўка, — хмыкнула Юлька.

— Ведаеш што... — абурылася я і, не прыдумала адразу што можна сказаць, злосна вымавіла: — Ідзі лесам!

Я размясцілася за апошняй партай, на так званым астраўку для тых, хто правініўся. І, калі выгружала з партфеля свой сшыткава-падручнікавы багаж, чамусьці яшчэ верыла, што сварка надоўга не зацягнецца. «Ну, вырашыла яна пагуляць у закаханую, — супакойвала я сябе, — але ж хутка выдумае Юлька сабе нешта іншае, цікавейшае».

Толькі ж Юльку і ў наступныя дні было не пазнаць... Яна зусім не хацела са мной размаўляць. На тэлефонныя званкі не адказвала, пры сустрэчы праходзіла міма, не віталася, і матэматыку з мовамі не прасіла больш перапісаць. Я наогул сумнявалася, ці рабіла яна апошнія дні ўрокі. Затое з Пашкам без сарамлівасці вуркатала на перапынках, а раніцай, перад школай, заўсёды гуляла з ім у парку.

— Як Рамэа і Джульета, — войкалі настаўнікі.

— Вось гэта сапраўднае першае каханне, — пішчалі ад захаплення дзяўчаты.

І толькі я, як старая цётка-векавуха, казала ўсім:

— Кіне яна Пашку, вось убачыце — галаву задурыць і кіне...

Але ўсе думалі, што я толькі для выгляду наракаю на Юлькіна здрадніцтва, а на самай справе — зайздрошчу ёй... Адна Лізанька ведала, якім высокім полымем разгарэлася мая крыўда.

— Як магла Юлька памяняць мяне, лепшую сяброўку, на хлопца? — плакалася я. — Ды яшчэ чуткі распаўсюджваць, што я закахалася ў Пашку.

— Не хвалюйся, — супакойвала мяне Лізанька, — я ведаю... Не патрэбен табе гэты цыбаты кавалер. А Юлька яшчэ прыбяжыць... паглядзіш... Такую добрую сяброўку яна больш нідзе не знойдзе!

— Хто б казаў, Лізанька, — шматзначна ўздыхнула я, успамінаючы перыпетыі мінулых гадоў.

— А хочаш, у кіно з табой пойдзем, — загарэлася раптам Лізанька, — як раней, у дзяцінстве... І білеты на першы рад купім... А потым марозіва будзем есці на лавачцы ў парку... Есці і смяяцца...

— Давай, — не раздумваючы, сказала я. І мы разбегліся па сваіх кватэрах пераапранацца.

Калі я выйшла праз хвілін дваццаць з дому, Лізанька была ўжо гатовая. Я мімаходзь паглядзела на яе, і мой настрой зноў сапсаваўся. Толькі цяпер, калі Лізанька апранула ярка-фіялетавую вязаную сукенку з мамінага гардэроба, я заўважыла як яна патаўсцела, як моцна вылучаецца ў яе на спіне горб. Кідалася ў вочы, як яна стараецца не кульгаць, але атрымліваецца яшчэ горш...

«Ліза, Ліза, — падумала я, — тваё б добрае сэрца ды прыгажуні б Юлі». І мне чамусьці стала няёмка, што я так прыбралася ў гэтае кіно. Удзвюх мы выглядалі больш чым дзіўна: Лізанька ў фіялетавай сукенцы ды старэчых чаравіках на хворых нагах, з пластмасавай заколкай у валасах і я — у модным касцюме, ды туфлях на высокіх абцасах.

— Ведаеш што, Лізанька, — раптам прамовіла я, — пайду пераапрануся, а то халадна неяк.

Праз некалькі хвілін мы ішлі ў кінатэатр.

— Гэта ты з-за мяне чорныя штаны надзела і цёплы швэдар? — здагадалася Лізанька.

— Ды не, — схлусіла я, — проста ўвечары халадна будзе... Неяк адразу пра гэта і не падумала...

— А хочаш, — ажывілася Лізанька, — я цябе пазнаёмлю з хлопчыкамі і дзяўчынкамі з нашага клуба інвалідаў. Яны выдатныя людзі і час мы лепш за вас праводзім. У нас і канцэрты, і гурткі па інтарэсах, і выстаўкі ўсялякія... А тое, што вы с Юлькой сюды-туды хадзілі ад аднаго ліхтара да другога, шапталіся ды хіхікалі... Нудоцце, а не шпацыр...

— Малайчына, Лізанька, — засмяялася я, — знайшла што прапанаваць! Юлька будзе з прыгажуном Пашкай гуляць, а я каляску інвалідную штурхаць са сваім кавалерам. Лепш не прыдумаеш!

Лізанька адразу абмякла, надзьмулася, вочы яе сталі вільготнымі...

— Не трэба крыўдзіцца, Лізанька, — разумеючы, што сказала глупства, пачала выбачацца я. — Канешне, твае сябры выдатныя... Але кавалеры мне не патрэбны... Я пасля школы ў інстытут думаю паступаць, таму мне ўжо цяпер трэба шмат займацца... Ды ну яе, гэтую Юльку... Ты ў мяне самая лепшая сяброўка.

З гэтымі словамі, вымаўленымі ціха і душэўна, я дакранулася да Лізанькінага пляча, і на яе пунсовых вуснах з'явілася звычайная ўсмешка. Лізанька была падобна да вялікага дзіцяці — ад смутку да радасці хвіліна... Ну дзе ж тут сам будзеш сур'ёзным? І мы пачалі, як маленькія, смяяцца, дурэць, падкідваць уверх стосы восеньскай лістоты... Мы хаваліся за дрэвамі на алеях і кідалі адна ў адну каштаны... Усё было так, быццам мы зноў ператварыліся ў першаклашак...

## ЮЛЬКІНА ГОРА

Хутка зноў надышла зіма. На вуліцы пастаянная пахмурнасць, выпаў першы снег.

— Рытка, дзе ты ходзіш? — запрыкмеціўшы мяне ля веснічак, раз'юшана закрычала Лізанька і адразу адкінула вялікую снегаўборачную рыдлёўку.

— Што здарылася? — спалохалася я і ледзь не паслізнулася на толькі што прыбранай дарожцы... — Ды я ж з раніцы ў бібліятэку хадзіла... Ведаеш, як цяжка патрэбнай кніжкі дачакацца? Пакуль замовіш, пакуль з кнігасховішча падымуць, а потым прачытаць, запісаць усё.

Я зноў зрабіла крок і ледзь не ўпала...

— Цішэй ты, зараз пяском дарожку пасыплю, і нармальна будзе! — падтрымала мяне за руку Лізанька. — А ў нас Юлька знікла... Уяўляеш, з хаты знікла ў тры гадзіны ночы...

— Як гэта?

— Вось так... Мая мама сказала, што ў бацькоў яе — шок, у настаўнікаў — паніка... А пакуль ты ў бібліятэцы сядзела да нас з міліцыі прыходзілі. Цябе шукалі...

— А мяне за што?!

— Магчыма, падумалі, што ў цябе Юлька хаваецца...

— Вось гэта да, — сцягваючы з галавы шапку, вымавіла я і адправілася дахаты.

Мая маці таксама была нібы на іголках, быццам бы на школу бандыты напалі, а нам усім пагражае небяспека.

— Успамінай, магчыма, Юлька казала табе што-небудзь, ці мо ў суботу нейкія падазроныя людзі круціліся каля школы? — пыталася ў мяне маці.

— Ды я з Юлькай, мамачка, ужо тры месяцы не размаўляю. У яе Пашка замест сяброўкі.

— Ваш Пашка паехаў на тыднёвыя спартыўныя спаборніцтвы ў сталіцу і Юлькі з ім няма... Міліцыя праверыла.

— Дзіўная рэч! — усклікнула я, схапіла тэлефон і пабегла да сябе ў пакой. Доўгі тэлефоны провад хуткай змейкай пацягнуўся за мной, але пад дзвярыма майго пакоя моцна засеў. Я спешна пацягнула за драцінку і ледзь не выпусціла з рук сам апарат.

— Куды нясешся? Ды я не буду падслухваць! — закрычала маці. — Магла б і тут паразмаўляць.

— Тут не хачу! — надзьмулася я. — Мне патрэбна ўсім аднакласнікам патэлефанаваць. Магчыма, разам успамомнім што-небудзь пра Юльку.

Але як толькі я зачыніла дзверы, пад якімі быў працягнуты провад, у маё акно хтосьці пагрукаў.

Я здрыганулася і гучна крыкнула:

— Мама!

І тут у акне з’явіўся Юлькін твар.

Юлька была ўся ў слязах і да вушэй захутана ў доўгі шырокі шалік...

— Юлька?! — здзівілася я.

Тая ў адказ прыціснула ўказальны палец да вуснаў:

— Што здарылася? — з кухні пачуўся голас маёй матулі. Я падскочыла і крыкнула ў адчыненыя дзверы:

— Ды ўжо нічога! Падручнік па алгебры шукала. Але знайшла!

Я ўмомант садрала паперу, што ўзімку ўцяпляла акно, намацала шпінгалет і расхінула акно. Юлька хуценька ўскараскалася ў кватэру.

Дзяўчына адразу павалілася на тахту і заплакала, уткнуўшыся носам у вялікага плюшавага зайца.

— Ты чаго, Юль? Што здарылася? — асцярожна спытала я.

— Нічога, — усхліпвала Юлька.

Яе твар у асвятленні начніка здаваўся бледным і шэрым, а ўскудлачаныя валасы рабілі яе падобнай да Бабы-Ягі. Толькі цяпер я заўважыла, што нос у Юлькі з гарбінкай, і вочы зусім маленькія, бясколерныя, на шчоках россып падлеткавых вугроў! Мабыць, мне ўпершыню стала шкада Юльку...

— Цябе што — бандыты ноччу выкралі? — выказала я самую горшую здагадку...

Юлька адмоўна пакруціла галавой.

— З бацькамі пасварылася? — працягвала я выпытваць.

— Не! Не! І яшчэ раз не! — закрычала Юлька і тут жа асеклася, з трывогай паглядзела на зачыненыя дзверы...

— Тады што?

— Пашка паехаў на спаборніцтвы, — Юлька марудзіла з аповедам... Церабіла ў руках плюшавыя заечыя вушы... — Разумееш, паехаў і папрасіў, каб я туды не тэлефанавала і паштовак не адпраўляла. Сказаў, што надакучыла я са сваімі штодзённымі шпацырамі... Кажа, лепш у футбол з хлопцамі гуляць, чым са мной па вуліцах боўтацца. А перад ад’ездам я яго каля кафэ з Ярынкай-гімнасткай сустрэла. У іх заняткі ў адным будынку. Толькі Пашка боксам на першым паверсе займаецца, а яна — на другім.

— Падумаеш, бяда вялікая, — паціснула я плячамі, — на самай справе не такі ён і цікавы хлопец. Няма ў ім нічога асаблівага? Праўда, Юль? Нічога, мы яшчэ адпомсцім яму за цябе...

Апошнія словы я ледзь не пракрычала, быццам хтосьці з Юлькіных прыхільнікаў мог пачуць крык маёй душы. У маім уяўленні царыца-Юлька сядзела на троне ў раскошнай старадаўняй сукенцы, а я бегала каля яе з дубінай і адганяла ўсіх гэтых прынцаў.

— Ага, як я цяпер у клас прыйду? Рагатаць усе будуць. Скажуць — кінуў цябе Пашка, — не звяртаючы ўвагі на маю палымяную гаворку, усхліпнула Юлька.

— Ну, так... — апамяталася я. — Толькі навошта ты з дому ўцякла ? З-за Пашкі?

— Мабыць, — нерашуча адказала Юлька. — Але столькі з-за яго... Проста аб’яву ў газеце ўбачыла. Маўляў, у сталіцы пры тэатры адчыняецца студыя... І туды набіраюць прыгожых і здольных дзяўчынак і хлопцаў ад дванаццаці гадоў... І я вырашыла паехаць туды.

— Звар’яцець можна, — схапілася я за галаву. Я ведала, што Юлька дзіўнаватая дзяўчынка... Але не настолькі!

— Разумееш, — ажывілася Юлька. — Я раптам уявіла сябе ў галоўнай ролі ў кіно, на афішах — мой шчаслівы твар, ля тэатра чэргі з кіламетр... І ўсе стаяць па

квіткі ў касу на спектаклі з маім удзелам, на вуліцы ўсе мяне пазнаюць, а фанаты начуюць пад маімі вокнамі, падарункамі мяне закідваюць... І тут, на адной з сустрэч са сваімі прыхільнікамі, я заўважаю Пашку! Ён нясе мне чароўныя ружы... Такі вялікі букет! А ружы вільготныя, з салодкім пахам...

— Ага, і гучыць музыка, такая рамантычная, павольная, як у кіно: пам-пара-рам, пам-пара-рам, — дадала я. — І Пашка кажа: Юлька, вяртайся, я ўсё дарую... І ты яму: Пашка, любы мой. Вы стаіце і абдымаецеся ва ўсіх на вачах, — стала марыць я, а потым рэзка саскочыла са стала, на якім сядзела, і нібы выпаліла: — Ты звар'яцела, Юлька! З-за тваіх ненармальных фантазій столькі праблем узнікла. Якое кіно? Якія фанаты? Заўтра ў школу ісці трэба...

— Дык вось жа... Я апамяталася на вакзале, але было позна ўжо... Калі вярнулася, бацькі мяне ўжо шукалі. Мне зрабілася страшна, — прызналася Юлька... — Давялося хавацца. Бацька ведаеш які ў мяне — забіць можа за адзнаку. А тут такое — сапраўдны пабег!

— Значыць так, сядзі тут, а я да мамы схаджу і ўсё ёй раскажу! — рашуча прамовіла я.

Юлька адмоўна пакруціла галавой.

— Зразумела, пра Пашку мы нічога казаць не будзем, — супакоіла я Юльку. — Толькі скажам пра тваю бесталковую мару — трапіць у тэатр. А мая маці асцярожна паведаміць пра ўсё тваім бацькам. Ты не хвалюйся! Яна ўмее знайсці патрэбныя словы і астудзіць чужы гнеў.

— Ладна, — прашаптала Юлька. — Ідзі, кажы, я тут пачакаю...

Бедная Юлька забілася ў кут, села на кукішкі і абхапіла галаву рукамі. Уяўляю, як ёй цяжка было чакаць прыходу сваіх бацькоў…

## ЮЛЬКІН АД'ЕЗД

Перад развітаннем мы з Юлькай уладкаваліся на любімым дваравым пні. У гэты дзень ён здаваўся змрочным і шэрым... На яго, шчаціністага, суровага дзеда, і не сесці было ў тонкай сукенцы. Абавязкова трэба было пад сябе пакет падкладваць! «Вось той жа самы пад'езд з пафарбаванымі ў карычневы колер дзвярыма і грузавік ваенны. Магчыма, такая машына і Ленкіны рэчы везла... Цікава... Дзе цяпер Ленка?» — думала я. Мне хацелася ўявіць пасталелую Ленку, але я ніяк не магла гэтага зрабіць... Думкі блыталіся, вобразы напластоўваліся адзін на другі і я бачыла яе такой, якой яна была тады, у наш развітальны дзень: худзенькай, задуменнай, у светлай кофтачцы ды пышнай спадніцы.

Наша з Ленкай актыўная перапіска чамусьці хутка спынілася. Я нават не памятаю, хто даслаў апошні ліст — я ці яна... Ды і якая ў той момант была розніца? Бо цяпер ад'язджала Юлька. І я ведала, што ад яе дакладна не дачакаюся аніякай весткі... Ні ў яе характары сентыментальнічаць. Я нават не зразумела ў які горад яна ад'язджае. Юлька, як заўсёды, хлусіла і казала то пра Германію, то пра Маскву... Гэта потым я ад сваіх бацькоў даведалася, што Юлькінага бацьку адправілі служыць у невялікі расійскі гарадок.

Юлька пасля тэатральнага інцыдэнту была сама не свая... Хітрыя смяшынкі ў яе вачах зніклі. Позірк стаў сур'ёзным, я б нават сказала, адказны. Некалькі тыдняў ад свайго няўдалага пабегу да ад'езду яна да агульнага здзіўлення была ціхай і маўклівай. Нечакана пачала насіць акуляры! Я нават не здагадвалася, што ў яе дрэнны зрок, і яна часта сварылася з бацькамі з-за свайго нежадання браць акуляры ў школу.

Салдацікі закідвалі ў машыну масіўныя валізы і доўгія празрыстыя мяшкі, у якіх віднеліся Юлькіны цацкі... Я глядзела на знаёмыя рэчы, якія выносілі з Юлькінай кватэры, і мне рабілася сумна. Мы раптам успомнілі, як гулялі ў парашутыстаў і спускалі на вяроўцы з балкона ляльку, ногі якой тырчалі цяпер з пакета... Вось шуму нарабілі! Старая суседка падумала, быццам мы здзекуемся над сапраўдным дзіцём і выклікала хуткую дапамогу ды міліцыю... Але гэта, здавалася, было даўно. Сёння Юлька ад'язджала... Я здагадвалася, што пасля няўдалага ўцёку ў тэатр, бацька Юльку моцна пакараў, пасля чаго надоўга пазбавіў яе ўсіх прыгожых убораў, любімых цацак і шмат чаго яшчэ...

А спартсмен Пашка, калі вярнуўся са спаборніцтваў, то да Юлькі больш не падыходзіў... І зноў цэлымі днямі ганяў з хлопцамі ў футбол. Дзяўчаты адразу шаптацца пачалі, маўляў, Юлька кінула Пашку, дзеля нейкага сябра па перапісцы... Вядома, хто каму першы надакучыў я не стала ў класе распавядаць. Бо Юльцы і без таго было цяжка.

— Ну, што, сяброўка, усяго добрага табе, — скупа развіталася Юлька.

— Усё наладзіцца, не хвалюйся, — па-дарослаexisting адказала я. Не без суму глядзела як Юлька сядае ў бацькоўскую машыну і едзе следам за грузавіком.

На двары пахла бэзам і ранішнім дажджом... І яшчэ чымсьці такім прыемным, вясеннім, ад чаго хочацца ў юнацтве лётаць, танцаваць, спяваць...

* * *

***— І што, ты больш ніколі не сустракалася са сваімі школьнымі сяброўкамі Ленай і Юляй? — пасля майго аповеду, пацікавілася Ева.***

***— Чаму ж не... Лену я нядаўна знайшла! Адгадай, дзе мы сустрэліся?***

***Ева паціснула плячамі.***

***— Якая ж ты не здагадлівая! — рассмяялася я. — Сёння адшукаць адно аднаго даволі проста. Бо ёсць інтэрнэт! Лена працуе выкладчыцай у музычнай школе, а сын яе на гадоў пяць меншы за цябе. Праўда, жыве яна далёка ў Расіі. Уяўляеш, калі мы з Ленкай віртуальна сустрэліся пасля доўгага расстання, я раптам заўважыла, што наш вялізны пень ля старога дома яшчэ жывы і нават па баках нейкія дзіўныя парасткі пусціў! Па дарозе з крамы, я стаўлю на яго цяжкія торбы і раблю хвілінны прывал, успамінаючы сваё дзяцінства...***

***— А як жа Юлька?***

***— Юлька? Пакуль не ведаю... Але, думаю, таксама з ёй некалі сустрэнемся, — адказала я.***

***— Мама, ты сёння дзіўная! — прамовіла Ева і прытулілася да майго пляча…***

***У гэты момант у дзверы пазванілі.***

***— Ура! Гэта цётка Ліза з пірагамі да нас у госці ідзе, — паглядзеўшы ў акно, сказала Ева.***

***І мы ўдзвюх адразу падхапіліся і пабеглі да дзвярэй — сустракаць Лізаньку.***

***Лізанькіна бабуля перадала сваёй унучцы ўнікальны рэцэпт самых лепшых у свеце пірагоў. І Лізанька часта спяшаецца падзяліцца з намі сваімі пачастункамі...***

Анатоль ДЭБІШ

# ПАМІЖ ТЛУМУ ЖЫЦЦЯ



**_Анатоль Дэбіш нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шamятоўка Свіслацкага раёна. Аўтар кніг паэзіі «Калядная вячэра» (1993), «Стодзівы» (1995). У паэтычных радках Анатоля Дэбіша жывуць радасць і трывога, пяшчота і сум і, вядома, сапраўднае каханне._**

* * *

На месцы тым, дзе сад квітнеў,
Трава пажухлая і вецце.
Ваўком галодным вые вецер
На месцы тым, дзе сад квітнеў.

На месцы тым, дзе сустракаў
З табою разам я світанні,
Крыжы струхлелыя, бы здані,
Там, дзе світанні сустракаў.

Які б ні быў мой шлях кароткі,
Я там — застаўся маладым,
І пацалунак твой салодкі
Пячэ агнём на месцы тым.

* * *

Пухлы снег, як попел чорны,
На бязмежны выпаў дол.
Толькі неба пасак зорны
Свет люструе навакол:
Дрэвы, вуліцы, палеткі,
Твой, як снег, збялелы твар
І знямелы позірк кветкі,
Што ўмярзае ў тратуар.
Гэта — мой табе дарунак,
Развітальны мой пагляд.
Дрэваў зломленыя струны.
Паламаны ветрам сад.
Я па Чорным снезе крочу
Да святла далёкіх зор,
Каб цябе спаткаць аднойчы,
Дзе гучыць анёлаў хор.
Там, у воблачнае высі,
Дзе спыніўся час і рух,
Мне, як колісь, усміхніся —
Кветам белых завірух.

* * *

Вечар летні, вечар шэры.
Промнік сонца долу льецца
І кладзецца на шпалеры…
Матылёк аб шыбу б'ецца...

Ноч нам сны малюе ў зрэнках,
Ахінае стомай цела.
Дзіўным прывідам сукенка
На падлогу паляцела.

Я і ты. Не рыпнуць дзверы.
І ніхто не завітае.
Вечар летні, вечар шэры
Нас таемнасцю вянчае.

* * *

Калі любасць твая прарастала
ў люты гнеў,
Дакарала мяне і ўвесь люд —
Я маўчаў, бо пакрыўдзіць цябе не хацеў.
Тлум і звадкі зусім не люблю.

Як пагардай ці злом загараўся
твой твар,
Што за мора і неба глыбей —
Проста збегчы хацеў, растварыцца
між хмар,
Каб не чуць і не бачыць цябе.

А не стала цябе — я душой не зманю —
Душыць цела самота і жах,
Сэрца прагне крычаць
і парваць цішыню,
Як сарочку на хворых грудзях.

* * *

У пакоі — ціха, глуха.
Атачыла сэрца скруха.
А за шыбай завіруха
Навагодні ладзіць баль.
Там — ні гоману, ні руху...
Толькі цёпла мне і суха
Пад тваёй хусцінай з пуху,
Бы пад воблакам амаль.

Ты пайшла — не прыйдзеш болей,
Столькі вольнасці і волі.
Я на хлеб насыплю солі
І аддам віно журбе.
Вусны — вусны раскалолі.
Не сустрэнемся ніколі...
І пляце павук на столі
Белы вэлюм для цябе.

* * *

Калі душа шукае раю,
Калі жыццё як пекла мне, —
Шчаслівы я, бо зноў кахаю,
Ты ёсць, каханая, ў мяне.

Я — неўміручы, моцны, дужы,
Як дрэваў — спеў, як птушак — лёт.
І ні агонь, ні золь, ні сцюжа
Нас не злякаюць між нягод.

Я ўсё змагу, я добра знаю:
І боль, і смутак — праміне!
Бо я — люблю! Бо я — кахаю!
Ты ёсць, каханая, ў мяне.

* * *

І што для шчасця болей трэба!
Яшчэ — жыву, яшчэ — люблю!
Апошні свой кавалак хлеба
Я папалам з табой дзялю.

Яшчэ не скончана нядзеля
І нам з табою не да сну.
Мы напалам з табою дзелім
Сваё каханне, і вясну.

Для нас дваіх — зямля і зоры,
І квет, што ахінуў зямлю.
І толькі смутак, боль і горыч —
Я аднаму сабе ўдзялю.

*Ягор КОНЕЎ*

# ЗАБОЙЦА З РОДУ ДАСТАЕЎСКІХ

## *Гістарычная драма ў двух актах*

***Твор заснаваны на сапраўдных падзеях, якія адбываліся ў 1606—1609 гадах у Менскім ваяводстве***



***Ягор Конеў нарадзіўся 21 снежня 1970 года ў Мінску. Працуе выкладчыкам у Інстытуце журналістыкі БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар шматлікіх празаічных і драматургічных твораў. Вядомы таксама як цікавы публіцыст і крытык.***

**Дзеючыя асобы:**

**АНДРЭЙ СТАНКЕВІЧ** — менскі земскі суддзя.

**ФЕЛІКС ВІСЛАВУХ** — памочнік і сакратар Станкевіча.

**МАРЫНА СТЭФАНАЎНА КАРЛОВІЧ** *(у дзявоцтве — Дастаеўская)* — удава Станіслава Карловіча, уладальніка маёнтка Дурыніцы.

**РАІНА СТЭФАНАЎНА ДАСТАЕЎСКАЯ** — родная сястра Марыны.

**КАЗІМІР КАРЛОВІЧ** — родны сын Станіслава Карловіча ад першага шлюбу, пасынак Марыны.

**ЯН ТУР** — аканом у маёнтку Дурыніцы.

**САЛЯМОН ПСАРСКІ** — менскі зямянін, другі муж Марыны.

## Акт I

### Дзея I

Маёнтак Дурыніцы.

Гасцявы пакой з крэсламі, люстэркам, шафай і сталом.

Насупраць чырвонага кута з абразамі — печ і качарга.

Уваходзіць Марына Карловіч у багата аздобленай жалобнай сукенцы. Прыхарошваецца перад люстэркам, час-почас пазірае ў акно.

**Марына.** Янка! Пане Тур!

Уваходзіць Ян Тур, кланяецца.

**Марына.** А ці гатовы, пане мілы, сустрэць мы госця важнага?

**Тур.** Мяркую, пана суддзю зачаруе пекнасць вашай парсуны.

**Марына.** Велцэ на тое спадзяюся.

**Тур.** Будзе яму па гусце парадак у вашым маёнтку.

**Марына.** *(хмурыцца).* Пакуль што не маім… А ці падмялі двор?

**Тур.** Двойчы.

**Марына.** А ці памылі падлогу ў доме?

**Тур.** Тройчы.

**Марына.** А ці падрыхтавалі пакой для гасцей?

**Тур.** Суддзю чакае новая пярына. Яго сакратара — свежая салома.

**Марына.** Ці прасачыў, каб слугі ўмыліся, прычасаліся?

**Тур.** Ім загадаў я носа на двор не сунуць.

**Марына.** А як там пасынак час бавіць?

**Тур.** Сядзіць у клеці ціха, як калода. Чытае малітоўнік. Яму ўначы вяроўку я падкінуў. Падумаў: мо павесіцца? А ён і не варухнуўся.

**Марына.** *(прыкра)*. Вось жа рухля, доўбня дурная!.. Ну, ды няхай наконт яго земскі суддзя клапоціцца. *(Уздыхае.)* Ды толькі дзе ёнваждаецца? Чаму марудзіць?

**Тур.** Змушае чакаць сябе суддзя разумны. Інакш паменшыцца павагі да яго асобы. А гэта шкодна для закону.

**Марына.** Калі б мой дзядзечка не ўгаварыў яго заняцца нашай справай, чакаць мы мусілі б куды даўжэй.

**Тур.** Карысна мець сваяка суддзю Галоўнага трыбунала.

**Марына.** Але ж без пастановы земскага суда і Трубунал за мной маёнтак не зацвердзіць. Маёмасныя справы разглядаюцца строга па інстанцыях. Такі парадак непарушны ў нашай Рэчы Паспалітай.

**Тур** *(спачувальна)*. О, бюракратыя! Як іржа крышыць жалеза, так неўзаметку яна разбурае дзяржаву.

**Марына** *(прыкладае далоні да грудзей)*. А калі падчас размовы я незнарок зраблю вось так? Ці не надта пазорысты выгляд прымаю?

**Тур** (моршчыцца.) Баюся, ягамосць суддзя не пра следства пачне думаць, але наконт вашых павабаў і пяшчотаў.

**Марына** *(летуценна)*. Ах, люблю я зачароўваць паноў!

## Дзея II

Уваходзіць Фелікс Віславух.

**Віславух** *(здымаючы капялюш)*. Шаноўнаму панству наш нізкі паклон! Як кажуць, госць у дом — то і Бог ідзе ў дом...

**Марына** *(апускаецца на калені, гаротна прыкладае рукі да грудзей)*. Знядоленая ўдава прыпадае да ног вашай міласці! Кроў майго бязвінна забітага мужа прагне помсты і справядлівасці!

**Віславух.** Буду мець на ўвазе.

**Тур** (падае на калені). Пакарайце забойцу, ваша міласць!

**Віславух.** Абавязкова. Толькі вы крыху памыліліся. Я не суддзя, а ягоны сакратар. Розніца паміж намі істотная. Ягамосць пан земскі суддзя атрымлівае жалавання шаснаццаць коп грошай. А сакратар — чатыры. У раз’ездах на пастоі ягамосць спіць на пярыне, а я — на саломе. Прынамсі, пярына для яго міласці гатова?

**Марына** *(падымаецца)*. Так. Але куды яго міласць падзеліся?

**Віславух.** На ганку. Бруд з ботаў дзеркачом счышчае. Патрапілі мы ў недарэчнасць. З Менску ехалі на конях. А недалёка ад вашай брамы яго міласць, стаміўшыся ад трасяніны, пакінуў сядло, пажадаў пешшу прагуляцца. Забалбатаўся дый не заўважыў, як ступіў у каравяк.

**Тур** *(падымаецца з каленяў)*. Якая псота для судзейскага гонару!

**Віславух.** А ён жа любіць выглядаць прыгожа!.. Я ўжо і коней завёў на стайню, і паклажу склаў у сенцах, а ён усё дзеркачом ачышчае бруд з абутку. Такі ягамосць чалавек. Усякую справу чыніць дбайна. І не супакоіцца, пакуль не завершыць яе з бляскам.

## Дзея III

Уваходзіць Андрэй Станкевіч.

**Станкевіч** *(папраўляе на галаве капялюш з пер'ем)*. Спяшаюся засведчыць вам глыбокую пашану. Як кажуць, госць у дом...

**Марына** *(апускаецца на калені, цягне рукі да Станкевіча)*. Няўцешная ўдава прыпадае да ног найяснейшага суддзі! Кроў майго бязвінна забітага мужа моліць пра справядлівасць!

Станкевіч падае знак Віславуху. Той падымае Марыну.

**Віславух** *(Марыне)*. Яго міласць уважліва разбярэ вашу справу.

**Тур** (падае на калені). Пакарайце забойцу, літасцівы пане!

**Віславух** *(падымаючы Тура з каленяў)*. Знойдзем і пакараем.

**Станкевіч** *(Марыне)*. Маю гонар адрэкамендавацца...

**Марына.** Мы апавешчаны ўжо. І рады вітаць у нашым сціплым кутку пана земскага суддзю Андрэя Станкевіча, менскага зямяніна, шляхціца герба Астоя. Мой дзядзечка Пётр Сасінавіч Дастаеўскі ў сваім лісце ўсё падрабязна распавёў пра вашую міласць.

**Станкевіч.** О, дзядзька ваш — найшчодрая душа. І я сардэчна рады вітаць яго любую пляменніцу... *(Забыўшыся імя, запытальна глядзіць на Віславуха.)*

**Віславух** *(вымае з куштуша папяровы скрутак, чытае)*. «Пані Марына Стэфанаўна Карловіч. Шляхцянка герба Радван. Старэйшая дачка маршалка пінскага Стэфана Іванавіча Дастаеўскага. Шаснаццаць гадоў была замужам за ўладальнікам маёнтка Дурыніцы панам Станіславам Карловічам. У ноч забойства мужа...»

**Станкевіч** *(Віславуху)*. Досыць. *(Марыне)* Кланяюся пачціва пані. Прыміце мае шчырыя спачуванні. *(Апускаецца на калена, цалуе Марыне руку, падымаецца. Туру)* І вас рады вітаць я, пане...

**Віславух** *(зачытвае)*. «Ян Тур. Беззямельны шляхціц герба Грыф. Восем гадоў служыць аканомам...»

**Тур** *(падае на калені, цалуе Станкевічу руку)*. Здароўя і ўсяго добрага ад Пана Бога верна вашай міласці зычу!

**Віславух** *(чытае)*. «Маёнтак Дурыніцы дараваны роду Карловічаў за ратныя заслугі каралём і вялікім князем Аляксандрам. Семсот валок зямлі і луг на беразе Свіслачы. Да таго вёска і сто дзве душы халопскія, гаспадарчы дом на дванаццаць пакояў, сад з сажалкай, флігель з кухняю, каморамі, пакоямі для прыслугі. Дворні дзесяць душ. Гаспадарчыя пабудовы: гумнішча, клеці, стайня, хлеў і бровар. На пачатак года пражывалі ў Дурыніцах пяць шляхетных душ...»

**Тур** *(Віславуху)*. Грунтоўна ж вы падрыхтаваліся да візіту.

**Віславух** *(хаваючы скрутак)*. Уважлівыя мы да кожнай дробязі.

**Станкевіч.** Я бачу дзве шляхетные душы. Трэцяя адпачывае ў райскіх шатах. А дзе яшчэ дзве?

**Марына.** Чацвёртая — мой пасынак Казімір, сын пана Станіслава ад першага шлюбу. А пятая — мая сястра панна Раіна Дастаеўская. Як пайшла я замуж, то бацюхна загадаў, каб і сястру ў Дурыніцы забрала. Ён браў другі шлюб і не жадаў, каб Раіна ім з новай абранніцай вочыназаляла. Жывецца тут Раіне куды лепей, чым у бацькоўскім доме. Блага, бадай, што з цягам часу характар у сястры псуецца.

**Станкевіч.** Паводле этыкету мушу засведчыць я пашану ўсім шляхетным асобам у маёнтку.

**Марына.** З панам Казімірам можаце пагаварыць, калі пажадаеце. Што ж да маёй сястрыцы, то прасцей вала за хвост выцягнуць з балота, чым яе завесці ў кола прыстойнага люду. Аднак я паспрабую. *(Туру)* Калі ласка, пане Тур, да нас панну Раіну запрасіце.

**Тур** *(пакланіўшыся)*. Як заўгодна наймілейшай пані. *(Выходзіць.)*

### Дзея IV

**Станкевіч** (Віславуху). Пан Фелікс, прынясіце рэчы.

Віславух выходзіць і вяртаецца, цягне мяхі з паклажай, раскладвае на стале паперы і пісьмовыя прыналежнасці, вешае ў шафе на цвікі судзейскае адзенне.

**Марына** *(Станкевічу, указваючы на крэсла)*. Ваша міласць, пэўна, стамілася ў дарозе. Прашу, перадыхніце...

**Станкевіч** *(Марыне)*. О, я так змучыўся сядзець у сядле. Але ж у крэсле цяжкавата прэзентаваць вам новы строй, падораны вашым дзядзечкам-дабрадзеем.

**Марына.** Бракуе слоў мне, каб засведчыць шчыра, наколькі гэты кунтуш пасуе да стройнай постаці вашай міласці.

**Віславух.** Ён з альтамбасу, шоўкавай тканіны.

**Станкевіч.** Кунтуш прыгожы. А жупан пад ім!

**Віславух.** З галандскага фалендышу. Тонкае сукно.

**Станкевіч** *(дэманструючы штаны)*. А шаравары! На вянгерскі манер пашыты. *(Здымаючы капялюш і пагладжваючы пальцам пер’е)*. А каўпак! З сабаліных шкурак выраблены. Плюмаж — з пер’яў чаплі. А верх — з шоўку. Каб сонца ў галаву не напякло.

**Марына.** Дзе быў такі панадны кавалер шаснаццаць гадоў таму?

**Станкевіч.** У Кнайпхофе, што ў Прусіі, вучыўся. Спасцігаў мудрасць юрыдычнае навукі. Сустрэліся б мы тады — ваша мосць у мой бок і не чыхнулі б.

**Марына** *(уздыхае)*. Хто ведае...

**Станкевіч.** Тады я выглядаў не авантажна. Хударлявы, вуграваты купецкі сын. Апрануты ў абноскі, абуты ў атопкі. Акраец хлеба падаваўся мне смачным, бы цукровы пернік. Аднак нястача і ліхтуга маю волю не надламілі, а ўмацавалі.

**Марына.** Затое цяпер ваша міласць веле аздобны, бы паўлін.

**Станкевіч.** Які б узрост ні меў чалавек, але ў душы ён захавае смутак пра штосьці, чаго не атрымаў у маладосці. Ад таго і я грэшным чынам ахвочы да гожага адзення. І калі ваш дзядзечка прэзентаваў мне кунтуш, жупан і пояс, прызнаюся, быў я афектаваны...

**Віславух.** А яшчэ ён падарыў каўпак з пер’ем і шаравары.

**Станкевіч.** І свой прэзент пан суддзя Галоўнага трыбунала суправадзіў пакорлівай просьбай — закінуць усе справы, імчаць у Дурыніцы, увязніць забойцу

мужа вашага Станіслава Карловіча і зацвердзіць вашу мосць у правах нашчадка першае чаргі.

**Марына.** Калі наш бацюхна Стэфан Іванавіч Дастаеўскі адыходзіў на вечны спачын, то дзядзечка даў яму зарок, што будзе апекаваць нас з Раінаю. З тае прычыны ён так і клапоціцца.

**Віславух.** І вось мы тут, хоць незавершаных спраў у нас яшчэ процьма. А дакладней, два з паловай мяхі.

**Станкевіч.** Мяркую, да першага снегу ўправімся.

**Марына** *(здзіўлена)*. Так доўга? Лістапад жа толькі распачаўся.

**Станкевіч.** Працэс дазнання, літасцівая пані, падобны не да бегу скакуна, але да язды ў гару нагружага воза. Суддзя абавязаны і забойцу адшукаць, і вердыкт зацвердзіць, і дакументацыю аформіць.

**Віславух.** Наконт складання пратаколаў — тут я майстра.

**Марына.** Аднак павозка вашая пакіруе не ўгору, а з гары. Убойца схоплены па гарачай крыві і чакае вашу міласць пад замком.

**Станкевіч.** Злачынца ўжо ўвязнены?

**Марына.** То Казімір. Мой пасынак. Знешне падаецца людзям ён пачцівым, а ўнутры поўны крывадушша і аблуды. У ноч забойства пан Тур са слугамі схапілі яго на месцы злачынства ды ў клеці зачынілі. Цяпер ваша міласць можа прымяніць да яго працэдуру катавання.

**Станкевіч.** А сведкі яго зламысніцтва? А матыў душагубства?

**Марына.** Ключніца і кухарка неаднойчы бачылі, як сын і бацька зацята спрачаліся і сварыліся. Траўніца і конюх чулі, як пан Казімір сярдзіта вымаўляў, што з такога бацькі можна суп зварыць.

**Станкевіч.** А ці пацвердзяць яны тое пад прысягай?

**Марына.** Яны ўсё зробяць, што я ім скажу. А што да відавочнага матыва, то вось ён, ваша міласць. *(Вымае са стала папяровы скрутак з пячаткамі, працягвае Станкевічу.)*

**Станкевіч** *(разгортвае скрутак)*. Тэстамент пана Станіслава Карловіча. Складзены і завераны за месяц да яго скону.

**Марына.** Новы тэстамент. Напісаны пасля зацятай спрэчкі з сынам. У ім любы муж пакідаў мне ўсю маёмасць. А вось ранейшае завяшчанне. *(Вымае іншы скрутак са стала, аддае Станкевічу.)* У ім нашчадкам першай чаргі быў названы Казімір. Уявіце, што адбывалася ў душы пасынка, калі ён даведаўся, што бацька пазбавіў яго спадчыны? Калі была толькі душа ў бацьказабойцы...

**Станкевіч** *(зварае паперы)*. Натарыяльнае засведчанне сапраўднае. Родавыя пячаткі ды подпіс уладальніка супадаюць. *(Глядзіць на Марыну.)* Мне вызначылі вы кірунак следства. *(Працягвае скруткі Віславуху.)* Далучыць да доказаў.

Віславух вымае з палатнянага пака скураны мех.

**Віславух** *(Марыне, складваючы скруткі ў мех)*. Тут я захоўваю пратаколы, паказанні сведак, допытныя лісты. Штодня мех будзе разбухаць, а мне яго цягаць. У час суда яго міласць зноў перагледзіць усю гэтую папяровую кучу, а потым адправіць у архіў, дзе яна або згніе, або яе мышы з’ядуць, або вартаўнікі ёю печку распаляць.

**Станкевіч** *(Марыне)*. Мой сакратар-філосаф у вольную часіну памудрагеліць любіць наконт тленнасці ўсяго існага.

## Дзея V

Уваходзіць Ян Тур.

**Тур.** Панна Раіна шле прысутным прабачэнне. Мовіла яна, што не мае настрою ўдзельнічаць у шумных зборышчах у непрыдатны для забаў час. *(Пераймаючы голас Раіны.)* «Журыцца нам належыць у час жалобы. А я маліцца буду за спачын душы нябожчыка, за здароўе прыезджых і каб Пан Бог не адвярнуўся ад Дурыніц».

**Марына** *(Туру)*. А ці сказалі вы ёй, пане мілы, што некалі мая цярплівасць вычарпаецца?

**Тур.** Казаў. І нат настойваў. Ад таго пацярпеў псоту. *(Дакранаецца да пачырванелай шчакі.)* Затое часу не губляў і распарадзіўся, каб на стол накрылі. Для важнага госця адмысловы пастаўлены посуд — з саксонскага фарфору. Найперш пададуць міндальны суп з разынкамі, затым смажаныя мядзведжыя лапы, а потым рыбу, фаршыраваную свінінай. Дзеля ўмацавання апетыту паднясуць віна гішпанскага, затым хмяльнога мёду, а потым рукі да гарэлкі пацягнуцца.

**Станкевіч.** Кожнай страве ўдзелім мы выключную ўвагу.

**Марына** *(прыкладаючы далоні ніжэй грудзей)*. У нашым маёнтку кожны будзе рады выканаць любое пажаданне вашай міласці.

**Станкевіч.** За ўсё я загадзя ўдзячны. Не буду вас затрымліваць. Сядайце за стол. А мы пераапранемся і неўзабаве да вас далучымся.

**Марына.** Ці варта разлучацца з такім прыгожым строем? Здаецца мне, гэты шыкоўны ўбор яскрава адлюстроўвае цноты вашай душы.

**Станкевіч.** Для паўсядзённай руціны лепей пасуе звычайнае адзенне. Належыць выканаць нам усе працэдурныя нормы і апытаць сведак. Часта вінаватасць выяўляецца без катаванняў, прэнгу і зламаных рэбраў. Але на падставе доказаў і неаспрэчных вывадаў.

**Тур.** Няўжо такое магчыма?

**Станкевіч.** Пераканаецеся самі. Аднак пазней, пазней, пазней.

**Марына.** Чакаем вас мы нецярпліва. *(Кланяецца Станкевічу. Туру, нягучна.)* Расчаравана я, мой пане мілы!

**Тур.** Калі магчыма ерась у юрыспрудэнцыі, то ў Дурыніцы завітаў заўзяты ератык. Ён сумняваецца ў карысці катаванняў!.. А яшчэ мне падалося, быццам паміж суддзёю і яго сакратаром склаліся асаблівыя стасункі. Такія, што цяпер мне зразумела, чаму суддзя зусім не ўсхваляваны такой прыгожаю белагаловай, як ваша мосць.

**Марына** *(сумна)*. А я ж прасіла дзядзечку, каб даслаў нам не п’янюгу і не хабарніка. Вось і дачакаліся.

**Тур.** Часам трэба сцерагчыся ажыццяўлення нашых мар.

Марына і Тур выходзяць.

## Дзея VI

Станкевіч здымае капялюш, аддае Віславуху. Той пакуе капялюш у мех.

**Віславух.** Здаецца, пане Андрэй, нас прынялі за палюбоўнікаў.

**Станкевіч.** Мяркую, беспадстаўная зламыснасць — не горшае з таго, што тут адбываецца. Што запрыкмецілі вы, пане Феллікс?

**Віславух.** Пані лашчылася да вас, аж са скуры вылузвалася.

Станкевіч раскручвае пояс. Віславух яму дапамагае.

**Станкевіч.** Грэшна змушаць да распусты ўдаву ў тую часіну, калі яе мужа дагрызаюць магільныя чарвякі.

**Віславух.** А гаспадынька ж хараства невымоўнага! Пекная, як пацерачка. Прыгожая, як красачка. Аблічча пастройнае. Парсуна бела-румяная. Валасы — руністыя, бы шоўк. Шчокі — як макавы квет. Броўкі — бы падкоўкі. Губкі — бы малінкі. А як далоні да грудзей прыпячатала! Глядзець на яе павабы пахмельна...

Станкевіч здымае кунтуш, жупан і парадныя боты.

Віславух усё пакуе ў мех. З іншага меху вымае і дапамагае Станкевічу нацягнуць паўсядзённыя боты, жупан, кунтуш і пояс.

**Станкевіч.** А вы ў вочы ёй зірнулі?

**Віславух.** Часу не знайшоў.

**Станкевіч.** Як угневалася яна, калі сястра аслухалася яе загаду!

**Віславух.** У кожнай бабы нораў сапсуецца, калі багата даць ёй волі над халопамі.

**Станкевіч.** А ці заўважылі вы, пане Фелікс, каштоўныя пярсцёнкі на яе пальцах? А пацеркі жамчужныя на шыі? А рубінавыя завушніцы? Ёй хочацца купацца ў раскошы.

**Віславух.** Такая пыха здаўна ўласціва многім дочкам Евы.

**Станкевіч.** А ці ўзялі на вока, што дом і гаспадарчыя будоўлі выглядаюць лядашчымі? Значыць, багацця Карловічы не нажылі. З таго вынікае супярэчнасць паміж памкненнямі пані Марыны і яе магчымасцямі. Што могуць спарадзіць такія супярэчнасці?

**Віславух.** Яна пад падазрэннем? Таму ваш новы кунтуш змяніўся абношаным шарсцяным чэхманам?

**Станкевіч.** Яе аблічча прыносіць вачам замілаванне. Але якія сакрэты ўтойвае пекная парсуна? Шлюб пані Марыны, пэўна, нешчаслівы. Бо за шаснаццаць гадоў дзяцей не нажылі. І мужа свайго не кахала. Колькі ні згадвалі пра яго, а яна слязам волі не дала.

**Віславух.** Сапраўды. Звычайна ўдава тры месяцы раве нема, румзае, валасы жмутамі рве, твар драпае. А паводзіны пані Марына зусім не адпавядаюць удовінаму этыкету.

**Станкевіч.** А сястра яе? Ці можаце ўявіць немаладую незамужку, якая не жадала б акінуць вокам гасцей мужчынскага полу?

**Віславух** *(падумаўшы)*. Не магу.

**Станкевіч.** А калі панна Раіна не пайшла ў пакой, дзе былі яе сястра і аканом, то, значыць, некага з іх невымоўна баіцца або ненавідзіць. На што здатная такая белагалоўка?

**Віславух** *(складае ў скураны мех паходны пісьмовы набор)*. З кожнай вашай размовай кола падазроных асоб пашыраецца.

**Станкевіч.** Трывога мне сцінае сэрца. У хуткім часе нам належыць аддзяліць агнцаў ад дэманаў, невінаватых ад злачынцаў. Дзеля таго будзьце напагатове. Захоўвайце розум цвярозым, а ў абліччы — добразычлівасць. Я буду распытваць, а вы — пяром махаць.

**Віславух** *(уздыхае)*. Цвярозы розум? Значыць, не каштаваць мне пакуль ані віна, ані аквавіты, ані гарэлкі анышовай?

**Станкевіч.** І не паварочвайцеся спінаю да аканома. Ці бачылі, як ён раз’юшыўся, калі ўдава са мной какетнічала? Відаць, ён самачынна ўсталяваў манаполію на хараство нашай красуні.

**Віславух.** Як лоўка вы ўсё прыкмячаеце!

**Станкевіч** *(азірае сябе ў люстэрку)*. Годзе даймаць гаспадыню чаканнем. Хадземце вячэраць. А ранкам распачынаем следства.

Прыхапіўшы скураны мех, Віславух і Станкевіч выходзяць.

### Дзея VII

Уваходзіць сціпла апранутая Раіна Дастаеўская з абразом у руках. Жагнае сцены пакоя, ставіць ікону ў вугал, зазірае ў шафу, мацае тканіну судзейскага адзення, разглядае паперы на стале.

Ціха ўваходзіць Віславух са скураным мехам за плячыма. Кладзе мех, вывучае наведвальніцу, падкрадваецца, хапае Раіну за талію.

**Раіна** *(спалохана)*. Ратуйце!

**Віславух.** Памочнік тут, дарачка мая! Цябе я ўратую, красачка...

**Раіна** *(павярнуўшыся і заляпіўшы Віславуху поўху)*. Пакорна вам удзячна! Аднак абыдземся без вашага клопату!

**Віславух** *(разгублена)*. Вы не ключніца. І не пакаёвая служка.

**Раіна** *(з'едліва)*. О, ваша міласць умее распазнаць людзей!

**Віславух.** Я не суддзя.

**Раіна.** Вядома. З такімі замашкамі суддзёю вам не быці!

**Віславух.** Але ягоны сакратар. Таксама досыць уплывовая асоба. Пан Фелікс Віславух, да вашых паслуг. З кім маю гонар гаварыць?

**Раіна** *(кланяецца)*. Раіна Дастаеўская, шляхцянка герба Радван.

**Віславух** *(кланяецца)*. Прашу наймілейшую панну даравацъ мне памылку. Ваша сціплая сукенка змусіла прыняць вас за прыслугу.

**Раіна.** Меркаваць пра чалавека толькі паводле яго адзення — прыкмета дурноты. Нават для шаноўнага судзейскага сакратара. А цяпер прашу мне даравацъ, што вас патурбавала. *(Ідзе да дзвярэй.)*

**Віславух** *(заступае ёй шлях)*. Злітуйцеся, не я тут устрывожаны, а вы. А яго міласць гасцюе ў суседа вашага, пана Карабурды. За кубачкам наліўкі вядзе размову з ім пра апошнія дні пана Станіслава Карловіча. А мне, каб час дарма не марнаваў, загадаў начыста перапісаць і суправадзіць пячаткамі допытныя лісты. *(Вымае з меха стос спісаных лістоў і паходны пісьмовы набор, кладзе на стол)*. Зрабіце ласку, можаце пабачыць, якім багаццем разжыліся мы.

**Раіна.** Я бачыла. Краем вока пазірала за вашымі ўчынкамі. У першы дзень вы распыталі ўсіх шляхетных жыхароў Дурыніц.

**Віславух.** Аднак карысных звестак не здабылі.

**Раіна.** На другі дзень дапыталі ўсю прыслугу ў маёнтку.

**Віславух.** І зноў карціна злачынства не праяснілася. Прыслуга ў вас такая баязлівая, быццам яе бізунамі праз дзень частуюць.

**Раіна.** Радзей. А да повара і кухаркі лазіна не дацягваецца. Бо яны ж, як пакрыўдзяцца, могуць і ў суп плюнуць.

**Віславух.** Яшчэ і аканом ваш, бы каршун над курамі, увесь час блізка кружляе, зухаватым вокам на сведак пазірае.

**Раіна.** А на трэці дзень паехалі вы ў вёску і апыталі ўсю радню нашай прыслугі. Мудры ўчынак! Сваякам кучар або ключніца раскажуць тое, пра што ў размове з панам прамаўчаць.

**Віславух.** Ідэя належыла пану Станкевічу. Але і я хацеў яму параіць тое ж самае. Калі б такая думка прыйшла мне ў галаву.

**Раіна.** Не смуткуйце, пан Віславух. Іншых людзей разумная думка за ўсё жыццё не наведвае. Пэўна, вы ў шэрагу такіх абраннікаў.

**Віславух** *(пакрыўджана)*. Затое пану Андрэю я тройчы ратаваў жыццё. *(Памуляўшыся.)* Ну, калі шчыра, двойчы. Насамрэч у карчме пад Астрашыцамі яго міласць і сам смела біўся, шабляй сцяў галаву злачынцу. А я тым часам з сякерай у руках бараніў суддзю са спіны.

**Раіна** *(заінтрыгавана)*. З чаго ж такая вернасць і адданасць? Мала каму з нашай шляхты ўласцівы такія вартасці.

**Віславух.** Дзевяць гадоў, сем месяцаў і два тыдні.

**Раіна.** Мудрагелістае тлумачэнне.

**Віславух.** Столькі часу мінула з таго дня, калі я мусіў быць пасаджаны на кол.

**Раіна.** Чаму ж вы, пане Фелікс, сядзіце тут?

**Віславух.** Колісь быў я чалавекам, вартым дакору. Юнаком з невымернай пыхай. Заўсёды на падпітку і нос у тытуню. У спадчыну я атрымаў чын падскарбія і ад таго займеў думку, быццам Бога за бараду ўхапіў. Але нейкім чорным ранкам прачнуўся я абвінавачаным у жахлівым злачынстве. Усе доказы ўказвалі на маю віну. Сам жа анічога не памятаў, паколькі баляваў без просыпу тры дні. Патрапіў я ў вязніцу. Пазіраў праз краты, як востраць палю для мяне, і горка наракаў на сваю долю. Аднак жа зліталаваліся нада мною анёлы. Маю справу разглядаў пан Андрэй Станкевіч. Западозрыў ён падвох і ашуканства. Правёў новае следства і выкрыў сапраўднага зламысніка. А з мяне і талера не ўзяў за вызваленне. І тады я даў зарок, што, покуль жывы, будзе ў сумленнага суддзі адданы сакратар. Будзе ў паляўнічага верны сабака, які не збаіцца і апраметнай, калі нас так далёка ловы завядуць.

**Раіна.** Я памалюся, пане Фелікс, каб пошукі вас не завабілі ў такую далеч. А каб спрыяла вам удача, пакіну я ў пакоі вашым абраз Боскай Маці. Яна абароніць ад ліха вас і пана суддзю. *(Сурова.)* Ды не пазірайце на мяце, бы кот на сала! А калі б вас гэтак жа юрліва паглыналі позіркамі белагалоўкі!

**Віславух** *(самалюбна)*. Усялякае здаралася ў нашай судовай практыцы. Часам у сядзібах і засценках знаёміліся мы з паненкамі ды панямі чароўнай прыгажосці ды смелых паводзін. А паколькі мецц у прыяцелях судзейскага сакратара карысна, то здабываў я вялікі поспех у фаворах і амурных гулях...

**Раіна.** Вось і выхваляйцеся некаму іншаму! А нам пра вашыя перамогі слухаць нецікава.

**Віславух** *(са штучным здзіўленнем)*. Вам нецікаўныя размовы пра каханне? Не веру! Такія пекныя белагалоўкі пра каханне толькі і думаюць, дзеля яго толькі жывуць.

**Раіна.** Многія з іх — верагодна. А для мяне ўжо недалёкі той час, калі я стану чорнагалоўкай, пакрыю валасы манаскім улёнам.

**Віславух.** Чорны хабіт зусім не пасуе такой прыгожай панне!

**Раіна.** Пасароміліся б, шаноўны, ліслівасцю салодкай лашчыць мяне! Прыгажуняй была я дваццаць гадоў таму. Цяпер — пераспелая векавуха. Люстэрка і любая сястрыца пра тое мне заўсёды нагадаюць.

**Віславух.** Аднак жа абаяльнасць з цягам часу не сплывае. Як далікатнасць і святло дабрыні ў позірку, мяккасць у кожным руху і музыка ў кожным слоўцы. Усё гэта ў вас засталося, панна Раіна. Дарэчы, з пераспелых ягад атрымліваецца найсмачнейшая наліўка. Дык саграшым і пакаштуем яе разам. *(Цалуе Раіну.)*

**Раіна** *(заляпіўшы Віславуху поўху, адбягае)*. Хоць я ўжо не маладзіца і не веле пекная ў харастве, аднак жа гонарам сваім не ахвярую. Паводзіце сябе вы, пане, бы певень пажадлівы, аднак жа я не курыца-нясушка. І пер'е з вашага хваста павыдзіраю!

**Віславух.** Скажу вам шчыра я. Магу ўзнагародзіць. Не толькі жарам кахання. Але грашыма і пратэкцыяй у судзе...

**Раіна** *(усплёскваючы рукамі)*. Хіба я апошняя дзеўка ў павеце? Хіба мала ў двары круціцца служак? Хіба не прыкмецілі, як пазірае ў ваш бок траўніца? А кухарка!

**Віславух.** Яны ж з простага саслоўя. Ганебна шляхціцу змушаць халопак задавальняць патрабаванне прыроды па сардэчнай частцы. Парушэнне саслоўных межаў небяспечна для ўсёй дзяржавы... *(Ідзе да Раіны, але бачыць яе паднятую далонь і спыняецца.)*

**Раіна** *(збянтэжана)*. Пан Фелікс сам прыйшоў да такіх высноў?

**Віславух.** Шчыра кажучы, мне тое мовіў пан Андрэй Станкевіч. А яго меркаванням я давяраю беззаганна.

**Раіна.** Шкада, ён вам не раіў трымаць у абцугах розуму сваю пажадлівасць. Прашу вас болей нам не назаляць сваім суседствам.

**Віславух** *(абурана)*. Дакучаць вам? А хто сюды ўпотайкі пракраўся? Хто нос утыкаў у судзейскія паперы?

**Раіна.** Віной усяму цікаўнасць, ад спракаветных часоў уласцівая кожнай дачцэ Евы. *(Прысядае ў паклоне. Затрымаўшыся на парозе.)* Дарэчы, у вашых пратаколах сустракаюцца памылкі. Вам раю ў вольную часіну пачытаць граматыку Мялеція Сматрыцкага. З яе пазычыце вы шмат карысных звестак. *(Выходзіць.)*

## Дзея VIII

**Віславух** *(усхвалявана)*. Ах, ясачка ясная! Ах, паванька прыгожая! *(Жагнаецца на абраз.)* Матухна Боская, дапамажы злавіць мне гэтую галубку!

Уваходзіць Станкевіч, стомлена апускаецца ў крэсла.

**Віславух.** Ваша міласць, даўно я вам хацеў параіць. Трэба нам за кошт судовых выдаткаў набыць граматыку Салеція Матрыцкага.

**Станкевіч** *(неўразумела)*. Можа, Мялеція Сматрыцкага?

**Віславух.** Менавіта. Хачу ў вольную часіну я пачытаць яго.

**Станкевіч.** З чаго вам раптам закарцела чытаць кнігі?

**Віславух.** Бо вычарпалася ўшчэнт маё цярпенне! *(Трасе паперамі.)* У многіх пратаколах спрэс граматычныя памылкі! Чаму, пане Андрэй, вы не зважалі на маю малапісьменнасць?

**Станкевіч.** Таму, што шаблю і кубак трымаць вы болей звыклі, чым пяро і чарніліцу. А чаму, пане Фелікс, шчака ваша пабарвавела, бы неба на заходзе сонца? Мабыць, убачылі на блізкай адлегласці кухарку або траўніцу і далі рукам волю?

**Віславух.** Свой гонар не запляміў я чапляннем да халопак.

**Станкевіч.** Ухваляю вытрымку. А цяпер зоймемся мы справай важнай. Адновім у дробязях злачынства. *(Устае з крэсла.)*

**Віславух.** А што сусед Карловічаў адкрыў вам?

**Станкевіч.** Пан Карабурда расказаў, што за пару тыдняў да забойства пан Станіслаў Карловіч прыязджаў у яго маёнтак Свіслач. Спачатку яны выпілі вішнёвую настойку. Пасля — цінамонаўку, настоеную на персікавых костачках. А потым чарга дайшла да садовай ратафіі, настоенай на карэннях крамбамбулі.

**Віславух** *(іранічна)*. Каштоўныя звесткі. *(Уздыхае.)* І я ратафію шаную. П'еш яе — і хмелю не адчуваеш. А ранкам прачынаешся побач з непрыгожай кабетай і

не можаш даўмецца: як сюды патрапіў? І ўсё ж гэта лепей, чым абудзіцца ў ложку побач з прыгожым мужыком...

**Станкевіч.** Пачаставаўшыся, пан Станіслаў Карловіч раптам разрыдаўся і пажаліўся, што неўзабаве яго заб'юць. Прасіў ён пана Карабурду, каб той маліўся за спачын ягонай грэшнай душы.

**Віславух.** А імя верагоднага забойцы называў?

**Станкевіч.** Не адважыўся. Збаяўся... Прыгадайце, пане Фелікс, хто апошні бачыў пана Карловіча жывым?

**Віславух** *(глядзіць у паперы)*. Ключніца. Вечарам 14 кастрычніка 1606 года. Сведка паказала, што апоўдні пані Марына загадала напаліць лазню. Першымі папарыліся сёстры Дастаеўскія. Пан Карловіч не праявіў ахвоты да мыцця. Аднак пані Марына, вярнуўшыся, гучна прымушала мужа, каб і ён пайшоў у лазню.

**Станкевіч** *(пляснуў далонню па стале)*. Уявім, пане Фелікс, што гэта маёнтак з панскім домам, флігілем для прыслугі і гаспадарчымі пабудовамі. *(Адыходзіць і пляскае па крэсле.)* У трохстах кроках ад яго — лазня. Вось я — Карловіч, брыду памыцца з венікам пад пахай. *(Панурліва тэпае.)* Гусцее вечаровы змрок. Зоркі ззяннем увесялілі неба і цямрэчу. Леваруч ад мяне — лес, праваруч — чыстае поле. (Віславуху.) Дзе ў гэты момант знаходзяцца жыхары сядзібы?

**Віславух.** У прыцемках уся прыслуга ўмомант пазасынала. Маўляў, ніхто нічога не бачыў і не чуў.

**Станкевіч.** А што слугі казалі сваякам у вёсцы?

**Віславух** *(глядзіць у ліст)*. Конюх на падпітку балбатаў, што, калі гаспадар сышоў, Ян Тур пасадзіў вартавых сабак на ланцуг і зачыніў браму на замок. Свае ўчынкі аканом тлумачыў загадам пані Марыны.

**Станкевіч.** Наконт загаду мог і зманіць. Мажліва, дзейнічаў ён самачынна. Або аддаў распараджэнне пасынак, а не гаспадыня.

**Віславух.** Кухарка мовіла сваёй матулі, што пасля абеду пан Казімір сышоў у свой пакой і болей ніхто яго не бачыў. Яна ж першая ў прыцемках пачула гукі стрэлу і крыкі пана Станіслава.

**Станкевіч.** Дык вось, я — Карловіч, вы — забойца. Распараны і супакоены я вяртаюся ў маёнтак. Дзе будзеце мяне падсцерагаць?

**Віславух** *(уяўляючы прыхаванага злодзея)*. Зручней усяго — у хмызах пры дарозе. *(Выцягвае рукі.)* Са стрэльбаю ў руках.

**Станкевіч.** Вось нетаропка я наблізіўся. На мне толькі крыж, сподняя бялізна, кашуля, боты і аніякай зброі...

**Віславух.** Нацэліўся я ў грудзі. Ба-бах! Канай жа, шэльма!

**Станкевіч.** У прыцемках пацэліцца складана. Я не забіты, а паранены ў грудзі. Крычу ад жаху. Ай-ай-ай!

**Віславух.** Прэч стрэльбу! Шаблю з похваў! Выходжу на дарогу.

**Станкевіч.** Вас месяц асвятляе. Бягу да брамы.

**Віславух.** Я следам. Я шпарчэйшы. І крывёю не сплываю.

**Станкевіч.** Адчуваю, як губляю сілы. Грукаю ў браму. Зачынена! Знутры — ані гуку. Чую за спінаю вашыя крокі. Выю ў роспачы.

**Віславух.** Б'ю шабляй па патыліцы. Кроў ліецца струменем. Каб не запэцкацца, я адступаю. Калі Карловіч валіцца на зямлю, набліжаюся. Хвалююся, што і з такімі ранамі ён можа выжыць. Раз'ятрана калю яго ў грудзіну, пахвіны, жывот...

Станкевіч валіцца на спіну і калоціцца ў канвульсіях.
Віславух схіляецца над ім з уяўнай шабляй.

**Віславух.** Вось, атрымай! Яшчэ! Яшчэ! Яшчэ!

Уваходзяць Марына Карловіч і Ян Тур, разгублена разглядваюць Станкевіча і Віславуха.

**Марына** *(збянтэжана)*. Не станем вам замінаць.

Марына і Тур выходзяць.

**Станкевіч** *(услед ім)*. Так аднаўляем мы падзеі. *(Падымаючыся.)* Нават думаць не хачу пра тое, што яны думаюць пра нас.

**Віславух.** Вы можаце ўжо і не думаць. Вы — нябожчык. Ваша журботная душа прадстала перад Боскім вокам.

**Станкевіч.** Я зноў суддзя. Жывы пакуль што, дзякуй Богу.

**Віславух** *(сноўдаючы і ўяўляючы адначасова розных асоб)*. І я таксама болей не забойца. Я — аканом, убягаю, узмылены, у флігель, дзе храпе прыслуга. Усіх падымаю на ногі: кучара, кухара, стайніка, вартаўніка. Усе мы чуем жахлівыя крыкі. Усёй ардой брыдзём да брамы, здымаем засоўку, адмыкаем замок, расчыняем створкі. Што бачым? Душа пана Карловіча развітваецца з яго целам. Пан Станіслаў яшчэ жывы. Кроў ліецца з яго рассечанага горла. А побач з ім стаіць на каленях пан Казімір Карловіч і плача. Я — кухар, крычу: «Забойца!» *(Асуджальна выцягвае руку. Замірае. Бяжыць да стала, глядзіць у паперы.)* Не! Першым асуджэнне выгукнуў Ян Тур. Астатнія толькі паўтарылі. *(Адыходзіць ад стала, скручвае ўяўнаму ворагу рукі.)* Ніхто не слухае пана Казіміра. А ён анічога і не кажа. Цягнем яго ў клець. А ён і не супраціўляецца. Замыкаем яго. Вяртаемся да гаспадара. *(Трасе рукой.)* Пан Станіслаў некуды ўказвае. Падымаем яго на рукі, нясём на ганак. Тым часам на парог выходзіць пані Марына. Кучар мовіў брату, быццам гаспадыня ім крыкнула...

**Станкевіч** *(скрыжаваўшы рукі на грудзях, верашчыць па-жаночы)*. «Прэч адсюль! Досыць ён тут пагаспадарыў! Цягніце гэтага д'ябла да клеці! Хай сынок скрозь краты на бацьку паўзіраецца!»

**Віславух.** І мы цягнем Карловіча да клеці, кладзём на зямлю, накрываем старымі ручнікамі. Каля брамы засталася лужына крыві. Вартавыя сабакі яе злізалі. Потым прайшоў дождж і змыў усе сляды.

**Станкевіч.** Пакуль ліў дождж, удава да нябожчыка не набліжалася. Корпалася ў ягоных рэчах, тэстамент шукала.

**Віславух.** Тое бачыла ключніца. І кумачкам прабалбаталася.

**Станкевіч.** Пахавалі пана Карловіча ў Менску на Кальварыі. На пахаванні пані Марыну вёў пад руку Ян Тур. Неўзабаве звярнулася яна па дапамогу да Пятра Сасінавіча Дастаеўскага. У выніку мы тут...

**Віславух.** Што ж рэканструкцыя падзей нам падказала?

**Станкевіч.** У гэтай справе цьмянай мне падаецца роля пасынка.

**Віславух.** Куды ж як ясней! Ён схоплены па гарачай крыві.

**Станкевіч.** Забойства здзейснена асэнсавана. Калі б былі вы, пане Фелікс, разважлівым злачынцам, няўжо засталіся б рыдаць каля ахвяры ў час, як браму адмыкалі? Або ўзялі б лахі пад пахі?

**Віславух.** Уцякаў бы, як заяц ад ганчакоў.

**Станкевіч.** У першы дзень, калі я чысціў боты дзеркачом на двары, то запрыкмеціў брамку, якая вядзе ў сад. Праз тую фортку можна выйсці за агароджу. Браму ў ноч забойства замкнулі на замок. Аднак жа веснічкі ніхто не зачыняў. Пэўна, праз садовую брамку вярнуўся ў дом забойца. І праз яе пабег пан Казімір, калі пачуў бацькаў крык.

**Віславух.** Калі ён толькі сам не забіваў у той момант бацьку. Трэба падняць яго на прэнг і спытаць сардэчна.

**Станкевіч.** Я спытаю. Прывядзі яго.

**Віславух.** А з прэнгам як быць?

**Станкевіч.** Пачакаем.

**Віславух.** А мне што рабіць?

**Станкевіч.** Як заўсёды, калі прашу сысці.

Кіўнуўшы, Віславух выходзіць.

## Дзея IX

Станкевіч садзіцца ў крэсла спінаю да дзвярэй, стомлена пацягваецца, пазяхае, дрэмле. Уваходзяць Марына са скруткам у руцэ і Ян Тур з падарункамі.

**Станкевіч** *(абудзіўшыся, не азіраючыся)*. Як маецеся, пані Марына? Маё вам шанаванне, пане Тур.

**Тур** *(здзіўлена)*. Як ваша міласць здагадаліся, што менавіта мы ўвайшлі? Хіба маеце вочы на патыліцы?

**Станкевіч.** Маснічыны рыпяць пад вашымі нагамі. А гукі крокаў у вас характэрныя. Вы, пане Тур, цісніце на абцасы, нібыта сцвярджаеце сваё вяршэнства ў доме. А гаспадыня ступае на мысок, быццам хоча прыўзняцца над усімі.

**Марына.** Ваша міласць памыляецца. Такімі думкамі я не грашу.

**Станкевіч** *(падымаючыся з крэсла)*. Паходку і ўчынкі чалавека часцей вызначаюць не ягоныя словы, а запаветныя памкненні.

**Марына.** Як рухаецца следства, ваша міласць?

**Станкевіч** *(цалуючы Марыне руку)*. Перагружаная павозка паднялася на гару і неўзабаве паімчыць пад схіл.

**Марына.** Ці можаце назваць імя злачынцы?

**Станкевіч.** Вядома. Вашая сястра. Панна Дастаеўская.

**Марына** *(збянтэжана)*. Раіна? Але чаму?

**Станкевіч.** Яна не выклікае падазрэнняў. Як падказвае мой досвед, такія найчасцей аказваюцца вінаватымі. З вашага дазволу мой сакратар загоніць панне Раіне пад пазногці парачку іголак.

**Марына** *(спалохана)*. Аддаць вам любую сястрыцу на пакуту?.. Што ж, калі так патрабуе правасуддзе, то я пакорліва пагаджуся...

**Станкевіч** *(весела)*. Вы, пэўна, зразумелі — я жартую! Чаму наогул мы мяркуем, нібыта злодзей жыве ў маёнтку? А можа, гэта нехта з вяскоўцаў? Мабыць, пан Карловіч загінуў выпадкова? Можа, забіць хацелі некага іншага?

**Тур.** Зашмат у вашай міласці думак. І ўсе супярэчлівыя.

**Станкевіч.** І ўсе я мушу іх асэнсаваць, паколькі мае рашэнні перамяняюць рух чалавечых лёсаў.

**Марына** *(Станкевічу)*. Хацелі б мы паскорыць следства. Мой дзядзечка пісаў, што ваша міласць хабару не церпіць, аднак падарункі ад шчырага сэрца прымае. Мо прыйдуцца яны вам даспадобы?

**Тур** *(выкладваючы на стол)*. Сярэбраная талерка з залатой акантоўкай. Фарфоравая міса саксонскага вырабу. Фарбы крыху пабляклі, затое аніводнай расколіны. Крышталёвы куфар для віна.

**Марына.** Мажліва, нашы сціплыя дарункі змусяць вашу міласць хутчэй выкрыць сапраўднага злачынцу.

**Станкевіч** *(разглядваючы посуд)*. Я хабару насамрэч не ўзяў бы. А вось ад гасцінцаў не адмоўлюся.

**Марына.** Яшчэ я склала ліст на імя дзядзечкі. У ім да нябёсаў ухваляю вашы намаганні ды малю пана Пятра Сасінавіча, каб усяляк садзейнічаў вашаму абранню ў суддзі Галоўнага трыбунала.

**Станкевіч.** Дарэчы, я адпраўляю сакратара ў Менск па справах. Ён асабіста перадасць вашае пасланне ў рукі пану Дастаеўскаму.

**Марына.** Велцэ буду вам удзячна. *(Працягвае скрутак.)*

**Тур.** Пара вячэраць. Я распараджуся. *(Пакланіўся, выходзіць.)*

**Марына** *(прысядае ў паклоне перад Станкевічам)*. Пайду і я. Прыслуга апошнім часам разгультаілася, разленавалася.

**Станкевіч.** Прывялебная пані, а навошта ў вечар забойства вы загадалі аканому зачыніць браму, пакуль ваш муж у лазні парыўся?

**Марына.** На ноч заўсёды ў маёнтку браму замыкаюць. Але я мовіла пану Туру, каб павесіў замок пасля вяртання мужа, а не раней... Заўсёды да паслуг вашай міласці. *(Выходзіць.)*

## Дзея X

Станкевіч разгортвае скрутак, чытае, вымае са скуранога меха тэстамент Карловіча, раскладвае паперы на стале, звярае.

Уваходзяць Віславух і Казімір Карловіч.

Казімір жагнаецца на абраз і кланяецца Станкевічу.

**Казімір.** Душэўна рады бачыць вашу міласць.

**Станкевіч** *(Казіміру)*. І я таксама, пане Казімір Карловіч! *(Тыцкае пальцам у паперы.)* Нярэдка ў практыцы сваёй я сутыкаўся з падробкай тэстаментаў. І магу запэўніць — другое завяшчанне, у якім маёнтак адыходзіць да пані Марыны, напісана не вашай мачахай.

**Казімір.** Але маім бацькам. Я ў роспачы быў ад такой знявагі.

**Станкевіч.** Адчай быў такі беспрасветны, што вы нячыстага ў душу запрасілі? Мабыць, крываблудны вораг чалавечы нараіў вам страляць у бацьку, а потым шабляю яго паласаваць?

**Казімір.** Апошнім часам я шмат думаю пра Бога і д’ябла. Пра тое, што чалавечая душа — адвечнае іх поле бітвы...

**Станкевіч.** Бацьказабойства караецца строга. Чыстасардэчнае прызнанне падорыць шанец вам на больш гуманную кару.

**Казімір.** Якую?

**Станкевіч.** Спаленне жыўцом на вогнішчы. Вы амаль не будзеце пакутаваць. Як полымя разгарыцца, ваша сэрца лопне ад перагрэву.

**Казімір.** Я бацюхну свайго не забіваў.

**Станкевіч.** Тады вашая бязгрэшная душа адправіцца ў рай. А душа прадузята настроенага суддзі пасля смерці будзе дзесяць тысяч гадоў смажыцца ў пекле ды столькі ж мерзнуць у ільдах.

**Казімір** *(указваючы на стол)*. Наконт наўмыснасці яскрава сведчаць паднесеныя вам дарункі. Мачаха ўмее марна траціць бацькоўскае дабро.

**Станкевіч** *(Віславуху)*. Прыбярыце гасцінцы, пане Фелікс. І можаце пакуль што адпачыць.

Віславух жвава пакуе падарункі ў мех, выходзіць.

**Станкевіч** *(складвае паперы ў скураны мех, Казіміру)*. Вы думаеце пра допыт у лёхах менскай ратушы? Там з вашага цела саскобляць усе валасы, каб адшукаць вядзьмарскія знакі. На прэнгу вам вывярнуць суставы і падагрэюць іх распаленым жалезам. Бізунамі здзяруць скуру са спіны і сцёгнаў. Абцужкамі выскубуць пазногці на пальцах рук і ног. Дазнанне мусіць адбыцца тройчы. Бо тройчы вы абавязаны пацвердзіць сваю віну...

**Казімір.** Не заслужыў я такой долі!

**Станкевіч.** Многія такой долі не заслужылі. Аднак яе зазналі.

**Казімір.** Я вінаваты ў зламыснасці. Але я бацьку не забіваў.

**Станкевіч.** Паміж думкай і благім учынкам шлях кароткі.

**Казімір.** Засмучаны я з іншае нагоды. З таго, што тыдні тры ўжо не мыўся. Смуродам патыхаю, бы з памыйнай ямы.

**Станкевіч.** Прывыкайце да водару менскай турмы. Там вязні месяцамі чакаюць, пакуль іх возьмуць на допыт, пакуль суд урэшце разгледзіць іх справу. Турма — гэта месца, ад якога Бог адвярнуўся.

**Казімір.** У бок Дурыніцаў Ён таксама даўно не глядзіць. Вось я і хачу Бога знайсці. Вядома, не сярод грэшнага тлуму, але ў кляштары. З-за таго мы з бацькам шмат сварыліся, даймалі адно аднаго. Ён цвярдзіў, што мне, яго адзінаму сыну, належыць працягваць род Карловічаў. А я марыў пра пострыг і жадаў адпісаць маёнтак манастыру. Бацька кпіў з мяне, упарта навязваў сваю волю. А я адчуваў, як гарачаю хваляю ў сэрцы ўздымаецца нянавісць. Ды незадоўга да смерці бацюхна са мною прымірыўся, абняў, пацалаваў і мовіў: «Як памру, сыне, — усё тваім стане. Дзейнічай тады, як сумленне падкажа».

**Станкевіч.** Ці маеце вы сведак той размовы?

**Казімір.** Прысутнічалі побач кухарка, аканом і ключніца. Аднак ніхто з іх пад прысягай не пацвердзіць. Мачахі збаяцца.

**Станкевіч.** Значыць, бацька вам саступіў, а вы яго зарэзалі?

**Казімір.** Годзе вашай міласці паклёпнічаць ды нагаворваць.

**Станкевіч.** А хто з нас схоплены на месцы і ў час злачынства?

**Казімір.** Тым вечарам я ў сваёй святліцы быў, маліўся. Раптам пачуў стрэл, затым бацюхна нема зароў. Я выбег на двор, да брамы — зачыненая. Тады я паімчаў у абыход, цераз садовыя веснічкі…

**Станкевіч.** Ці бачылі кагосьці па дарозе?

**Казімір.** Сустрэнь я забойцу — сёння мы не размаўлялі б. Убачыў бацьку, залітага крывёю. Схіліўся над ім. Раптам расчынілася брама, панабеглі людзі са двара і Ян Тур закрычаў, нібыта я забойца...

**Станкевіч.** Благія вашыя справы, пане Казімір. Усе ў маёнтку маюць алібі. На вашу карысць сведчаць толькі што ўласныя паказанні. Прызнайцеся мне лепей — пазбегнеце пакуты вы на прэнгу.

**Казімір** *(у роспачы)*. Чаму не верыце мне, ваша міласць?

**Станкевіч.** Які з вас манах! Вы ў кляштары і месяца не вытрымаеце!.. Да таго ж вы — бацьказабойца! Пакуты вы зазнаеце цяпер. Гарэць вам у пекле вечна! *(Адварочваецца ад Казіміра, корпаецца ў стосе папер на стале.)*

**Казімір** *(жагнаючыся)*. Бог вам суддзя, пане суддзя. А я, пакуль жывы, буду прасіць Бога, каб пацвердзіў сваю прысутнасць у нашым свеце. Каб зліатаваўся Ён з нас, грэшных...

**Станкевіч** *(паварочваецца)*. Дурань вы, пане Казімір.

**Казімір.** Прыемна размаўляць з добра выхаваным чалавекам.

**Станкевіч.** Паразважалі б лепш пра тое, чаму Бог дапускае ліха? Мабыць, каб людзі навучыліся адасабляць дабрыню ад злосці.

**Казімір.** Шкадую я, што меркаванне наконт маёй віны ваша міласць вынеслі зусім не на падставе разваг пра Боскую мудрасць.

**Станкевіч.** Намякаеце на гасцінцы, прынесеныя пані Марынай? На адзенне, дасланае яе дзядзечкам?

**Казімір.** Вы не першы і не апошні суддзя, які любіць дарункі.

**Станкевіч.** А ці ведаеце, якія найкаштоўныя дарункі для мяне? Калі душагуба вешаюць на шыбеніцы, а гвалтаўніка дзяцей садзяць на кол. Калі зганьбаваная дзяўчына паводле судовага выраку атрымлівае сорак коп грошай з маёмасці крыўдзіцеля. Калі бязвінна асуджаны атрымлівае волю ды выходзіць са смуроднай вязніцы. У такія хвіліны я кажу: «Дзякую, Божа, за такія падарункі. Дапамажы і падтрымай мяне». Але ж Гасподзь анічога не дорыць тым, хто анічога не робіць. Добрыя справы Яму важней, чым малітвы слабавольных. Ён хоча, каб мы самі ператварылі гэты свет лепшым чынам. І я, наколькі мне хапае розуму, імкнуся дбайна паслужыць Яго намерам.

**Казімір.** Значыцца, кат будзе крышыць мне рэбры, каб гэты свет зрабіўся лепшым? Дзівосным чынам успрымаеце вы Боскія намеры!

**Станкевіч.** Скажу вам шчыра — я не ўхваляю катаванне. У вышуку праўды бізун, прэнг і абцугі памочнікі благія.

**Казімір.** Ваша міласць, мабыць, здзекуецца з мяне?

**Станкевіч.** Цяпер кажу вам праўду. Не заўсёды я быў суддзёю. Не заўсёды марыў ім стаць. У маладыя гады я пакахаў адну паненку з Маладзечна. Марыў злучыцца з ёй законным шлюбам. Здабыў на тое згоду бацькі. Ды на бяду яе бацюхна ўлез у змову супраць каралеўскай улады. Як належыць у такіх выпадках, узялі на катаванне ўсю сям'ю. Дзяўчына, што была душы маёй уцеха, не ведала пра бацькавы сакрэты, аднак суровасці дазнання не вытрымала. Памерла на дзвесце першым удары. А я застаўся адналюбам. *(Уздыхае.)*

**Казімір.** Хацеў бы я суцешыць вашу міласць. Ды разумею, што аніякія словы не змякчаць пякучага адчаю ў вашым сэрцы.

**Станкевіч.** З чаго пускаць мне ў сэрца роспач? Я мяркую, што яна добразычліва пазірае на мяне з нябёсаў. Мы неадменна з ёй злучымся. Пасля маёй смерці. А да тае пары я мушу шмат чаго яшчэ здзейсніць. Дзеля яе павінен я старацца, каб не пацярпелі бязвінныя, і каб аніякае злачынства не засталося без пакарання.

**Казімір.** І пасля ўсяго, што расказалі, адашлеце мяне на прэнг?

**Станкевіч** *(моршчыцца)*. Назад у клець, а не на прэнг. Вы, пане Казімір, бы той шчанюк, які не вырас у ваўкарэза. Рыбная лоўля!

**Казімір.** Што?

Уваходзіць Віславух.

**Віславух** *(Казіміру)*. «Рыбная лоўля» ў нас выраз адмысловы. Як ён прагучыць, я мушу з'явіцца.

**Казімір.** Вы ўвесь час падслухоўвалі ў калідоры?

**Віславух.** І краем вока пазіраў у шчыліну. Як заўсёды, калі мне загадае яго міласць. *(Указвае.)* Вы мелі пад рукою качаргу. А пан суддзя, калі палохаў, знарок да вас спінаю павярнуўся. Калі б насамрэч мелі вы злачынныя намеры, то, пэўна, паспрабавалі б праламіць яму галаву і ўцячы.

**Казімір.** Вы, бачу я, майстры на вытанчаныя хітрыкі.

**Станкевіч.** Мы хітрасць гэтую празвалі «рыбнай лоўляй». Тут я — прынада на кручку, а сакратар мой — вуда. А вы, пане Казімір, зусім не шчупак. Вы — карась. Вас ледзьве не падалі з падліўкаю на стол. *(Віславуху, указваючы на Казіміра.)* Пане Фелікс, назад яго ў клеці. Ды пастаўце вартаўнікамі двух чалавек з прыслугі. Забойца бацькі не ўтаймуецца, пакуль не пахавае і сына.

**Казімір.** Ці можна мне ў лазню, ваша міласць?

**Станкевіч** *(Казіміру)*. Ваш бацюхна схадзіў у лазню — і цяпер на могілках. Рана вам туды. Дарэчы, чуў я, быццам французы вынайшлі новую тэорыю душы. Маўляў, душа знаходзіцца не ў крыві, а ў водары чалавека. На гэты конт паразважайце вольным часам.

**Казімір.** Прашу, хаця б ручнік мне чысты. І вядро вады.

**Станкевіч** *(Віславуху)*. Распарадзіцеся. І запрасіце да мяне пані Марыну. Адну. Без аканома.

**Казімір** *(Станкевічу)*. Хай Бог спрыяе вашым добрым справам!

Віславух штурхае Казіміра да дзвярэй. Выходзяць.

## Дзея XI

Станкевіч расхаджвае па пакоі, прымяраецца.

**Станкевіч** *(сабе)*. Спыніцца тут?.. Пайсці туды... *(Выхоплівае з рукава корд, хавае назад.)* Што ж, я гатовы да прыязнай размовы.

Уваходзіць Марына Карловіч.

**Марына** *(прысядае ў паклоне)*. Вашу міласць прыгнятае сумны роздум? Ці не заўгодна адпачыць і павячэраць?

**Станкевіч** *(гулліва)*. Пакуль нам рана абцяжарваць страўнік. Як ваша мосць мае пачуе словы, то, мабыць, закружыцца над зямлёй.

**Марына.** Што ж мне прамовяць вашы вусны?

**Станкевіч.** Злачынца выяўлены. У смерці пана Карловіча вінаваты Казімір. Заўтра дастаўлю яго ў Менск. Там зламысніка чакаюць дазнанне, суд і пакаранне.

**Марына.** Ваш праніклівы розум усялякую таямніцу ўведае, усялякую складанасць разблытае, усялякую загадку распазнае.

**Станкевіч.** Аднак жа канчатковы вердыкт па вашай справе будзе вынесены не раней, як праз колькі тыдняў. Мо праз колькі месяцаў. У горшым выпадку, праз колькі год. А да тае пары юрыдычна...

**Марына** *(засмучана)*. Я не маю правоў на маёмасць мужа.

Уваходзіць Ян Тур.

**Станкевіч.** Як мне агоркла пра такое мовіць! Але чаму чароўнае аблічча ваша агарнулася роспаччу? Нібы сонца закацілася за хмару, прыемная ўсмешка знікла з вашых вуснаў. Працэс разгляду вашай справы можна і паскорыць. Ад вас толькі ўсё залежыць...

**Марына** *(Туру, рэзка)*. Пан Тур, яго міласць жадае гаварыць са мной сам-насам. Чужыя вушы нам недаспадобы.

**Тур** *(бярэ качаргу, адчыняе засланку печы)*. Я правяраю печку.

**Станкевіч** *(Туру)*. Дзякуй вам за клопат. Вы лепей загадайце, каб мне напалілі лазню. І самі прынясіце збан віна.

**Тур** *(старанна варушыць вуголле)*. Усё зраблю для вашай міласці.

**Станкевіч** *(Марыне)*. Ах, мілая пані, я бачу, як вам цяжка! Між тым, жыццё вашае павінна ясным быць. О, як удзячны я Пану Богу, Які адарыў нас, грэшных, пачуццём кахання! Гляджу на вас, паваньку прыгожую, і гатовы мілаваць вас збытачнай любоўю.

Тур сутаргава выпускае качаргу, але Станкевіч, павярнуўшыся да яго спінаю, быццам анічога не чуе.

**Марына.** Красамоўнасць вашай міласці лёстачкамі душу маю вымае, салодка лашчыць і да граху схіляе.

**Станкевіч.** Ах, наймілейшая любачка, цяпер, калі справа амаль што вырашана мною на вашу карысць, пара задаволіць нам патрабаванне прыроды і па сардэчнай частцы.

**Марына.** Ад слоў такіх губляю розум.

**Станкевіч.** Пані ясная, усцешце маё смутнае сэрца сваёй ласкай. А я дакляруў, што земскі суд у кароткі тэрмін прызнае вашае права законна валодаць маёнткам, вёскаю Дурыніцы і ўсімі яе жыхарамі.

**Марына.** Я згодна на ўсё, што вашай міласці заўгодна.

**Станкевіч.** На гэты конт пазней мы пагаворым падрабязней. Я адпачну, памыюся ў лазні, у прыцемках прыйду ў вашу святліцу. Сам-насам нетаропка мы абмяркуем усе акалічнасці вашай справы.

**Марына.** Вялікую з таго я радасць маю.

**Станкевіч.** О, дарачка, ясачка, як вы ўмееце распаліць мужчыну! Непараўнальная лагоднасць ваша зняволілі мой розум і намеры!

Тур з бразгатам зачыняе засланку печы, выходзіць.

**Станкевіч** *(азірнуўшыся, Марыне)*. Пан Тур пачуў нас?

**Марына.** Ваша міласць гаварылі ціха.

**Станкевіч** *(суправаджаючы Марыну да дзвярэй)*. Лёс кожнаму аддзячыць па заслугах. Мы з вамі заслужылі ноч кахання.

**Марына** *(кланяючыся)*. Дзякую вашай міласці за тое, што з ласкі сваёй абралі мяне за верную служэбніцу. *(Выходзіць.)*

## Дзея XII

Уваходзіць Віславух.

**Віславух** *(занепакоена)*. Я не пачуў слоў «рыбная лоўля».

**Станкевіч.** Між тым яна распачалася. Чарвяк маны насаджаны і вуда закінута ў страшныя віры. Напэўна не ведаю, якую рыбіну зловім.

**Віславух.** Або якая рыбіна нас з сабой на дно зацягне.

Станкевіч здымае пояс, кунтуш і жупан.
Віславух складвае яго адзенне ў шафу.

**Станкевіч.** Будзьце непрыкметным, але напагатове, пане Фелікс. Сваё жыццё зноў давяраю вам.

**Віславух** *(гнеўна)*. Жыццём сваім вы рызыкуеце занадта часта!

**Станкевіч.** Арабы кажуць: страх душу з’ядае. Ці шмат мы з вамі злодзеяў схапілі б, калі б дрыжалі перад небяспекай?.. Сёння паўтару я шлях, якім ішоў Карловіч у ноч свайго забойства.

**Віславух.** Мяркуеце, зламыснік вас падсцеражэ?

**Станкевіч.** Мажліва, ён будзе не адзін.

**Віславух.** Вы таксама не адзін. Я з вамі.

**Станкевіч.** Вам лепш стаіцца ў хмызах пры дарозе.

**Віславух.** Як вам заўгодна. *(Выцягвае з шафы мех, працягвае.)* Тут чыстая бялізна і ручнік. Лёгкай вам пары.

Станкевіч закідвае мех за плячо, жагнаецца, выходзіць.

## Дзея XIII

**Віславух** *(парадкуе судзейскія рэчы, гаворыць сабе)*. Што вы за чалавек, пане Андрэй!.. Жыццё шануеце, нібы шчарбаты талер... Забыліся, у якой дзяржаве жывяце? Хто ў нас трымаецца законаў?.. А вам важна, каб зважалі на закон хаця б у Менскім павеце... Дзеля чаго ўсе высілкі ды намаганні?.. Забудуць вашы слаўныя ўчынкі раней, чым самога знясуць на магілкі!

Уваходзіць Раіна Дастаеўская, прысядае ў паклоне.

**Раіна.** Маё вам шанаванне, пане Фелікс. Не першы дзень я пазіраю за вамі праз акно. І адчуваю, што бяда выспявае.

**Віславух.** Пан суддзя падазрае, што вы, панна Раіна, пра ўсё, што адбылося тут, ведаеце куды больш, чым казалі дагэтуль.

**Раіна.** Грэшніца я вялікая. І расплата мне будзе страшная. Ды суцяшэннем мне ў пекле стане думка, што адзіную хрысціянскую душу я ўратавала. Вашу, пане Фелікс.

**Віславух.** Вельмі ўдзячны вашай мосці за такі клопат.

**Раіна.** Уцякайце з маёнтка. Хутчэй. Можа, паспееце. *(Здымае з шыі медальён, раскрывае яго.)* І вось яшчэ надзейны сродак, які вас уратуе ад навалы. У гэтым медальёне захоўваецца паперка, на якой я напісала малітву ўсім святым. *(Вешае медальён на шыю Віславуха.)* Анёлы мяне пачуюць і вас схаваюць ад забойцы.

**Віславух.** Ці ведаеце, хто ён? Гаварыце!

**Раіна.** Досыць роспытаў. Бывайце, пане судзейскі сакратар.

**Віславух.** Куды ж вы?

**Раіна.** Барані вас Бог. *(Кланяецца, выходзіць.)*

**Віславух** *(сабе)*. Дужа прынадная белагалоўка!.. Пошаптам мне мовіла пра малітвы, а ў самой быццам заквецць распусцілася на шчочках... Ах, цалаваў бы яе губкі малінавыя, гладзіў бы валасы руністыя! Былі б мы слаўная парачка, баран і ярачка! *(Уздыхае.)* Глупства верзяце, пан сакратар. Рыхтуйцеся лепш да спаткання з забойцам. *(Вешае на бок шаблю, суе за пояс пісталет. Выходзіць.)*

***Заканчэнне будзе.***

# ДЫК ХТО Ж ТАМ ІДЗЕ?

***З пытаннямі на тэму моладзі ў літаратурным працэсе вырашылі звярнуцца да Марыны ВЕСЯЛУХІ. Чаму? Маем некалькі прычын.***

***Галоўная: яе ўзрост сінанімічны назве нашага часопіса. Другая: яна актыўная, мабільна творыць, а значыць, ведае працэс знутры. Трэцяя: працуе ў розных кірунках — навука (вучыцца ў аспірантуры), крытыка (рэгулярна выступае з матэрыяламі пра актуаліі літпрацэсу), журналістыка (з'яўляецца рэдактарам аддзела «Кніжны свет» у газеце «ЛіМ»), урэшце, займаецца літаратурна-мастацкай творчасцю (да гэтай сваёй праявы, аднак, адносіцца крытычна, а значыць, і наконт творчасці іншых будзе імкнуцца да аб'ектыўнасці). Чацвёртая: Марына Весялуха з глыбінкі, нарадзілася ў Міёрах Віцебскай вобласці, гадавалася на Слонімшчыне, закончыла Баранавіцкі ўніверсітэт. Цяпер — у сталіцы.***



**— Ты добра ведаеш сучасных літаратараў, як паводле кніг, так і асабіста. Скажы, хто ідзе цяпер у мастацкую літаратуру?**

— Па сутнасці, як і заўсёды, людзі, чыя прафесійная дзейнасць — актуальная ці будучая — хоць нейкім чынам звязана са словам. Студэнты-філолагі, журналісты, настаўнікі, радзей — навучэнцы факультэта міжнародных адносін, і яшчэ радзей — матэматыкі, эканамісты, вайскоўцы, генетыкі, праграмісты, біёлагі. Хоць і такія шчаслівыя выключэнні ёсць сярод маіх знаёмых. Але ў цэлым усе гэтыя людзі амбітныя, часам нават занадта.

**— Цікава, якая моладзь, на твой погляд, ідзе ў навуку ўвогуле, а тым больш у філалогію? Ці ёсць адрозненні паміж новым і старым пакаленнем філолагаў?**

— Ты правільна робіш, што падзяляеш гэтыя групы: мастацкая літаратура і філалогія. І насамрэч сёння адлегласць паміж імі нашмат большая, чым, на маю думку, можа і павінна быць. Неяк так у нас павялося, што калі ты філолаг, то пішаш толькі навуковыя артыкулы, час ад часу выступаеш на канферэнцыях і публікуешся ў зборніках навуковых работ, якія выходзяць накладам у 100 асобнікаў. Таму філолагі рэдка бываюць актыўнымі ўдзельнікамі літаратурнага працэсу. І, думаецца, дарма. Выказваць свае думкі можна не толькі ў паэзіі ці прозе, але і ў крытыцы, публіцыстыцы. Так і ўзровень тэкстаў у літаратурна-мастацкай перыёдыцы павысіцца, і філолагі «выйдуць з ценю», а з іх прац пазнаёміцца большая колькасць чытачоў. Бо як можна даведацца пра вартасці тэксту, калі яго чытаюць 2-3 чалавекі?

Толькі адзінкі з маіх калег па аспірантуры актыўна выступаюць у друку, і мяне гэта, па шчырасці, здзіўляе.

Так, можна актыўна пісаць дысертацыю, засяродзіцца толькі на сваёй тэме, наведваць канферэнцыі. Але калі ты вывучаеш літаратурны працэс, а сам не з’яўляешся яго часткай, ці хаця б «уключаным назіральнікам» — ці не парадокс гэта? Але і тут ёсць шчаслівыя выключэнні. Да прыкладу, Маргарыта Аляшкевіч, Ціхан Чарнякевіч — маладыя навукоўцы, якія працуюць над сур’ёзнымі тэмамі і не «цураюцца» часта выступаць у друку з публікацыямі. Сапраўды, «левыя публікацыі» забіраюць час і сілы, але гэта спосаб папрацаваць над сваім іміджам, атрымаць дадатковых чытачоў і ганарар за публікацыю.

Дарэчы, навукоўцы старэйшага пакалення больш актыўна друкуюцца ў перыёдыцы, выступаюць на прэзентацыях і ў цэлым удзельнічаюць у літаратурным жыцці краіны.

Пра тое, хто ідзе ў філалогію, складана сказаць адназначна. Гэта і прынцып «як няма нідзе дарогі», бо не сакрэт, што конкурс на філалагічныя спецыяльнасці досыць нізкі; і свядомы выбар, асабліва калі разважаць пра навуку (тут без уласнага жадання нічога не зробіш)… Пытанне хутчэй у іншым: працаваць ці не працаваць па спецыяльнасці? А ў выпадку з навукай: сумяшчаць працу з навуковым даследаваннем ці траціць усе сілы і час толькі на напісанне дысертацыі?

Ёсць і адны, і другія. Сярод маіх калег-аспірантаў — і тыя, хто прынцыпова не жадае працаваць, каб не марнаваць час, які можна ўкласці ў дысертацыю, і тыя, хто працуе на адной ці нават дзвюх працах і лічыць, што гэта дысцыплінуе, стварае расклад дня, а дысертацыйным даследаваннем займаюцца ўжо хутчэй дзеля задавальнення. Мне бліжэй другі варыянт. Пісаць толькі дысертацыю было б сумна, нудна. Праца ж дадае актыўнасці (асабліва журналісцкая) і прыносіць прыбытак (што вельмі важна!), да таго ж журналістыка вучыць хутка пісаць, выказваць думкі так, каб тэкст быў ад пачатку зразумелы, чытэльны, цікавы, лагічна выбудаваны. Нехта скажа, што гэта псуе навуковы стыль, а нехта, наадварот, заўважыць, што пасля такіх практыкаванняў і дысертацыя атрымаецца якасна зусім іншай.

**— Адвечная нацыянальная праблема, паднятая яшчэ Ігнатам Абдзіраловічам, — суіснаванне ў беларускай культуры Усходу і Захаду. У які бок глядзіць творчая моладзь?**

— Я ўжо казала, што сённяшняя творчая моладзь надта амбітная. Адсюль і вынік — глядзяць хутчэй на сябе. Мала чытаюць, не цікавяцца творчасцю калег, не ведаюць нават класіку. Не ўсе, канешне. І яшчэ, яны часам надта ўпэўнены ў сваёй геніяльнасці і не жадаюць аддаваць творы на рэдактуру, а калі і аддаюць, то кожная праўка робіцца ледзь не са скандалам. Але гэта ў горшых выпадках.

Калі разважаць пра добрыя прыклады, пра тых, хто імкнецца зрабіць штосьці вартае ўвагі, а не проста запісвае ўсе свае думкі і прадстаўляе на суд чытача ў «сырым» выглядзе, то глядзяць хутчэй на айчынную і рускую класіку — як у паэзіі, так і ў прозе. Беларускамоўныя — хутчэй на Захад, рускамоўныя — на Усход.

Думаю, тут пытанне не ў арыентацыі, а ў адукацыі, імкненні да самаадукацыі і развіцця. Мала хто з маладых творцаў ведае замежную мову на такім узроўні, каб чытаць творы замежных аўтараў у арыгінале, мала хто сам цікавіцца вопытам сваіх маладых і старэйшых калег з іншых краін. А адсюль — беднасць вобразаў, стандартнасць формы (ці наадварот, недарэчнасць выкарыстання новых форм), страх перад эксперыментамі.

Нельга казаць, што ўсё так кепска. У нас ёсць і выдатныя маладыя творцы, уменню якіх працаваць са словам можна толькі пазайздросціць. Вучыцца можна ў іх: Ігар Кулікоў, Антон Францішак Брыль, Цімур Хоміч, Марыйка Мартысевіч, Віталь Рыжкоў, шэраг іншых аўтараў. Ёсць тыя, чыёй працавітасці можна толькі здзіўляцца — Сяргей Календа, Анка Упала, перакладчыкі з «Прайдзісвета». Але ёсць і тыя — іх, на жаль, больш, чые зборнікі проста немагчыма чытаць, бо вершы — аднастайныя (рэгулярныя, з дзеяслоўнай рыфмай), проза — нецікавая, публіцыстыка — шэрая і кепска выбудавана структурна.

Рашэнне тут (для другой групы аўтараў) — больш чытаць, эксперыментаваць з вобразнасцю і формай, не баяцца памыліц-

ца, слухаць парады рэдактараў. Сапраўдны пісьменніцкі талент сябе праявіць з часам. А графаман так і застанецца самаўпэўненым графаманам.

І думаю, што шлях да ўзбагачэння літаратуры ўсё ж на Захадзе. З рускай літаратурнай спадчынай мы збольшага знаёмы, творчасць аўтараў «больш усходніх», як мне падаецца, нам зусім чужая і таму незразумелая.

**— Раней маладыя творцы, абмежаваныя малалікімі літаратурнымі выданнямі, часта і падоўгу стаялі са сваімі вершамі ў так званай часопіснай чарзе. Ці існуе сёння праблема публікацыі?**

— Дзе публікавацца? Па-мойму, гэта не праблема. Існуе вялікая колькасць літаратурна-мастацкіх выданняў, якія з задавальненнем змесцяць на сваіх старонках таленавітыя, якасныя творы маладых аўтараў. Важна толькі быць самакрытычным і сціплым. Не ўсё напісанае варта публікаваць (як жа мне цяпер сорамна за некаторыя апублікваныя вершы!), бо напісанае застаецца, і гэтыя творы будуць час ад часу «ўсплываць» у размовах з сябрамі і знаёмымі, якія абавязкова на іх натрапяць у самы нечаканы момант і не факт, што яны знойдуць вашу самую паспяховую публікацыю.

Яшчэ дадам. Вядомая амерыканская паэтка Эдна Мілэй заўсёды падкрэслівала, што выдаць зборнік вершаў — гэта амаль тое самае, што апынуцца на публіцы без штаноў. Калі вы гатовы «зняць штаны» перад шырокай аўдыторыяй чытачоў, то смела нясіце свае творы ў рэдакцыі і выдавецтвы.

**— Апошнім часам я назіраю пэўную раз’яднанасць мінскіх і, скажам так, астатніх літаратараў. Нягледзячы на эпоху інфармацыйнага выбуху і інтэрнэт-магчымасці, творца з правінцыі амаль заўсёды застаецца да пэўнай ступені самотным. Мне цікавае тваё меркаванне наконт гэтай расцятасці. Што рабіць?**

— Адрозненне паміж літаратурным жыццём у цэнтры і глыбінцы больш значнае, чым можа падавацца на першы погляд. Мноства сустрэч, прэзентацый, шматлікая літаратурная і калялітаратурная тусоўка — вось цэнтр. І рэдкія прэзентацыі, прыезды пісьменнікаў як свята, лічаныя адзінкі маладых людзей, якія спрабуюць сябе ў літаратуры (і таму малая колькасць аднадумцаў), і яшчэ меншая колькасць «жывых прыкладаў поспеху», то бок настаўнікаў літаратуры, вядомых пісьменнікаў, якія могуць стаць першымі аўтарытэтнымі рэдактарамі і дарадцамі — вось глыбінка.

Моладзь з цэнтра можа ВЫБІРАЦЬ: тусоўку, настаўніка; можа ВУЧЫЦЦА творчасці ў школе маладога пісьменніка, на аддзяленні філасофіі/літаратуры Беларускага калегіума, наведваць сустрэчы літаб’яднанняў, майстар-класы вядомых айчынных і замежных творцаў… Маладыя ж творцы з глыбінкі не маюць такога выбару і такіх магчымасцей.

Адсюль і розныя праблемы. Для цэнтра: як не згубіцца, неператварыцца ў «літаратурнага тусоўшчыка» (такія, на жаль, ёсць) і выбраць сапраўды правільны варыянт. Для рэгіёнаў: як без аўтарытэтаў і ўплывовых настаўнікаў, ва ўмовах амаль поўнай адсутнасці літаратурнага атачэння знайсці сябе ў творчасці. Ёсць, канешне, добры дапаможнік — інтэрнэт, які дасць інфармацыю, пакажа фотаздымкі ці відэа, але нездарма ж кажуць: лепш адзін раз пабачыць… а ў гэтым выпадку — яшчэ і героем стаць, сутворцам падзеі ў літаратуры.

Ёсць яшчэ адзін аспект: творчая сціпласць. Моладзь са сталіцы больш нахабная, больш упэўненая і ў сабе, і ў сваіх творчых здольнасцях. А ў глыбінцы часам думаюць: ого-го, сталіца, там такі ўзровень! Куды нам… І моцна памыляюцца! Бо, думаецца, гэтая адасобленасць, нераспешчанасць сапраўды спрыяе творчасці. Калі кожная кніга ўспрымаецца як падзея, калі пра выданне складваеш сваё меркаванне не па якасці і яркасці прэзентацыі, а па тэксце, які ты сапраўды прачытаеш, а не проста паслухаеш чыйсьці расповед, калі пісьменнік — перш за ўсё імя на вокладцы кнігі, яе аўтар, а не дзядзька, які напіўся на імпрэзе.

І ў першым, і ў другім выпадках рашэнне адно — працаваць. Не звяртаючы шмат увагі на іншых, не трацячы шмат сіл на тусоўку — у сталіцы. І для глыбінкі — засяроджваючыся на сабе, сваіх думках, пачуццях, памкненнях. Натуральна, вучыцца. І ўсё абавязкова атрымаецца.

Наталля ЗАЯЦ

# НЕЗНІКОМАЕ СВЯТЛО

***Пісьмянкоў А. Не знікай : выбраныя творы; укладанне А. Пісьмянковай. — Мінск : Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012 — 296 с.***

У мінулым, 2012 годзе, пабачыла свет новая кніга Алеся Пісьмянкова, мастака адметнага лірычнага тэмпераменту і пазнавальнага почырку. Зборнік выбраных вершаў і эсэ «Не знікай», падрыхтаваны Аленай Пісьмянковай, стаў сведчаннем таго, што жыццё выдатнага паэта, прынамсі, літаратурнае, працягваецца. Кніга папоўніла каштоўны, але ў параўнанні з равеснікамі-калегамі па літаратурным цэху невялікі набытак аўтара. У той жа час няма ў Пісьмянкова выпадковых, «прахадных» вершаў. З самага пачатку яго тэксты вызначаліся меладычнасцю, вытанчанай вобразнасцю, «тэхнічнай» дасканаласцю.

Імя Алеся Пісьмянкова нярэдка асацыіруецца з яго радзімай — усходняй Магілёўшчынай. Сапраўды, у мастацка-вобразным свеце яго лірыкі галоўнае месца займае Бесядзь — ягоная, асабістая; навакольныя вёскі Бялынкавічы, Канічы, Вялікі Бор, Белы Камень... На працягу ўсяго паэтычнага шляху Пісьмянкоў «чытае тапаніміку» родных мясцін, адкрывае іх наноў. Пры відавочнай «закаханасці» ў малую радзіму паэт выказвае свае пачуцці стрымана, і гэта ўспрымаецца як сведчанне іх сапраўднасці. У пісьмянкоўскім вершы за знешняй строгасцю і нешматслоўнасцю хаваюцца ўсхваляванасць і ўнутраная экспрэсія. Творы вызначаюцца песеннай, рытміка-інтанацыйнай арганізацыяй, моўнай мелодыкай: *«Ты адбі мне тэлеграму, / Што і ў нашай старане / Ў ціхай вёсцы Белы Камень / Выпаў белы-белы снег. / Вёсак многа. Ёсць другія. / Ў вёсках нашы карані. / У мяне не настальгія — / Проста сум па чысціні»* («Ты адбі мне тэлеграму…»). Пры апісанні роднага пейзажу мастак аддае перавагу празрыстым, акварэльным фарбам. Адной з яго любімых паэтычных карцін з’яўляецца заснежаны зімовы краявід («Пагодліва й марозна...», «Зімовая казка», «Чыстае», «Зіма»).

«Любоў вялікая» да Радзімы ў Пісьмянкова неад’емная ад любові да знаёмых з дзяцінства мясцін, да блізкіх, дарагіх людзей — землякоў, родных і, у першую чаргу, да маці. Вобраз маці прысутнічае ў ранняй лірыцы паэта, але ключавым, канцэптуальна значным ён становіцца ў творах апошніх гадоў: *«Малюю — / Мілую / Радзіму малую: / Закутую рэчку, / Лясное мястэчка. / Малюю старанна / Сярэбраны ранак, / Сасоннік, алешнік, / Рабіну, канешне ж, /З адвечнай самотай / На сінім сумёце. / Вось дом / Пад бярозай, / Вось дым / На марозе, / Вось след / Каля брамы: / МАМА...»* («Бялынкавічы»). Пасля смерці самага блізкага чалавека паэтам авалодваюць горыч і смутак — асірацелы лірычны герой многіх вершаў не мае душэўнага апірышча, востра адчувае ўласную адзіноту («Папрок», «Прыязджай», «Ноч, поўня», «Дом і дым»). *«Эх, маці, маці, / Як пуста ў хаце! / Куды ні глянеш — / Душу параніш. / Як адзінока / Пад поўні вокам, / Як невыносна!»* («Ноч, поўня»). Параненая, надламаная душа знаходзіць часовае збавенне толькі ў снах, пераносячыся ў *«шпаком разбуджанае ранне», «бацькам выбелены сад»*, у якім шчыруе жывая, усмешлівая матуля («Настальгія па ідыліі»). Аднак *«вярнуць той кадр назад»*, аднавіць разбураную ідылію немагчыма.

У лірыцы паэта часта ўзнікае матыў вяртання і ў сувязі з ім — матыў душэўнай раздвоенасці. У горадзе Пісьмянкоў згадвае вясковую даверлівасць і адкрытасць («Да вытокаў», «Успамін пра давер», «Продкі», «Санны след», «Зноў пра санны след»). Лірычны герой адчувае няпэўнасць свайго становішча: *«Я не той, не свой, вясковы / І зусім не гарадскі»* («Вечар вынырнуў нясмела…»). Пачуццё душэўнай неўладкаванасці яшчэ больш узмацняецца ад усведамлення таго, што ад’езд з вёскі можа абярнуцца

стратай генетычнай сувязі паміж продкамі і наступнымі пакаленнямі *(«Страшна, што сын-гараджанін / Босы баіцца ступіць на траву»)*. Нягледзячы на іншае месца жыхарства, духоўная прывязанасць да малой радзімы для Пісьмянкова выступае своеасаблівым абярэгам ад турбот і непрыемнасцей, крыніцай энергіі — жыццёвай і творчай: *«Пакуль дыхаю родным дымам, / Мне пад небам маім нязмрочна, / Як за пазухай у радзімы, / Як народжанаму ў сарочцы»* («Дзень на радзіме»). У думках ён прымервае іншы, не літаратурны лёс: *«Мог бы й я застацца дома, / Несці вернасць баразне, / Бо выбітных і вядомых / Тут хапае без мяне. / Не пра гэтае размова, / Не пра гэта, косю, сказ: / Проста ў Сашкі Пісьмянкова / Мог бы іншы быць Пегас»* («Развітанне з бацькавым канём»).

Адметнасць Пісьмянкова заключаецца ва ўменні лаканічна і разам з тым гранічна дакладна перадаць пачуццё, эмоцыю. Кожнае слова ў паэтычнай страфе канцэнтруе ў сабе глыбокі сэнс, невыпадкова крытыкі параўноўваюць яго творы з эскізамі, накідамі — за мікравобразамі бачыцца зместавая перспектыва і эмацыйная аб'ёмнасць. Паказальны ў гэтых адносінах верш «Краявід» (зб. «Думаць вершы»): *«Малюнак някідкі / Уздрыгнуць прымусіў: / Над рэчкай — ракітнік. / На поплаве — бусел. / І — хата ў бярозах / На самым узгор'і... / І слёзы, і слёзы / Казычуць у горле»*. Часта Алесь Пісьмянкоў выкарыстоўвае эліптычныя канструкцыі, пазбягаючы дзеясловаў, што надае вершу статычнасць. Дзеясловы ўжываюцца толькі для «контурнага» пазначэння тых складаных уражанняў, якія ўзніклі ад сузірання родных ваколіц.

Рамантыкам паўстае паэт у вершах на гістарычную тэму. У ліра-эпічным творы «Балада роду» аўтар распавядае пра свайго даўняга продка, стварае вобраз мужнага і годнага чалавека: *«З пяром і граматай у згодзе / Ён жыў. І незнарок, / Казалі, князь пры ўсім народзе / Яму імя даў — Пісьмянок»*. У іншай, эскізна-лаканічнай, манеры створаны верш «Званар» (першапачатковая назва — «Ля карціны П. Сергіевіча "Званар"»). Канкрэтны вобраз званара выклікае ў аўтара абстрактна-паняційныя асацыяцыі, нараджае думку пра ўзаемазалежнасць існавання народа і яго мовы: *«...Былым павеялі вякі / І прыгадалася нанова: / Каб у народа вырваць мову, / Ў званоў ірвалі языкі»* .

Паэт стварае галерэю вобразаў гістарычных асоб, яго цікавяць не толькі знакамітыя персанажы («Дума Вітаўта», «Насовіч, 1870», «Кастусь і Марыся»), але і «люд паспаліты». У такіх творах мастацкая дэталь выступае імпульсам для развіцця паэтычнай думкі. Так, у вобліку летапісца аўтар вылучае ягоныя вочы, у якія увабраны *«боль стагоддзяў»* («Вочы летапісца»); за скупым, лапідарным запісам у летапісе «мужествовав крепко» яму бачыцца бясстрашны воін у крывавай баталіі («Якаў Палачанін»). Мастацкая рэканструкцыя характару беларуса, які жыў шмат стагоддзяў таму, у лірыцы Пісьмянкова мае сваю спецыфіку. Аўтар нібы ўступае ў завочную палеміку з літаратурнымі папярэднікамі, прадстаўнікамі рэалістычнага кірунку, не прымаючы растыражаваны вобраз прыгнечанага, забітага мужыка-беларуса. Паэту, відавочна, больш блізкі рамантычны, караткевічаўскі погляд на нацыянальны характар: у яго беларус — велічная, высакародная, гераічная, бясстрашная, адукаваная, вартая павагі і захаплення асоба. Падобная рэпрэзентацыя не супярэчыць гістарычнай праўдзе, садзейнічае абуджэнню нацыянальнага гонару, а таму не можа не імпанаваць.

Калі падзеі і асобы далёкага мінулага паўстаюць у ідэальным асвятленні, то перыпетыі XX стагоддзя ўзнаўляюцца ў драматычным ключы. Складаныя, неадназначныя моманты савецкай гісторыі аўтар праецыруе на жыццё канкрэтнага чалавека. Так, трагедыя маці, што не дачакалася сыноў з фронту, паказваецца на лёсе паэтавай бабулі Алёны («Чыстая балада»); праблема рэпрэсій гучыць у аповедзе простага селяніна, у якога кватараваў «вораг народа» («Кватарант»). Алесь Пісьмянкоў шукае прычыны сучаснай бездухоўнасці і знаходзіць іх у руйнаванні храмаў («Царква»), у апантанасці і бяздумнасці служак камуністычнага рэжыму («Камісар»).

З ліку гістарычных вылучаецца верш «Мае рэліквіі» (зб. «Чытаю зоры»): *«Не багата па ліку / Ад продкаў рэліквій: / Сявенька для жыта, / Меч старажытны. / Шолам з Нямігі, / Скарынава кніга. / Ад каня Кастусёва / На шчасце падкова»*. Абвяшчаючы такім чынам уласныя каштоўнасныя прыярытэты, паэт выяўляе сваю грамадзянскую пазіцыю.

Варта адзначыць, што ў творчасці Пісьмянкова грамадзянская лірыка ў чыстым

выглядзе, калі пад ёю разумець вершы, у якіх адкрыта абвяшчаюцца адносіны аўтара да сацыяльнага жыцця, не прадстаўлена. Яго мастацкія тэксты пазбаўлены прамой ацэначнасці, трыбуннасці, эмацыйнага напалу, характэрных для гэтай жанравай формы. Паэт інтравертнага тыпу, Алесь Пісьмянкоў сваё стаўленне да негатыўных тэндэнцый у развіцці беларускага грамадства, найперш да інертнасці народа, непраяўленасці нацыянальнага пачуцця, выказваецца апасродкавана, прызнаючы і ўласнае дачыненне да такога сумнага стану рэчаў: *«...Не наракаю на народ, / Які не стаў народам. <...> / Скажы, скажы, каго тут крыць, / Бо ёсць даўно нагода? / Ды што дарэмна гаварыць, / Я сам, браток, з народа»* («Год не прыходзіцца на год…»). Актуальныя сучасныя праблемы — засілле новых гаспадароў, сённяшнія ўседазволенасць і маральная разбэшчанасць — аўтар часцей закранае ў гумарыстычных вершах («Варона і сыр», «Сучасная лексіка», «Метамарфозы», «Воўк-бізнесмен»). Уздымаючы вострыя сацыяльныя пытанні, паэт усё роўна застаецца ўраўнаважаным, добразычлівым, шляхетна-ветлівым.

Для лірыка Пісьмянкова складаны сацыяльны свет не з’яўляецца асноўным аб’ектам паэтызацыі. Створаная аўтарам мастацкая рэальнасць падкрэслена суб’ектыўная, заснавана на самасузіранні. З самага пачатку лірычнага героя суправаджаюць трывога, сум, адчуванне адзіноты, якія ўзнікаюць нават у «пазітыўных» юнацкіх вершах: *«Ад неба блізкі ці далёкі, / Хоць у царкве, хоць на піру — / Паэт заўсёды адзінокі, / Я гаварыў і гавару. / І дакараць яго не трэба — / Яго і так туга шкрабе: / Ён гаманіў нядаўна з небам, / А зараз слухае цябе»* («Ад неба блізкі ці далёкі…»). Матыў адзіноты атрымлівае развіццё ў многіх лірычных творах гэтага аўтара («На самым дне маёй самоты...», «Туга», «Жаданне» і інш.).

Алесь Пісьмянкоў не належаў да прыхільнікаў прынцыпу «ні дня без радка», быў *«глыбока перакананы, што верш абавязкова павінен быць забяспечаны эмацыянальна»*. Упэўненасць паэта ў тым, што менавіта родным мясцінам ён абавязаны літаратурнымі здольнасцямі *(«І ў гэтай чуйнай цішыні, / Якую лёс яшчэ даў зведаць, / Вялікі грэх не быць паэтам»)*, абумоўліваюць актуалізацыю вобраза малой радзімы і ў вершах на тэму паэта і паэзіі («Я прыеду, я вярнуся…», «Замест аўтабіяграфіі», «Калядныя страфы»). Напэўна, менавіта такая зместавая «кансерватыўнасць» разам са знешняй прастатой вершаванай формы далі падставы крытыку Сяргею Кавалёву назваць Алеся Пісьмянкова паэтам *«традыцыйна-пачуццёвым»*. Як адказ на гэтую характарыстыку ўзнік верш «Крытык кажа…»: *«Крытык кажа: / “Традыцыйна”, / Крытык кажа: “Пачуццёва”. / І прысуд мне афіцыйны / Ён выносіць канчаткова. / Ах ты, крытык-аналітык, / Ты сціло дарэмна мучыў. / Ці падумаў хоць калі ты, / Што не той я школы вучань, / Што ў настаўнікаў суровых / Я даўным-даўно навучан: / Традыцыйна, каб — жыццёва, / Пачуццёва, бо — балюча...»* Пісьменнік у прынцыпе прымае дадзеную ацэнку (сапраўды, ён ніколі не меў намеру здзівіць «нетрадыцыйнай» формай ці метафарай), але ўдакладняе яе, паказвае, наколькі гэтыя «традыцыйнасць» і «пачуццёвасць» *«забяспечаны эмацыянальна»*, а таму натуральныя і цалкам апраўданыя.

Арганічнай для творчага тэмпераменту А. Пісьмянкова з’яўляецца праца ў жанры інтымнай лірыкі — тэма кахання пастаянна знаходзіцца ў полі яго ўвагі. Аднак лірычны герой твораў гэтай праблемна-тэматычнай групы рэдка калі выступае ўзнёслым і бесклапотным, як, напрыклад, у вершах 1981 года «Жытла ў нас не было…», «Я veni, vidi, vici…» Найчасцей ён задуменны, засмучаны — нават назвы твораў указваюць на іх агульны настрой: «Я прачытаў твае сляды…», «...А думкі роем...», «Развітанне», «Ты ўсміхаешся горка…», інш. Пачуццё кахання ў творах Пісьмянкова мала ў чым падобна да шчасця, часцей за ўсё гэта боль і пакута, праяўленыя ў рознай ступені. Зрэшты, гэта адпавядае жанравым параметрам інтымнай лірыкі, лепшыя ўзоры якой ніколі не ствараліся ў мажорных інтанацыях. Элегічнасць, мінорнасць вершаў Алеся Пісьмянкова на тэму кахання пераконвае ў непадробнасці высокага пачуцця, дакладна ўзнавіць якое ў слове — адзнака сапраўднага таленту. Анталогія сучаснай беларускай паэзіі кахання (калі б такая стваралася) не ўяўляецца без выдатнага верша «Мой сад у снезе па калена…» (зб. «Чытаю зоры»), напісанага ў пазнавальным пісьмянкоўскім стылі: *«Мой сад у снезе па калена / Азяб у золь і снегапад... / Табе не холадна, Алена? / Табе не холадна, Алена? / Табе не*

*хочацца назад? / Мой сад зусім не салаўіны — / У ім ахрыплыя вятры. / У ім рабіна ды каліна, / У ім рабіна ды каліна — / Вось і ўсе яго дары».* Лексічныя паўторы адначасова з'яўляюцца галоўным кампанентам архітэктонікі твора (надаюць рытмічную мернасць, ствараюць напеўную інтанацыю) і каталізатарам эмацыйнага ўздзеяння. Дыялогавая форма, звернутасць непасрэдна да лірычнай гераіні павялічвае давер да сказанага, стварае эфект судачынення да гісторыі чужога кахання.

Творчасць Пісьмянкова адметная сваёй роздумнасцю, філасафізмам, прычым не інтэлектуалізаваным, а жыццёвым, што праяўляецца ў творах рознай праблематыкі (пейзажныя апісанні, вершы на тэму кахання, мастака і мастацтва). Асаблівасцю ўласна філасофскай лірыкі гэтага аўтара з'яўляецца пашырэнне ў ёй фаталістычных матываў. Яны ўзніклі яшчэ ў ранніх творах («З народнага»), але выразна загучалі ў вершах сталага паэта, пачынаючы са зборніка «Планіда»: *«У кожнага зорка свая, / Кожнаму кубак наліты. / У кожнага доля свая, / Ці, як кажуць, планіда. / Усе мы ў гасцях на піру, / І званыя ўсе мы нібыта. / Я свой кубак спакойна бяру: / Буду піць — як наліта».*

Алесь Пісьмянкоў быў упэўнены ў тым, што *«вершы могуць здарацца»*, але нібы насуперак у многіх творах гаварыў пра ўласную блізкую смерць. Па меркаванні Леаніда Галубовіча, гэта была своеасаблівая, небяспечная гульня: *«Часта папярэджваючы прадраканне смерці ў творах сваіх сяброў і калег, у тым ліку і ў мяне, ён сам, як бы міжвольна, а падчас, я думаю, і свядома гуляўся са смерцю, выклікаючы яе, як сапраўдны значны мастак, прагнучы ўведаць ці падлеглы і ён яе выраку, як найчасцей былі падлеглыя ўсе найбольш значныя трагічныя Паэты, Мастакі і Творцы».* Паэт неаднаразова і настойліва рабіў дзёрзкі выклік лёсу, спрабаваў прыўзняць заслону з патаемнага, зазірнуць у небыццё. Так, ці спрачаючыся са сваёй планідай, ці спрабуючы пераканаць яе ва ўласнай віталістычнай сіле, Алесь Пісьмянкоў назваў кнігу выбранага «Я не памру, пакуль люблю». Па горкай іроніі зборнік стаў апошнім і адзіным падсумаваннем творчых набыткаў, зробленым самім аўтарам.

Над праблемай літаратурнага прароцтва Алесь Пісьмянкоў шмат разважаў, спрабаваў падвесці «тэарэтычны» падмурак пад уласныя неўсвядомленыя прадчуванні і паэтычныя «азарэнні». Адказ на пытанне «ці збываюцца вершы?» для яго быў адназначным. У артыкуле пад такім загалоўкам, быццам перасцерагаючы сябе і астатніх, пісьменнік прыводзіў прыклады матэрыялізацыі прадказанняў смерці ў мастацкім тэксце. Дзейсным сродкам унікнуць падобнай небяспекі Алесю Пісьмянкову бачылася парада Барыса Пастарнака, дадзеная маладому Яўгенію Еўтушэнку: *«Ніколі не прадказвайце сваю трагічную смерць у вершах, бо сіла слова такая, што яна абавязкова прывядзе вас да прадказанай смерці. Успомніце хоць бы, якія неасцярожныя былі са сваімі самапрадказаннямі Ясенін і Маякоўскі. І ўрэшце скончылі пятлёй і куляй. Я дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што пазбягаў самапрадказанняў...»*

Аднак «небяспечныя» выказванні прарываліся нават у «нейтральныя» творы Пісьмянкова. Так, у пейзажнай, інтымнай лірыцы паўстаюць вобразы недапісанага партрэта, незавершанага сказа, узнікае матыў незавершанасці пачатага: *«Цябе, спакусную, з ранетам / Я ўжо, відаць, не дапішу»*; *«Я ведаю, / вам даспадобы / салодкая лексіка лета / з простаю мовай зязюлі, / з вясёлым выклічнікам грому, / з трывожным шматкроп'ем дажджу / ў маім незавершаным сказе / пад пахкім завершаным стогам. / Я ведаю…»*

У 1990-я гады ў яго ўсё часцей актуалізуюцца элементы фальклорна-песеннай паэтыкі, у прыватнасці, вобраз зязюлі, што адлічвае гады. Лірычны герой прагне слухаць яе голас *(«Мне б наслухацца зязюлі, / Мне б забыць пра крумкача»)*, аднак гэтаму перашкаджаюць птушкі, што прадстаўляюць іншасвет. Злавесны крумкач і груган на пагосце настойліва нагадваюць пра хуткі пераход у іншы стан: *«І страшна, і позна / Вяртацца мне ў вёсны: / Там спеюць спакусна / Салодкія вусны. / А чорны груган на пагосце / Думае: госці».*

У апошніх творах асабліва часта выкарыстоўваецца апазіцыя «там / тут», якая рэалізуецца ў некалькіх плоскасцях — свет памерлых і свет жывых, мінулае і сучаснасць, вёска і горад — і пераплятаецца з матывам адзіноты («На самым дне маёй самоты…», «Ад неба блізкі і далёкі…», «Там», «Туга»). Лірычны герой знаходзіцца ў стане раздвоенасці, няпэўнасці, памежнасці: *«Відаць, і я старэю, брат, / Усё часцей гляджу назад. / Ты мне даруй за збіты штамп: / Усё часцей*

*бываю* ***Там*** (вылучана паэтам. — ***Н. З.***). / *Так ходзяць вернікі у храм, / Так ходзяць грэшнікі на споведзь, / Душы трывожную аповесць / Так давяраюць святарам. / Я ўсё часцей бываю* ***Там****».*

Думаецца, эмацыйнай кульмінацыяй у развіцці матыву адзіноты выступае драматычна-спавядальны верш «Туга»: *«На кругі свая, / На свае кругі... / Вось дайшоў і я / Да сівой тугі. / Не заві, вярста, / У радзінны кут: / Сірата я там, / Сірата і... тут».* Непатрэбнасць «там», на радзіме, азначае для паэта непрыкаянасць у жыцці ўвогуле, ён усведамляе марнасць свайго існавання «тут», на гэтым свеце. З крахам уладкаванага, найперш у духоўных адносінах, жыцця «тут» яшчэ больш паглыбляецца фаталістычнае светабачанне паэта. Ён зноў і зноў нібы практыкуецца ў напісанні эпітафій самому сабе. Верш «Пра вечнае» (зб. «Думаць вершы…») — яскравы ўзор такой практыкі: *«Кажуць, быў я аблашчаны доляй, / Хоць мой дом не мінала бяда: / Я па мёртвых паплакаў даволі, / А жывых яшчэ болей шкада. / Бо мы ўсе на зямлі гэтай госці, / Не забавімся мы на зямлі, / І калі я пакрыўдзіў кагосьці, / То і мне гэта рана баліць. / Нам усім не хапае спагады, / І любові жывым не стае… / Нам адпушчана так небагата, / Што й грахі не замоліш свае».*

Асобнай размовы патрабуе праца Алеся Пісьмянкова як празаіка, аўтара эсэ. Да публікацыі асобнай кнігай «Думаць вершы…» творы гэтага жанру падрыхтаваў да выдання сам аўтар, але выдаць не паспеў. Падзагаловак «З літаратурна-сентыментальнага падарожжа» з’яўляецца аўтарскай характарыстыкай тэкстаў, ужо вядомых чытачу па публікацыях у перыёдыцы. Падкупляе чуллівасць, з якой аўтар апісвае сваё «падарожжа» па дзвюх Бесядзях: рацэ ягонага маленства і Бесядзі літаратурнай, адлюстраванай пісьменнікамі-землякамі Аркадзем Куляшовым, Іванам Чыгрынавым, Масеем Сяднёвым, Уладзімірам Бутрамеевым, Аркадзем Русецкім, Васілём Хомчанкам, Пятром Прыходзькам. Распачынаецца літаратурная вандроўка з эсэ «Залаты запас Пысіна». Каштоўнасць гэтага і іншых твораў заключаецца не столькі ў арыгінальнасці назіранняў Пісьмянкова-філолага, крытыка і літаратуразнаўца, колькі ў асабістасці, біяграфічнасці, эксклюзіўнасці ўсяго сказанага. Эмацыйны рэзананс і — як вынік — пісьмовы водгук у аўтара выклікаюць творы толькі блізкіх па духу пісьменнікаў, незалежна ад іх месца нараджэння, часу і эпохі, унёску ў літаратуру.

Пра што б ні гаварыў аўтар, сэрцам і думкамі ён пастаянна вяртаецца ў Прыбесяддзе. Пісьменнік узгадвае дарагіх яму людзей, напрыклад, з цёплай радасцю і трапяткой удзячнасцю ўспамінае свайго дзядулю: першую кнігу ўнука «Белы Камень» стары беражліва і ўрачыста захоўваў як святыню («Вершы пад абразамі»). Ён захапляецца найменнямі навакольных вёсак, пералескаў, лугоў, кожная з якіх вартая быць загалоўкам найлепшага твора, і шкадуе, што новую назву некалі расчышчанага і ўробленага яго бацькамі месца — Пісьмянкоў Луг — самыя родныя людзі ўжо ніколі не пачуюць («Пісьмянкоў Луг»). Асаблівая пяшчота і любасць творцы да малой радзімы, адданасць ёй зразумелыя: *«Можа, я і пішу нешта сваё толькі таму,* — прызнаецца паэт, — *што ў мяне былі і ёсць Белы Камень і Мізырычы на Зубары, Бялынкавічы на Бесядзі, Канічы на Сураве...»*

Шмат якія з празаічных твораў нагадваюць дзённікавыя запісы. Тут занатавана ўсё перажытае, перадуманае — *«патаемныя думкі, асэнсаванне падзей, назіранне за сённяшнім літаратурным працэсам і роздум пра прыроду слова».* Звяртаюць на сябе ўвагу разважанні пра сутнасць мастацкай творчасці. Гэта не абстрактныя, адцягненыя сентэнцыі, а «тэарэтычнае» абгрунтаванне ўласнай працы ў паэзіі («Ці збываюцца вершы?», «Хада ў кожнага свая», «Я не жабрак»).

У адным з вершаў кнігі «Чытаю зоры» Алесь Пісьмянкоў агучыў сваю прыхільнасць менавіта да лірычнай творчасці: *«Вечарам / зорка ў акне, / ноччу / каханая ў сне, / раніцай / птах на бярозе / пакрыўдзяцца на мяне, / калі перайду я / на прозу».* Вернасць аднойчы абранаму амплуа пацвердзілася часам. Сёння мастацкая спадчына, перавыдадзеная ў кнізе выбранага «Не знікай», годна прадстаўляе нацыянальную паэзію канца XX стагоддзя. Аднак ранні зыход паэта не дазволіў напоўніцу раскрыцца яго багатаму творчаму патэнцыялу. Недасказ, раптоўны, нечаканы перапынак у літаратурным маўленні, — адзін з любімых паэтычных прыёмаў Пісьмянкова — атрымаў драматычную рэалізацыю ў яго ўласным лёсе.

Аляксей ВАСЮТА

# «ДА КНІЖНЫХ СКАРБАЎ...»
## МЁД І ДЗЁГАЦЬ

***Казлоўскі М. Да кніжных скарбаў дакрануся… : нататкі бібліяфіла / М. Казлоўскі. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. — 376 с.***

У мяне ў руках — унікальнае выданне Міхася Казлоўскага з далікатным найменнем «Да кніжных скарбаў дакрануся...». Кніга пра кнігі — так змястоўна можна сказаць пра яго, але ў такім азначэнні не будзе нічога сутнаснага. Унікальнасць і прывабнасць кнігі тлумачыцца канкрэтнымі фактарамі. Па-першае, гаворка ў ёй ідзе пра рэдкія і таму каштоўныя выданні, а, па-другое, распавядае пра іх творца, захоплены збіральніцтвам такой літаратуры і да самазабыцця ўлюбёны ў мастацкае слова, творца, апантаны жаданнем вярнуць гісторыі літаратуры забытыя імёны, распавесці пра горкія лёсы больш і менш вядомых пісьменнікаў. Асоба Міхася Казлоўскага маштабная; пра многае можна меркаваць, ведаючы той факт, што ў яго хатняй бібліятэцы налічваецца звыш шасці тысяч асобнікаў беларускіх кніг пераважна, скажам так, «сталага ўзросту». Дарэчы, на вокладцы выдання, пра якое ідзе гаворка, ёсць падзагаловак «нататкі бібліяфіла». Гэта добрая падказка чытачу, якога чакае сустрэча не з чымсьці звыклым, а з неардынарным, адметным.

Зрэшты, як у чалавека галоўнае — душа, а не вопратка, так у кнізе галоўнае — змест.

Менавіта зместам выданне і бярэ, як кажуць, за жывое, уражвае, хвалюе, узрушае. Скразной лініяй тут ідзе захапленне старой кнігай, якая «набліжае эпоху любімага пісьменніка, робіць аўтара больш блізкім, родным і зразумелым». Міхась Казлоўскі любіць паэтычна паразважаць пра тое, чым ён усё сваё свядомае жыццё заняты. «Нешта ёсць у такіх выданнях **магічнае і чароўнае** (падкрэслена мной. — **А. В.**), — піша ён, — глыбіннае і цяжка вытлумачальнае з пункту гледжання звычайнай чалавечай логікі». Ці трэба здзіўляцца, што для яго, зачараванага бібліяфіла, ні спёка, ні сцюжа, ні гразь дарожная, ні доўгія шляхі-дарогі не ствараюць дыскамфорту ў пошуках каштоўнай кнігі!

Натуральна, запамінаюцца апісаныя ім вандроўкі: і ў далёкую Нямеччыну, у госці да пляменніцы Якуба Коласа Надзеі Міцкевіч-Касмовіч, што пражывае ў горадзе Штутгарце, і ў вядомае Вішнева — да знанага святара Уладзіслава Чарняўскага, і ў вёску Вётхава, што на Смаргоншчыне, адтуль — на хутар стрыечнай цёткі Марыі і ейнага мужа, які з'яўляецца пляменнікам Пятра Зяновіча, беларускага патрыёта, ды многія іншыя. Зразумела, што чалавек, гатовы ў любы час змяніць хатні камфорт на дарожныя клопаты, непераборлівы ў транспартных сродках: электрычка, аўтобус, ровар — усё прыдатна для перамяшчэння. Даводзілася і ў зімовую непагадзь, нягледзячы на шалёную завіруху, вёрстаў шэсць-сем адмераць пехатою ад чыгункі да запаветнай вёсачкі. Для неардынарнага бібліяфіла галоўнае тое, што з кожнай вандроўкі ён прывозіў духоўныя скарбы. А мне, чытачу, цікава даведацца не толькі пра тое, **якія** скарбы яму дасталіся, але і пра тое, **як** яны аказаліся ў яго руках. А тут Міхась Казлоўскі асабліва каштоўны апавядальнік.

Прыемна ўражвае адна з яго гераінь — Надзея Міцкевіч-Касмовіч, пляменніца Якуба Коласа. Не толькі таму, што дазволіла

Зразумела, што чалавек, гатовы ў любы час змяніць хатні камфорт на дарожныя клопаты, непераборлівы ў транспартных сродках

**Разведка дапытлівага госця-кніжніка, узброенага ліхтарыкам, двухгадзіннае капанне ў запыленых кніжных і папяровых курганках на усімі забытым гарышчы далі вынік, пра што і заяўляе шукальнік: «Бяру ў рукі важкі пакунак, разразаю вяроўку, пачынаю перабіраць**

з уласнай бібліятэкі набраць торбу падвойных асобнікаў, а найперш таму, што надзвычай цёпла сустрэла госця, спачатку словамі ў адказ на ягонае тэлефанаванне: «Дык ты беларус і з Беларусі? А Божачка мой, давай прыязджай хутчэй… А можа, ты не адзін, то забірай з сабой і сваіх сяброў, усім месца хопіць». (Вось яна, чыста беларуская шчодрая душа, якую аніякае замежжа не вытруціць!). Вядома ж, адбылося хвалюючае спатканне з ёю, гаспадыняй кватэры ў шматпавярховым доме, а пасля пачосткі пайшла шчырая гамонка пра апошнія падзеі, стан культуры, эканомікі і асабліва — мовы. (Адзначу, ішоў 1993 год). «Як вы дапусцілі, што з мовай такое робіцца?» — з роспаччу пыталася яна.

Нехта з няўважлівых чытачоў можа падумаць, маўляў, ці варта з эміграцыі задаваць такое пытанне. Сябе няўважлівым не назаву. Справа ў тым, што ў асобе гэтай эмігранткі — патрыётка Беларусі. Як тут не прыслухацца да аўтара! «Першае, што кінулася ў вочы, калі дзверы адчыніліся, гэта вялікая павага і любоў да ўсяго беларускага. Яна проста перапаўняла кватэру, была скрозь і ўсюды. Карціны з беларускімі краявідамі, партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа ў абрамленні вышываных ручнікоў, вялікая этнаграфічная мапа Беларусі, фотаздымкі дзеячаў беларускай культуры, сямейныя фатаграфіі, сурвэткі з нацыянальным арнаментам на журнальных століках, а поруч з імі — вырабы з саломкі, гліны… Цэнтральнае месца ў гэтым жытле займалі вялікі беларускі бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. А на стэлажах размясціліся кружэлкі і касеты з песенным нацыянальным рэпертуарам… А тут яшчэ прысутнасць гаспадыні з яе бездакорнай беларускай мовай, з тымі адметнымі фанетычнымі асаблівасцямі, якія даўно згублены ў Беларусі».

У Штутгарце, у Коласавай пляменніцы Надзеі шаноўны наш Міхась Міхасевіч пазнаёміўся з шэрагам часопісаў, якія на радзіме былі недаступны, і з кнігамі цудоўных творцаў: Наталлі Арсенневай, Алеся Гаруна, Юркі Віцьбіча, Міхася Кавыля, Лукаша Калюгі, Рыгора Крушыны, Андрэя Мрыя, Алеся Салаўя ды іншых. Шмат што займеў там, прывёз на радзіму. Гэта былі сенсацыйныя па тым часе літаратурныя скарбы.

Не такія шчодрыя дары яго чакалі ў іншых мясцінах, да прыкладу, на Смаргоншчыне, у хаце роднае цёткі Марыі. З яе хутарскога гарышча сёе-тое з каштоўнай літаратуры трапіла ў рукі суседа, адукаванага чалавека, які, між іншым, і няблага заплаціў ёй. Прайшло нямала гадоў, і цётка Марыя падумала, што тыя кнігі больш нікому не патрэбны: «Я даўно збіралася злазіць туды і ўсё спаліць, але ўсё рукі не даходзяць» — прызналася яна. Ды разведка яе дапытлівага госця-кніжніка, узброенага ліхтарыкам, двухгадзіннае капанне ў запыленых кніжных і папяровых курганках на усімі забытым гарышчы далі вынік, пра што і заяўляе шукальнік: «Бяру ў рукі важкі пакунак, разразаю вяроўку, пачынаю перабіраць. І вось яно, маленькае бібліяфільскае шчасце! Зборнік вершаў Леапольда Родзевіча “Беларусь”, выдадзены ў Вільні ў 1922 годзе…» І гэта была не адзіная знаходка.

**Аўтар называе больш за сорак літаратараў, якіх няма ні ў даведніках, ні ў энцыклапедыях, ні ў шасцітомным бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». «Пра адных банальна забыліся, іншых прапусцілі па няўважных прычынах рэдактары і аўтары тэкстаў, пра існаванне трэціх — элементарна не ведалі»**

Не дзіва, што ў зборніку Міхася Казлоўскага «Да кніжных скарбаў дакрануся...» ужо з першых старонак фігуруюць імёны не толькі слынных творцаў: Кузьмы Чорнага, Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага, Змітрака Бядулі, крыху пазней — Якуба Коласа, Пятра Глебкі, Уладзіміра Дубоўкі, але і многіх малавядомых літаратараў. Дарэчы, ёсць тут грунтоўны артыкул: «Кнігі і лёсы забытых пісьменнікаў». Аўтар называе больш за сорак літаратараў, якіх няма ні ў даведніках, ні ў энцыклапедыях, ні ў шасцітомным бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». «Пра адных банальна забыліся, іншых прапусцілі па няўважных прычынах рэдактары і аўтары тэкстаў, пра існаванне трэціх — элементарна не ведалі» — піша ён. Міхась Казлоўскі мае права на такі горкі дакор. Сам ён падае багата цікавых фактаў з жыцця і творчасці шэрага пісьменнікаў, забытых айчынным літаратуразнаўствам. На жаль, час, у якім развіваліся іх таленты, стаўся не толькі не спрыяльным, але і драматычным: то былі 20-я, 30-я ды 40-я гады мінулага стагоддзя.

Вынікае, што трэба выдаць калектыўны зборнік выбраных твораў пісьменнікаў 20—40-х гадоў. За ўзор можна ўзяць кнігу «Расстраляная літаратура» (Мінск, «Кнігазбор», 2008). Пад узорам ажыццёўленага выдання разумеецца кампетэнтнасць і выключны мастацкі густ укладальнікаў, аўтараў прадмовы, артыкулаў пра кожнага літаратара і каментарыяў. Яго рабочае найменне можа быць такое: «Маладняк. Узвышша. Полымя». Вядома, укладанне такога тома не адбудзецца без Міхася Казлоўскага.

Як бібліяфіл ён глыбока ўражвае сваёй дасведчанасцю. Шмат пазнавальнага дорыць нам яго расповеды пра пісьменнікаў, іх творы, пра мастакоў. Вельмі дарэчы гэтае багацце дапоўнена ўласнымі назіраннямі і развагамі пра аўтографы, экслібрысы ды іншае. З пільнай увагай прасочваецца гісторыя і стан айчыннага бібліяфільства. Таленавіта, запамінальна выказваецца незвычайная, не пераможаная ніякімі павевамі часу любоў да яе вялікасці КНІГІ і яе апантаных творцаў, незалежна ад іх славы і лёсу.

**Добра было б замест непрыгожага слова *«адышоўшага»* ўжыць натуральнае для нашай мовы: *«прамінулага»***

**На самым пачатку кнігі ўжыты словы *адрэстаўрыраваць* і *знешні*, хоць не сакрэт, што лепш выглядаюць яны на беларускі лад: *адрэстаўраваць* і *вонкавы***

Прыемна адзначыць добрую мову Міхася Казлоўскага. Яна то цурчыць ціхай ручаінаю, то ліецца імклівай ракою, то дыхае неспакойным морам і, як правіла, гучыць мілагучна. Тут сустракаецца нямала сучасных слоў, прыемных беларускаму слыху, прыкладам: аповед, кружэлка, слухаўка, вынятак, мапа, філія… Тым больш крыўдна бачыць нават нязначныя агрэхі. На самым пачатку кнігі ўжыты словы адрэстаўрыраваць і знешні, хоць не сакрэт, што лепш выглядаюць яны на беларускі лад: адрэстаўраваць і вонкавы. Чамусьці па-руску падаецца абрывіятура НКУС — НКВД. Не аднойчы ўжываецца знявечанае слова тычыцца (гэтая хвароба ўвогуле ўжо вельмі пашырана ў друку). На старонцы 11 адзін сказ завяршаецца так: «гучыць рытм даўно адышоўшага жыцця». Добра было б замест непрыгожага слова «адышоўшага» ўжыць натуральнае для нашай мовы: «прамінулага». На старонцы 340 аўтар не лепшым чынам скланяе найменне рэчкі Вілля: замест натуральнага «Віллю» тут з’явілася слова «Вілію». Нарэшце, яшчэ без адной заўвагі я не абыдуся. На старонцы 7 гаворка ідзе пра цудоўны зборнік «Пачуцці» знакамітага Кузьмы Чорнага і пачынаецца так: «Літаральна некалькі месяцаў таму…» Аўтар не ўцяміў, як не ўцямілі і рэдактары, што, паколькі артыкул публікуецца не ў газеце, а ў кнізе (і пад артыкулам няма даты), чытач можа ламаць галаву над пытаннем, калі ж тая падзея адбылася.

У кнізе, як і ў скульптуры, нічога не павінна быць лішняга.

# БЕЛМОВА — СПАЧАТКУ МОВА

***У праця́г «Тэмы» сакавіцкага нумара «Маладосць» прадстаўляе думкі аспіранткі філалагічнага факультэта БДУ Ганны АЛЕКСЯЕВІЧ і запрашае астатніх зацікаўленых чытачоў падзяліцца сваімі меркаваннямі.***

Заўвага аўтара матэрыяла: паняцці «нацыянальная ідэя», «нацыянальнае адраджэнне», «нацыяналізм» скарыстаны ў нейтральнай афарбоўцы.

Усчынаючы чарговы раз палеміку вакол беларускай мовы, усе мы помнім, што яна беларуская, і амаль забыліся на тое, што яна — мова.

Як немагчыма ўявіць неба без сонца, кампартыю без Леніна, фізіку без Ньютана, так немагчыма памысліць беларускую мову па-за межамі нацыянальнай ідэі. Патранаж, пад якім дагэтуль яна знаходзіцца, усё менш спрыяе яе патрэбам. Повязь нацыянальнай ідэі з моўным пытаннем для большасці з нас падаецца зусім натуральнай, аднак так было не заўсёды. Класічны нацыяналізм апелюе да паняцця нацыі, прадугледжвае, што кожная нацыя мае права на самавызначэнне і адстойванне нацыянальных інтарэсаў, у тым ліку права займець сваю культуру і мову. Між тым, нацыяналізм — гэта комплекс ідэй, дзе пытанне пра мову будзе вырашана настолькі, наколькі гэта запатрабавана ўсёй ідэалогіяй. Інакш кажучы, мова была б вельмі даверлівай, калі б спадзявалася адно на нацыяналістаў, ці ў нашым выпадку, на нацыяналадраджэнцаў. Справа тут, вядома, не ў тым, што нацыянальная ідэя тоіць зло супроць яе. Наадварот, іх інтарэсы вельмі часта перакрыжоўваліся і былі сугучнымі. Але ўсё ж варта сказаць, што стаўленне нацыяналізму да мовы дастаткова спажывецкае і аднабаковае.

Беларускасць беларускай мовы — з'ява не лінгвістычнага парадку. Лінгвістыка гатова ў беларускай мове вывучаць мову. Перад ёй не стаіць задача адшукаць прычыну, а лепш некалькі, чаму беларуская мова неабходна беларускай нацыі, яе гісторыі, культурнай спадчыне і кожнаму беларусу. Для лінгвістыкі сам факт існавання беларускай мовы і ёсць прычына. У гэтым сэнсе яна вельмі непатрабавальная. Тады ўзнікае пытанне: чаму ж мы ладзім дні роднай мовы, заклапочаны скарачэннем беларускамоўнай аўдыторыі, агітуем за аднамоўе, цытуем «не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі» і з трымценнем слухаем рэдкую рэкламу па-беларуску? Большасць пытанняў адносна беларускай мовы, у тым ліку ўсе вышэйпералічаныя, сёння і ва ўсе часы ўздымаліся нацыяналадраджэнцамі. Яны першыя пачалі гаварыць пра яе, унармавалі яе, зрабілі нацыянальнай, пісалі на ёй вершы і ставілі п'есы. Лінгвісты, ці моваэнаўцы, з'явіліся ў жыцці беларускай мовы значна пазней. Нацыянальная ідэя да такой ступені ў целе і крыві беларускай мовы, што мы іх не спрабуем розніць адна ад адной. Больш таго, сама беларуская мова ўспрымаецца як ідэя. Нельга без дай прычыны гутарыць па-беларуску, як гэта робіць немец па-нямецку альбо паляк па-польску. У РБ карыстацца беларускай мовай — значыць, не прымаць і крытыкаваць сучасную грамадска-палітычную сітуацыю, рэгулярна наведваць апазіцыйныя мітынгі, змагацца за беларускамоўныя школы, успамінаць залатыя часы ВКЛ і марыць пра Беларусь з сапраўдным беларускім народам. Правесці выразную рысу паміж беларускай мовай і нацыянальнай ідэяй падаецца вельмі і вельмі праблематычным. І гэта беручы ва ўвагу нашу пэўнасць у тым, што беларуская мова — адно, а нацыянальная ідэя — нешта іншае. Атрымліваецца, што яны столькі часу суседнічалі адна з адной, спасылаліся адна на адну, замацоўвалі свае пазіцыі адна праз

адну, што сталі ўзаемазамяняльнымі. Не раю беларускай мове надалей пагаджацца на падобнае.

Гісторыя мовы прыблізна супадае з гісторыяй чалавека як біялагічнага віду. Нягледзячы на пашыранае меркаванне пра тое, што мова з'яўляецца культурна-сацыяльным прадуктам, яна не ў меншай ступені з'яўляецца генетычна абумоўленай здольнасцю чалавечага арганізма. Прасачыць нараджэнне адзінкавых моў нашмат цяжэй, чым канстатаваць іх смерць. Верагодна, нараджэння ніколі і не было. Было павольнае перараджэнне з папярэдніх моў, якія перарадзіліся з іншых папярэдніх моў і так да прамовы ці некалькіх прамоў, сінанімічных адна адной. Любая сучасная мова застаецца блізкай той далёкай прамове. Іх розніць толькі вопыт; механізмы і заканамернасці мала змяніліся. Нам падаецца, што чалавек каменнага веку і чалавек XXI стагоддзя не вытрымліваюць параўнання, што яны з'яўляюцца рознымі падвідамі homo sapiens. Між тым, калі перанесці чалавека каменнага веку — вядома, немаўлём — у нашу рэальнасць, то ён выдатна тут прыжывецца. І наадварот, калі сучаснае дзіця аддаць на выхаванне старажытным людзям, то яно ў сталым узросце не прадэманструе фенаменальных здольнасцей. Па сваіх біялагічных характарыстыках мы не моцна адрозніваемся ад чалавека далёкіх эпох. Розніца паміж намі толькі ў валоданні гістарычным вопытам, традыцыяй. Так і з мовай. Сутнасныя законы, механізмы, якія робяць мову функцыянальнай, застаюцца нязменнымі. Яны не дазваляюць нам зблытаць мову з сігнальнай камунікацыяй жывёл і дзякуючы якім мы паспяхова расшыфроўваем старажытнае пісьмо. Адзінае, што розніць сучасную мову і прамову, — гэта назапашаны вопыт. Ён выяўляецца, напрыклад, у багацейшай лексіцы, у наяўнасці тых ці іншых граматычных катэгорый, сінтаксічных канструкцый, у стылістычнай разнастайнасці і г. д. Менавіта таму гісторыя беларускай мовы пачынаецца не з узнікнення і замацавання слова «беларускае», а з часоў фарміравання прамовы.

Нацыянальнае адраджэнне навучыла нас бачыць у беларускай мове яе беларускасць. Аднак ахрысціць яе беларускай яшчэ не значыць даць ёй жыццё. Назваць яе беларускай — значыць надаць ёй пэўны статус. Статус нацыянальнай мовы. Але беларуская мова не нарадзілася разам з нацыянальнай ідэяй у XIX стагоддзі, яна была і жыла задоўга да гэтага. І тады, калі яна звалася «мужыцкай», і калі складаліся на ёй Статуты, і калі Скарына менаваў яе «рускай», і калі пісаліся на ёй берасцяныя граматы. Нацыяналізм паспрыяў нашай блізарукасці, нам цяжка прымусіць сябе зазірнуць у глыбіню стагоддзяў і згледзець у беларускай мове спачатку мову і толькі пасля беларускасць.

Не думаецца, што гэта праблема выключна нашага светапогляду. Беларуская мова з'яўляецца мовай малога народа. Для прадстаўнікоў малых народаў, назавём хаця б славакаў, македонцаў, датчан, фінаў, звычайна патрабуюцца прычыны, каб свая мова мела належную падтрымку. Нават калі сітуацыя з нацыянальнай мовай развіваецца самым лепшым чынам, як гэта, напрыклад, сталася з чэшскай мовай, якой актыўна карыстаюцца чэхі і частка славакаў, усё ж застаюцца сумненні, ці дастаткова ў яе праў на існаванне побач з англійскай і кітайскай. Раней здавальняючыя адказы даваў нацыяналізм: кожнай нацыі свая нацыянальная мова. Сёння гэтага ўжо мала. Мы часцей паўтараем словы «глабалізацыя» і «касмапалітызм», нацыянальную ідэю мы асацыіруем са школьнай праграмай і ўніверсітэцкімі лекцыямі. Што засталося нязменным, дык гэта наша звычка гаварыць пра мову ў кантэксце чаго-небудзь.

Ёсць паняцце лінгвістычнай карціны свету, якую складаюць тысячы моў. На маю думку, гэта адзіны кантэкст на сённяшні дзень, у якім неабходна разглядаць моўнае пытанне. Мы ж усе добра разумеем, што такое экасістэма, і клапоцімся пра наша навакольнае асяроддзе незалежна ад таго, прыпалі на нашу долю лясы, балоты і азёры ці пяскі, джунглі і горы. Мы мусім любіць тое, што маем, і несці адказнасць за тое, што дадзена. Клапаціцца пра лінгвістычную карціну свету можна толькі праз клопат пра сваю гістарычную мову. У нас няма права абраць мову, якая нам больш падабаецца, у нас ёсць права прыняць адказнасць за дадзеную нам мову ці адмовіцца ад гэтай адказнасці.

Шлях да беларускай мовы ў сучасных рэаліях павінен пачацца з таго, што мы прызнаем у ёй мову. Адной з тысяч, жывых і мёртвых, з пісьмовай традыцыяй і без яе, унармаваных і кайнэ. Лінгвістычнай разнастайнасці, як і біялагічнай, патрабуецца клопат. Наш, беларускі, клопат пра яе пачынаецца з беларускай мовы, а менавіта з прыняцця адказнасці за яе лёс.

*Уладзімір СОДАЛЬ*

# У КОЖНАГА БЫЛА СВАЯ ВАЙНА

**Падчас працы на тэлебачанні я распачаў цыкл перадач «У кожнага была свая вайна». Мне хацелася падоўжыць незабыўны летапіс, распачаты некалі кніжкаю «Ніколі не забудзем». Героем праграмы мог стаць кожны, хто зведаў вайну. І гэта зусім неабавязкова павінны былі быць франтавікі, сівыя ветэраны. Вайна далася ў знакі ўсім: і дзецям, і аўдавелым маладзіцам. Таму і назву такую шырокую абраў — «У кожнага была свая вайна». На вялікі жаль, гэты тэлелетапіс мне не далі завяршыць: выправілі напачатку новага стагоддзя на пенсію. Але ў маім архіве ацалеў шэраг цікавых сведчанняў з той вайны, дасланых маёй праграме.**



***Ад рэдакцыі. «Маладосць» друкуе старонкі ліста настаўніцы Елізаветы ЗВЯНЕЦКАЙ з прыкладзенымі да яго дакументамі і фотаздымкамі, а таксама дзіцячыя ўспаміны пра вайну самога Уладзіміра СОДАЛЯ.***



Уладзімір СОДАЛЬ: «Гэта не я, але гэта і я. Гэтак і мне шчымела-сціскалася сэрцайка».

*Я належу да таго пакалення людзей, якое хоць што памятае пра апошнюю вайну. Разам з намі, сыдзе ў нябыт і жывая памяць жудасных дзён. Вось чаму я трымаю ў сваіх зборах гэтыя пякельныя здымачкі...*

*Гэта не я. Але гэта і я. Гэтак і мне шчымела-сціскалася сэрцайка. І шчыміць. Гэта і маё...*

*Вайна гэтак увайшла ў нашу кроў, што стала і нашым побытам, гульнёй, забавай — часта з трагічным зыходам.*

*Мяне і ў сталым узросце цягнула на акопы. І цяпер цягне... Завітаю на радзіму і абавязкова зазірну на акопы: як яно там? Ці ўсё зарасло, ці ўсё абсыпалася, засыпалася, загаілася?..*

*Не, не ўсё... Наша мормальская зямля і цяпер яшчэ ўся ў асколках. Тут стаяў фронт шэсць месяцаў. А паміж гэтага фронту мы — жыхары Мормаля...*




Я адношуся да таго пакалення савецкіх людзей, якія скончылі 10 класаў за 5 дзён да пачатку вайны.
Гэта наша выпускная фотакартка, якую мы атрымалі ўжо пасля пачатку вайны.

**ПАБУДКА**

Пра тое, што хутка будзе вайна, у нас загаварылі задоўга да таго, як яна пачалася. Але што такое вайна і для чаго яна, я тады не зусім разумеў. Як тысячы раўналетак, маіх равеснікаў, рос і гадаваўся абагрэты цяплом сонца і ласкаю бацькоў. Адно бесклапотна хадзіў у яселькі-сад, бавіў там з такімі ж, як сам, час. Але аднаго разу матуля пабудзіла мяне раней:

— Уставай, сынок! Нашага тату забіраюць на вайну...

Слоў гэтых я не памятаю: мабыць, сонны яшчэ быў. Але мама мне іх не раз згадвала. Затое памятаю, добра памятаю: мы самотна папляліся да сельсавета, хоць яшчэ была рань. Але там народу ўжо было шмат. Пра нешта ўзрушана гаманілі, сноўдалі сюды-туды. Я туліўся да сваіх, разглядаючы з-пад іх крыла, што рабілася на плацы перад сельсаветам. А тым часам аднекуль вынырнула машына. Тады іх палутаркамі называлі. Абрыс той машыны мне запомніўся, асабліва яе задні борт. І от чаму. У яе пачалі хутка, адзін за адным, як зайцы на лодку дзеда Мазая, ускокваць мормальскія дзецюкі. Мой тата ўскочыў у машыну ці не самы апошні. І гэта быў для мяне самы драматычны момант: «Як гэта! Тата некуды паедзе на машыне і без мяне!» Я кінуўся за машынаю. Яна якраз з горкі пакацілася:

— А тата! А татачка! Вазьмі і мяне з сабой!

Я бег за машынаю да тае пары, пакуль не спатыкнуўся і не ўпаў у пясок. Шмат людзей былі сведкамі гэтага майго расстання з татам. Яно ўсіх кранула да глыбіні душы, расчуліла. Пасля некаторыя згадвалі мне пра тое расстанне з татам.

Але ў Медыцынскім інстытуце
яшчэ не працавала прыёмная
камісія, і я накіравалася ў універ-
сітэт. Тут мяне з маімі
дакументамі ўжо не выпусцілі,
як кажуць, адразу падхапілі,
далі накіраванне ў студэнцкі
інтэрнат. Так я стала сту-
дэнткай ВДУ.

VI.

Я магла бы Вам прыслаць
мой варонежскі дзённік, але ў Вас
і так шмат матэрыялу, што
аж трэба скарачаць і скарачаць
ды і час перадачы маленькі,
а дзённік вельмі наіўны.
Таму дасылаю Вам пропуск
і справку з ваеннай майстэр-
ні, што ўжо адносіцца
непасрэдна да тэмы: „Мех
чарыць!"
Фотакартка на пропуску — гэта
з тых, што здымалася напярэдад-
ні вайны, бо не было грошаў зноў
здымацца (III).

VII.

У Варонежы я фатаграфава-
лася толькі адзін раз (мусіць,
трэба было на прафсаюзны ці ін-
шы дакумент), гэта было
ўжо ў лютым 1942 г.

VIII

З універсітэцкіх сяброў найбольш
блізкай была Валянціна Довнікава.
Яна пісала вершы, некалькі з іх
прысвяціла мне, каб я лепей
разумела модзеў. Яна дапама-
гала мне шукаць работу, як
магла разважала, яе




## ПРЫХОД НЕМЦАЎ

Запомніўся мне і прыход першых немцаў у Мормаль. Было лета. Яны прыйшлі ў нашу вёску без адзінага стрэлу: спакойныя, нават бяспечныя. Памятаю, на пагорку ля школьнага плота паставілі свае вінтоўкі. А самі разышліся знаёміцца з новым школьным будынкам, балазе, ён быў навідоку, з шыкоўнай футбольнай пляцоўкай! Нават пры сваёй зброі вартавога не пакінулі. Мы, дзеці, круціліся ля тых вінтовак, але на нас ніхто нават не цыкнуў. Неўзабаве, агледзеўшы школьны падворак, немчура пачала вяртацца да нашай школьнай студні, цягаць ваду з яе і абліваца. У нашых студнях вада была сцюдзёная, крынічная. Немцы абліваліся вадою, цешыліся, жартавалі і штосьці гергеталі па-свойму. Так мне запомніўся першы дзень прыходу немцаў у Мормаль. Наша студня таксама прываблівала немчуру сваёй экзатычнасцю: хваёвая саха з развілкаю, а праз яе перакінута страла з почапам і вядром. Толькі цягай ваду са студні! Затым немчура пачала размяшчацца ў нашай новай школе. Другая частка заняла колішнюю аптэку, ім тут было ўтульна і зручна. Побач чыгунка, дарога, якая вяла да чыгуначнага станцыйнага прыпынку, чыгуначнага пераезда. Дый усё наваколле ў іх было навідавоку, як на далоні!

## ЯК РАЗБІРАЛІ СЕЛЬМАГ

У нашым мястэчку да вайны быў неблагі сельмаг. Мне, як дзіцяці, найбольш помніцца, што ў ім прадавалася шмат розных цацак. Прыкладам, журжалкі. Журжалкамі — ад слова «журжаць» — у нас называлі ваўчкі. Мне падабалася як яны круціліся. Лашчыў маё вуха і сам гук, яго рытмічнае журжанне: жур-жур, жур-жур!.. Былі якіясь і іншыя цацкі. Памятаю, бегаў у тым сельмазе па рэечках і шустры заводны паравозік. Я з яго вачэй не зводзіў...

І от, калі прыйшлі немцы, яны выграблі з сельмага ўсё каштоўнае, а астатняе дазволілі разабраць людзям. Нейкім чынам і я апынуўся ля таго сельмага, калі яго расцягвалі-рабавалі, хтось цягнуў цыгарэты, хтось шпалеру...

Нехта выкідваў рэчы праз акно. Людзі на ляту лавілі іх і станавіліся гаспадарамі, уладальнікамі. Але вось хтось выкінуў з акна рэч, на якую ніхто асабліва не паквапіўся. Гэта была сплеценая кольцамі драцяная сетка, якую клалі перад парогам выціраць ногі ад зямлі. Я падняў тую сетку і павалок яе дадому. Хата наша за вайну згарэла, бо была ў абсягу фронту, а драцяная сетка ацалела. Гэта была адзіная рэч, якая ацалела з усяго нашага хатняга скарбу.

## МАЯ РАДАСЦЬ

Калі пачалася вайна, мне не было яшчэ і чатырох. Вайны я па першым часе не вельмі баяўся. Але з малых гадоў быў у мяне адзін закляты вораг. Я не ведаў ад яго спакою да прыходу немцаў. Гэтым маім ворагам быў аграмадны, як зубр, чорны бугай. Звычайна, згледзеўшы адзінокага чалавека, малога ці сталага, ён пачынаў рагамі і пярэднім капытом раз'ятрана капаць зямлю і з неймавернай



Як ён толькі атрымаў з Ленін-града дакументы, ён паступіў на факультэт механізацыі СХІ.
Пры сустрэчах мы ўспаміналі школу, даваенная жыццё, родную Беларусь.
Але вясною яго прызвалі, паслалі на камандзірскія курсы, потым фронт, вызваляў Беларусь, пісаў мне аб гэтым. У 1944 годзе ён загінуў. У яго асобе загінуў таленавіты чалавек, які мог бы стаць вялікім вучоным або дзяржаўным дзеячам.
IX.
Дасылаю Вам яшчэ 2 фотаздымка:
На адным з іх — я ў дзень Перамогі, такой я была пры заканчэнні Гомельскага Педінстытута, для мяне гэта была яшчэ адна Перамога, такой я паехала працаваць настаўніцай, выкладаць беларускую і рускую мову і літаратуру.
Другі здымак канца 50-х г. Яго зрабілі мае вучні тайком, таму добра адчуваецца заклапочанасць настаўніка.

Думала, як найкарацей растлумачыць Вам здымкі і іншыя паперы, а атрымалася зноў доўгая пісаніна.
Прабачайце!
З павагай да Вас
Елізавета Анісімаўна Звяняцкая


С Новым годом
Смерть немецким оккупантам!
...ИНСКОЕ
М. Ш.
Куда Улан-Удэ
Педагогический
институт 2 курс
Кому Галицкой
Лизе.
Обратный адрес: 2517 Полевая почта
Часть 306
Галицкий Зиновий Михайлович
Фамилия, имя, отчество
А108018. Изд-во „ИСКУССТВО" По заказу ЦУВПС.
Тираж 500000. Зак. 58. Лит. „Искусство" Цена 10 коп.

Здравствуй моя любимая 14.12.43 г.
детка Лизочка! Сегодня получил от Эдды письмо и твой адрес и то неточный.
Пробую писать, может дойдет до тебя моя открытка, тогда напишу подробней.
Я нахожусь на фронте. Жив и вполне здоров. Связался с дядей Яшей. Он где то близко от меня, находится на передовой. Я думаю, что очень скоро мы с ним увидимся, когда я узнаю где точно стоит его часть. Запрос я сделал. Искал он меня с самого начала войны и вот видишь нашел. Твоему папе я тоже написал. Он тоже находится на фронте, но думаю, что [illegible] уже он в тылу сейчас. Думаю и с ним по=

сілай раўсці. Гэта было для мяне страшэнным відовішчам. Згледзеўшы яго на вуліцы, я ляцеў у які-небудзь падворак і толькі там, апынуўшыся за брамай ці веснічкай, пачуваў сябе ў бяспецы. Па вуліцах свайго мястэчка я хадзіў заўжды напружана, насцярожана, неспакойна. Мне здавалася, што гэтае страшыдла можа выскачыць з-за любога вугла і падчапіць мяне  на свае рогі. Звычайна яго грозны рык было чуваць уранку, калі статак кароў гналі на выпас, і ўвечары, калі гэты статак вяртаўся дадому. І ў абед, калі кароў прыганялі. Але от аднае раніцы ніхто гэтага грознага рыку не пачуў. Я насцярожыўся, спытаўся ў мамы: «Што здарылася?»

— Усё, Валодзечка, — сказала яна. — Цяпер ты можаш хадзіць па вуліцах нашага мястэчка вольна і нікога не баяцца. Сёння раніцай твайго заўзятага ворага злавілі немцы і зварылі ў сваім паходным катле ля нашай аптэкі.

У мяне ад такой навіны як гара з плеч звалілася: «Няўжо гэта і напраўду я назаўсёды пазбавіўся свайго ворага?» Як ні дзіўна, я быў вельмі-вельмі ўдзячны збавіцелям-выратоўцам. Такі быў мой дзіцячы роздум... Хаця дзесь у глыбіні хлапечай душачкі мне было шкада бугая: такі ён быў грозны — і гэтак бясслаўна скончыў сваё жыццё. Але мае воля і бяспека былі для мяне вышэй за ўсё!

## «ОЙЧА НАШ» ПАД ФРАНТАВЫ АБСТРЭЛ

1943 год убіраўся ў сілу. Фронт з кожным днём набліжаўся да Мормаля. Мы гэта адчувалі, бо жыць у хатах стала немагчыма. Кожны дзень з ранку да позняга вечара шальныя абстрэлы з гармат. Не давала спакою і авіяцыя. Самалёты адзін за адным рабілі налёты. Усе са сваіх хат перабраліся ў зямлянкі, скляпы, бліндажы. Некаторыя бліндажы называлі бункерамі. Наш бункер туліўся ў Калатушкавым садзе сярод старых яблынь. Спадзяваліся: маскіроўка такая будзе. Але і нашаму бліндажу даставалася. Аднаго разу паблізу яго шлёпнуўся снарад і выбухам вывернула адну бакавіну, таму ў нашым бліндажы зрабілася светла-светла, і мы, дзеці, былі радыя гэтаму святлу. Хвала Богу, больш ніякай бяды снарадны той выбух не нарабіў. Толькі дарослым давялося падумаць, паклапаціцца, як тую вывернутую бакавіну заладзіць. Неўзабаве пасля гэтай вывернутай бакавіны над нашым бункерам праляцеў, моцна равучы, падбіты самалёт. Што ён быў падбіты, мы ўсе адчулі. Ён ледзь не зачапіў наш бліндаж, яго страху, і метраў за пяцьдзясят ад нашага бункера рухнуў на зямлю, урэзаўся з грукатам на Маланіным агародзе. Старэйшыя людзі былі ўстрывожаны апошнімі падзеямі і прапанавалі  нам, дзецям, ды і ўсім дарослым, маліцца Богу, каб ён захаваў нам нашае жыццё. Пачалі з малітвы «Ойча наш». Не ўсе словы гэтай малітвы былі нам зразумелыя. Але мы паўтаралі іх за старэйшымі з вераю, што гэтая малітва засцеражэ нас. Вось як запомніліся мне словы тае малітвы:

Ойча наш
Іжэ ясі на небесі
Не вядзі нас у васкушэнне
І збаў нас ад лукавага.
Дай жа нам днесі
Хлеб наш насушны...

Цяпер ведаю, што «Ойча наш» гучыць крыху інакш. Але тады, пад мінамётны абстрэл, запомнілася менавіта гэтак. То хай гэтая памяць будзе дакументам нашага бліндажнага жыцця ў прыфрантавой паласе.

## НОВЫ ГОД ПАД ПЕЧЧУ

Да восені 1943 года пад немцамі мы сяк-так, але жылі. Але ў канцы 1943-га яны штосьць заварушыліся. Хадзілі чуткі, што чырвонае войска падышло да такіх нашых вёсак, як Карма, Работка, Курган. Гэта вёскі на другім баку нашага балота. Менавіта да гэтага балота, кіламетры два-тры ўшыркі і даўжынёй немаведама колькі, падышло наша войска, але фарсіраваць яго не магло. Мы апынуліся ў прыфрантавой паласе, і немцы вырашылі з намі штосьць зрабіць. Аднойчы павыкурвалі ўсіх мормальцаў ды жыхароў з іншых прыфрантавых вёсак і паціху пачалі пераганяць у свае акупаваныя тылы. Нас напачатку перагналі ў Залужжа. Ноч мы сяк-так пераначавалі, а надзень нас пагналі ў Гармавічы. У тых Гармавічах я сустрэў новы 1944 год. Хочаце пачуць, як? То слухайце...

Дзень кароткі. Зімна. Снег. Мяцеліца. Завеі. Тут бы ў якуюсь цёплую хатку ўбіцца. А ў тыя Гармавічы гэтулькі людзей нагналі! Усе хаткі біткам набітыя. Нагой ступіць няма дзе. Але што рабіць? Якой даць рады?

У адну з хатак запрасілася мама. Яе гаспадыня таксама расчулена забедавала:

— А мае вы людзечкі! І куды ж я вас?! Усё біткам набіта!.. Хаця чакайце!.. Ёсць у маёй хатцы падпечак. Там я звычайна зімою ў маразы курэй трымала. Але тых курэй немчура даўно паела. Цяпер там чысценька. Там можна вашага хлапчука ўладкаваць. Ну што, хлапчук, скажаш? Згодны пад печчу Новы год сустрэць?

Мне было ўсё роўна, дзе Новы год сустракаць, абы ў цяпле. Але як да таго падпечча прабіцца, гэтулькі люду ў хатцы набілася. Але праўдамі-няпраўдамі неяк прабіліся да таго падпечча. Там мне нейкую пасцельку зладзілі. І мне нечакана прыгадалася, як мне давялося сустрэць Новы, 1941 год, пагукаў на ёлку дырэктар мормальскай школы. Была там ёлачка ў аздобе. Мне з тае ёлачкі падарылі якіясь квяцістыя шары і шмат-шмат цукерак. А вось 1944 год даводзіцца сустракаць пад печчу. Нездарма ж, мусіць, нарадзіўся я ў 1937-м! А можа, у той час я да такіх аналізаў, развага яшчэ і не дайшоў. Але згадка пра Новы 1941 год у кватэры дырэктара школы не-не ды ўсплывала.

## У ВАС «КАЦЮШЫ», У НАС — «ВАНЮШЫ»

Я ўжо згадваў: напрыканцы 1943 года немцы паспешліва пачалі пераганяць мормальцаў з прыфрантавой паласы ў свой тыл. Адну ноч мы перабіліся неяк у Залужжы. Дык вось, паблізу таго Залужжа, лязгаючы гусеніцамі, праносілася баявая тэхніка. Наш бежанскі рух на нейкі момант быў прыпынены, і мне з гэтай нагоды запомніўся дыялог нашага нямецкага ахоўніка. Гледзячы на рух баявой тэхнікі, ён нібыта сказаў:

— У вас — «Кацюшы», у нас — «Ванюшы». Давайце вашых «Кацюш» пажэнім з нашымі «Ванюшамі» і вайне будзе канец! Мы ўсе будзем шчаслівыя і зажывём мірна ды шчасліва, як і раней, даўней.

Гэтая развага нямецкага ваякі мне моцна ўрэзалася ў памяць. Я тое месца на Пагарацкай грэблі, дзе пачуў развагу пра «Кацюшы» і «Ванюшы» нямецкага ваякі, мог бы і сёння паказаць.

Пасля развагі нямецкага ваякі пра нашы «Кацюшы» і іхнія «Ванюшы» на скрыжаванні Папарацкага тракту, наш бежанскі шлях з Гармавічаў ляжаў праз жлобінскія Кароткавічы, Плясавічы, Плясавіцкую Слабаду, усё далей і далей праз Бабруйшчыну. Не дзівіцеся, мяне, шасцігадовага, уражвалі ўжо тады назвы тых вёсак. Якуюсь усявышнюю пяшчоту і ласку я адчуваў ад такіх назваў, як Варатынь, Радуша. І зусім іншую асацыяцыю адчуваў ад такіх, як Змяёўка, Жарабцы. А якія? Паспрабуйце сябе ўявіць на маім месцы.

Праз колькі зімовых дзён мы прыбіліся начаваць у Аўсімавічы. Гэта ўжо на Бабруйшчыне. Тут нас прытуліла гаспадыня Вольга Парахневіч са сваім братам Аляксеем і дачушкай Лідай. З ёй мы пражылі ледзь не паўгода, але ўсё гэта яшчэ пад акупацыяй.

У Аўсімавічах летам 1944-га мы прычакалі сваё вызваленне.

## З ДЗЕДАМ САМСОНАМ НА РЫБАЛЦЫ

Неўзабаве пасля таго, як мы прыбіліся ў згаданыя Аўсімавічы і там пакрысе абжыліся, усталяваліся, вайна прыгнала яшчэ двух мормальцаў: дзеда Самсона і ягоную жонку. І іх прытуліла ў сваёй хатцы цётачка Вольга Парахневіч. Так мы пачалі жыць усе разам: наша сямейка, Самсон з Самсоніхай і гаспадары. З'яўленне ў Аўсімавічах дзеда Самсона неяк хутка запрыкмецілі немцы. Аднаго разу яны зайшлі ў хатку, пра нешта пагаманілі з дзедам Самсонам, дамовіліся. Назаўтра дзед пачаў збіраць рыбацкія снасці: вуды, круглікі. Высветлілася: немцы даручылі дзеду Самсону лавіць ім рыбу, балазе, паблізу Аўсімавічаў струменіла ціхая, спакойная рачулка. Напачатку ўсё ішло ладна. Дзядуля лавіў рыбку. Яны яму неяк аддзячвалі за гэта: то бохан хлеба прывязуць, то сыру. І гэтак спакваля між імі ўсё ладзілася. Але аднаго разу немцы завіталі да Самсона цэлым гуртам, абступілі яго з усіх бакоў і пра нешта ні то сварыліся, ні то спрачаліся,

паказваючы нешта на пальцах. Пасля дзед Самсон мне патлумачыў, што гітлераўцы дакаралі яго за тое, нібыта ён аддае ім рыбу дробненькую, маленькую, а большую, буйную сабе бярэ.

Калі-нікалі дзед Самсон браў на рыбалку і мяне. Аднаго разу ідзём мы з ім травяністым беражком, парослым хмызамі, кустоўем, і раптам бачым: плыве па той рачулцы ў мундзіры якісь гітлераўскі ваяка. Нежывы. Увесь набраклы. Дзед Самсон аж сцепануўся, схапіў мяне за руку:

— Бяжым адсюль, унучак. І каб нікому ні слова не казаў, што бачыў. А то, зрабіў паўзу. І я зразумеў, што можа стацца з намі, калі германскія ваякі дачуюцца, што мы былі сведкамі кімсьці забітага немца.

## ВЫРУЧАЕМ ГАСПАДЫНЬКУ

Неяк аднаго разу наша матулька была ўстрывожана. Нехта ёй сказаў, што наша гаспадынька, калі ішла дадому, патрапіла ў аблаву. Аблава гэтая за вёскай. Туды сагнана аўсімавіцкая ды іншая моладзь, якую збіраюцца гнаць у Германію.

— Дзеткі мае, выручайце нашу цётачку Вольгу.

Добра сказаць: «Выручайце!» А як? Хадзіла пагалоска: у каго трое дзяцей, тых адпускаюць, і мы ўтраіх — я, мая меншая сястрычка і Вользіна дачушка Ліда пабраліся за рукі і праз усе Аўсімавічы шыбуем на тую зборню. А там людзей, што выган кішыць. Пачалі шукаць, выглядаць, дзе ж наша гас-




ПАХВАЛЬНАЯ
ГРАМАТА

Выдадзена вучаніцы 10-га класа Першай
Сярэдняй школы горада Рэчыцы
Гомельскай вобласці Беларускай ССР
Галіцкай Елізавеце Анісімаўне
ЗА ВЫДАТНЫЯ ПОСПЕХІ І ПРЫКЛАДНЫЯ ПАВОДЗІНЫ

падынька. Нарэшце ўгледзелі яе, і ўсе ўтраіх кінуліся да яе:

— А мамачка наша... А мамачка... А куды ж ты гэта? Як мы без цябе?

Гэта заўважыў вартавы. Падышоў да цётачкі Вольгі, нас агледзеў, а мы туліліся да яе, і сказаў:

— А ну вэк адсюль!

І мы дружненька пасунуліся ўсе разам дадому.

## МЯНЕ ХАЦЕЛІ ЗДАЦЬ НА КРОЎ У НЯМЕЦКІ ШПІТАЛЬ

Мы з матуляй досыць часта згадвалі вайну і сваё жыццё ў Аўсімавічах. Аднаго разу матулька як скрозь сон згадала:

— А ці помніш ты, Уладзя, як цябе немцы хацелі забраць?

— Мяне немцы хацелі забраць, — паўтарыў я следам за матуляй і здзівіўся: — Навошта ж я ім спатрэбіўся? Я ж яшчэ малы быў...

— Не ведаю. А хацелі забраць. І забралі б. А наш аўсімавіцкі староста, звалі яго Петрык, за цябе заступіўся. Абараніў цябе. Ты яму вельмі падабаўся. Кругленькі такі, пухнаценькі. Як свой.

І толькі значна пазней дазнаўся, куды мяне хацелі прымяніць акупанты. Паблізу нашых Аўсімавічаў быў Чырвоны Бераг — нямецкі шпіталь. У гэты шпіталь дзетак забіралі на кроў... А з такімі дзеткамі ў тым шпіталі, вядома, што было без крыві.

## КРЫВАВЫЯ ПОСТАЦІ

У жыхароў франтавога мястэчка Мормаль не ацалела ні кала ні двара. Усё злізала полымя вайны. Усіх зрушыла, усё струшчыла. Усё трэба было пачынаць спачатку. А дзе браць?

Неўзабаве пасля Дня Перамогі пачалі ў калгас прыганяць каровак і коней з таго краю, адкуль прыйшла вайна. Надзялілі кароўкамі з калгаснага статка і сем'і чырвонаармейцаў. Дасталася і нам рабая кароўка. Пачалі іх ганяць на пашу. Зрэдку і мяне бралі падпаскам, калі была наша чарга. Што тады мне запомнілася, уразіла. Кінулася на вочы, што трава не ўсюды роўна расце. У адных мясцінках яна буяла, была цёмная і сакаўная. Калі я прыгледзеўся, дык убачыў: лапікі мелі адбрысы чалавечай постаці. З раскінутымі рукамі і нагамі. І нават абрыс галавы выразны быў.

— Гэта тут раненыя ляжалі, — патлумачыў мне дзядзька Сёмка. — Таму тут трава так буяе.

Мяне гэта вестка аж да сэрца працяла. Я пачаў праганяць каровак з гэтых лапікаў. А як жа? Тут жа нашы людзі паміралі! Раненыя кроўю сцякалі. А гэтыя немкі, няхай сабе і кароўкі, топчуцца па іх травяных постацях. Не і не! Ні за што! Дзядзька Сёмка мне ўзяўся дапамагаць зганяць каровак з тых крывавых лапікаў. Ён таксама ваяваў. Вярнуўся з вайны кантужаны. Але не апусціў рукі. Узяўся каровак пасвіць. Але і за гэтым мірным заняткам мы з ім сутыкнуліся з крывавай праявай вайны.

*Віктар ЛУПАСІН*

# КІНО І НЕМЦЫ

## *Развашанні перад экранам*

***Чаму ў беларускім кіно няма нармальнага блокбастара?***

***Не кажыце мне, што ён ёсць. Калі б быў, то пра яго існаванне ведаў бы нават такі неадукаваны дзяцел, як я: ведаю ж пра фільмы «Аватар» і «Уладар пярсцёнкаў». Але ж я, прабачце, толькі і чуў, што пра першы беларускі хорар «Масакра», у якім хацелі здымаць Юру Дземідовіча, а Юра адмовіўся. Ну і яшчэ пра тое, што «Беларусьфільм» называюць «партызанфільмам», бо там усе фільмы пра вайну. А яшчэ пра тое, што ўсе беларускія стужкі рускамоўныя, а па-беларуску там гавораць адны бабулькі, якія дапамагаюць партызанам. Ва ўсіх гэтых папроках ёсць доля праўды. Можа, толькі доля?***

### АБЕЛАРУШВАЦЦА Ў ФОНАВЫМ РЭЖЫМЕ?

Беларускай мовы ў нашым кіно мала. Ёсць, але мала. Шматкроць меней, чым у літаратуры альбо рок-музыцы. Сам Кшыштаф Занусі пацвердзіў на сваім майстар-класе, што «язык — определяющий фактор национального кино» (Занусі не ведае беларускай мовы, таму карыстаўся рускай). Але ж на гэта ёсць аб'ектыўная прычына.

Справа ў тым, што кіно, асабліва масавае, — мастацтва менш мовазмяняльнае, чым літаратура, і больш мовазалежнае, чым музыка. Героі фільма павінны не проста гаварыць на нейкай мове, а гаварыць на мове, вельмі блізкай да звычайнай мовы свету вакол гледачоў. Пісьменнік у гэтым плане шматкроць больш свабодны: мова — ягоны асноўны інструмент і матэрыял, і ён можа змяняць яе як хоча. Цяпер пытанне: якая мова акаляе сучасных гледачоў? На жаль, не беларуская. Значыць, нашае кіно будзе абеларушвацца ў фонавым рэжыме — разам са ўсёй іншай рэальнасцю. Спачатку беларускіх стужак будзе 3 %, потым 7 — неўзабаве і дойдзем да 90!

А пакуль можна глядзець «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Тутэйшых», «Знак бяды», «На чорных лядах», «Людзей на балоце», стужкі дваццатага стагоддзя і ўжо даволі шматлікія пераклады галівудскіх фільмаў, пачынаючы ад «Крымінальнага чытва» і заканчваючы «Адным дома» ад каманды Яўгена Камаева. Ну і драбніцу накшталт цудоўнага мульціка «Як служыў я ў пана».

### ПАРАВОЗЭН УНД ПАРТЫЗАНЭН

Ідзём далей. Шчыра кажучы, спалучэнне, вынесенае ў загаловак артыкула, выклікае не толькі партызанскую, але і парнаграфічную асацыяцыю, і беларуская парнаграфія — таксама амаль нераспрацаваны жанр. Але ж мой унутраны цэнзар забараняе мне паглыбляцца ў гэтую праблему. (А шкада).

Ітак, паравозэн унд партызанэн.

Гэтая тэма ў нашым кіно пачынаецца ад самых вытокаў. Яшчэ ў 1926 годзе, задоўга да Вялікай Айчыннай, быў зняты адзін з самых першых беларускіх фільмаў, «Лясная быль». Як бачна ўжо нават з назвы, гэта стужка партызанская. Што самае цікавае, яна таксама пра вайну — адно замест немцаў там палякі. Так што легенда пра тое, быццам партызанскі імідж Беларусі прыдумалі ў 1944 годзе Берыя, Цанава і Панамарэнка, праўдзіцца ўсё ж не поўнасцю.

Паміж «Лясной быллю» 1926 года і, напрыклад, «Снайперам» 2009-га — дыстанцыя ў 83 гады, тры фундаментальныя тэхна-

Шчыра кажучы, спалучэнне, вынесенае ў загаловак артыкула, выклікае не толькі партызанскую, але і парнаграфічную асацыяцыю, і беларуская парнаграфія — таксама амаль нераспрацаваны жанр

логіі — гук, колер і камп'ютар, аграмадная розніца ва ўзроўні і... ніякай розніцы ў тэматыцы. Што там мінулая вайна з любоўнаю лініяй, што там мінулая вайна з любоўнаю лініяй. Я так расстроіўся, пачытаўшы анатацыю, што нават глядзець не стаў — ні таго, ні таго.

Але ж гэта не вычэрпвае «Беларусьфільм». Ні гэта, ні шматлікія расійскія дэтэктывы-баевікі, якія апошнімі часамі здымаюцца выключна ў Мінску (Масква, паводле Валерыя Тадароўскага, робіцца з цягам часу ўсё меней прыдатнай для здымак).

Што да пытання пра блокбастары, то тут усё яшчэ цікавей.

## ДЗЕ АДПАЧЫВАЕ ЛАРА КРОФТ?

Справа ў тым, што Беларусь для падобных праектаў надта маленькая.

Каб зняць сапраўдную высокабюджэтную стужку, патрэбны дзясяткі, сотні мільёнаў долараў. Першы «Тэрмінатар» меў бюджэт шэсць з паловай мільёнаў, які лічыўся вельмі малым, а долар у 1984 годзе быў не роўня цяперашняму. Калі кожны беларус пойдзе ў кінатэатр і заплаціць за квіток сто тысяч рублёў, блокбастар толькі-толькі акупіцца. Кожны беларус — гэта і гараджанін, і селянін, і стары, і немаўля.

## КАМЕНТ У ТЭМУ

З электроннай перапіскі рэдактара выдання з вядучым праграмы «Экспедыцыя» Уладзімірам Варатынскім

«...Ці магчыма, на вашу думку, зняць у нас кіно ў стылі прыгод Лары Крофт? Пад нашымі разбуранымі палацамі, у сутарэннях храмаў, пад дахамі нашых кляштараў? Як гэта можа выглядаць? Хто можа стаць героем такога кіно? І наколькі захапляльным можа быць сюжэт? Мэта нашага матэрыяла — паказаць, што беларускае кіно можа быць не горшым за тое, якім мы ўсе захапляемся. У Вас ёсць вопыт вандровак па краіне і вывучэння яе гісторыі «на мясцовасці», таму мне падалося, што менавіта вам ёсць што сказаць у гэтай тэме...»

«Прывітанне, Святлана. Прыемна, што вы памятаеце пра наша кароткае супрацоўніцтва. Што датычыцца здымак прыгодніцкага кіно на беларускай фактуры, то ёсць складанасці. Праблема не ў лакацыях. Мне здаецца, у нас няма кіношнікаў — сцэнарыстаў, рэжысёраў, апегатараў і нават акцёраў, якія маглі б стварыць фільм пра сімпатычнага авантурыста. Справа не ў прафесійных якасцях, тут нешта ў сістэме поглядаў на свет. Нават калі ўзяць нашмат мацнейшую расійскую кінаіндустрыю: у іх жа таксама пераканаўчага прыгодніцкага кіно не атрымліваецца.

Не магу прыгадаць ніводнай савецкай стужкі, дзе б у станоўчага героя не было высокай мэты. Часам з'яўляліся на экранах ліхія і легкадумныя шукальнікі прыгод, але звычайна гэта экранізацыя замежнай літаратуры. Вось Д'Артаньян круціць любоў з Канстанцыяй, робіць кар'еру, жыве для сябе. А гардэмарыны — ратуюць Айчыну. Мне здаецца, нават глядач не ўпадабае героя-эгаіста. Мы гатовы прабачыць гэту якасць іншаземцу, але не суайчынніку. Прафесар БДУ не можа рабаваць старыя храмы, як Індыяна Джонс. Ад гэтага ён адразу робіцца несімпатычным.

Кіно, асабліва масавае, — мастацтва менш мовазмяняльнае, чым літаратура, і больш мовазалежнае, чым музыка

У нашага героя павінны быць ідэалы. Мо таму ў савецкі час арыгінальныя сцэнарыі пра прыгоды — гэта амаль заўсёды пра вайну і рэвалюцыю. "В двух шагах от рая", напрыклад. Або "Не бойся, я с тобой".

А лакацыі — так, у нас ёсць. І Брэсцкая крэпасць, і затопленыя ракетныя шахты. Ёсць прастора для фантазіі: Гродзенскі замак на магутным узвышшы, пад якім запраста могуць існаваць таямнічыя недаследаваныя сутарэнні. Ёсць і насычанасць падзеямі — войны і перавароты. Нешта кшталту "Сокровища нации" тэарэтычна напісаць можна. Але мы на самай справе не можам цяпер зняць нешта кшталту «Лары Крофт». І тэхнічна, і па духу. Няма ў савецкіх і постсавецкіх прыгодніцкіх фільмах духу авантурыстычнага. Гераізм — ёсць, авантурызму — няма».

## ЗДЫМАЎ ГЕНІЯЛЬНЫ ХІЧКОК — З АДНЫМ АПЕРАТАРАМ, НА ПРЫМІТЫЎНУЮ КАМЕРУ

Пра тое, дзе ў Мінску можна навучыцца здымаць кіно, я распытаў рэжысёра Андрэя Палупанава.

— Раскажы пра сваю кінашколу, — папрасіў я Андрэя.

— Гэта для малалетак, якія хочуць рабіць кіно?

— Не толькі для малалетак. Дарослыя таксама ходзяць у кінашколу.

— Зразумеў. То бок калі я, салідны дзядзька з барадой, захачу зняць фільм, то я ведаю, да каго звяртацца?

— У цябе ёсць выбар. Ты можаш пайсці ў Акадэмію мастацтваў, вучыцца там чатыры ці пяць гадоў, атрымаць вышэйшую адукацыю і быць кінарэжысёрам. А да мяне — калі ты не хочаш траціць чатыры ці пяць гадоў, у цябе ёсць праца, ты маеш вышэйшую адукацыю. У мяне больш...

— Практычнае навучанне?

— Не толькі. Ёсць і тэорыя — цікавыя вельмі педагогі. Заняткі ўвечары ці ў нядзелю, 2-4 разы на тыдзень у залежнасці ад таго, як каму атрымліваецца зручней.

— Аддзяленне толькі рэжысёрскае, навучанне платнае?

— Навучанне платнае, так. Раней — недзе год-два таму — у рэжысёраў была свая група, у сцэнарыстаў свая, у акцёраў свая і гэтак далей. Але былі складанасці, і я вырашыў: трэба, каб яны ўсе ведалі ўсё. Напрыклад, рэжысёр павінен ведаць, як пісаць сцэнарый. Рэжысёр таксама павінен ведаць, як гэта — быць акцёрам.

— Гэта як кампазітар павінен ведаць, што можна сыграць на дадзеным інструменце, а што не?

— Так-так. І таму я набраў у верасні агульны кінематаграфічны курс. Прыходзяць людзі: «Я хачу быць акцёрам». Я ім: добра, давай у агульны курс. Прыходзяць: «Я хачу быць рэжысёрам» — у агульны. Там пяць прадметаў — чалавек можа выбраць з іх тры. Кожныя тры месяцы прадметы мяняюцца, таму прадмет можа быць не толькі рэжысура ці акцёрскае майстэрства. Для акцёраў бліжэй акцёрскае майстэрства, сцэнічная мова, пластыка...

— Вакал?

— Не, вакал мы не бяром, бо не паспяваем. Калі будзе болей часу — будзе і вакал, і харэаграфія.

Альбо, напрыклад: рэжысёрам выкладаюць не толькі рэжысуру. Андрэй Расінскі — гэта кінавед, дарэчы, беларускамоўны, і нават лекцыі чытае на беларускай мове; першы час было складана, але цікава, і таму студэнты слухаюць з задавальненнем, — вядзе такі прадмет, які называецца «Структура фільма». Гэта вельмі цікава і для рэжысёраў, і для сцэнарыстаў, і нават для акцёраў. Яны павінны ведаць, як фільм робіцца, з чаго складаецца. Далей: сцэнарнае майстэрства вядзе, напрыклад, Андрэй Курэйчык — таксама знакаміты чалавек, не толькі ў Беларусі.

**Паміж «Лясной быллю» 1926 года і, напрыклад, «Снайперам» 2009-га — дыстанцыя ў 83 гады, тры фундаментальныя тэхналогіі — гук, колер і камп'ютар, аграмадная розніца ва ўзроўні і... ніякай розніцы ў тэматыцы**

## Вось Д'Артаньян круціць любоў з Канстанцыяй, робіць кар'еру, жыве для сябе. А гардэмарыны — ратуюць Айчыну

Па заканчэнні чалавек павінен зняць свой фільм і абараніць дыпломную, каб атрымаць сертыфікат пра заканчэнне, і я магу сказаць, што ёсць даволі цікавыя работы.

— Я быў на паказе кароткаметражак з розных краін. З трох гадзін вытрымаў адну, — прызнаўся я. — Цікава, як успрымуць фільмы вашых выпускнікоў людзі з вуліцы.

Андрэй сказаў на гэта:

— У нас няма мэты, каб людзі нешта адразу выдалі, нейкае там высокае мастацтва. За адзін год мы не можам навучыць усяму. Мы даём тэхналогію. Што яны будуць рабіць з ёй далей — гэта ўжо іх справа.

— Па мне, вельмі сімпатычная ўстанова вымалёўваецца. Я б, напрыклад, паступіў.

— Можаш зайсці на сайт, пачытаць там трошачкі: http://filmschool.by.

Два гады назад мы пачалі з нашымі студэнтамі (дзецьмі) здымаць мастацкі фільм. Гэта фантастычная такая штука, але на сённяшні дзень мы яго пакуль яшчэ не скончылі.

— Зразумеў. Чаго не хапае?

— Грошай, як звычайна.

### ДУМКІ КАМПАЗІТАРА

Ганну Беларэцкую я вылавіў у сацыяльным сеціве і задаў ёй сем пытанняў:

**1.** Якія існуюць плыні ў цяперашнім беларускім кінематографе? Што змянілася тут за апошнія 10—20 гадоў?

**2.** У якіх плынях працавала ты?

**3.** Чым працэс напісання кінамузыкі адрозніваецца ад напісання іншай музыкі? Якія магістральныя задачы трэба пры гэтым вырашаць?

**4.** Якая з тваіх прац самая любімая, а якая нелюбімая?

**5.** Да якога фільма ты б хацела напісаць музыку?

**6.** Колькі грошай атрымлівае беларускі кінакампазітар?

**7.** У якіх беларускіх стужках, на твой погляд, добрая музыка?

Вось што яна адказала:

**1.** З тых часоў, як скончыўся постмадэрнізм, у кіно неяк нівеляваліся ўсе стылёвыя кірункі: ёсць работа па жанрах у прафесійных, вялікіх, так бы мовіць, здымках, і альтэрнатыўнае кіно. Прыкладам альтэрнатывы могуць быць работы фестываляў «Кінаварка», «Пэрпетуум Мобіле», фестываль мабільнага кіно ад Вэлком. Паняцце неабходнага мінімуму мастацкага і тэхнічнага — сцёрты. Па сутнасці, кіно сёння лічыцца ўсё, што знята на камеру, зусім не істотна, прафесійная яна ці ўладкавана ў нейкі дэвайс. Што да альтэрнатыўнага кіно — заўсёды відаць працу прафесіяналаў: адчуванне формы, рытму, глыбіня кадра. Калі гэтыя моманты прадуманы — не трэба нічога тлумачыць. Тады ўжо можна гаварыць пра звышзадачы, мастацкія ідэі etc. Цяпер такіх фільмаў дужа не хапае.

**2.** Былі спробы працаваць у розных жанрах: фантастыка, драма, камедыя, дзіцячая анімацыя, але неяк бліжэй мастацка-дакументальнае кіно. Тут, на маю думку, найменш залежыць ад рэжысёра, гэта больш тонкая матэрыя, чым гульнявое кіно, і, напэўна, мне проста цікава адчуць іншага жывога чалавека, паспрабаваць выразіць ягоныя пачуцці, думкі, учынкі без слоў. Праца ў гэтым рэчышчы пашырае кругагляд — усё адно як прачытаць добрую кнігу, выправіцца ў падарожжа альбо пражыць некалькі жыццяў адразу.

**3.** На гэтае пытанне найлепш адказаць цытатай вядомага кінакампазітара Эдуарда Арцем'ева: «Толькі адзін рэжысёр бачыць карціну цалкам, яму трэба давяраць. Я ж нічога не выдумляю — я проста запісваю думку рэжысёра нотамі». Праца кампазітара — такая самая частка, як ігра акцёра,

## Прафесар БДУ не можа рабаваць старыя храмы, як Індыяна Джонс. Ад гэтага ён адразу робіцца несімпатычным

праца сцэнарыста, тэхнікаў: гэта жывыя клеткі аднаго арганізма; яны гучаць і адгукаюцца кожная па-свойму, але мусяць быць падпарадкаваны задуме рэжысёра — інакш усё разваліцца. Мне крыўдна, калі кінамузыку пагардліва называюць прыкладной. Каб працаваць кінакампазітарам, трэба быць не толькі кампазітарам, але і гукарэжысёрам, разбірацца ў тэхніцы, мець уяўленне пра драматургію, мантаж, акустыку і многае іншае. Шчыльнасць і складанасць музычнага матэрыялу — таксама ўмоўнасць. Напісаць не тупа дзве ноты, а ўсяго дзве ноты, напісаць таленавіта і проста — мала каму дадзена. А галівудская школа візуальнай музыкі — гэта праца, якую можна параўнаць з операй альбо сімфоніяй.

**4.** У мяне заўжды апошняя работа — найлюбімая. Яна пакуль, і, спадзяюся, доўга яшчэ так будзе, на галаву вышэйшая за папярэднюю. Нелюбімых няма: шмат якія свае працы я не стану нават перaслухоўваць, але на момант іх стварэння я мела рацыю — гэта ўвесь той максімум, які я магла даць. Калі шчыра, я пакуль у працы, і такіх вынікаў не падводзіла. Мне яшчэ пакуль ранавата. Працуецца — і добра.

**5.** Я ўвесь час хачу пісаць музыку, ніякі досвед не праходзіць марна. Мэт пакуль няма, мне цікавы сам працэс. На сённяшні момант мне даспадобы школа працы з гукам Таркоўскага — ягоныя работы я лічу дасканалымі, яны па-за часам. Але ж маэстра меркаваў, што музыка трэба там, дзе ён як рэжысёр не дацягвае. Гэта не дужа мяне бянтэжыць, бо кінакампазітар у адной працы над псіхалагічна-гукавым афармленнем прасторы ягоных фільмаў можа закапацца. Таркоўскі патрабаваў «музычных вушэй» для абжывання кадравай прасторы, і ў ягоных работах сапраўды шмат музыкі.

**6.** Пытанне некарэктнае. Праца кінакампазітара — гэта праца фрылансера. У любой краіне.

**7.** Я скажу не ў стужках, а назаву кампазітара — Алег Хадоска. Прытым не толькі фільмаў гэта датычыцца, а і тандэма з Мікалаем Пінігіным. Пэўна, на сённяшні дзень гэта найвастрэйшае вуха сярод кампазітараў дадзенай сферы. Зноў жа, прафесійная адукацыя шмат што вырашае. Як паказвае практыка, авалоданне тэхнікай — гэта заўсёды другі крок у прафесіі кінакампазітара. Бо калі няма зместу, то і гаварыць няма пра што.

> Напісаць не тупа дзве ноты,
> а ўсяго дзве ноты,
> напісаць таленавіта і проста —
> мала каму дадзена

## ПРА ШТО ШУМЯЦЬ У НЭЦЕ

Потым я схадзіў у кінашколу і за адну лекцыю Андрэя Расінскага даведаўся пра мантаж болей, чым за ўсё папярэдняе жыццё, а заадно прыдумаў, які з маіх твораў можна прыгожа экранізаваць з невялікім бюджэтам і як гэта рабіць. На майстар-клас па грыме я, на жаль, не патрапіў.

Вярнуўшыся, вырашыў зладзіць галасаванне і высветліць такім чынам Vox Populi беларускіх гледачоў.

«Чаго не стае беларускаму кінематографу?» — запытаў я.

Найбольш апытантаў выбралі пункт «Беларускай мовы» — 26,7 %, альбо 24 чалавекі. На другім месцы апынуўся варыянт «Лары Крофт», на трэцім — «свайго аблічча». Апроч таго, людзі адзначалі, што не хапае мастацкай вартасці і непрадказальнасці. За спецэфекты прагаласавала ўсяго шэсць чалавек, а за варыянт «партызан» — адзін, прытым гэта быў відавочны залётны троль.

У другой апытанцы я пытаў, колькі хто глядзеў беларускіх фільмаў. Трэць людзей глядзела ўсяго 2-4 фільмы, а шостая частка не глядзела ніводнага.

Наспеў час беларускаму кіно выбірацца з партызанскіх лясоў. Хто яму ў гэтым дапаможа?

Дапаможаш беларускаму кіно ты. Падымайся, бяры камеру і здымай супер-пупер-фільм. Калі не маеш камеры — ідзі да сябра, які мае. Калі не ўмееш здымаць — станавіся сцэнарыстам ці акцёрам. Калі і гэтага не можаш — станавіся гледачом, яны заўсёды патрэбныя.

Дзейнічай па сітуацыі. 

*Ягор КОНЕЎ*

# ЧЫМ БОЛЕЙ, ТЫМ ЛЕПЕЙ

Паводле маіх назіранняў, мала хто можа прыгадаць сёння творчыя здабыткі беларускага кінематографа за апошнія 20 гадоў. Што ж тычыцца славутых фільмаў 1950—1980-х — ад «Дзяўчынка шукае бацьку» да «Белых Росаў» — то назбіраецца такіх дзясятак-другі. Між тым, за гэты час было знята каля трох соцень мастацкіх карцін. Пераважную большасць з іх (на вытворчыя тэмы) менавіта цяпер нават прымусова глядзець не змусіш. Але таму мы можам ганарыцца сваёй кінаспадчынай, што адзін з дзесяці-пятнаццаці фільмаў аказваўся вартасным. Умоўна кажучы, на яблыні, дзе квітнела багата садавіны, лягчэй было знайсці колькі сакавітых яблыкаў.

З моманту набыцця незалежнасці дзяржава ўжо не магла ўкладваць столькі сродкаў у кінавытворчасць, паколькі сістэма пракату ўжо не прыносіла колішніх прыбыткаў. Сціплае фінансаванне дазваляла ствараць у лепшым выпадку некалькі карцін штогод, якія на момант запуску пампезна хваліліся, а пасля завяршэння дэманстраваліся толькі на тэлеканалах БТ.

Нехта з кінематаграфістаў як тады, так і цяпер, ва ўсім вінаваціць сквапную дзяржаву. Маўляў, яна павінна, бы дабрачынны фундатар, даваць на мастацтва грошы і не хвалявацца, што ў выніку атрымаецца. Насамрэч прыблізна так усё і было апошнія дваццаць гадоў. Датацыі вылучаліся паводле прынцыпу засваення і спісваліся, бо вынікі аказваліся няўдалымі. Таму спажывецкая псіхалогія стала тупіковай галіной развіцця. Надзея на тое, што рэдкі фільм акажацца шэдэўральным, не апраўдалася. Гэтаксама як на яблыні, дзе расце мала яблыкаў, плады часцей аказваюцца кіслымі.

**Варта абраць правільны арыенцір у сусветным кінаакіяне, дзе надвор'е вызначае не толькі Галівуд**

Толькі цяпер, калі кінастудыю ўзначаліў Алег Сільвановіч, сітуацыя пачала, як мне здаецца, змяняцца да лепшага. На кінастудыі ўсур'ёз задумаліся пра менеджмент, якасны продаж кінапрадукту, арыентацыю на густ патэнцыяльных пакупнікоў за мяжой ды іншыя карысныя рэчы.

Зразумела, даводзіцца чуць з'едлівыя заявы наконт таго, што дзяржава не плаціць сваім кінематаграфістам па-галівудскіх тарыфах. Маўляў, з-за таго і не з'яўляюцца на беларускай ніве блокбастары.

Асабіста мне такія нараканні падаюцца або бязглуздымі, або (часцей) крывадушнымі. Па-першае, непараўнальны эканамічны патэнцыял звышдзяржавы ЗША і сярэднееўрапейскай Беларусі. Па-другое, размах кінавытворчасці залежыць ад іншых фактараў.

Толькі наша аўдыторыя мяркуе, нібыта Амерыка з'яўляецца першай кінадзяржавай свету. Насамрэч яе значна выпярэджвае Індыя, дзе вырабляецца каля 2 000 фільмаў штогод, а прыбытак кінаіндустрыі складае 20 мільярдаў долараў. Кінастудыя ў Мумбаі (колішні Бамбей) па сваіх памерах не пераўзыходзіць «Беларусьфільм». Яе будынак, узведзены 80 гадоў таму брытанскімі каланізатарамі, з тае пары практычна не рамантаваўся. Вытворчасць індыйскіх фільмаў у пяць або ў дзесяць разоў меншая, чым у Мінску. Дзевяць дзясятых індыйскіх фільмаў балансуюць на мяжы непрафесіяналізму. Але астатнія дзвесце карцін збіраюць касу па ўсім свеце. Індусы добра ўсвядомілі, што менавіта колькасць з цягам часу перарастае ў якасць.

Другое месца на кінамапе свету займае Нігерыя, дзе ствараюць 1 400 карцін штогод і зарабляюць на іх каля 14 мільярдаў долараў.

У ЗША здымаюць каля 1 000 фільмаў, з якіх 70 % трапляюць толькі ў абмежаваны

пракат, паколькі па сваіх прафесійных паказчыках не адпавядаюць элементарным патрабаванням якасці. Такое кінасмецце сарамліва называюць «артхаўсам». Каля 200 карцін атрымліваюць катэгорыю «Б», якая дае права на нацыянальны пракат. На сусветным жа кінарынку зарабляе дывідэнды толькі сотня добра зробленых блокбастараў. Аднак гэтая «залатая» вяршыня амерыканскай кінапіраміды ззяе менавіта таму, што ў яе грунтоўны падмурак з процьмы нізкабюджэтнай лухты. Можна яшчэ прыгадаць Японію, якая, як і Беларусь, не мае карысных выкапняў, але стварае 700 фільмаў штогод. Або Ганконг, які па тэрыторыі меншы за Мінскі раён, але выпускае звыш 300 карцін на экраны.

Вядома, у свеце ёсць дзве сотні краін, у якіх сітуацыя з нацыянальным кінематографам яшчэ горшая, чым на Беларусі. Але не варта з тае нагоды ані хваліцца, ані пасыпаць галаву попелам. Варта абраць правільны арыенцір у сусветным кінаакіяне, дзе надвор'е вызначае не толькі Галівуд.

Мяркую, што арыентавацца трэба на колькасць, а не на якасць. Калі вылучаць на карціну паўмільёна долараў і чакаць, што яна акажацца шэдэўрам, то, верагодна, справа зноўку абвернецца стратамі фінансавымі ды культурнымі. Калі ж на паўмільёна запусціць у вытворчасць 5 карцін, то павялічваюцца шанцы, што хоць адна з іх прынясе прыбытак. Тады не страшна, што астатнія 4 акажуцца смеццем.

Я не заклікаю эканоміць на ганарарах акцёраў або творчых супрацоўнікаў. Ганарары, дарэчы, складаюць самую мізэрную частку вытворчых выдаткаў. Эканоміць можна, напрыклад, на тым, каб здымаць не на фоне штучных дэкарацый або ў павільёнах, але на натурнай пляцоўцы або ў жылым памяшканні. Гэтак дзейнічалі кінематаграфісты перыяду італьянскага неарэалізму або скандынаўскай «новай хвалі». Напрыклад, многія з сучасных еўрапейскіх фільмаў часта здымаюцца ў адным пакоі. Гэта ўжо клопат сцэнарыста, каб дзеянне ў абмежаванай прасторы аказалася дынамічна насычаным.

Калі танных фільмаў будзе здымацца больш, то гэта станоўча адаб'ецца на іншых сферах. Зноў стануць запатрабаванымі спецыяльнасці рэжысёраў, аператараў, афарміцеляў. Цяпер мала ахвочых ісці вучыцца на

**У ЗША здымаюць каля 1 000 фільмаў, з якіх 70 % трапляюць толькі ў абмежаваны пракат, паколькі па сваіх прафесійных паказчыках не адпавядаюць элементарным патрабаванням якасці. Такое кінасмецце сарамліва называюць «артхаўсам»**

спецыяльнасці, якія пакуль гарантуюць хіба што беспрацоўе.

Тым, хто мяркуе, нібыта мастацтва вымагае значных укладанняў, варта прыгадаць, што сто гадоў таму фільмы каштавалі куды як танней, чым цяпер, але выклікалі цікавасць непараўнальную з сённяшняй. Сучасны кінапрацэс зрабіў чарговы віток. Яго важнейшыя складнікі — таннасць і масавасць. Дык што благога ў тым, калі і наша дзяржава далучыцца да такой тэндэнцыі.

Я не згодны з тымі, хто мяркуе, што лепшае выйсце для беларускага кіно — узгадаванне касты прадзюсараў. Прыклад суседняй Расіі яскрава адвяргае гэты тэзіс. Тамтэйшыя кінапрадзюсары аніякім чынам не заклапочаны якасным узроўнем тэлесерыялаў, якія спансіруюць і вырабляюць з хуткасцю серыя за тыдзень. Не хвалююць іх і арыгінальныя ідэі ды сюжэты. Яны бяруць за ўзор амерыканскія або карэйскія «тэлепрадукты» і цалкам капіруюць іх. Канкурэнцыя ж — самы дзейсны стымул для развіцця — на расійскім кінарынку цалкам адсутнічае. Прадзюсары загадзя дамаўляюцца паміж сабой пра тое, на якіх тэлеканалах будуць транслíраваць іхні «кінакантэнт» і як яны потым «распіляць» рэкламныя прыбыткі. У звычайнага гледача, зразумела, выбар небагаты.

Такім чынам, я ўпэўнены, што не прадзюсарскі клас уратуе беларускі кінематограф, але абачлівая дзяржаўная палітыка, арыентаваная на тое, каб танных фільмаў здымалася як мага больш. Вядома, кінасмецця будзе хапаць. Але, разам з тым, з цягам часу з'явяцца рэнтабельнасць і прыбытковасць.



Аляксей ШАШУКОЎ

# НАША КІНО

***Адразу ж хачу папрасіць прабачэння за выказанае ніжэй меркаванне пра беларускае кіно. Вельмі цяжка разважаць на гэту тэму, не скочваючыся выключна на жорсткую крытыку таго, што адбываецца. Што не адбываецца! Усё ніжэй сказанае — гэта толькі думкі абывацеля, які бачыць стан спраў вось так.***

Што мы маем? Перш чым пісаць, я вырашыў аддаць нейкі час на пошук інфармацыі з мэтай заўважыць і ацаніць поспехі і недахопы, вынікі і няўдачы, пахвальныя водгукі і канструктыўную крытыку ў адрас беларускага кіно. Адкрыў браўзер, набраў у акенцы пошуку «беларускае кіно» — і… Нічога! Ні пра якое паглыбленае вывучэнне пытання размова весціся не магла, бо на чытанне хапіла пары дзясяткаў хвілін. Гледзячы на рэдкія спасылкі, я зрабіў выснову, што нашага сучаснага ігравога кіно не існуе. Не, канешне, да пачатку 1990-х яно ёсць, а потым ёсць выдатная спадчына ў выглядзе «Беларусьфільма», ёсць дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы, ёсць спажывец дадзенага мастацтва, а яго, мастацтва, — няма!

Па сутнасці, на гэтым разважанні можна было б завяршыць. Наліць кубачак кавы і пагрузіць сябе ва ўспаміны пра слаўныя часы «Беларусьфільма». Заўважаць у прадуктах расійскага кінапрама мінскія двары, вуліцы і праспекты, прыкмячаць нашых акцёраў на ролях энных планаў і цешыць сябе думкай: ну і няхай сабе не наша, але ж з нашым удзелам. Аднак магчымасці, хай завышаныя і таму не схільныя сябе рэалізаваць, наперад усё ж штурхаюць, не даючы проста так пахаваць беларускае кіно і супакоіцца.

Мне хочацца спыніць творчага чалавека, узяць яго за грудкі і папрасіць выйсці з офіса легендарнага савецкага кіно ў рэальны свет

Маюць рацыю тыя, хто кажа, што без грошай нельга стварыць нешта добрае. Так, для нечага эпахальнага, шэдэўральнага, «галівудскага фармату» сродкі патрэбны немалыя. Але галівудскі фармат — гэта ўсяго толькі форма падачы. У той час як ёсць іншыя формы.

На маю думку, праблема хаваецца ў адсутнасці стасункаў паміж мастаком і чалавекам. Мастак робіць нешта, што чалавека не тое каб не хвалюе — нават не цікавіць. Просты прыклад. Беларускае кіно сярэдзіны мінулага стагоддзя звязана з тэмай Вялікай Айчыннай. Знята шмат геніяльных фільмаў, закрануты досыць хвалюючыя моманты. І, можна сказаць, раскрыта гэта тэма ўздоўж і ўпоперак, а таму зрабіць нешта лепшае тут ужо не надта атрымаецца. Але мы чамусьці працягваем спекуляваць на гэтай тэме. Мы зацыкліліся на тым, што ў дадзены момант не актуальна і не цікава. Ды не, зразумейце ж вы мяне правільна! Справа не ў вайне, а ў кіно пра вайну. Калі я захачу перажыць той момант часу, я пагляджу савецкія фільмы. Яны лепшыя, чым сённяшнія.

Мне хочацца, назіраючы за ўсім гэтым, спыніць творчага чалавека, узяць яго за грудкі і папрасіць выйсці з офіса легендарнага савецкага кіно ў рэальны свет. Прымусіць азірнуцца наўкола, вызваліцца ад мінулага і зрабіць крок наперад. Ды проста папрасіць яго пачаць рабіць хоць што-небудзь. Здымаць «з каленкі», пісаць сцэнарый «левай пяткай»… Каб кожны, хто захоча даведацца пра наша кіно, быў завалены інфармацыяй рознага кшталту — добрай і дрэннай, праўдай і лухтой, але каб ён бачыў: беларускае кіно — жыве! Імкнецца! Развіваецца!

# «ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ» ПРОСТА «ПРОСІЦЦА» НА СТУЖКУ

***Абразок да тэмы прадстаўляе Андрэй КУВАЕЎ, эканаміст, гісторык, аўтар гістарычнага інтэрнэт-партала www.radziwill.by.***

Нядаўна, адведваючы сябра, заўважыў на яго аўтамабілі-эвакуатары дзіўны грузавы аўтамабіль — легендарную «паўтарушку» часоў Вялікай Айчыннай. Запытаўшыся, дзе ён знайшоў такі рарытэт, атрымаў адказ, што аўтамабіль ён хутка павязе пад Маскву па замове адной з расійскіх кінакампаній. І што такіх аўтамабіляў расіяне замовілі некалькі штук. Яшчэ цікавы факт: толькі транспартацыя аўтамабіля з Мінска пад Маскву абыходзіцца ў кошт ад 800 да 1000 доляраў ЗША, калі прыняць да ўвагі каштоўнасць машыны і ахайнасць, з якой патрэбна яе везці. Памножым гэтую лічбу на колькасць аўтамабіляў — і атрымаем уяўленне пра маленькую частку маштабаў фінансавання расійскага кінематографа. Для параўнання, па водгуках знаёмых, якія маюць дачыненне да беларускага кінамастацтва, гэта частка — бюджэт на ўвесь беларускі фільм.

Можа, справа не ў грошах? Дзесяць гадоў таму сродкі масавай інфармацыі гулі ад навіны: на Беларусі здымаюць гістарычны фільм «Анастасія Слуцкая» з вялізнай дзяржаўнай грашовай падтрымкай. Як толькі ні называлі будучы фільм: ён планаваўся быць і «візітнай карткай беларускага кінематографа», і «самым маштабным кінапраектам апошніх год у краіне», і «узорам беларускага гістарычнага кіно». Калі фільм выйшаў на экраны, то ўсталявалася зацішша. Я доўга чакаў і ячшэ даўжэй шукаў гэты фільм. Паглядзеў — і расчараваўся. Пачытаў водгукі гледачоў — негатыўныя.

Тым часам маладым беларускім рэжысёрам Андрэем Кудзіненкам быў зняты мастацкі фільм у жанры «містыкі і жахаў». Як мне распавялі знаёмыя, на здымкі «Масакры» былі выдаткаваны проста смешныя грошы. Але, на маю думку, фільм атрымаўся вельмі дынымічным, атмасферным і прыгожым. Да таго ж, месцам дзеяння быў абраны адзін са старажытных закінутых шляхецкіх палацаў Беларусі канца XIX стагоддзя.

Вяртаючыся да «Анастасіі Слуцкай», варта зазначыць, што ідэя была выбрана вельмі слушна: сюжэты беларускай гісторыі з яе антуражам не саступаюць заморскім actions у суровых сярэднявечных, вытанчаных барочных альбо брутальных ваенных дэкарацыях. Колькі даўно ўсім вядомых фактаў і слаўных падзей годных таго, каб зрабіць з іх кіно. Няўжо Грунвальдская бітва, Люблінская унія, бітва пад Воршай, паўстанне Касцюшкі ці Каліноўскага не вартыя таго, каб быць увекавечанымі ў кінамастацтве? Проста «просіцца» на стужку цыкл апавяданняў Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях»! Зразумела, што ў савецкі час, калі беларуская гісторыя была прыроўнена да гісторыі БССР, кіношнікі шукалі ідэй і захаплення ў часах Вялікай Айчыннай вайны. Я не застануся ў адзіноце, калі скажу, што менавіта на гэтую тэму беларускі кінематограф мае шэраг таленавітых прац. Але ж сёння, калі культура і гісторыя нашай дзяржавы адкрываюцца нанова, чаму не зрабіць іх прадметам гонару? Чаму б не перанесці кніжныя старонкі на экран? Суседзі-палякі даўно гэтым скарысталіся, выдаўшы сусветнай кінаіндустрыі тузін удалых стужак кшталту «Пан Валадыеўскі», «Агнём і мячом», «Каралева Бона», «Патоп», «Пан Тадэвуш» і гэтак далей. Варта сказаць, што фільм пра беларускую прыгажуню Барбару Радзівіл, каралеву Польскую і Вялікую княгіню Літоўскую пабачыў свет яшчэ ў 1936 годзе, калі ў замку ў Нясвіжы яшчэ жылі Радзівілы, а Савецкая Беларусь захлыналася ў крыві рэпрэсій.



Ягор КОНЕЎ

# ПАРА ЎЗБАГАЧАЦЦА!

Сёлета 29 сакавіка падчас урачыстага адкрыцця адноўленага пасля рэканструкцыі будынка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь звярнуўся да кіраўніцтва трупы з прапановай: «Трэба вам зарабляць грошы самім».

Адказам яму паслужыла ашаломленае маўчанне.

Крыху пазней у адказ на просьбу артыстаў павысіць ім заробак Прэзідэнт паабяцаў тэатру дзяржаўнае фінансаванне на ўзроўні 15 % і дадаў: «Астатняе вам трэба зарабляць самім. Чакаю ад вас прапаноў на гэты конт». Замест адказу зноў пачуў разгубленае маўчанне.

Прапанова Прэзідэнта, зразумела, была звернута не толькі да «купалаўцаў», хоць, у першую чаргу, адрасавалася ім. Пэўна, з цягам часу такую параду атрымаюць і астатнія тэатры краіны.

Рэакцыя тэатральных дзеячаў на ініцыятыву Прэзідэнта была прадказальна адмоўная, хоць і выяўлялася невідавочна. Мне ж падаецца, што ў дадзенай спрэчцы — хоць і негалоснай, але не меней ад таго напружанай — мае рацыю Кіраўнік дзяржавы.

Патлумачу свой пункт гледжання.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў беларускія тэатры існавалі ва ўмовах пэўнай аўтаноміі. Дзяржава вылучала ім датацыі, патрабавала выканання фінансавага плана і не ўмешвалася ў творчы працэс. Мастацкі кіраўнік тэатра сам вырашаў — паводле ўласнага густу — якая п’еса ўвасобіцца на сцэне. Галоўная перавага аддавалася тым драматургічным творам, якія з поспехам ішлі ў Маскве. Паколькі практычна ўсе сучасныя галоўныя рэжысёры нашых тэатраў атрымлівалі вышэйшую адукацыю ў савецкі перыяд, то, як мне здаецца, падсвядома засвоілі з тае пары, што Масква — сталіцы тэатральнага свету і толькі на яе ўзоры варта арыентавацца. Беларуская ж драматургія ўспрымалася як другасная, «калгасная». На жаль, сітуацыя не змянілася і цяпер, хоць мы і жывём ужо трэцяе дзесяцігоддзе ва ўмовах рэальнага суверэнітэту.

Мяркуеце, я перабольшваю? Дык паглядзіце на афішу кожнага нашага тэатра і падлічыце ў ёй колькасць беларускіх і замежных аўтараў. У лепшым выпадку айчынныя творы складуць чвэрць ад усіх спектакляў.

Прычына, як мне здаецца, у падсвядомым правінцыяналізме, які глыбока ўкараніўся ў галовах нашых рэжысёраў і акцёраў. Здаецца, ім чамусьці сорамна за тое, што жывуць і працуюць не ў Маскве, а ў сямістах кіламетрах ад яе. Дык сваю крыўду кампенсуюць тым, што абіраюць для пастаноўкі сусветна вядомых драматургаў, пазначаюць у афішы свае прозвішча побач з Бамаршэ, Шэкспірам або Шоў і не разумеюць, як па-правінцыйнаму гэта выглядае.

У сваё апраўданне тэатральныя творцы заўсёды сцвярджалі, што, маўляў, ахвяруюць сваё жыццё мастацтву. Словы «камерцыйны поспех» дагэтуль гучаць у іхніх вуснах зняважальна. Зразумела, што гаворкі пра самаакупнасць драматычных тэатраў, не кажучы ўжо наконт іх прыбытковасці, не ішло. Стаўленне ж творцаў да свайго галоўнага фундатара — Міністэрства культуры — было па-прагматычнаму эгаістычным: маўляў, вы нам датацыі, а мы паставім тое, што захочам. Калі ж не пойдзе глядач на такую пастаноўку, то сам вінаваты, не разумее сапраўднага мастацтва.

Не дзіва, што прапанова Прэзідэнта, агучаная ў адрэстаўраваным Купалаўскім тэатры, не спарадзіла асаблівага імпэту ў асяродку тэатральнай грамады. Пасля дзесяцігоддзяў датацый, якія вылучаліся тэатрам незалежна ад якасці іхніх пастановак, мала каго з тэатральных дзеячаў узрадуе перспектыва зарабляць самастойна.

Не выключаю, што яшчэ давядзецца пачуць заявы такога кшталту, што, маўляў, без дзяржфінансавання тэатры наогул закрыюцца і нашу нацыю спасцігне духоўнае згібенне. Асабіста мне такія енкі здаюцца праявай тыповага эгаізму. Атрымліваецца, што тэатральным дзеячам прасцей скардзіцца, чым паспрабаваць самім нешта змяніць да лепшага.

Пэўным чынам сітуацыя з пераводам тэатраў на самафінансаванне нагадвае мне сітуацыю з беларускімі курортамі і здраўніцамі дзесяць гадоў таму. Мала хто памятае, што тою парой курортная структура літаральна гібела. Дзяржава ўжо не магла ўтрымліваць столькі стратных аб'ектаў, дырэктары якіх адно выпрошвалі датацыі і зусім не клапаціліся пра заваблiванне на адпачынак турыстаў не тое каб з далёкага ці блізкага замежжа, а нават з Беларусі. Урэшце праблему з курортамі вырашылі хутка і рашуча: скарацілі датацыі ды загадалі перайсці на самаакупнасць. З дырэктарамі, якія не маглі і не жадалі працаваць паводле новых прынцыпаў, развіталіся. Іхнія крэслы занялі іншыя людзі, якія заняліся эфектыўным менеджментам і дзейснай рэкламай. Цяпер у нашых курортах і пансіянатах няма вольных месцаў. Каб прыехаць у іх летам, расіяне, прыбалты і ўкраінцы браніруюць нумары яшчэ зімою. Літаральна за пару гадоў многія беларускія курорты са стратных ператварыліся ў прыбытковыя. Усё, што дзеля гэтага спатрэбілася, — найвышэйшы загад і шырокія паўнамоцтвы для эфектыўнага гаспадарання. Толькі такія сродкі і могуць у нашых умовах выкараніць спажывецкую псіхалогію.

Калі пераход на самафінансаванне ўдала рэалізаваўся ў курортнай галіне, то чаму б аналагічны эксперымент не ажыццявіць і ў дачыненні да беларускіх тэатраў?

Зразумела, што такая ініцыятыва, як усялякая прагрэсіўная навацыя, спачатку будзе варожа ўспрынята рэтраградамі, якіх у тэатрах дастаткова. Такі ўжо стэрэатып нашай ментальнасці: скардзіцца, нудзіцца і чакаць, што нехта прыйдзе з торбай грошай і вырашыць усе праблемы.

Без дзярждатацый нашы тэатральныя дзеячы першапачаткова будуць выглядаць, бы дзеці, кінутыя дарослымі. Але як толькі ўсвядомяць, што дзяржава не будзе болей з імі цацкацца, то пакрысе «пасталеюць», усур'ёз задумаюцца і пра самаакупнасць, і наконт прыбытковасці. І з цягам часу усвядомяць, што такі шлях для ўсіх выйгрышны.

**Атрымліваецца, што тэатральным дзеячам прасцей скардзіцца, чым паспрабаваць самім нешта змяніць да лепшага**

Найперш узбагаціцца тэатральны рэпертуар. Каб завабіць гледача ў залу, трэба будзе павялічыць колькасць спектакляў у афішы, прымаць да пастаноўкі творы новых драматургаў, у тым ліку і беларускіх. У выніку працы стане больш і для акцёраў, і для рэжысёраў.

Зразумела, што дзеля касавага прыбытку рэжысёры спрэс памкнуцца ставіць, напрыклад, Рэя Куні або іншых вядомых драматургаў, творы якіх ідуць у маскоўскіх тэатрах. Але няхай цяпер робяць гэта не за дзяржаўны кошт, а на ўласныя сродкі тэатра! А творы беларускіх аўтараў варта ставіць на гранты Міністэрства культуры. Да гэтага вымагаюць дзяржаўныя прыярытэты ідэалагічнага і патрыятычнага выхавання насельніцтва.

Сёння многія кіраўнікі нашых драматычных тэатраў шчыра ўпэўнены ў тым, што ўмовы самафінансавання непрыдатныя для мастацтва. Але, як сведчыць замежны досвед, у многіх краінах тэатры няблага існуюць ва ўмовах самаакупнасці. Калі ж тэатр не прыносіць прыбытку, то вінаватыя не дзяржава і не мастацтва — вінаватыя дырэктар і галоўны рэжысёр, якія замест таго, каб працаваць з рэпертуарам і гледачом, звыкла выпрошваюць датацыі. Такім чынам, мне здаецца, не варта баяцца прапановы Прэзідэнта. Яе трэба рэалізоўваць.

Калі тэатры пачнуць працаваць ва ўмовах фінансавання, то, мяркую, ужо ў недалёкай будучыні адбудзецца працэс відавочнага ўзбагачэння. Узбагаціцца рэпертуар тэатраў. Узбагацяцца — творча і матэрыяльна — пастаноўшчыкі і выканаўцы. Узбагаціцца масавы глядач, нацыянальная свядомасць, паколькі беларуская драматургія зойме ў рэпертуары годнае месца.

Усім нам прыйшла пара ўзбагачацца!

# У ЗАСЕКАХ БІБЛІЯТЭЧНЫХ СХРОНАЎ

***Матэрыял пра арыгінальны рукапіс — «сучаснік» падзей 1863—1864 гадоў прадрыхтаваны навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдатам гістарычных навук Аленай ФІРЫНОВІЧ і навуковым супрацоўнікам ЦНБ НАН Беларусі Інай МУРАШОВАЙ.***

Так склалася, што лёс гістарычных падзей падобны да лёсу пэўнага чалавека: у адным выпадку ён просты, зразумелы, у другім — мудрагелісты, заблытаны. Дакладным прыкладам апошняга варыянта ў гісторыі Беларусі XIX стагоддзя выступае паўстанне 1863—1864 гадоў, якое да сённяшнага дня не раскрыла нашчадкам усіх сваіх сакрэтаў.



Каб атрымаць сапраўдную асалоду ад чытання рукапісу, вазьміце лупу.



Фота 4.




Фота 1.

Пракрасціся ў таямніцы гісторыі даследчыкам дапамагаюць крыніцы, якія цудоўным чынам захаваліся ў засеках архіўных і бібліятэчных схронаў. Адной з такіх гістарычных перлінак з'яўляецца справа «Описание военных действий Каргопольского полка с польскими мятежниками», што захоўваецца ў рукапісным зборы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуко-

вай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі (ф. 23, воп. 1, адз. зах. 94). Фота 1.

Справа ўтрымлівае арыгінал рукапісаў асобных дакументаў ваеннага справаводства са звесткамі пра ваенныя дзеяннія на тэрыторыі Люблінскай губерні падчас паўстання 1863—1864 гадоў. Рукапіс налічвае 238 аркушаў у кардоннай вокладцы са скураным карэньчыкам. Храналагічныя рамкі дакументаў — ад 12 снежня 1863-га да 1 верасня 1864-га, усе яны напісаны дастаткова каліграфічна (рознымі почыркамі) і маюць добры стан захаванасці. Аўтарамі дакументаў выступалі кіраўнікі розных рангаў 1-га, 2-га, 3-га, 4-га, 5-га эскадронаў Каргапальскага драгунскага палка, якія былі пасланы ў ваенную экспедыцыю з мэтай падаўлення паўстання на Люблiншчыне. Фота 2.

Сярод дакументаў, якія змешчаны ў рукапісе, пераважаюць рапарты і данясенні. Рапарты маюць дзве формы: пашыраную і кароткую. У пашыраных рапартах пададзена падрабязная інфармацыя пра дату і места руху эскадрона, яго колькасны склад, дзеянні пры перадыслакацыі, назіранні на мясцовасці, вынік экспедыцыі ці ўзброеннага сутыкнення з паўстанцамі. У кароткім варыянце шаблонна прыводзяцца дадзеныя пра дату і месца знаходжання пэўнага эскадрона. Фота 4.

Данясенні пад назвамі «Описание военных действий эскадрона…», «Описание экспедиции эскадрона…», «Движение эскадрона…» па фармаце паведамленняў аналагічныя рапартам, але напісаны ў больш адвольнай форме. Фота 5.

Набліжаюцца па форме да вышэйзгаданых дакументаў і «Военные журналы…» Гэта свайго роду справаздачы пэўных асоб пра выкананне імі ваенных заданняў, распісаныя па датах. У справе прадстаўлены





Фота 5.



Фота 2.



Генералъ отъ кавалеріи
гр. П. К. Крейцъ.

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА**

***Каргапальскі драгунскі полк — кавалерыйскі полк рускай арміі, заснаваны ў 1707 годзе. З 1857 года насіў назву «Каргапальскі драгунскі Яго Імператарскай Вялікасці Вялікага Князя Канстанціна Мікалаевіча полк». Камандзірам у 1863—1864 гадах быў палкоўнік граф П. Крэйц.***

журналы паручнікаў Заікіна, Сапожнікава, Шчуко і прапаршчыка Дзьяканава за люты 1864 года.

Дакументы ўліку прадстаўлены разнастайнымі ведамасцямі, спісамі, «журналамі». «Журналы» прысвечаны ўліку дзеянняў і маршруту руху пэўных структурных частак палка. Усе гэтыя дакументы аформлены ў выглядзе табліц і запоўнены, улічваючы ваенную педантычнасць, вельмі дасканала.

Адным з цікавых матэрыялаў з’яўляецца форма «Ведомость делам с польскими мятежниками в 1863 году…» Згодна з загадам Ваеннага міністра ад 24 мая 1864 года, па гэтай форме патрэбна было прадставіць спісы «всех чинов, находившихся в делах с польскими мятежниками в 1863 году…», гэта значыць, вайскоўцаў, якія прымалі ўдзел у ваенных справах. Вопіс улічваў наступныя звесткі: «месяц и число, название мест стычек, какой губернии и военного отдела, какого уезда, состав отряда и начальник онаго, кто предводительствовал шайкою». Фота 8.



форма
№ 4225

Вѣдомость

дѣламъ съ польскими мятежниками въ 1863 году въ которыхъ принимали участіе части Каргопольскаго Драгунскаго полка.

| Званіе частей войскъ | Мѣсяцъ и число | Названіе мѣстъ стычекъ | Какой губерніи и военнаго отдѣла | Какого уѣзда | Составъ отряда и начальникъ онаго | Кто предводительствовалъ шайкою | Примѣчаніе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| V Дивизіонъ — | .... | .... | .... | .... | .... | .... | |
| 1й Эскадронъ — | .... | .... | .... | .... | .... | .... | |
| Второй Взводъ 4 Эскадрона — | .... | .... | .... | .... | .... | .... | |
| и т. п. | | | | | | | |

Старшій Адъютантъ,
Капитанъ [illegible]

Фота 8.

Гэтыя дакументы дазваляюць прасачыць не толькі ход ваенных дзеянняў, але і даведацца пра агульную арганізацыю расійскіх войск і паўстанцкіх атрадаў, іх стратэгію і тактыку, атрымаць дакладныя статыстычныя звесткі. Зразумела, што інфармацыя паказана толькі з пазіцыі расійскага боку, дзе паўстанцы называліся не інакш, як «мятежники», а яе кіраўнікі — «предводители шайки». Аднак наяўная дакладнасць вылучаных крыніц, якая абумоўлена мэтай іх складання — для службовага карыстання, дазваляе пазбегнуць фальсіфікацыі гістарычных падзей.

Вызначаныя рукапісы — каштоўны матэрыял для стварэння навуковай рэканструкцыі ваеннай гісторыі паўстання, у якім, пагаджаючыся з вядомым расійскім гісторыкам і археографам А. Мілавідавым, «военные действия, можно сказать, занимают центральное место. Остальные же проявления революционного движения: манифестации, сопротивления законным властям <…> и т. п. — лишь аксессуары главной исторической драмы, кулисы которой закрылись, как только прекратились военные действия…»



# ТВОРЧЫ ТУРНІР

***Кожны музычны інструмент: ці то скрыпка работы геніяльнага майстра, ці то копія старажытнай дуды, зробленая сённяшнім умельцам, ці то сучасны фабрычны раяль пад брэндам вядомай фірмы, — рэч рукатворная і мае свой рэальны кошт. І толькі адзін інструмент сапраўды бясцэнны: спеўны голас! Яго не саштукуеш і не купіш, яго чалавеку сам Бог дае.***

**Дастаецца такі дар далёка не ўсім.** І хаця цуды тэхнікі здатныя адкрыць дарогу ў эфір, на эстраду каму заўгодна, камп'ютарны сурагат, падроблены талент ніколі не заменіць вялікі цуд прыроды — жывую музыку прыўкраснага натуральнага спявання. Вядома, каб умела карыстацца гэтым унікальным «інструментам», раскрываць яго магчымасці напоўніцу, доўгія гады захоўваючы выразныя ўласцівасці голасу, трэба вучыцца і вучыцца. У прафесіі вакаліста столькі сакрэтаў і «падводных камянёў»! Яна цяжкая, бо вымагае грунтоўнай музычнай адукацыі, складаных спецыяльных заняткаў, упартай працы над сабой, абавязвае выконваць галасавы рэжым. Яна рызыкоўная, бо ніхто не застрахаваны ад каварных наступстваў некампетэнтнасці педагога, ад стрэсаў і праступ, што згубна ўплываюць на голас і могуць звесці каштоўны дар на нішто. Яна запатрабаваная. Праўда, не надта прэстыжная сярод моцнай паловы нашага грамадства: у творчых калектывах адчувальны дэфіцыт годных мужчынскіх галасоў і рэгулярна з'яўляюцца адпаведныя вакансіі.

Але хто там ідзе? Новае пакаленне будучых барытонаў, тэнараў, басоў! Для іх, патэнцыяльных артыстаў хору, камерных салістаў, выкладчыкаў вакалу, майстроў севернай сцэны, і ўтвораны штогадовы Рэспубліканскі конкурс юных вакалістаў імя Фёдара Шаляпіна. Заснавальнікі салідныя: Беларускі саюз музычных дзеячаў, яго творчыя падраздзяленні (Шаляпінскае таварыства Беларусі, Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў, прадзюсарскі цэнтр «Класіка»), Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Журы прадстаўнічае: з прафесараў ды выкладчыкаў акадэміі, знаных музыкантаў. А ўзначальвае яго Алег Мельнікаў — вядучы майстар опернай сцэны, заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў і самага першага Усесаюзнага конкурсу імя Ф. Шаляпіна, старшыня Шаляпінскага таварыства Беларусі.



*Даніла Сямёнаў — лаўрэат І ступені ў катэгорыі «В» — на «біс» для сямейнага відэа.*

Сёлета гэты творчы турнір ладзіўся другі раз і прысвячаўся 140-годдзю з дня нараджэння славутага рускага спевака. Хлопцы,



*Ілья Белякоў — лаўрэат I ступені ў катэгорыі «D» — уладальнік рэдкаснага тэнара-альціна.*



*Лаўрэаты ў катэгорыі «А» Глеб Данілаў (дыплом II ступені) і Леанід Данілюк (дыплом I ступені).*

якім ад 9 да 18 гадоў і якія займаюцца акадэмічным вакалам, спаборнічалі ў чатырох узроставых катэгорыях. Заключны тур, у якім удзельнічалі дваццаць два фіналісты з розных рэгіёнаў краіны, праходзіў у Мінску.

Цікава. Эмацыянальна. Захапляльна. І зусім не падобна да тых дзіцячых шоу, дзе «фабрыкуюць» зорак, «раскручваюць» песні, «тыражуюць» рэйтынгі ды забаўляюць публіку. Тут — іспыт на мастацкасць. Без піяру і спецэфектаў. Сакральныя сцэны акадэміі музыкі. Кароль інструментаў — чорны канцэртны раяль. Цыбатыя ходарлявыя падлеткі, па-даросламу задуменныя абаяльныя хлапчаняты — у строгіх касцюмах, светлых кашулях або ва ўрачыстых гарнітурах з гальштукамі-«матылькамі». Засяроджаныя позіркі педагогаў, канцэртмайстраў, бацькоў. Стрыманыя «балельшчыкі», вымушаныя сцішыць пачуцці, бо нельга апладзіраваць канкурсанту ў паўзах паміж творамі: паляскаць у ладкі, а то і выгукнуць «брава!» дазволена толькі тады, як той «адпяе» свае нумары...

**Пяць гадзін класікі — пяць гадзін сапраўднага драйва!** Складаная конкурсная праграма вымагала ад выканаўцаў не толькі раскрыцця прыродных магчымасцей голасу, але і адпаведных прафесійных навыкаў, і артыстызму, і выразнай трактоўкі твора. Журы зважала на мастацкую вартасць і тэхнічны ўзровень прадстаўленай музыкі, эмацыянальнасць юных спевакоў, іх сцэнічную культуру. Кожны выконваў дзве кампазіцыі ў інструментальным суправаджэнні (опус беларускага кампазітара і твор на ўласны выбар), а таксама народную песню а’cappella. Выкарыстоўваць фанаграму «мінус» катэгарычна забаранялася, нават пры запісе дэма-дыскаў, на падставе якіх праводзіўся першы, завочны адборачны тур.

Жартоўныя народныя абразкі, песенная лірыка беларускіх кампазітараў, хрэстаматыйныя рускія рамансы, оперныя фрагменты, савецкія шлягеры. Малітва, роздум над жыццём, замілаванасць роднымі краявідамі, любоўнае прызнанне, пакуты і радасць... Якая стракатая плынь вобразаў, жанраў, стыляў, характараў! А хлопцы — галасістыя. Толькі вучаць іх па-рознаму. Відавочныя няроўнасці тэмбру, часам крыклівы, адкрыты гук, недакладная артыкуляцыя сведчаць пра «выхаваўчы» ўплыў масавых тэлевідовішчаў і пэўны настаўніцкі дылетантызм у працы з юнымі талентамі.

**Дзень мінаў з неверагоднай хуткасцю,** пакідаючы на ўспамін яскравыя эпізоды спеўнага марафону. Уявіце: 10-гадовы Уладзімір Пішчанюк (харавая

студыя «Пеўнікі» Брэсцкага ГДК, педагог В. Закірава, канцэртмайстар Э. Сайданава) кранальна выказаў паэтаву тугу ў вядомым рамансе на пушкінскі верш «Зимний вечер», а 9-гадовы Аляксей Бракала (Гродзенскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, педагог І. Анькова) пражыў вакальны маналог лірычнага героя М. Лермантава — «Выхожу один я на дорогу...» Пранікнёна спавядаўся цудоўным стэпавым кветкам 14-гадовы Руслан Любімаў (ДШМ № 3 г. Бабруйска, педагог А. Андрыеўская) у рамансе М. Булахава на верш А. Талстога «Колокольчики мои...»; 11-гадовы Даніла Сямёнаў (Бабруйская ДШМ № 2 імя У. Алоўнікава, педагог Г. Клімовіч) зухавата, з лёгкім гумарам і акадэмічнай культурай прадставіў яскравы ўзор нашага фальклору «Там каля млына...». Каларытнае выкананне жартоўнай рускай песні «В деревне было Ольховке» зрабіла 13-гадовага Ніко Балквадзэ (ДШМ № 7 г. Мінска, педагог А. Машчыц) улюбёнцам публікі. А старэйшыя? Ілья Белякоў, якому ўжо 18 (Магілёўскі дзяржаўны музычны каледж імя М. Рымскага-Корсакава, педагог Л. Багамолава, канцэртмайстар Н. Сасіна), уразіў не толькі рэдкасным высокім голасам (тэнар-альціна), але і рэпертуарам — знакамітай арыяй Арфея з оперы К. В. Глюка «Арфей і Эўрыдыка», стыль якой гэтак гарманічна спалучыўся з «халаданаватым» тэмбрам выканаўцы, і «Песняй бабыля Мікіты» з оперы А. Туранкова «Кветка шчасця». Рэпертуарная залацінка ўпрыгожыла і праграму 17-гадовага лідара конкурсу, Уладзіслава Вітушкі (Рэспубліканскі каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, педагог С. Кліманаў, канцэртмайстар Л. Кунейка): «Маладыя гады» А. Багатырова на верш М. Багдановіча. З якой свежасцю, і абсалютна сучасна, прагучаў гэты яркі ўзор беларускага рамантызму!

**Журы назвала імёны** 14 лаўрэатаў, адзначаных дыпломамі розных ступеняў. Уручаўся і памятны падарунак: выпушчаныя малымі тыражамі ў Расіі набор паштовак з рэпрадукцыямі малюнкаў Ф. Шаляпіна і манаграфія журналіста-міжнародніка М. Гарбунова «Па скандынаўскім следзе Шаляпіна». Лаўрэаты І ступені ў розных узроставых катэгорыях атрымалі імянныя статуэткі, выраблены ў форме скрыпічнага ключа, уладальніку Гран-пры дасталася вялікая прыгожая ваза. І якое ж свята без гала-канцэрта! У праграме — лепшыя конкурсныя нумары, акаймаваныя двума сімвалічнымі выступленнямі. Адкрываў яе лаўрэат леташняга спаборніцтва «юных шаляпінцаў» Даніэль Кейта. А завяршыў старшыня журы Алег Мельнікаў. У суправаджэнні канцэртмайстра Вялікага тэатра Беларусі Г. Каранта ён выканаў два рамансы А. Даргамыжскага: трагічную баладу-маналог «Стары капрал» і жартоўную мініяцюру-сцэнку «Млынар». Адразу і мастацкі сюрпрыз, і ўрок вакальна-сцэнічнага майстэрства, віртуознага акцёрскага пераўвасаблення ад нашага магутнага баса!



*Уладзіслаў Вітушка — уладальнік Гран-пры.*

Што да высноў... Конкурс атрымаў станоўчы розгалас як важная акцыя, скіраваная на выхаванне ў новага пакалення духоўнай культуры, разумення і любові да айчыннага і сусветнага мастацтва, захаванне традыцый беларускага вакальнага выканальніцтва хлопчыкаў, папулярызацыю класічнай музыкі ў асяроддзі дзяцей і падлеткаў, фарміраванне мастацкага густу.

Восенню саюз музычных дзеячаў зноў, як і летась, правядзе рэспубліканскі семінар-практыкум для педагогаў, што працуюць з галасамі хлопчыкаў і юнакоў. Няведанне тонкасцей гэтай працы вядзе да сур'ёзных праблем. Пра іх і пагавораць з калегамі вядучыя семінара — майстар опернай сцэны Алег Мельнікаў і заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, знаны вакальны педагог Адам Мурзіч.

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ,***
***фота аўтара.***

Рубрыка кафедры
літаратурна-мастацкай крытыкі
Інстытута журналістыкі БДУ

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

# АД «СІНЯЙ БЛУЗЫ» ДА ТЭАТРА.DOC

## *Беларускі след у дакументальным тэатры*

***Героямі гэтых спектакляў становяцца дашкольнікі, гастарбайтары, прэзідэнты, настаўнікі фізкультуры і іх вучаніцы-каханкі, рок-зоркі, цяжарныя жанчыны, міліцыянеры, дактары, людзі, якія, п'юць, марнуюць жыццё ў офісе ці пераказваюць сюжэты фільмаў. Сапраўдныя людзі са сваімі сапраўднымі гісторыямі. Гэта — дакументальны тэатр. І седзячы ў глядзельнай зале, ты можаш пазнаць на сцэне суседа па пад'ездзе, а можаш і сябе...***

Дакументальны тэатр сёння досыць распаўсюджаная з'ява для тэатральнага працэсу постсавецкай прасторы. Для тлумачэння сутнасці скарыстаюся азначэннем са «Слоўніка тэатра» Патрыса Паві: «Дакументальны тэатр — тэатр, які выкарыстоўвае ў якасці тэксту толькі дакументы, першакрыніцы, адабраныя і "пастаўленыя" згодна з сацыяльна-палітычнай праграмай драматурга». Фокус увагі драматургаў, сацыяльна-палітычныя праграмы і першакрыніцы цягам амаль стагадовай гісторыі тэатральнай з'явы, канешне, змяняліся. Але нязменнымі заставаліся дзве якасці — надзённасць і злабадзённасць.

На пачатку XX стагоддзя, падчас грамадзянскай вайны ў Расіі з'явілася і стала папулярнай такая форма мастацтва, як масавыя рэвалюцыйныя прадстаўленні. Тэматычна яны былі прысвечаны гісторыі паўстанняў і рэвалюцый: паўстанне Спартака, Парыжская Камуна, рэвалюцыя 1905 года. Найбольшая ўвага, канешне ж, надавалася падзеям 1917 года. Маштаб відовішча дыктаваў пэўныя ўмовы. Для дзеяння, якое ахоплівала

**«Пакаленне раз'юшаных» не стварала дакументальных п'ес, але пісала тэксты, у якіх быў заўважны пратэст героя супраць традыцыйнай рэчаіснасці, што яго акаляла**

пэўны гістарычны перыяд і разыгрывалася тысячамі перад тысячамі (у адной з самых знакамітых інсцэніровак «Узяцце Зімовага палацу», якую зладзілі на Дварцовай плошчы 7 лістапада 1920 года, было задзейнічана каля дзесяці тысяч выканаўцаў, а назіралі за рэканструкцыяй каля ста тысяч гледачоў) быў характэрны пэўны ўзровень абагуленасці і алегарычнасці. Аднак з цягам часу масавыя прадстаўленні сталі набываць усё больш прыкмет дакументальнасці. Прыкладна ў той жа час з'явілася яшчэ адна папулярная тэатральная форма: агітацыйныя суды — прадстаўленні, якія імкнуліся дакладна паўтарыць судзебны працэс. Агітацыйныя суды праводзіліся як над уяўнымі персанажамі (Капітал, Дэзерцір), так і над рэальнымі (Врангель). Часткова прынцыпы гэтых масавых відовішчаў сталі падмуркам для з'яўлення «жывой газеты» і тэатра «Сіняя блуза», ад моманту з'яўлення якіх і прынята весці летазлічэнне савецкага, а потым і постсавецкага дакументальнага тэатра. Але перш чым звярнуцца непасрэдна да гісторыі руху «сінеблузнікаў», варта ўзгадаць яшчэ адзін творчы вопыт у падмурку, тым больш, што гэты вопыт мае беларускае паходжанне, — легендарны Віцебскі тэатр рэвалюцыйнай сатыры. Ён быў заснаваны ў Віцебску, дзе працаваў на працягу 1919—1920 гадоў. Ініцыяваў яго стварэнне кіраўнік мясцовага аддзялення «Окон РОСТА» Міхал Пустынін. Рэжысёрамі сталі Міхал Разумный і Аляксандр Сумарокаў, сцэног-

рафам — Марк Шагал. У рэпертуар тэатра ўвайшлі праграмы, якія складаліся з аднаактных агітп'ес, сатырычных сцэнак на міжнародныя тэмы, палітсатыр, пародый, куплетаў, частушак, дэкламацыі, танцаў, паказаў з Пятрушкам, а таксама тантамарэскаў (інсцэніраваных плакатаў «Окон РОСТА»). Апошні з пералічаных жанраў выклікае пэўную цікавасць з-за тэхнічнага ўвасаблення: акцёры знаходзіліся за шырмай, у якой для іх твараў і рук былі прарэзаны дзіркі. Акцёры прасоўвалі твары і рукі ў дзіркі і «ажыўлялі» плакат, пазней гэтым прыёмам сталі карыстацца і «сінеблузнікі».

Віцебскі тэрэўсат стаў першым тэатрам такога тыпу ў СССР. Хутка тэатры, створаныя па яго ўзоры, распаўсюдзіліся па ўсёй краіне. А віцебскі тэатр пасля паспяховых гастроляў у 1920 годзе быў пераведзены ў Маскву, дзе ператварыўся ў Тэатр Рэвалюцыі, стваральнікам і кіраўніком якога стаў Усевалад Мейерхольд (цяпер Маскоўскі акадэмічны тэатр імя Уладзіміра Маякоўскага).

У хуткім часе на змену плыні тэатра рэвалюцыйнай сатыры прыйшла «жывая газета», а на пачатку 1920-х на базе «жывой газеты» ў Маскоўскім інстытуце журналістыкі ўзнік тэатр «Сіняя блуза». «Жывая газета» прадстаўляла сабой тэатралізаваны паказ, матэрыялам для якога станавіліся газетныя тэксты ці падзеі мясцовага жыцця. Спачатку газетныя матэрыялы чыталі ўслых адзін ці некалькі чалавек, потым да чытання дадаліся простыя формы тэатралізацыі і паступова «жывая газета» ператварылася ў тэатр «Сіняя блуза» — тэатр малых форм, асноўным кірункам працы якога стала агітацыя.

Якімі былі асаблівасці гэтага «перыядычнага выдання»? Нумар «жывой газеты» будаваўся ў адпаведнасці са звычайным газетным планам: палітычная перадавая, тэлеграмы, фельетоны, хроніка мясцовага жыцця і іншае. Аднак у сцэнаграфіі дэкарацыю-макет газетнай старонкі «сінеблузнікі» адмаўлялі, адыходзячы ад літаральнасці ў бок прастаты. Стваральнікі адзначалі, што «жывая газета», выкарыстоўваючы формы тэатра, уздзейнічае не толькі на свядомасць, як чытанне ці слова аратара, але з дапамогай уплыву пачуццяў і ўражанняў спрыяе яркай фіксацыі думкі тэатральным вобразам.

**«Журналісцкае інтэрв'ю дастае інфармацыю з чалавека, а інтэрв'ю ў вербаціме дастае з чалавека ўсё: яго псіхічны стан, настрой»**

Трэба заўважыць, што «жывая газета» на аснове праграм, выпушчаных «Сіняй блузай», стала вельмі папулярнай тэатральна-агітацыйнай формай у СССР і дастаткова хутка распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі краіны, у тым ліку падобныя з'явы існавалі і ў Беларусі.

1920 гады — час, калі цікавасць да дакументальнага тэатра з'яўляецца і ў Еўропе. У 1925 годзе заснавальнік пралетарскага тэатра нямецкі рэжысёр Эрвін Піскатар паставіў першы дакументальны спектакль «Нягледзячы ні на што», прысвечаны рэвалюцыйным падзеям у Германіі. Пастаноўка ўяўляла сабой мантаж прамоў, лістовак і газетных матэрыялаў. Эксперыменты Піскатара ў гэтай вобласці сталі пачаткам традыцыі нямецкамоўнага дакументальнага тэатра, а таксама часткова знайшлі працяг у эпічным тэатры Бертальта Брэхта.

Англамоўная традыцыя дакументальнага тэатра з'явілася пазней, разам са з'яўленнем «пакалення раз'юшаных». «Пакаленне раз'юшаных» не стварала дакументальных п'ес, але пісала тэксты, у якіх быў заўважны пратэст героя супраць традыцыйнай рэчаіснасці, што яго акаляла. Пазней менавіта англамоўная плынь, у прыватнасці семінары, праведзеныя англійскім тэатрам «Роял Корт», які вядомы сваімі эксперыментамі ў гэтай галіне, у значнай ступені паўплывала на развіццё постсавецкага дакументальнага тэатра.

У адрозненне ад нямецкамоўнай і англамоўнай традыцыя савецкага дакументальнага тэатра была перарвана. Пасля поспеху «Сіняй блузы» і актыўных творчых пошукаў агітацыйнага тэатра на пачатку XX стагоддзя дакументальны тэатр ў СССР з-за пэўных грамадска-палітычных умоў быў прадстаўлены адзінкавымі пастаноўкамі, якія, як правіла, з'яўляліся пасля «адлігі». Так у артыкуле, які прысвечаны гісторыі дакументальнага тэатра ў Расіі, у часопісе

## У Беларусі адмысловага тэатру, які б працаваў выключна з дакументальнай драматургіяй, няма

«Театр» крытык Каміла Мамадназарбекава прыгадвае спектакль Маскоўскага тэатра на Таганцы «Дзесяць дзён, якія скаланулі свет» па Джону Рыду ў пастаноўцы Юрыя Любімава (1965), прысвечаны падзеям Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аднак тут ёсць што прыгадаць і з гісторыі беларускага тэатра. У 1970 годзе Валерый Раеўскі паставіў у Купалаўскім тэатры спектакль па Даніілу Алю «Праўда! Нічога акрамя праўды!!!», прысвечаную Кастрычніцкаму перавароту, а ў 1978 годзе — п'есу Яўгена Шабана «Чалавек з легенды» пра Кірыла Арлоўскага, Героя Савецкага Саюза, чалавека з выключнай біяграфіяй.

Падобны па актыўнасці да агіттэатра, усплеск руху дакументальнага тэатра на постсавецкай прасторы адбыўся на пачатку XXI стагоддзя. На гэты раз эстэтыка сапраўднасці была прызвана на тэатральную сцэну для таго, каб паспрабаваць асэнсаваць сучаснасць і вывесці на сцэну сучаснага героя.

У 1999 годзе на вышэй згаданых семінарах драматургі пазнаёміліся з тэхнікай стварэння п’ес «вербацім» (ад лац. «даслоўна»), якая пазней стала вельмі папулярнай. Вербацім — гэта тэхніка, заснаваная на дакументальнасці, калі драматург стварае тэкст п’есы на падставе інтэрв’ю з рэальнымі людзьмі, расшыфраванымі і даслоўна ці блізка да гэтага ўвасобленымі на сцэне.

Драматургі-дакументалісты карыстаюцца інструментарыем літаратуры і журналістыкі, аднак існуюць прынцыповыя адрозненні. У інтэрв’ю тэлеканалу «Культура» расійскі драматург і дырэктар Тэатра.DOC, пра які я скажу ніжэй, Алена Грэміна адзначыла, што для сучаснай расійскай тэатральнай дакументалістыкі не характэрны прынцыпы літаратурнага мантажу, а выдзяляе яе сур’ёзная распрацоўка тэмы. Расійскі тэатральны дзеяч і мастацкі кіраўнік Тэатра.DOC Міхаіл Угараў дакладна адзначыў розніцу паміж журналісцкім інтэрв’ю і інтэрв’ю ў тэхніцы вербацім: «Журналісцкае інтэрв’ю дастае інфармацыю з чалавека, а інтэрв’ю ў вербаціме дастае з чалавека ўсё: яго псіхічны стан, настрой».

У Расіі самыя актыўныя працэсы працы ў кірунку дакументальнага тэатра звязаны з Тэатрам.DOC, заснаваным у 2002 годзе ў Маскве. Гэта незалежны, недзяржаўны і некамерцыйны праект. Самі «докаўцы» называюць стварэнне спектаклей паводле рэальных падзей і людскіх лёсаў «асаблівым жанрам, які існуе на стыку мастацтва і злабадзённага аналізу». Трэба заўважыць, што аўтарам некалькіх п’ес у рэпертуары Тэатра.DOC стаў беларускі драматург Павел Пражко.

У Беларусі адмысловага тэатра, які б працаваў выключна з дакументальнай драматургіяй, няма. У той ці іншай ступені тэхнікамі дакументальнага тэатра сёння карыстаюцца такія беларускія драматургі як Павел Пражко, Дзмітрый Багаслаўскі, Канстанцін Сцешык.

Такім чынам, дакументальны тэатр на постсавецкай прасторы быў вядомы і папулярны амаль стагоддзе таму, і з’ява гэтая ў тэатральным працэсе не такая новая, як можа падацца на першы погляд. Варта адзначыць і значны беларускі складнік на ўсіх этапах развіцця гэтай тэатральнай формы: Віцебскі тэатр рэвалюцыйнай сатыры, удзел у руху «сінеблузнікаў», пастаноўкі Валерыя Раеўскага, п'еса і вопыт працы над ёй Яўгена Шабана, пастаноўкі па творах Святланы Алексіевіч, з’яўленне шэрагу сучасных драматургаў. Аднак пры такім моцным падмурку і багатай гісторыі ў сучасным беларускім тэатральным працэсе плынь дакументальнага тэатра займае малазаўважнае месца. Пералічанае трыа драматургаў, напрыклад, куды больш папулярнае ў Расіі, чым у нас. Чаму так? Пытанне для асобнай размовы. Але, мне здаецца, гэта будзе працягвацца да той пары, пакуль гледачы (і выпадковыя, і прафесійныя) не пачнуць пра гэту з’яву:

а) ведаць;

б) не баяцца пабачыць на сцэне рэальнасць, ад якой нам вельмі хочацца адасобіцца ў сапраўдным жыцці;

в) не баяцца пазнаць у гэтай рэальнасці сябе.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## УЗДЗЕНСКІ РАЁН

### Горад Узда

**Вуліцы М. Горкага, У. Маякоўскага**

**Вуліца Бялевіча Антона**

Названа ў гонар паэта, ураджэнца в. *Дуброўка* гэтага ж раёна. Ёй прысвяціў верш **Прыходзька Пятро** «Вуліца друга» (Гл. «Літаратура і мастацтва». — 1983. — 22 красавіка).

**Вуліца Пальчэўскага Алеся**
Названа ў гонар пісьменніка, ураджэнца в. *Прусінава* гэтага ж раёна.

**Вуліца Пралятарская, 94**

**Уздзенская цэнтральная раённая бібліятэка імя П. Труса,** ураджэнца Уздзеншчыны. У бібліятэцы ёсць краязнаўчы фонд. Сумесна з раённай газетай бібліятэка арганізавала літаб’яднанне «Нёманец».

**Вуліца Інтэрнацыянальная, 32**

**Уздзенская сярэдняя школа № 1 імя А. Пушкіна.** Імя прысвоена Указам Савета Міністраў БССР ад 4.6.1949 г. У снежні 1982 г. тут адкрыты музей А. Пушкіна. У музеі ўстаноўлены скульптурны партрэт паэта (скульптар У. Летуноў), партрэты Я. Купалы і Я. Коласа.

**Вуліца Савецкая, 13**

**Сярэдняя школа № 2**. У школе існуе **музей *Кандрата Крапівы***.

**Вуліца Школьная, 4а**

**Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей.**
Адкрыты ў 1986 г. Плошча 400 $м^2$, 2,5 тыс. экспанатаў. У ім ёсць раздзел пра беларускіх пісьменнікаў-землякоў.

**Літаратурнае аб’яднанне «Нёманец»**. Кіруе ім намеснік рэдактара раённай газеты «Чырвоная зорка» **Сабалеўскі Віктар**. Ён аўтар паэтычных зборнікаў «Чабаровая паляна» (1994), «Абранніца» (1997).

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3—12 за 2012 г.

* * *

**Вінаградаў Дзмітрый** (н. 26.2.1943), пісьменнік, ураджэнец с. *Жураўлёўка* Калінінскага р-на Цаліноградскай вобласці, пражывае тут. Скончыў Гомельскі дарожна-будаўнічы тэхнікум, Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. З 1974 г. працаваў у будаўнічых арганізацыях г. Хойнікі і г. Узда. Цяпер пенсіянер. Піша на рускай мове. Аўтар кніг «Забыты геній», «След пагаслай зоркі», «Казкі старога лесу», твораў у калектыўных зборніках.

**Глебка Пятро,** паэт, ураджэнец в. *Вялікая Уса* гэтага ж раёна, у 1923 г. скончыў уздзенскую сямігодку.

**Дыбчы Арнольда** (н. 22.12.1939), паэта, драматурга, радзіма. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працаваў рэжысёрам музычных праграм Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Друкуецца ў розных тэматычных зборніках, літаратурна-мастацкіх выданнях, газетах. Яго п'есы пастаўлены шэрагам беларускіх тэатраў.

**Зана Тамаша,** паэта, ураджэнца в. *Мясота* Маладзечанскага р-на Мінскай вобласці, адвезла маці з Вязынкі і ўладкавала ва Уздзе ў парафіяльную школу. Тут жылі яго продкі.

**Кісялёў Уладзімір,** краязнавец, прысвяціў літаратурным мясцінам Уздзеншчыны кнігу «Наднёманскімі пуцявінамі».

**Крапіва Кандрат** (Атраховіч Кандрат), пісьменнік, ураджэнец в. *Нізок* гэтага ж р-на, скончыў Уздзенскае народнае вучылішча.

**Луцэвіч Дамінік,** бацька Я. Купалы, вянчаўся ў уздзенскім касцёле.

**Махнач Аляксандр**, драматург, празаік, публіцыст, ураджэнец в. *Забалацце* гэтага ж р-на, у 1935—1939 гг. вучыўся ў Уздзенскай СШ.

**Пальчэўскі Алесь,** пісьменнік, ураджэнец в. *Прусінава* Уздзенскага р-на, вучыўся у мясцовай школе.

**Якімовіч Алесь,** дзіцячы празаік, ураджэнец в. *Чурылава* гэтага ж р-на, паспяхова скончыў Вышэйшае пачатковае вучылішча ва Уздзе.

* * *

**Вёска Вялікая Уса** Ліцвянскага сельсавета

**Глебкі Пятра** (6.7.1905—18.12.1969), паэта, вучонага, радзіма. Скончыў Уздзенскую сямігодку, БДУ (1930). Працаваў сакратаром рэдакцыі часопіса «Узвышша», у газеце «Калгаснік Беларусі», часопісе «Полымя Беларусі». З 1945 г. — у АН БССР: у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва, у 1952—1956 гг. — загадчык сектара лексікаграфіі, у 1956—1957 гг. — дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адначасова ў 1968—1969 гг. — акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук. Друкаваўся з 1924 г. Аўтар зборнікаў лірыкі «Шыпшына» (1927), «Урачыстыя дні» (1930), «Хада падзей» (1932), «Чатыры вятры» (1935), драматычнай паэмы «Над Бярозай-ракой» (паст. 1940). Аўтар лібрэта оперы «Андрэй Касценя» (нап. 1947, паст. 1970), вершаванай п'есы «Святло з Усходу» (паст. у 1957), літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Горкага, У. Маякоўскага, А. Пракоф'ева, Т. Шаўчэнкі, М. Рыльскага і інш. У Вялікай Усе была напісана ім невялікая паэма, ці нізка вершаў, як пазначыў яе сам аўтар, «Матчыны казкі». Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**Вёска Дуброўка** Любяцкага сельсавета

**Бялевіча Антона** (27.5.1914—11.4.1978), паэта, радзіма. Вучыўся ў Магілёўскім педтэхнікуме, у 1933—1935 гг. — у Магілёўскім палітасветным інстытуце. Друкаваўся з 1937 г. Аўтар кніг «Майстры сацыялістычнага земляробства» (1939), «Чалавек з Дубровы» (М., 1945, на рускай мове), «На бацькоўскіх сцежках» (1946), «Свята» (1947), «Чалавек-сонца» (1947), «Паэмы» (1948), «Сонечным шляхам» (1950), «Светач» (1950), «Дарогай шчасця» (1952), «Ідзі, мой сын» (1953), «Жывая рака» (1955), «Хлеб і нахлебнікі» (1957), «Добрыя людзі» (1957), «За салаўінымі гаямі» (1959), «Людзі робяць вясну» (1959), «З добрай доляй заручоныя» (1960), «Вясёлка над полем» (1961), «Тарасікава дарожка» (1962), «Залатыя ключы» (1963), «Маштабны Міканор» (1963), «Высокі поўдзень» (1964), «Рэха навальніц» (1965), «Партрэт бацькаўшчыны» (1967), «Вінтоўка і плуг» (1968); выбраных твораў у 2-х тамах (1969), «Чарадзеі» (1970), «Мінай Шмыроў» (1970), «Любоў мая» (1971), «Хатынь: боль і гнеў» (1971), «Гарынь» (1972), «Дабрадзей асілак» (1973), «З Дуброўкі краіна відна» (1974), «А ў бары, бары» (1974), «Сонцам заручоныя» (1975), «Партызанскі рыбачок» (1976), «Малюнкі маленства» (1977), «Споведзь сэрца» (1978), «Сонечны гадзіннік» (1978), «Мой шчодры бор» (1985). Пераклаў на беларускую мову паэму А. Твардоўскага «За даллю — даль» (1962), паасобныя творы А. Пракоф'ева, М. Бажана, А. Малышкі, У. Няходы і інш. На словы Бялевіча напісалі песні М. Аладаў, А. Багатыроў, Я. Цікоцкі і інш. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**Вёска Забалацце** Уздзенскага сельсавета

**Махнача Аляксандра** (27.8.1922—8.8.2001), драматурга, празаіка, публіцыста, радзіма. Скончыў мясцовую пачатковую школу (1933). У 1935—1939 гг. вучыўся ў Уздзенскай СШ. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1960). У Вялікую Айчынную вайну быў удзельнікам абароны Брэсцкай крэпасці. З 1947 г. працаваў бібліятэкарам на Уздзеншчыне, у 1953—1961 і 1963—1966 гг. — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Дэбютаваў вершамі ў 1949 г. Выдаў зборнікі драматычных твораў «Драматычныя мініяцюры» (1956), «Аднаактавыя п'есы» (1961), «Мы будзем жыць» (1967), «П'есы» (1974), «Не кажы: мая хата з краю...» (1980), «Няхай красуе жыццё» (1982), гераічнай драмы «Шпачок» (паст. 1964), «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці» (паст. Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача ў 1972 г.), дакументальнай аповесці «Дзеці крэпасці» (1988), «Камандзір Усходняга форта» (1991), складальнік зборнікаў нарысаў «Людзі граніцы» (1989), па праблемах экалогіі і краязнаўстве «Нізок: краязнаўчыя нарысы» (1998).

**Вёска Замосце** Нёманскага сельсавета

**Гурскага Васіля** (н. 11.11.1922), паэта, радзіма. Вучыўся ў Мінскім педвучылішчы імя Крупскай (1938—1941). З верасня 1942 г. да вызвалення Беларусі — у партызанах. Служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам. У 1957 г. скончыў завочна Мінскі педінстытут. Друкуецца з 1953 г. Першая кніга — «Жывы падарунак» (1974). Аўтар 25 кніг. Сярод іх — «Хачу жыць» (1996), «Малыя памочнікі» (1996), «Паляўнічы гонар» (1997), «Хмары над Міншчынай» (2000), «Сірочая доля» (2005), «Незабыўныя сцежкі» (2007), «Ухабістыя дарогі» (2008).

**Гурскага Ільі** (14(26).4.1899 — 11.8.1972), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1932). З 1924 г. — у Галоўліце БССР, Галоўрэперткаме, у Галоўмастацтве БССР. У 1935—1941 гг. — рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у Вялікую Айчынную вайну — газеты «За свабодную Беларусь» і сатырычнага лістка «Партызанская дубінка», у 1944—1960 гг. — часопіса «Беларусь». Друкаваўся з 1926 г. Аўтар п'ес «Дрыгва» (1928), «Качагары» (1930), «Маці» (1934), «Хлеб» (1948), «Свае людзі» (1950); кніг «Лясныя салдаты» (1945), выбраных твораў (1951), «У агні» (1952, новая рэдакцыя 1959), «Вецер веку» (1966), «Чужы хлеб» (1969), «Лясныя салдаты» (1979). Перакладаў на беларускую мову творы М. Горкага, М. Твена, А. Чэхава, і інш. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**Вёска Зенькавічы** Уздзенскага сельсавета

Мясцовая сярэдняя школа носіць імя **Якімовіча Алеся,** беларускага пісьменніка, ураджэнца в. *Чурылава* гэтага ж р-на. 10.9.1985 г. у школе адкрыты ***Музей Якімовіча***. Фонды налічваюць больш як 500 экспанатаў, у т. л. звыш 100 арыгінальных.

**Вёска Кухцічы** Сямёнавіцкага сельсавета

**Будны Сымон** (1530 (?) — 13.1.1593), беларускі гуманіст, асветнік, рэлігійны рэфарматар, філосаф, сацыёлаг, гісторык, ураджэнец в. Буды ў Мазовіі (Польшча), бываў тут у маёнтку **Кавячынскага Мацея,** кнігавыдаўца, перакладчыка, рэфармацыйнага дзеяча, які пабудаваў тут у канцы XVI ст. кальвінскі збор, а таксама быў надрукаваны яго пераклад Бібліі на польскую мову (1570).

У вёсцы існаваў папяровы млын. Выпускалася папера з вадзянымі знакамі герба Кавячынскіх.

**Шавеля Кастуся** (5.6.1912—19.8.1987), паэта, радзіма. У 1938 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў. Пасля вызвалення Беларусі (1944) быў прызваны ў Савецкую Армію. З 1956 г. працаваў бухгалтарам у калгасе імя Ільіча Уздзенскага раёна. Друкаваўся з 1927 г. (часопіс «Беларускі піянер»). Аўтар кніг паэзіі «Мой кут салаўіны» (1967), «Музыка нівы» (1977), «Пахне бяроста» (1978), «Цалуйце хлеб» (1981), «Асеннія пракосы» (1983).

**Вёска Ліцвяны** Нёманскага сельсавета

У мясцовай школе існуе музей ***Глебкі Пятра*,** паэта, ураджэнца в. Вялікая Уса гэтага ж р-на. Адкрыты ў снежні 1984 г. Фонды — больш як 300 экспанатаў, у т. л. 100 арыгінальных.

**Вёска Магільна** (у 1979—1991 гг. — Нёман), цэнтр сельсавета

Магілянскую сярэднюю школу скончыў **Гурскі Ілья,** празаік, драматург, ураджэнец в. *Замосце* гэтага ж р-на. Нёманскай сярэдняй школе прысвоена імя пісьменніка. У верасні 1985 г. у школе адкрыты ***музей Гурскага***. У ім больш як 200 экспанатаў, у т. л. 100 арыгінальных.

**Вёска Мрочкі** Камянкоўскага сельсавета

**Казлоўскага Віктара** (24.8(6.9).1905—24.2.1975), паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум, а ў 1931 г. — БДУ. Друкаваўся з 1925 г. Цяжка захварэў. Пасля вайны жыў у доміку, які яму пабудаваў СП БССР. Аўтар зборнікаў паэзіі «Слова аб юнай краіне», «Музыка працы», паэмы «Рахіль» (усе ў 1932 г.). Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Асеева, В. Кавальскага, І. Уткіна, і інш. Пахаваны ў роднай вёсцы.

**Вёска Нізок** Уздзенскага сельсавета

**Арабей Лідзіі** (н. 27.6.1925), пісьменніцы, радзіма. Скончыла БДУ (1951). Працавала ў рэдакцыі часопісаў «Вожык», «Полымя», газеце «Чырвоная змена», выдавецтве «Беларусь». Друкуецца з 1946 г. Аўтар манаграфій «Цётка (Алаіза Пашкевіч)» (1956) і «Хвядос Шынклер» (1959); твораў для дзяцей (зб. апавяданняў «Калібры», 1960, аповесць «Сіні бор», 1972; зб. апавяданняў і казак «Ісці ў разведку», 1989). Жыццю і творчасці Цёткі прысвяціла аповесці «На струнах буры» (1966) і «Стану песняй» (1977). Аўтар літаратурных твораў «Мера часу» (1962), «Экзамен» (1963), «На другой зіме вайны» (1966), «Сярод ночы» (1968), «Іскры ў папялішчы» (1969), «Ваўчкі» (1972), «Мне трэба ехаць» (1974), «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы» (1980), выбраных твораў у 2-х тамах (1985), «Халодны май» (1993) і інш. Жыла тут 2 гады. Пасля смерці бацькі сям'я пераехала ў Мінск. Хата, дзе нарадзілася пісьменніца, захавалася. У ёй ніхто не жыве.

**Крапівы Кандрата** (сапр. Атраховіч; 5.3.1896—7.1.1991), драматурга, паэта, празаіка, мовазнаўца, грамадскага дзеяча, радзіма. Народны пісьменнік Беларусі (1956). Акадэмік АН БССР (1950). Скончыў БДУ (1930). У 1913 г. у Мінску экстэрнам здаў экзамены на званне народнага настаўніка, у 1914—1915 гг. працаваў у Мнішанскім земскім народным вучылішчы Мінскага павета. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1920—1923 гг. — у Чырвонай Арміі. У 1932—1936 гг. — загадчык аддзела часопіса «Полымя рэвалюцыі». Удзельнічаў у паходзе ў Заходнюю Беларусь (1939) і савецка-фінляндскай вайне (1939—1940). У Вялікую Айчынную вайну працаваў у франтавых газетах «Красноармейская правда» і «За Савецкую Беларусь» (1941—1942), рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1943—1945). З 1945 г. — рэдактар часопіса «Вожык». З 1947 г. — загадчык сектара Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1956—1982 гг. — віцэ-прэзідэнт АН БССР, у 1982—1989 гг. — у Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1922 г. Супрацоўнічаў з газетай «Савецкая Беларусь», друкаваўся ў газеце «Беларуская вёска», часопісах «Чырвоны сейбіт», «Маладняк», «Узвышша», «Полымя рэвалюцыі» і інш. Аўтар зборнікаў «Асцё», «Крапіва» (абодва ў 1925), «Апавяданні» (1926), «Байкі» (1927), «Пра нашых шкоднікаў, папоў ды ўгоднікаў», «Ухабы на дарозе» (абодва ў 1930), «Жывыя праявы» (1930); няскончанага рамана «Мядзведзічы» (кн. 1-я, 1932), п’ес «Канец дружбы» (паст. БДТ-1, 1934), «Хто смяецца апошнім» (паст. БДТ-1, 1939; Дзяржаўная прэмія СССР, 1941; аднайменны фільм па сцэнарыі аўтара, 1954), «Партызаны» (паст. БДТ-1, 1937), «Проба агнём» (1943), «З народам» (абедзве пастаўлены Беларускім тэатрам імя Я. Коласа, 1948), «Мілы чалавек» (паст. тэатрам імя Я. Купалы, 1945), «Людзі і д’яблы» (паст. тэатрамі імя Я. Купалы і імя Я. Коласа, 1958), «Пяюць жаваранкі» (паст. тэатрамі імя Я. Купалы і імя Я. Коласа, 1950; Дзяржаўная прэмія СССР, 1951; аднайменны фільм па сцэнарыі аўтара, 1953), «Зацікаўленая асоба» (паст. тэатрам імя Я. Купалы, 1953), «Брама неўміручасці» (паст. тэатрам імя Я. Купалы, 1974; Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Купалы, 1974), «На вастрыі» (паст. тэатрам імя Я. Коласа пад назвай «Блытаныя сцежкі», 1983), збору твораў у 5-ці тамах (1974—1976), збору твораў у 6 тамах (т.1-3, 1997—2000). Аўтар прац па беларускай лексікаграфіі, рэдактар «Руска-беларускага слоўніка» (т.1-2, 2-е выд. 1982), «Беларуска-рускага слоўніка» (т.1-2, 2-е выд. 1988—1989), «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963) і інш. Пераклаў асобныя творы У. Шэкспіра, А. Астроўскага, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча і інш. Значны ўклад зрабіў у беларускае мовазнаўства (Дзяржаўная прэмія СССР, 1971 г. за комплекс работ па лінгвагеаграфіі). Імем К. Крапівы названы Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай АН Беларусі. Хата, дзе нарадзіўся Крапіва, не захавалася. На будынку мясцовай школы — мемарыяльная дошка. У школе — невялічкі пакойчык, у якім размешчаны музей «Слова».

**Труса Паўлюка** (23.4(6.5).1904—30.8.1929), паэта, радзіма. Тры гады вучыўся ў Нізку, затым ва Уздзе. Спяваў у хоры Шыдлоўскага па навакольных вёсках. Вучыўся ў БДУ (1928—1929). У 1927—1928 гг. працаваў у газеце «Палеская праўда» (Гомель). Друкаваўся з 1923 г. Аўтар зборнікаў «Вершы» (1925), «Ветры буйныя» (1927), паэм «Юны змаганец», «Астрожнік» (абедзве ў 1925), няскончаных фальклорна-рамантычных паэм «Цыганка» (1927), «Чырвоныя ружы» (1929), «Сірата Алеся» (1925—1929), паэмы «Дзясяты падмурак» (1928). Памёр у інфекцыйнай бальніцы ў Мінску. Пахаваны на Вайсковых могілках. Хата не захавалася, застаўся толькі падмурак. Магчыма, будзе адноўлена. У Нізку жыве сястра П. Труса — Вера.

У мясцовай школе створаны ***музей слова***, прысвечны ўсім паэтам, дзе ёсць іх асабістыя рэчы. Адчынены ў 1996 г., 2 тысячы экспанатаў. На будынку школы да 100-годдзя з дня нараджэння П. Труса адкрыта мемарыяльная дошка. З 2004 г. школа закрыта. Музей працягвае працаваць.

Існуе рукапіс гісторыі вёскі. (**Суткаленка В.** Гісторыя вёскі Нізок / В. Суткаленка // Полымя. — 2005. — № 7. — С. 179—192.)

**Вёска Прусінава** Нёманскага сельсавета

**Пальчэўскага Алеся** (3(16).1.1905—26.4.1979), празаіка, радзіма. Нарадзіўся ў шматдзетнай сям’і. Быў аддзінаццатым дзіцем. Вучыўся 3 гады ў вёсцы, затым ва Уздзе. Скончыў БДУ (1931). Працаваў у газеце «Іскры Ільіча». У 1936 г. быў рэпрэсаваны. Пакаранне адбываў у Ніжнегародскай вобласці. Вярнуўся з лагера ў 1946 г. Працаваў настаўнікам Пухавіцкай СШ (1946—1947). Быў арыштаваны па даносе. Але праз пэўны час выпушчаны. Працаваў у Рудзенску. У 1949 г. яго зноў незаконна асудзілі, выслалі ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1954 г. З 1955 — у Мінску. Працаваў у часопісе «Вясёлка». Друкуваўся з 1924 г. Аўтар кніжкі-п’есы «З чырвоным сцягам» (1932), кніг «Беражанкі» (1958), «Родныя берагі» (1958), «Ты не адзін» (1959), «Аля і Галя» (1961), «Жнівеньская раніца» (1963), «Дым над лесам» (1964), «Данеўцы — нашы знаёмыя» (1965), «Разбітае люстэрка» (1965), «Былі ў маці сыны» (1968), «Таемная крушня» (1969), «Тайна аднаго звяна» (1970), «Запознены пасаг» (1973), «Аднавокі сом» (1974), «Сцежкі» (1976) «Ноч на вахце» (1979), выбраных твораў у 2 тамах (1975; 1980). На доме, у якім нарадзіўся Пальчэўскі, у 1980 г. устаноўлена мемарыяльная дошка (скульптар У. Лятун, ён жа аўтар помніка на магіле пісьменніка). У хаце жыла яго пляменніца. У 1989 г. у мясцовай школе адкрыты музей пісьменніка. Пахаваны на мясцовых могілках, там, дзе і яго бацькі.

У роднай вёсцы былы карэспандэнт часопіса «Огонек», доктар тэхнічных навук, прафесар культуралогіі, рускі пісьменнік **Блюмін Георгій** стварыў Музей памежнай заставы і гісторыі вёскі. Займаецца даследаваннем гісторыі радзімы сваіх продкаў, а Беларусі прысвяціў кнігу «Царская дарога».

**Вёска Пырашава** Лашанскага сельсавета

**Булгарына Фадзея** (24.6 (5.7).1789—1(13).9.1859), рускага журналіста і пісьменніка, радзіма. Да 1825 г. супрацоўнічаў у «Полярной звезде» А. Бястужава і К. Рылеева, сябраваў з А. Грыбаедавым. Пазней крайні рэакцыянер, асведаміцель III аддзялення жандармерыі, пісаў даносы на пісьменнікаў. У 1825—1859 гг. (з 1831 г. разам з М. Грэчам) выдаваў рэакцыйную газету «Северная пчела». Аўтар дыдактычных і псеўдагістарычных раманаў, нораваапісальных нарысаў. Найбольш вядомы раман «Іван Выжыгін» (1829). У ім, а таксама ва ўспамінах і некаторых нарысах адлюстраваны побыт Беларусі. Адзін з выразнікаў ідэі афіцыйнай народнасці.

**Урочышча Пяскі** або Лазараўшчына, не існуе. Знаходзілася за 4,5 кіламетры ад Магільна ў бок вёскі Літва.

Родавае гняздо **Луцэвічаў.** Урочышча было падаравана Луцэвічам па чыншавым праве, значыць, яно не было іх прыватнай уласнасцю, хоць за службу ў Радзівілаў ад платы чыншу яны былі вызвалены. Тут 12 мая 1846 г. нарадзіўся бацька Янкі Купалы. Даследчыкі лічаць, што адсутнасць ранніх метрычных дакументаў Луцэвічаў звязана з пажарам Магільнянскага касцёла ў 1760 г.

**Вёска Рудкова** (спалена ў вайну, не адноўлена), Цяплянскага сельсавета

**Баранавых Сымона** (сапр. Баранаў, 1.9.1900—10.11.1942), пісьменніка, радзіма. На працягу 1924—1925 гг. быў старшынёй сельсавета, старшынёй узаемадапамогі, загадчыкам хаты-чытальні. Скончыў БДУ (1931). Друкаваўся з 1927 г. Аўтар зборніка «Злосць» (1930), «Чужая зямля» (друкаваўся ў 1929 г. пад назвай «На абрэзках зямлі»), «Межы» (1929, выд. 1930), «Новая дарога» (1931—1932, выд. 1936); аповесці для дзяцей «Пастка» (1934, 3-е выд. 1958); рамана «Калі ўзыходзіць сонца» (1935—1936, выд. 1957).

**Вёска Стальбоўшчына,** Нёманскага сельсавета
26 красавіка 1989 г. у мясцовай школе адкрыты музей ***Пальчэўскага Алеся*,** празаіка, ураджэнца в. *Прусінава* гэтага ж р-на.

**Вёска Таўкачэвічы** Хатлянскага сельсавета

**Караля Мікалая** (н. 28.12.1950), пісьменніка, паэта, радзіма. Піша на рускай і беларускай мовах. Скончыў Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум (1970), журфак БДУ, Мінскую Вышэйшую партыйную школу. Працаваў у калгасе, камсамольскіх і партыйных органах, рэдакцыях уздзенскай раённай газеты «Чырвоная зорка», «Мінскай праўдзе», «Рэспублiцы». Аўтар кніг «На добры ўспамін», «Спеў і гнеў» і інш.

**Вёска Хатляны** Любяцкага сельсавета

У мясцовай школе існуе ***краязнаўчы музей***.

**Пасёлак Целякава**, цэнтр сельсавета

**Гурскай Алены** (н. 21.2.1950), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. Скончыла БДУ (1972). У 1974—1992 гг. — у Інстытуце літаратуры АН Беларусі, з 1992 г. — у Беларускім дзяржаўным педуніверсітэце. Друкуецца з 1967 г. Аўтар кніг «Адказнасць перад часам: Нарыс творчасці К. Кірэенкі» (1986), «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі» (у суаўт., 1996).

**Мазуркевіча Язэпа** (1887—1937), пісьменніка, краязнаўца, радзіма. Скончыў вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску (1924). Настаўнічаў, выкладаў на Віцебскім вячэрнім рабфаку. У канцы 1920 — пач. 1930-х гадоў працаваў у Віцебскім краязнаўчым музеі, у школе. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Віцебскай філіі «Маладняка» і Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Друкаваўся з 1922 г. Выступаў з апавяданнямі «Здзекі» (1924), «Бранявік» (1925); п'есамі «За калгас» (1930); нарысамі «Сустрэча» (1932); крытычнымі артыкуламі «400 гадоў беларускаму друку» (1925), «Літаратурны рух на Віцебшчыне» (1929). Рэпрэсаваны ў 1937 г. Растраляны. Рэаблітаваны ў 1957 г.

**Вёска Чурылава,** Уздзенскага сельсавета

**Шырко Васіля** (н. 31.8.1948), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Чурылаўскай пачатковай (1956—1959), Зенькавецкай 8-гадовай (1959—1963) школах. Скончыў журфак БДУ. Працаваў у «Сельскай газеце», часопісе «Полымя», на тэлебачанні. Аўтар кніг нарысаў «Зямлі бацькоўскай прыцягненне», «Дарагія мае землякі», «Сцяжына да людзей», «Хай людзі бачаць», «Вунь чурылавец пайшоў», «Беларусь маладая» (у суаўтарстве), «Беларусь новая» (у суаўтарстве). Кніг казак «Дзед Манюкін не салжэ», «Дзед Манюкін і ўнукі». На рускай мове — кніг нарысаў і эсэ «Накаут», «Трыпутнік на асвальце», «Дарога скрозь сэрца», «Жамчужына Палесся», «Чароўны келіх» (у суаўтарстве), «Зорны россып», «Дзе Свіслач нясе воды». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Старшыня бюро секцыі публіцыстыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Якімовіча Алеся** (17.1.1904—15.1.1979), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Белпедтэхнікум (1926), БДУ (1930). З 1924 г. працаваў у рэдакцыях дзіцячых часопісаў «Беларускі піянер», «Іскры Ільіча». З'яўляўся членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны выкладаў у адной з сярэдніх школ Татарыі, потым быў адказным сакратаром газеты ў Казахстане. З кастрычніка 1942 г. — у Савецкай Арміі, камандзір стралковага ўзвода, затым роты, пад Харкавам быў цяжка паранены (1943). Працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР (1944—1945, 1948—1954), адказным сакратаром часопіса «Бярозка» (1945—1948), літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў БССР (1955—1960). Друкаваўся з 1923 г. Аўтар кніг «Вершы», «Гул бубна» (1925); казак «Каваль Вярнідуб» (1936), «Казка пра смелага вожыка» (1937), «Вераб'ёвы госці» (1945), «Браты Лазоўскія» (1965); зборнікаў вершаў «Улетку» (1947), «Слухай-запамінай: Азбука ў вершах і малюнках» (1948), «Звяры нашых лясоў» (1951). Выдаў нарыс «Коска» (1950, апавяданні і зборнікі апавяданняў «Залаты дуб» (1937), «Выпадак на чыгунцы» (1938), «Помста» (1946), «Сябры» (1948),

«Я — юны піянер» (1952), «Новы год» (1958), «Залатыя рукі» (1975), «Аповесці і апавяданні» (1949), «Арляняты» (1952), «Брылёў курган» (1954), «Светлы дзень» (1969). Выдаў аповесці «Перамога» (1932), «Незвычайны мядзведзь» (1934), «Гаворыць Масква» (1951), «Смелыя людзі» (1960), «Прыгоды хлопчыка Іларыка» (1965), «Цяжкі год» (1976). У 1967 г. выйшлі выбраныя творы ў 2-х тамах, а ў 1978—1980 гг. — збор твораў у 3-х тамах. У яго апрацоўцы выйшла асобнымі выданнямі шмат казак, а таксама зборнікі «Каток — залаты лабок» (1955), «Бацькаў дар» (1957). Суаўтар «Чытанкі» для 2 класа (1933, разам з Е. Тарандай), аўтар кніг для чытання ў другім класе «Роднае слова» (1945). Выступаў у жанры перакладу. У 1971 г. за аповесці «Адкуль ліха на свеце» (1963), «Канец сервітуту» (1968) і «Кастусь Каліноўскі» (1971) Якімовічу прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР, 1975 г. Памёр у Мінску. Пахаваны на Усходніх могілках.

**Вёска Чырвоны Лес** Нёманскага сельсавета

**Вальчэўскага Івана** (н. 2.1.1945), пісьменніка, радзіма. У 1968 г. скончыў БДУ. Друкуецца з 1989 г. У 1996 г. выйшаў першы зборнік яго сатырычных твораў «Аднабокая арыфметыка». Аўтар сатырычных зборнікаў «Вугал зроку» (2000), «Смех праз слёзы» (2003). У 2005 г. друкаваўся ў калектыўным зборніку паэтаў Валожыншчыны «Зямлі маёй і землякам». Пражывае ў г. п. *Івянец* Валожынскага р-на.

## ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН

### г. Чэрвень (раней Ігумен)

**Вуліцы М. Багдановіча, В. Бялінскага, У. Караленкі, Я. Купалы, А. Луначарскага, У. Маякоўскага, М. Някрасава, А. Пушкіна, І. Тургенева, Т. Шаўчэнкі.**

**Аўласенка Генадзь,** паэт, празаік, драматург, ураджэнец в. *Ліпавец* Ушацкага р-на Віцебскай вобласці, працуе настаўнікам у мясцовай школе.

**Вольны Анатоль** (Алёша, сапр. Анатоль Ажгірэй), паэт, празаік, ураджэнец г. *Пухавічы* Мінскай вобласці, вучыўся ў Ігуменскай гімназіі.

**Вяршыніна Мікалая** (20.5.1940—2009), паэта-сатырыка, радзіма. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум (1958), БДУ (1970). Працаваў інжынерам на мінскіх заводах. З 1978 г. — вядучы інжынер навукова-тэхнічнага аб'яднання «Прагрэс». Друкуеца з 1960 г. Аўтар зборнікаў сатыры і гумару «Без віны вінаватыя» (1972), «Не сышліся характарамі» (1977), «Дагуляўся» (1981), «Нашто мне жаніціся» (1982), «Свой чалавек» (1993), «І роздум, і смех, і любоў» (2007), «Найважнейшыя аб'екты» (2008) і інш.

**Карлюкевіч Алесь** прысвяціў літаратурным мясцінам Чэрвеншчыны нарысы «Ігуменскімі сцежкамі» («Маладосць», 2009, № 10) і «вандроўкі па Ігуменшчыне («Полымя», 2011, № 10).

**Ламачэўскі Асінкрыт** (1804—1884), мемуарыст, пахаваны на старых Ігуменскіх могілках. У 1865—1868 гг. — мінскі губернскі паштмайстар. У адстаўку па штацкай лініі выйшаў у званні сапраўднага стацкага саветніка. У 1869—1870 гг. — міравы пасрэднік Ігуменскага павета.

**Лебяда Тодар**, пісьменнік, ураджэнец г. *Віцебск*, у 1940 г. быў пераведзены з Новасібірскай вобласці ў Чэрвень для перагляду справы. У 1962 г. працаваў у Чэрвені ў райгазеце.

**Лейвіка Гальперна** (25.12.1888—1962), паэта, драматурга, радзіма. Пісаў на ідыш. Нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і настаўніка. Вучыўся ў хедэры, пазней — у іешыве

м. Бярэзіна. У 1901—1903 гг. — у іешыве г. Мінска. З 1905 г. — актыўны дзеяч Бунда. У 1906 г. за хаванне нелегальнай літаратуры быў арыштаваны. У мінскай турме ў чаканні суда напісаў на ідыш драматычную паэму «Ланцугі Месіі» (1907, надрукавана ў 1939) і шэраг вершаў. На судзе (1908) адмовіўся ад абароны, абвясціў сябе перакананым барацьбітом з самадзяржаўем і быў прыгавораны да чатырох гадоў катаржнай турмы і пажыццёвай ссылкі ў Сібір. У 1910 г. быў пераведзены ў Бутырскую турму (Масква), а ў 1912 г. дастаўлены этапам у пасёлак Вітыцім на Лене, адкуль вясною 1913 г. збег у ЗША. У 1914 г. уладкаваўся на фабрыку дзіцячага адзення ў Філадэльфіі, а затым да 1932 г. працаваў мулярком-шпалершчыкам у Н'ю-Ёрку. Аўтар зборнікаў «Пад замком» (1918), «Вершы» (1919), «Вершы з рая» (1937), «Я не быў у Трэблінцы» (1945), шэрагу драматычных твораў. Яго драматычная паэма «Голем» была пастаўлена ў 1921 г. у Маскве. Зборнікі яго вершаў былі выдадзены ў Маскве і Кіеве. У 1940 г. у Н'ю-Ёрку у двух тамах выйшлі «Усе творы», а ў 1963 г. — «Эсэ і прамовы». У канцы 1925 — пачатку 1926 г. здзейсніў паездку па Еўропе, падчас якой наведаў СССР. Па выніках паездкі выдаў дарожныя нататкі «На пачатковым рубяжы» (1925, Кіеў). Сумесна з І. Опатошу выдаваў альманах «Замлбіхер» (1936—1952). З 1958 г. быў прыкаваны да ложка. Памёр у Н'ю-Ёрку.

**Незабытоўскі Аляксандр,** пісьменнік, філосаф, гісторык, ураджэнец в. Смалічы Нясвіжскага р-на Мінскай вобласці (паводле іншых звестак в. *Зубкава* Навагрудскага р-на Гродзенскай вобласці), пасля вучобы ў Дэрптскім універсітэце 3 студзеня 1839 г. уладкаваўся на работу чыноўнікам павятовай канцылярыі Ігуменскага павятовага маршалка. Атрымаў чын калежскага рэгістратара, пасля — губернскага сакратара. У верасні 1842 г. пакінуў службу.

**Шаўляковай-Барзенка Ірыны** (н. 31.7.1974), крытыка, літаратуразнаўца, радзіма. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (1996). Працуе ў Нацыянальным інстытуце адукацыі. Аўтар кніг літаратурнай крытыкі «Галерэя сноў» (1995), «Сентыментальная паляванне, або У крытычных сутарэннях» (2000), «Сапраўдныя хронікі поўні» (2011).

**Шпілеўскага Паўла,** этнографа, пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, ураджэнца в. *Шыпілавічы* Любанскага р-на Мінскай вобласці, прайшлі тут дзіцячыя гады. Яго бацька — святар Шпілеўскі Міхаіл — меў тут прыход.

На мясцовых старых могілках знаходзіцца магіла дзеда **Максіма Багдановіча** Апанаса Мясоты. Памёр 12.1.1878 г.

* * *

**Вёска Грабёнка** Валевачскага сельсавета

Сюды, у Грабёнкаўскую школу, **Якуб Колас** вазіў на экзамен вучняў. Гэта паездка апісана ў трылогіі «На ростанях».

**Вёска Карпілаўка** Валевачоўскага сельсавета

**Пянкрата Міхася** (28.8.1918—22.11.2001), паэта, празаіка, радзіма. Скончыў Смілавіцкі паляводчы тэхнікум (1939). Удзельнік савецка-фінскай (1939—1940) і Вялікай Айчыннай войнаў. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. З 1959 г. — у часопісе «Вожык». Друкаваўся з 1937 г. Першы зборнік вершаў «Салаўіны бераг» (1956). Працаваў у жанры сатыры і гумару. Аўтар зборнікаў прозы «Простыя людзі» (1957), «Палын і кветкі» (1958), «Не з таго канца» (1959), «Ведрыцкія напевы» (1965), «Товарищ, возьмите улыбку» (1966), «Аўтарытэт на колах» (1968), «Любоў у квадраце» (1969), «Буян» (1975), «Прынцыповы пасаг» (1978), «Спатканні і ростані» (1978), «Не астудзі сваё сэрца» (1989). Выдаў кнігі для дзяцей «Два Ваські» (1974), «Двое ў лодцы» (1983).

**Вёска Карзуны** Смілавіцкага сельсавета

**Шыдлоўскага Вячаслава** (12.1 (па пашпарце 12.3.) 1913—23.8.1997), пісьменніка, радзіма. Скончыў Смілавіцкую сямігодку (1929). Пасля вучыўся ў Барысаўскім сельгастэхнікуме, працаваў у калгасе, служыў у арміі. Арыштаваны за вывучэнне твораў М. Багдановіча і інш. Тэрмін адбываў на Калыме. Пасля вызвалення працаваў геолагам у Дальбудзе. Потым у Белгалоўгеалогіі. Сярод яго добрых знаёмых былі **Грахоўскі Сяргей**, **Сачанка Барыс** і інш. Пахаваны ў Карзунах.

**Вёска Куцень,** не існуе

**Коласа Георгія** (26.2.1929—18.12.1994), крытыка, публіцыста, кінадраматурга, радзіма. Скончыў Кудымкарскі настаўніцкі інстытут (Пермская вобласць, 1947), Беларускі тэатральны інстытут (1951). У 1947—1974 гг. працаваў у Беларускім тэатры оперы і балета, Рускім драматычным тэатры Беларусі, у рэспубліканскіх газетах, часопісе «Нёман», Міністэрстве культуры Беларусі. Аўтар кніг «Сучаснікі ў грыме і без грыму» (1963), «Аўтографы Андрэя Макаёнка» (1992), «Карані міфаў: Жыццё і творчасць Янкі Купалы» (1998); зборніка артыкулаў «Дыялог праз рампу» (1967); брашур па пытаннях драматургіі і тэатральнага мастацтва; сцэнарыяў дакументальных, навукова-папулярных кіна- і тэлефільмаў («Беларуская сюіта», 1966; «Купалаўцы», 1970; «Іван Шамякін», 1979; «Паклон мой народу за песні» і «Янка Купала», 1982; «Старажытныя паркі», 1989, і інш.).

**Вёска Мар'ямполь** Лядскага сельсавета

Адсюль пісаў карэспандэнцыі ў «Нашу ніву» **Бядуля Змітрок** (Гл. «Наша ніва».— 1912. — № 23).

**Гарадскі пасёлак Смілавічы**, цэнтр пассавета

**Вуліцы М. Горкага, Якуба Коласа, Янкі Купалы**.

**Зязюля Андрэй** (сапр. Астрамовіч Аляксандр), паэт, ураджэнец в. Навасяды Ашмянскага р-на Гродзенскай вобласці, служыў ксяндзом у мясцовым касцёле. Вёў службу па-беларуску.

**Шулякоўскага Уладзіміра** (н. 31.1.1940), празаіка, радзіма. Скончыў Смілавіцкую СШ, Мінскі палітэхнікум, Мінскі політэхнічны інстытут (завочна), Кіеўскі ўсесаюзны завочны інстытут Мінвадгаса СССР. Працаваў на розных пасадах у Расіі і Беларусі. Жыве ў Мінску. Аўтар кніг «Незвычайная карыда», «Козачка-шахматыстка».

**Ярашэвіч Эдуард**, празаік, ураджэнец г. *Бабруйска* Магілёўскай вобласці, з 1946 г. жыў тут. У 1954 г. скончыў сярэднюю школу. З-за хваробы (быў прыкаваны да ложка) далей вучыцца не мог. Актыўна друкаваўся ў чэрвеньскай раённай газеце «Уперад».

**Вёска Турэц** Смілавіцкага сельсавета

**Марціновіч Аркадзь**, пісьменнік, ураджэнец в. *Барбарова* Глускага р-на Магілёўскай вобласці, пасля заканчэння ў 1939 г. Мінскага беларускага педвучылішча працаваў тут настаўнікам.

**Вёска Хутар**, цэнтр сельсавета

У мясцовай сярэдняй школе існуе музей, адна з экспазіцый якога прысвечана пісьменніку **Пянкрату Міхасю**, які да вайны закончыў мясцовую сямігодку. Сыны пісьменніка перадалі сюды рукапісы вершаў, лісты і кнігі.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС.***












**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Верасок**

# Еўрапейскіх прастораў аздоба...



***У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубронак» адбыўся пяты рэспубліканскі конкурс паэтычнай творчасці ў рамках рэспубліканскага конкурсу «Юныя таленты Беларусі». Удзельнікамі сталі 25 вучняў 8—10 класаў устаноў адукацыі з усіх абласцей краіны і г. Мінска. Конкурс праводзіўся па наступных намінацыях: «Грамадзянская лірыка», «Пейзажная лірыка», «Філасофская лірыка», «Вершы для дзяцей», «Вершы пра жывёл» і «Лепшы верш на беларускай мове».***

***У госці да юных паэтаў завіталі пісьменнікі Зіновій ПРЫГОДЗІЧ, Уладзімір ЛІПСКІ, Аляксандр БЫКАЎ і Рагнед МАЛАХОЎСКІ, якія ўвайшлі ў склад журы, правялі майстар-класы, падзяліліся ўласнай творчасцю з удзельнікамі. Лепшыя паэты былі ўзнагароджаны «Крыштальнымі зубрамі» і памятнымі дыпломамі. Паводле вынікаў конкурсу выдадзены калектыўны зборнік вершаў. Некаторыя вершы пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу прапаноўваем чытачам «Бярозкі».***

## Родная мова

Родная мова, матчына мова,
Першае слова — жыцця адкрыццё.
Колькі ты вынесла гора і болю,
Не аддадзім мы цябе ў забыццё!

Родная мова — звычаі, песні,
Скарб беларускі, падораны нам.
Клёкат бусліны гучыць у паднябессі.
Хай адраджаецца слова і там!

Родная мова, цябе не пакінем
І не забудзем, дзе б ні былі!
Ты мілагучная ў сённяшняй плыні,
Жыві сярод нас, квітней і гучы!

***Віялета ГАРДЗЕЙЧЫК***

## Васілю Быкаву

Я прысвячаю гэты верш
Пісьменніку, салдату, чалавеку.
Ён за жыццё зрабіў не менш,
Чым іншыя ад веку.

Зусім зялёныя юнаком
Прыйшлося ўзяць у рукі зброю.
Знаёмы з жудаснай вайной
Ён вельмі блізка і з бядою.

Ў пяхоце хлопец ваяваў,
Сябрам за спіны не хаваўся.
І два раненні атрымаў.
На шчасце ўсё ж жывым застаўся.

А потым кнігі-ўспамін,
Дзе жорсткая святая праўда.
Усім нам вечны напамін:
«Няхай жа мірным будзе заўтра!»

Я чую «Жураўліны крык»,
І з Джуліяй бягу у Альпах.
І ў сэрцы у кароткі міг
«Ракеты трэцяй» стрэл азваўся.

І Сотнікаў ізноў стаіць
Ля важнай рысы, ля апошняй.
І зграя воўчая ляціць,
І зноў душа зайшлася помстай.

Міналі дні, мяняўся свет.
А Быкаў стукаўся у сэрцы.
Ад новых перасцерагаў нас бед,
Хацеў нам ісціну данесці.

Я дзякую табе, пісьменнік і салдат,
Ты чалавек, што прабудзіў сумленне.
І, азірнуўшыся ў вайну, назад,
Дарогай вернаю пакрочу, без сумнення.

***Аляксандра БОНДАР***

## Акраверш

***Б***елакрылы кляновы лісток —
***Е***ўрапейскіх прастораў аздоба,
***Л***ёсу слаўнага годны выток,
***А***бнаўлення не першая спроба.
***Р***упнай працай, красой адмысловаю
***У***слаўлены далёка у свеце,
***С***акавітаю звонкаю моваю,
***К***оласам з васільком у букеце...
***І*** міру пажаданнем усёй планеце.



*Юныя паэты*
*са сталымі пісьменнікамі.*



*Пераможцы конкурсу.*

***К***рынічнаю вадою чыстаю
***Р***одны кут — мой лісток — узгадаваны.
***А***б ім — мая песня ўрачыстая,
***Й*** яму назаўсёды буду адданай!

## Воблака

Глядзіць, праплываючы, белае воблака,
Як з кужалю, мяккае, добрае воблака.
Глядзіць на зямлю вачыма прарока,
І бачыць яно ўсё і чуе далёка.

Усміхнешся яму — і яно засмяецца,
Людскою пяшчотаю любіць пагрэцца.
Ад зла і няласкі слязьмі заліецца,
У час такі воблака хмарай завецца.

Калі жывуць людзі сумленна, у згодзе,
Ім яснасць яно захавае ў прыродзе.
А шкода заўжды адгукнецца у шкодзе —
Адвеку вядома ўсё гэта ў народзе.

*Ганна ТКАЧЭНКА*

## Жаданне

Водгукі пpастораў,
Маўклівая зара.
Думка ў маім моры
Не знікла, паплыла.
Момант замяшання,
Дарога ў нікуды.
Жыве маё жаданне,
Імчыць мяне туды,
Дзе дрогкае імгненне
Мой уладкуе лёс.
Ды мне маё імкненне
Патрэбна замест слёз.
А доўгія хвіліны
Сціскаюць сэрца мне.
І водар канюшыны
Ў душы маёй жыве.
Ведаеце, хто я?
Рамантык, сапраўды.
Адчуванне болю
Грызе мяне знутры...
Дык я хачу таго,
Каб дыхалась лягчэй!
Каб веяла цяплом
Мне ад чужых вачэй...

*Анастасія КАЗАК*

## Сінявокая кветка

Расцвіла на узлессі
Сінявокая кветка
І глядзіць ў паднябессе
Блакітнаю сведкай.
Дзьмуць ліхія вятры,
Навальніцы зігаюць...
Веру: выстаіш ты.
Хай лугі зацвітаюць!
Веру шчыра ў цябе
І ўсім сэрцам жадаю:
Шчасця больш і любві,
І спакою над гаем.
Зіхаці, мая кветка,
Сонцу яснаму ўслед
На лугах і палетках
І не ведай ты бед!

## Беларусь — мая зямля

Край шырокі, дарагі,
Ты кваціста Радзіма,
І ніколі я цябе
Не пакіну, не пакіну!

Тут убачыла я свет,
Крокі першыя зрабіла.
Як матуля, ты мяне
Шкадавала і расціла.

Я люблю твой шэпт лясоў,
Твае ціхія напевы
Родных птушак-спевакоў
Чутны раніцаю спевы.

Я люблю твае палі,
Шчодра сонейка іх грэе,
Рэкі, гай і ручайкі,
Ярка травы зелянеюць.

З кожным годам маладзей,
Стань святлей, мацней, дужэй.
Беларусь — мая зямля,
Шчасця кветачка мая.

***Юлія ПАРФЕНЦАВА***

## Маці

Хто жыццё дзіцяці дорыць,
Дорыць свет, прасторы?
Хто калыску калыхае,
Покуль ззяюць зоры?
Хто слязінкі выцірае
Ласкавай рукою?
Хто пяшчотай накрывае
Прама з галавою?
З кім падзелішся сакрэтам,
Самым патаемным?
З кім адыдуць усе нягоды
І прыйдуць надзеі?
Цёпла з кім зімой марознай,
Прахалодна летам?
З кім на свяце ты спяваеш
Весела дуэтам?
Хто ідзе заўсёды побач
І вядзе за руку?
Хто заўжды з табою разам,
Нават у разлуку?
Хто з табой, калі ты хворы,
Калі хочаш спаці?
Хто да кропелькі сябе
Аддае дзіцяці?
Ўсе пытанні без адказу
Можна пакідаць.
Даражэйшую за маці
Нельга адшукаць.
Мама, мамачка, матуля,
Маці дарагая.
Шчасця, моцнага здароўя
Я табе жадаю.

## Родная мова

*Мова — жывая істота.*
Кузьма ЧОРНЫ

Родная мова мая беларуская,
Продкі на ёй размаўлялі, а мы...
Неяк нам сорамна ёй прызнавацца
У нашай вялікай сапраўднай любві.



*Аўтограф ад Уладзіміра Ліпскага.*

Толькі чаму? Ты прыслухайся! Чуеш?
Мама табе калыханку пяе.
Кожнае слова, што сэрцам сагрэта,
Шчасце і радасць прыносіць табе.

Колькі пачуццяў, калі закаханы,
Ты адкрываеш для любага свет.
Словы чароўныя, самыя тайныя,
Кожны ў душы і спявак, і паэт.

Вольная мова мая беларуская,
Цяжкі, цярністы твой шлях.
Колькі сыноў, каб гучала ты горда
Палі ў няроўных баях.

Мовай сваёй ганаруся і веру,
Пройдуць гады і ўжо нашы сыны,
Скажуць Вялікае Дзякуй за тое,
Што мову дзядоў зберагчы мы змаглі.

## Гаспадар Белавежскай Пушчы

З далёкіх часоў
І да сённяшніх дзён
Жыве на зямлі беларускай
Вялікі зубр — цар нашых звяроў,
Ты ўбачыш яго ў Белавежскай Пушчы.

Ён сімвал краіны магутнай маёй,
Такі ж незалежны і дужы,
З высока паднятай ідзе галавой,
Ён вельмі адважны і мужны.

Да ворагаў люты, за праўду гарой,
Не церпіць падману і фальшу,
Ён вобраз краіны свабоднай маёй,
Ён сімвал народнага шчасця!

*Анастасія АЎЧЫННІКАВА*

# Мы помнім вас, дзеці вайны!

*Гісторыі грымучы цеплавоз,*
*Ты запраўляўся доўгі час крывёю.*
*О, колькі нас зрабілася травою,*
*Каб ты кудысьці свае колы нёс...*

Мар'ян ДУКСА



Вайна... Калі мы вымаўляем гэта слова, сэрца сціскаецца ад крыўды і болю. Колькі праліта крыві і слёз, загублена жыццяў, скалечана лёсаў, колькі сірот і ненароджаных дзяцей!..

Вайна! Яна здаецца страшнай нават цяпер, з адлегласці больш за 65 гадоў.

Парушыўшы савецка-германскі Дагавор аб ненападзе ад 23 жніўня 1939 года, фашысцкая Германія 22 чэрвеня 1941 года вераломна напала на нашу краіну. Згодна з планам «Ост», распрацаваным напярэдадні нападу на СССР, гітлераўцы меркавалі знішчыць ці прымусова выселіць 75 % беларусаў, рускіх, украінцаў. Астатнія 25 % жыхароў Беларусі прадугледжвалася анямечыць і выкарыстаць у якасці рабочай сілы. Яўрэяў і цыганоў, якія таксама жылі на Беларусі, чакала поўнае знішчэнне.

Адным з самых жахлівых бакоў фашысцкага акупацыйнага рэжыму быў генацыд у адносінах да жыхароў яўрэйскай нацыянальнасці. Звярыную палітыку знішчэння яўрэяў гітлераўцы з жорсткасцю пачалі ажыццяўляць з першых дзён акупацыі на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Так, па ўспамінах уцалелых вязняў, гета ў Смаргоні было створана ў жніўні 1941 года. Фашысты стварылі ў гета так званы «Юдэн — Рад» — яўрэйскі савет, які павінен быў адказваць за выкананне загадаў. Знясіленыя, галодныя людзі цяжка працавалі на рамонце дарог: насілі каменне, капалі пясок... Кантакты з мясцовым насельніцтвам строга забараняліся пад пагрозай расстрэлу. На ўцёкі адважваліся адзінкі. І гэтым адзінкам было цяжка знайсці




*Уваход у лагер смерці Трасцянец.*

прытулак, бо за ўкрывальніцтва яўрэяў пагражаў расстрэл усёй сям'і. Праўда, на Смаргоншчыне па глухіх вёсках і хутарах хаваліся яўрэі. Так, у вёсцы Спягліца (цяпер Свяцілавічы) хавалася адна маладая жанчына з трохгадовай дачкой. Яна была швачкай, і перад вайной яе ведала ўся вёска. Кватаравала яна ў адной шматдзетнай сям'і, дзе было 9 дзяцей. І вось аднойчы на вёску наляцелі немцы. Жанчына схавалася, а дзяўчынку схаваць не паспела, думала, што на дзяцей не звернуць увагі. Але адзін немец адразу ж распазнаў яўрэйскае дзіця. Ён схапіў дзяўчынку за нагу і ўдарыў аб борт машыны. Дзяўчынка была забіта.

Чытаю, пішу... і не разумею... За што?! Бо дзіця яўрэйскай нацыянальнасці? Ці чалавек трох год ад нараджэння — страшэнны вораг?

Амаль уся тэрыторыя Беларусі была пакрыта сеткай канцэнтрацыйных лагераў і турмаў (больш за 260 лагераў смерці), дзе людзей спальвалі, цкавалі сабакамі, закопвалі жывымі ў зямлю, атручвалі ў душагубках. Самым буйным у Беларусі з'яўляецца Трасцянецкі лагер смерці каля Мінска, у якім было знішчана больш за 200 000 чалавек.

Калі думаю пра вайну, чамусьці заўсёды ўспамінаю прачытанае пра Хатынь.

Калісьці там жылі мірныя людзі, шчырыя працаўнікі. Любілі свае палі і лясы. Вырошчвалі збожжа і лён, былі добрымі жывёлаводамі. Выхоўвалі дзяцей, радаваліся жыццю... Вайна разбурыла ўсе мірныя планы, злавесным ценем навісла над кожнай хатай. 149 чалавек, і сярод іх 76 дзяцей, навечна леглі ў адну брацкую магілу.

На месцы спаленай Хатыні ў 1969 годзе быў адкрыты мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс па ўшанаванні памяці ўсіх ахвяр фашысцкага генацыду ў Беларусі.

За пяць кіламетраў да гэтага мемарыяльнага комплексу стаяць слупы памяці як напамін пра той чорны, страшны дзень 22 сакавіка 1943 года. Спалілі ўсіх у адным хляве. Не стала Хатыні. Стаяць адны пячныя коміны і набатныя званы... і скамянелы стары з хлопчыкам на руках. Надрыўна плачуць званы. Плачуць галасамі тых, хто загінуў у бязлітасным полымі.

Трагічны лёс Хатыні падзялілі 628 беларускіх вёсак, 186 з якіх не адноўлены, паколькі былі знішчаны разам з іх жыхарамі.

 

У спісе населеных пунктаў, знішчаных фашыстамі часткова з жыхарамі ў перыяд акупацыі Беларусі і адноўленых пасля Вялікай Айчыннай вайны, значацца і 12 вёсак Смаргонскага раёна.

Адной з праяў акупацыйнай палітыкі быў вываз насельніцтва на прымусовую працу ў Германію. Гітлераўцы насільна вывезлі з Беларусі каля 400 000 чалавек, у тым ліку больш як 24 000 дзяцей.

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі змагалася звыш 70 тысяч падпольшчыкаў. Сярод беларускіх патрыётаў пераважала моладзь. Юнакі і дзяўчаты складалі 54 % беларускіх партызан. У партызанскім руху ўдзельнічала больш як 7 тысяч настаўнікаў і 34 тысячы навучэнцаў, з якіх каля 5 тысяч з'яўляліся піянерамі.

...Я сяджу ў музейным пакоі сваёй школы, а перада мною — фотаздымак майго земляка, ветэрана — Міхаіла Крутаўцова. Гляджу на партрэт гэтага чалавека, на яго шматлікія ўзнагароды і чамусьці адчуваю сябе такім маленькім, нязначным перад ім.

Мне не давялося пабачыць Міхаіла Мінавіча асабіста, бо ён пайшоў з жыцця яшчэ да майго нараджэння. Але я шмат ведаю пра яго з аповедаў бацькоў, аднавяскоўцаў, настаўнікаў, з магнітафонных запісаў, што захаваліся да гэтага часу ў нашай школе.

Слухаю яго ўспаміны:

— Як пачаўся для мяне першы дзень вайны? Як звычайна ў курсантаў Адэскай артылерыйскай школы ішлі вучэбныя стрэльбішчы. Над морам лёталі нашы самалёты, цягнулі на буксірных тросах вучэбныя мішэні. Мы па іх стралялі. Нашы гарматы былі размешчаны ля мора, метраў за 20 ад лініі прыбою. Радаваліся, калі траплялі па мішэні. Маладыя былі, вучэнні для нас былі цікавымі. І раптам — цень незнаёмага самалёта. Мы і спалохацца не паспелі, а многія ўжо ўпалі мёртвымі ў першы ж дзень вайны...

Ваяваў М. Крутаўцоў на Паўднёва-Заходнім фронце, там і раненне атрымаў, там жа і ордэн Чырвонай Зоркі. Калі адбіваў на безымяннай вышыні пад Адэсай атакі фашысцкіх галаварэзаў, цяжка параніла варожым асколкам у грудзі. Страціў шмат крыві і ледзь выжыў. Восем месяцаў у ваенным шпіталі малады арганізм змагаўся са смерцю і, нарэшце, перамог яе.

Затым зноў баец становіцца ў строй. Цяжкая бітва на рацэ Прут. Не раз успамінаў яе Міхаіл Мінавіч, не раз расказваў пра сутычкі з фашысцкімі танкамі:

— Прэ на цябе шматтонная махіна, і адна ў яе задача — раздушыць цябе,ператварыць у




*Мемарыяльны комплекс Хатынь.*

пыл і гразь, сцерці з твару зямлі. Хто ты перад такой махінай? Кузурка бездапаможная. Але стараюцца маладыя хлопцы з апошніх сіл, адбіваюцца, як могуць. А думка ва ўсіх адна: хоць бы снарадаў хапіла, каб знішчыць вылюдкаў фашысцкіх, каб самім выжыць. А жыць усім хацелася, маладыя зусім, нічога ў жыцці не пабачылі. Ды часта даводзілася смерці ў вочы глядзець, не ўсім шанцавала выжыць.

Шмат у маім франтавым жыцці было баёў, атак, загадаў... І раненне другое было. Смыляць, ныюць і сёння мае раны, асабліва пры змене надвор'я. Да цяперашняга часу рэнтгенаўскі апарат фіксуе ў лёгкіх наяўнасць іншароднага цела — асколак варожага снарада. Так і нашу ў сабе гэту «памяць» пра вайну.

Калі знаёмлюся з гэтымі ўспамінамі, усё больш зразумелым становіцца мне сэнс выразу — «юнацтва, абпаленае вайной», які часта сустракаецца ў літаратуры.

Міхаіл Крутаўцоў — чалавек-легенда, сапраўдны герой. Прайсці вайну, выжыць, пабачыць усе пакуты зямлі, пакуты чалавечага цела, у тым ліку і свайго ўласнага, — ці не ёсць гэта гераізм і мужнасць, ці не ёсць гэта подзвіг?..

Але часам можна пачуць і такія словы: «Можа, каб у час Вялікай Айчыннай вайны перамагла Германія, мы, беларусы, цяпер жылі б лепш? Паглядзіце, як добра цяпер жывуць людзі ў Германіі».

Мне сорамна за тых, хто так думае. Так думаць — перакрэсліць подзвіг нашага народа, забыць тых, хто ваяваў, хто ахвяраваў сваім жыццём дзеля Перамогі, забыць закатаваных у гета, забыць тых, каго спалілі жывымі...

Ці жылі б мы лепш? Ці жылі б мы ўвогуле? Бо нашы продкі перамаглі не проста Германію — на нашых землях быў спынены фашызм.

Пачатак XXI стагоддзя. Але войны то тут, то там успыхваюць на планеце. Дзесьці па-ранейшаму праліваецца кроў, гінуць людзі...

Няўжо Другая сусветная вайна не навучыла чалавецтва жыць?

***Ягор ЛОБАЧ, 15 гадоў,***
***Сыраваткі, Гродзенская вобласць***





# Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

***Прадстаўляем лепшае сачыненне на тэму «Кніга — мой лепшы сябар» у двух узроставых катэгорыях***

**Узроставая група 13—16 гадоў**

## І забаўляльная, і інтэлектуальная кніга



Кнігі. Што мы разумеем пад гэтым словам? Кожны сваё. Для аднаго — гэта крыніца ведаў, для іншага — адказ на ўласныя пытанні. А для кагосьці кнігі — цэлы свет! Штораз, разгортваючы кнігу, людзі зануraюцца ў невядомую для іх рэальнасць альбо ў фантастычны свет, становячыся яго часткай. Сапраўдную кнігу забыць немагчыма, яна закранае глыбіню чалавечай душы і прымушае па-іншаму зірнуць на навакольны свет, людзей, падзеі. Напэўна, у гэтым і хаваецца сакрэт кніг дзякуючы якому яны існуюць ні адно тысячагоддзе.

У кожнага з нас ёсць свая асаблівая кніга. Тая, якую мы гатовы перачытваць зноў і зноў, кожны раз адкрываючы для сябе нешта новае, дагэтуль невядомае. Такая кніга ёсць і ў мяне. Гэта твор Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта».

Многія ведаюць сюжэт. Гісторыя адбылася ў савецкай Маскве і прымусіла схамянуцца ўвесь горад. Хаця гэты перыяд савецкага часу, у якім адбываюцца падзеі, мне быў вядомы выключна па фільмах, глыбокі сэнс цэлай эпохі я зразумела толькі тады, калі прачытала раман.

Далёка не ўсе здольны асэнсаваць «Майстра і Маргарыту» у тым ідэалагічным і філасофскім ключы, які прапануе аўтар. Каб ацаніць гэтую мастацкую работу, неабходна валодаць высокімі культурнымі ведамі, быць знаёмым з гісторыяй краіны і зразумець філасофскі сэнс рамана. Мая ўлюбёная кніжка



цікавая і моладзі, бо ў ёй шмат маляўнічых момантаў з элементамі фантастыкі ды казкі. І калі нехта не зразумее да канца закладзены Міхаілам Афанасьевічам глыбокі сэнс твора, ён зможа атрымаць асалоду ад па-сапраўднаму захапляльнай гісторыі, што прымушае працаваць уяўленне кожнага.

Чытачы выдатна памятаюць і герояў рамана. Галоўным з іх, безумоўна, з'яўляецца Майстар — гісторык, які стаў пісаць раман пра Понція Пілата, іўдзейскага пракуратара. Менавіта Майстар займае цэнтральнае месца ўва ўсёй гісторыі, нягледзячы на тое, што аўтар знаёміць нас з ім толькі ў сярэдзіне твора. Варта заўважыць, што ён шмат у чым аўтабіяграфічны персанаж. Калі Майстар упершыню знаёміцца з Іванам Бяздомным, то паўстае перад намі чалавекам ва ўзросце трыццаці васьмі гадоў. Гэта ўзрост Булкагава ў 1929 годзе, калі ён пачаў пісаць «Майстра і Маргарыту». Ёсць і іншыя падобныя факты ў жыцці аўтара і яго герояў. Напрыклад, пратэст газетнай кампаніі супраць стварэння кнігі Майстра. Такі ж лёс быў і ў многіх твораў Міхаіла Афанасьевіча. Гэта «Белая гвардыя», «Бег», «Барвовы востраў». Аднак ні галоўны герой кнігі Майстар, ні сам аўтар не адмовіліся ад сваёй творчасці. У гэтым ёсць, на мой погляд, яшчэ адно падабенства Міхаіла Булкагава са сваімі героямі. Варта таксама адзначыць, што Майстар быў расчараваны ў людзях і ідэалах, што панавалі на той момант у грамадстве. Аналагічныя пачуцці былі і ў пісьменніка. І, бясспрэчна, нельга не адзначыць паралель, праведзеную паміж Іешуа Га-Ноцры і Майстрам. Бо як і Іешуа, наш герой абраў свой творчы шлях, які адрозніваецца ад шляхоў масы, за што ў выніку атрымаў асуджэнне і пакаранне. Аднак Майстар не можа быць там жа, дзе і Га-Ноцры, бо ён спаліў свой раман, не вытрымаў выпрабавання лёсу і накіраваўся ў «дом скрухі». Але ж і д'ябал не можа завалодаць ім: Майстар варты іншага месца, дзе ён зможа жыць, даўшы спакой сваёй душы. Менавіта там ён зноў набывае свой раман. І нам узгадаецца цытата, што стала такой славутай: «Рукапісы не гараць». Гэта была не столькі фраза Воланда, колькі лейтматыў жыцця Булгакава.

Нават сёння можна пачуць некаторыя цытаты з легендарнага булгакаўскага твора, якія не згубілі свайго сэнсу і актуальнасці. Напрыклад, «Падумаеш, біном Ньютана!», «Віну якой краіны аддаеце перавагу ў гэты час дня?», «Гісторыя рассудзіць нас» і шматлікія іншыя.

Так жа, як і героям рамана «Фаўст», Майстру і Маргарыце будзе наканава сустрэцца, але зусім не ў раю. Іх месцам будзе мяжа паміж дабром і злом, дзе Маргарыта стане захавальнікам Майстра, яго адданым вартаўніком. Лёс Майстра быў прадвызначаны, а Маргарыта — галоўная частка той узнагароды, якую ён атрымае ад Га-Ноцры.

Але ж на адной гісторыі кахання раман не трымаецца. Мы бачым тут нешта больш вялікае, мы бачым сустрэчу стыхій дабра і зла. Ужо з першых радкоў мы знаёмімся з самым галоўным духам зла — сатаной. Воланд і яго атачэнне — аснова, на якой трымаецца ўвесь сюжэт. Сеанс чорнай магіі, які Воланд са сваімі памочнікамі дае ў сталічным вар’етэ, у літаральным і пераносным сэнсе «распранае» некаторых грамадзян з залы.

Фантастычны паварот справы дазваляе пісьменніку разгарнуць перад намі цэлую галерэю персанажаў зусім не прывабнага выгляду, праводзячы аналогію з жыццём. Раптоўная сустрэча з нячыстай сілай паказвае, хто ж ёсць сапраўды ўсе гэтыя берліёзы, лагунскія, майгелі, ніканоры іванавічы, магарычы і іншыя. Тая ж Ганначка — самы яркі прыклад тагачаснай жанчыны: малаадукаваная, сквапная да грошай. Ганначка нічым не цікавіцца, акрамя плётак.

Воланд і яго адданыя памочнікі паказваюць чытачу не толькі людзей, але і час савецкай эпохі з панаваннем пралетарыяту. Разгледзеўшы аблічча той Масквы, мы бачым, што рабіла з людзьмі ўлада і свабода. Гэта ёміста адлюстравана цытатай Воланда: «Ну што ж, яны — людзі як людзі. Любяць грошы, але гэта было заўжды. Ну легкадумныя... ну што ж... і міласэрнасць часам грукоча ў іх сэрцы... звычайныя людзі... Нагадваюць ранейшых...»

Масква таго часу — гэта камуналкі, маленькія пакойчыкі з агульным калідорам, кухняй ды туалетам. І людзі, што жывуць там, знаходзяцца ў стане заўсёднага змагання, учэпіста аберагаючы сваю нікчэмную ўласнасць: прымус на кухні, сервант і дыванок з лебедзямі ў пакойчыку, парусінавы партфель, які даказвае прыналежнасць да працы кіраўніком... Гэты быт будзе яшчэ больш саркастычна перададзены ў рамане «Сабачае сэрца», дзе прафесар Праабражэнскі вымавіў свой славуты маналог пра разбурэнне, якое пачынаецца ў галовах, з таго, што людзі мочацца міма ўнітаза і ходзяць па паркеце ў галёшах. Мы разумеем наколькі недакладныя, бязглуздыя і няпраўдзівыя іх высновы пра жыццё. У тагачасных масквічоў нават не існуе індывідуальнага меркавання, паўсюдна ўладарыць меркаванне натоўпу.

Самае галоўнае тое, што мы бачым, як моцна памыляецца чалавек, мяркуючы, што ён можа ўсім кіраваць. Чалавек заўжды мусіць памятаць, што ёсць тое, над чым ён не ўладны, і ёсць тое, у што неабходна верыць без фактаў і доказаў. Часам простай веры дастаткова для цуду. Гэтаму ўроку і мноству іншых навучыў нас Воланд. Варта ўзгадаць словы пра «асятрыну другой свежасці»: у сучасным свеце таксама існуе шмат рэчаў і каштоўнасцей «другой свежасці».

Майстар у рамане не змог перамагчы. Зрабіўшы б яго пераможцам, Булгакаў парушыў бы законы мастацкай праўды, здрадзіў бы свайму пачуццю рэалізму, якому заўжды падначальваўся. Але раман не завяршаецца на песімістычнай

ноце, зусім не, бо на зямлі застаўся паслядоўнік Майстра, яго вучань — Іван Бяздомны. Гэтаму герою, адзінаму з усіх, аўтар дае другі шанец, каб той здолеў змяніць сваё жыццё, што напрыканцы і здарылася.

У творы «Майстар і Маргарыта» ёсць усё, што патрэбна і цікаўнаму розуму, і душы, якая заблукала.

*Лізавета ГАТАТУЛІНА, Мінск*

**Узроставая група 9—12 гадоў**

## Кнігі — сябры

Сябра любім, з ім хочацца быць, з ім ніколі не сумна, ён падтрымае ў бядзе, сябар падзеліцца тым, што мае...

«Кнігі — сябры» — так лічыў пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Ён вельмі высока ацэньвае кнігу, назваўшы яе сябрам.

Кніга ў нашай краіне ўзнята на п'едэстал гонару, і ўсё, што звязана з друкаваным словам, выклікае вялікую ўвагу народа.

Вядома, што доўгі час кнігі былі рукапіснымі. Вялікім дасягненнем стала для чалавека друкаваная кніга. У Еўропе пачатак кнігадрукаванню паклаў Іаган Гутэнберг. Следам за ім у 1517 годзе славуты сын беларускай зямлі Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу на роднай мове. Ён паказаў прыклад у кнігадрукаванні іншым усходнеславянскім народам. Так, першыя кнігі ў Расіі і Украіне былі надрукаваны на пяцьдзясят гадоў пазней.

З глыбокай старажытнасці — спрадвеку,
Каб з плеч сагнутых скінуць гнёту груз,
Каб мову мець, каб звацца чалавекам,
Цягнуўся да асветы беларус....
І свет загаманіў
Нарэшце, што з'явіўся палачанін
Першадрукар, Скарына, гуманіст!

Пачатае Скарынам мела плённы працяг. Традыцыі, закладзеныя ім, паспяхова развіваліся.

Прачытаныя кнігі ў дзяцінстве мелі выключнае значэнне і для будучых вялікіх пісьменнікаў. Пра гэта сведчаць іх прызнанні і ўспаміны. Максім Багдановіч па кнігах з бацькавай бібліятэкі вывучыў родную мову, народныя традыцыі і мінулае Беларусі. Будучы паэт чытаў лепшыя творы пісьменнікаў свету на розных замежных мовах. Ён амаль заўсёды хадзіў з кнігай. Нездарма сябры называлі яго Максімам-кніжнікам. Максім Багдановіч стаў адным з высокакультурных людзей свайго часу.

Дружба з кнігаю — занятак вельмі інтымны. Яна патрабуе ўсяго чытача: і яго думак, і яго настрою, і яго эмоцый. Часам — слёз. А часам і смеху.

Я сябрую з кнігаю. Атрымліваю асалоду ад хараства і выразнасці беларускага слова. Прачытаўшы, напрыклад, аповесць Міхася Лынькова «Міколка-паравоз», я даведалася пра тое, як змагаўся працоўны народ у часы Грамадзянскай вайны. Я палюбіла Міколку, яго бацьку, дзеда за іх справядлівасць, смеласць,



геройства. Іх паводзіны, учынкі сведчаць пра тое, як любяць сваю краіну працоўныя людзі, як самааддана абараняюць яе ад ворагаў. Пісьменнік нібы перанёс мяне ў тыя далёкія часы і даў магчымасць сваімі вачыма паглядзець на тое жыццё, самой разабрацца ў яго складаных з'явах, зрабіць пэўныя вывады.



Кніга — гэта заўсёды роздум. Яна абавязкова змушае думаць. Кніга — лепшы і надзейны сябар кожнага чалавека ў любы час. Яна ніколі не падвядзе, яна заўсёды скажа праўду і пакажа правільны шлях да ісціны, нават калі яна змяшчае хлусню. Вядома, для гэтага трэба ўмець чытаць і паміж радкоў, умець бачыць сапраўдныя каштоўнасці ў рэчах і ацэньваць падзеі з розных пунктаў гледжання.

Кнігі суправаджаюць чалавека ўсё яго жыццё, пачынаючы з маленства. Яны з'яўляюцца нашымі вернымі памочнікамі, настаўнікамі і выхавацелямі. Кнігі вучаць нас, што такое добра і што такое дрэнна, вучаць нас быць смелымі і адважнымі, моцнымі і годнымі. Па кнігах мы вучымся жыць. Кніга — частка культурнай спадчыны. Яна дорыць нам шмат уражанняў і ведаў. Кніга развівае мысленне, прымушае нас думаць, развівае наша маўленне, пашырае моўны запас. З кніг мы даведваемся пра іншыя краіны, хто, дзе і як жыве, пра прыроду, тэхніку, гісторыю — пра ўсё на свеце, што нас цікавіць. Кніга вучыць нас суперажываць, дазваляе адчуць сябе ў становішчы іншага чалавека і зразумець, што ён адчувае. Кніга адкрывае нам, што ўсе людзі розныя.

Усе добрыя кнігі падобны ў адным — калі вы іх дачытваеце да канца, вам здаецца, што ўсё гэта здарылася з вамі, і так яно назаўжды пры вас і застанецца.

Сёння кожны з нас павінен зрабіць усё магчымае, каб выклікаць цікавасць да беларускай кнігі. Мы павінны абмеркаваць становішча нашай роднай мовы, паразважаць пра яе ўжыванне ў паўсядзённым жыцці, адносіны насельніцтва да нашай беларускай мовы і беларускіх кніг, запатрабаванасць беларускамоўнай літаратуры і яе распаўсюджанне ў грамадстве.

*Кацярына СІДСКАЯ, Пінск*



# Шэдэўральнае анімэ ад Хаяо Міядзакі

***Краіна мультыплікацыі і анімацыі здольна зачараваць не толькі дзіця, але і дарослага. Сёння не знойдзецца, відаць, чалавека, які б не чуў імя Уолта Дыснея. На фільмах кампаніі Disney вырасла не адно пакаленне дзяцей. А вось Хаяо Міядзакі? Ці кажа вам нешта гэтае імя? Не такі славуты, як Дысней, але ж і не менш таленавіты чарадзей. Сёння «Бярозка» распавядзе пра дзіўную творчасць гэтага чалавека, якога нароўні з Уолтам можна называць адным з лепшых майстроў мультыплікацыйнага мастацтва за ўсю гісторыю яго існавання.***

## За гэтае рашэнне яму ўдзячныя мільёны прыхільнікаў

Хаяо Міядзакі нарадзіўся ў самым сэрцы Краіны ўзыходзячага сонца — у Токіа, у пачатку Другой сусветнай вайны. Акрамя будучага аніматара, у сям'і Міядзакі было яшчэ трое хлопчыкаў. З братамі Хаяо быў асабліва блізкі: яны для яго лепшыя сябры. Нягледзячы на ўсё, што прынесла вайна ў жыццё японцаў, Хаяо Міядзакі дзякуючы сваёй сям'і не страціў здольнасці бачыць у свеце прыгажосць, што і дазволіла яму стаць цудоўным мастаком. Па патрабаванні бацькоў Хаяо паступіў у прэстыжны сталічны ўніверсітэт Гакусюін на факультэт палітыкі і эканомікі, але адразу ж пасля заканчэння вучобы ўладкаваўся простым рабочым у анімацыйную студыю «Toei Animation» і цвёрда вырашыў стаць мультыплікатарам. За гэтае рашэнне яму ўдзячныя мільёны прыхільнікаў па ўсім свеце.

Першай работай мультыплікатара, якая выклікала буйны інтарэс да яго творчасці з боку гледачоў, стала анімэ «Наўсікая з Даліны Вятроў» 1984 года. Анімэ-фільм з незвычайным сюжэтам пра магчымую будучыню чалавецтва, калі тэхнічны прагрэс дасягнуў апагею і прывёў да сусветнай катастрофы, зацікавіў глядацкую аўдыторыю ўсіх узростаў. Юнага гледача заваявала дабрыня герояў, якая, здавалася б, немагчымая для сітуацыі, што склалася, непрадказальныя павароты падзей і цудоўная музыка — неверагодны казачны свет, створаны японскім чарадзеем. А дарослых прывабіў падтэкст, які прымушае задумацца пра тое, што адбываецца ў свеце. Гэты анімэ-фільм створаны па-майстэрску: наіўны, на першы погляд, па-дзіцячаму светлы, але пры ўсім гэтым ён натхняе на сур'ёзныя роздумы.



*«Нябесны замак Лапута».*



Але ці можна перадаць словамі гэты шэдэўр? Можна толькі адчуць, таму — глядзіце.

Пасля выхаду «Наўсікаі з Даліны Вятроў», які быў першым фільмам, створаным на адкрытай Хаяо Міядзакі ўласнай анімацыйнай студыі Ghibli, імя мультыплікатара стала вядомым практычна кожнаму японцу. У наступныя гады Міядзакі стварыў незвычайны «Нябесны замак Лапута», кранальны «Мой сусед Тоторо», дзіўны «Ведзьміна служба дастаўкі» і велічны «Прынцэса Манонаке» — усе гэтыя мультфільмы былі адзначаны мноствам узнагарод, як у Японіі, так і за яе мяжой. Анімэ-шэдэўры з непадобнымі сюжэтамі, але ўсё такімі ж цудоўнымі персанажамі, рысы якіх нязменна выдаюць майстра Міядзакі, скаралі сэрцы гледачоў год за годам. Работы Хаяо Міядзакі былі высока ацэнены і прадстаўнікамі кампаніі Disney: сёння нават на тэлеканале Disney вы можаце ўбачыць фільмы японскага аніматара.



*«Наўсікая з Даліны Вятроў».*

## «Знесеныя прывідамі» спадабаюцца ўсёй сям'і

Але хацелася б вылучыць адну асаблівую працу Міядзакі, дзякуючы якой, творчасць японскага чараўніка стала вядомай і ў Еўропе, і ў Амерыцы. Гэта мультфільм, які не пакідае абыякавым абсалютна нікога — непаўторныя «Знесеныя прывідамі». Казка, якая расказвае пра крыху капрызную, але пры гэтым добрую і міласэрную школьніцу Ціхіро, якая пры чарговым пераездзе ў новы дом разам з бацькамі трапляе ў чароўны свет прывідаў і духаў, у якім, як вы здагадаліся, ёй даводзіцца пераадолець нямала цяжкасцей. Каб выратаваць бацькоў, якія сталі палоннымі злой вядзьмаркі чароўнага свету Юбабы, юнай Ціхіро даводзіцца прымаць мноства не па-дзіцячы сур'ёзных рашэнняў. Але, на шчасце, яна знаходзіць сяброў, якія гатовыя ёй дапамагаць ва ўсіх прыгодах.

«Знесеныя прывідамі» атрымалі галоўную кінаўзнагароду ў 2001 годзе — «Оскар» у катэгорыі «Лепшы анімацыйны паўнаметражны фільм», апярэдзіўшы такія вядомыя мультфільмы, як «Ледніковы перыяд», «Ліло і Стыч», «Спірыта» і «Планету скарбаў». Акрамя таго, фільм заваяваў прыз «Залаты мядзведзь» Берлінскага кінафестывалю ў 2002 годзе і стаў лепшым фільмам года, згодна з меркаваннем Японскай і Ганконгскай кінаакадэмій. «Знесеныя прывідамі» спадабаецца ўсёй сям'і — у гэтым яшчэ адна дзіўная рыса таленту Міядзакі. Таму, калі вы яшчэ не бачылі гэты цуд, падаруйце сабе квіток у гэтую чароўную краіну ў бліжэйшы ж час!

«Хадзячы замак» і «Рыбка Паньё на ўцёсе», створаныя пасля ўжо «Знесеных прывідамі», дэманстраваліся на вялікіх экранах і за мяжой Японіі. Чаканні гледачоў апраўдаліся: яны былі такія ж чароўныя, як і папярэднія работы мультыплікатара. Хаяо Міядзакі, які невытлумачальным чынам стварае ўсе гэтыя казачныя сусветы, і на самай справе варты называцца адным з лепшых майстроў мультыплікацыйнага мастацтва.

Прыемнага вам падарожжа ў чароўны свет японскага чарадзея!

*Паліна БУЧЭЛЬ*

# Шукаючы — знойдзеш!*

### *Аповесць*

## 3

Каб адцягнуць Косціка ад сумных думак, ксёндз Павел вырашыў загаварыць на зусім іншую тэму.

— Скажы, ты калі-небудзь дапамагаў ксяндзу весці імшу?

Хлопчык па-ранейшаму яшчэ знаходзіўся ў нейкім здранцвенні і не мог гаварыць. Таму ён толькі адмоўна пакруціў галавой.

— А хочаш паспрабаваць?

На гэты раз ён проста пацiснуў плячыма, што азначала — чаму б і не. Праніклівы святар зразумеў яго правільна.

— Тады паспрабуеш сёння ж. Добра?

Зноў практычна абыякавы поціск плячыма.

— Вось і выдатна, — не адступаўся ад размовы ксёндз.

Але больш гэты дзіўны дыялог не меў працягу. Яны ўжо дайшлі да касцёла, прайшлі ў захрыстую, і Косцік стомлена апусціўся на крэсла. Было ўжо 14.30, так што ксёндз Павел апрануў на шыю фіялетавую стулу і выйшаў, хлопчык жа так і застаўся сядзець, бессэнсоўна разглядаючы сцяну на ўзроўні вачэй. Калі б разглядаў крыж, можа быць якія-небудзь суцяшальныя думкі і прыйшлі б у галаву. А так — нічога добрага. Ды і асаблівай разнастайнасцю думкі не адрозніваліся. Круцілася адна. Косціку нават здавалася, што яна крыху звініць. «Навошта палез у гэты дуб? Навошта палез у гэты дуб? Бабуля памрэ ад гора! Навошта палез у гэты дуб? Бацькі перастануць наогул усміхацца! Навошта палез у гэты…»

Яго сумныя думкі перапыніў ласкавы дзявочы галасок:

— Прывітанне, а ты хто?

Косцік з вялікай неахвотай адарваў пагляд ад сцяны і павярнуў галаву. У дзвярах стаяла бялявая дзяўчынка з яснымі блакітнымі вачыма і мілай усмешкай. Яна была прыкладна аднаго ўзросту з Косцікам. Апранута вельмі акуратна, у касу ўплецена яркая блакітная стужачка.

— Ніхто, — адказаў Косця сумна.

— Як ніхто? Ты хлопчык. Як цябе клічуць?

— Канста… — пачаў прадстаўляцца ён, як з дзяцінства навучыў бацька, але потым перадумаў. — Косця, а цябе як?

— Маша, — прамовіла дзяўчынка і ўсміхнулася.

---

* Працяг. Пачатак у № 2, 3, 4 за 2013 г.

У хлопчыка перахапіла дыханне. Гэта была яго бабуля. Ён зноў быў гатовы абрынуцца ў ранейшае здранцвенне, але Маша ўпарта не дазваляла яму ад сябе адвярнуцца, прымушаючы размаўляць. І ён адказваў, сам таго не чакаючы, бо са святаром ён паводзіў сабе не так прыстойна, а проста ківаў яму ў адказ.

— З якой ты вёскі? — дзяўчынка ўжо адышла ад дзвярэй і стаяла побач са сталом, за якім сядзеў Косцік.

— Не важна. Я здалёк. А ты з якой? — спытаўся Косцік, хаця ўжо ведаў, што адкажа гэтая дзяўчынка.

— З вёскі Куль. Я цябе раней тут не бачыла, — яна ўсміхалася і выглядала чароўна.

Хлопчык прыпомніў — старой жанчынай яго бабуля таксама была абаяльнай асобай.

— Я цябе таксама тут не бачыў, — прамовіў ён і ўсміхнуўся.

Дзяўчынка засмяялася, і ў гэты час увайшоў ксёндз, а за ім яшчэ чатыры хлопчыкі.

— Так, хлопцы, давайце знаёміцца. Гэта, — сказаў святар, паказваючы ў бок Косціка, — Косця. А гэта, — працягваў ён, павярнуўшыся да астатніх хлопчыкаў і па чарзе паказваючы на кожнага рукой, — Сяргей Сквароўскі, Уладзік Мельжыч, Антоній Костка і Андрэй Правадаў.

Самым старэйшым быў Андрэй. На выгляд яму было недзе сямнаццаць гадоў. Астатнія ж хлопчыкі былі прыкладна аднаго з Косцем узросту. Толькі, бадай, Уладзіку было не больш васьмі гадоў.

Не адзін Косцік разглядваў хлопчыкаў. Маша таксама на правах адзінай дзяўчынкі пазірала на кожнага з іх. Калі яна дайшла да Сяргея Сквароўскага і перавяла погляд на свайго новага знаёмага, то гучна ахнула і тут жа прыкрыла рот рукой. Святар адразу зразумеў, што яна заўважыла вялікае падабенства паміж хлопчыкамі, якое, зрэшты, нельга было не заўважыць. Іншыя хлопчыкі таксама пазіралі на Косцю насцярожана. Ужо вельмі былі яны падобныя між сабою. Давялося патлумачыць.

— Косця далёкі сваяк Сяргея Сквароўскага. Табе, Сярожа, бабуля павінна была расказаць, што мы заходзілі.

— Я яшчэ не быў дома, — прамовіў хлопчык вельмі ціха і ветліва, але ў той жа час неяк нахмурана, не да канца давяраючы пачутаму. Аднак больш ніякіх тлумачэнняў не было, таму хлопчыкам нічога не заставалася, як паціснуць новаму знаёмцу руку і пачаць пераапранацца. Праз хвіліну ў захрыстай з'явіліся яшчэ дзве дзяўчынкі. Маша, ціха з імі размаўляючы, таксама пачала пераапранацца.

Косця ўвесь ход імшы ведаў на памяць, і, тым не менш, вельмі хваляваўся, калі заходзіў на алтар і лавіў кожны ўпэўнены рух іншых хлопчыкаў і кожнае слова ксяндза. Яму яшчэ нічога не дазвалялі рабіць. Нават свечку трымаць. Але і гэтага яму пакуль было дастаткова. Усё тое, што адбывалася вакол, дапамагала на нейкі час забыцца на сумныя думкі. А калі адбываласяператварэнне віна ў кроў Хрыста, Косцік маліўся, каб усё павярнулася так, як трэба. Ён ніколі нічога не прасіў. І нават у гэты раз. Толькі, каб Бог зрабіў так, як яму заўгодна, а ён, Косцік, аддаецца цалкам пад яго апеку. «Калі будзе трэба, дуб

абавязкова з'явіцца, значыць, мне проста неабходна было сюды патрапіць і тут пажыць». Ад гэтых думак стала лягчэй дыхаць. Ён звярнуў увагу на тое, як прыгожа спявае Маша. Заглядзеўся на яе і нават хацеў ўсміхнуцца, калі яна весела на яго зірнула, але не стаў, згадаўшы, што яна яго бабуля, і, заўважыўшы пагляд свайго будучага дзядулі, Сяргея Сквароўскага. Пасля імшы ўсхваляваны хлопец падышоў да яго і ціхенька, пакуль ксёндз не бачыць, шапнуў на вуха:

— Нават не думай на яе глядзець, зразумеў?

Косцік усміхнуўся ў адказ. Ён жа ведаў, што гэты хлопчык ўсё роўна ажэніцца на Машы, у іх народзіцца сын, потым народзіцца ён сам, а дзядуля памрэ праз дзевяць гадоў пасля гэтага. Гэта ж трэба! Ён ніколі не ведаў, што дзед Сяргей любіў бабулю з самага дзяцінства. Прыгожа...

Сяргей Сквароўскі растлумачыў мяккую ўсмешку Косціка, нікому канкрэтна не адрасаваную, па-свойму. Ён вырашыў, што той не ўспрымае яго словы сур'ёзна (часткова гэта было праўдай) і мае намер працягваць весці размовы і ўсміхацца з яго Машай (тут ён, вядома ж, памыляўся).

Калі ўсе, нарэшце, разышліся, а выглядала гэта даволі смешна, таму што Маша пастаянна пазірала на Косціка, а Сяргей у гэты час са злосцю зіркаў то на Машу, то на свайго ўнука. Ксёндз Павел вырашыў узяць ініцыятыву на сябе і пачаць размову пра далейшае знаходжанне Косці ў гэтым часе.

— Можа, ты хочаш у дом сваіх родзічаў?

— Не, — адказаў хлопчык.

— А дзе ж ты будзеш жыць? — спытаўся ксёндз, хоць сам ведаў адказ.

— Можна ў вас?

— Можна. Цяпер яшчэ адно пытанне. Табе давядзецца хадзіць у школу, пакуль дуб не з'явіцца на месцы. Я пра ўсё даведаюся, і праз пару дзён ты пойдзеш у школу ў вёсцы Куль.

— Я і ў сваім свеце туды хадзіў. Там адзінаццацігадовая вялікая школа.

— Пакуль што васьмігадовая, шаноўны. У якім ты класе?

— У шостым.

— Што ж, я пра ўсё празнаю. А цяпер дадому.

Ксёндз быў у добрым настроі. Усё ішло найлепшым чынам. Хлопчык забыўся пра свае беды і яму стала на душы спакайней. Дома іх чакала гарачая вячэра, якая не адрознівалася вялікай разнастайнасцю ад сняданку: тыя ж бліны, толькі да іх яшчэ і свежаніна.

За вячэрай ксёндз паціраў рукі ад задавальнення. Практычна адразу, як яны зачынілі дзверы, за акном пачаўся сапраўдны буран. І як утульна было сядзець у цёплай кухні і, вячэраючы, размаўляць.

— Што-небудзь змянілася ў правілах правядзення імшы?

— Не. Але я магу шчыра сказаць, што вы адпраўляеце імшу лепш і цікавей, чым ксёндз Франц з Куля.

— Мой хлопчык, — прамовіў малады ксёндз Павел такім голасам, як быццам яму было ўжо мінімум восемдзесят гадоў, але ніяк не дваццаць восем, — ксёндз — гэта звычайны чалавек. У кожнага з нас свой рост, вага, галасавыя звязкі, магчымасці і памяць. А таму і імшу кожны з нас адпраўляе па-свойму. Не можа быць нейкага эталона, акрамя як у Папы Рымскага.

— І ўсё роўна ваша імша лепшая. Больш шчырая.

— Кожны з нас вядзе імшу шчыра. Ты падумай, калі малады чалавек ідзе ў семінарыю, то, па-першае, у большасці выпадкаў ён робіць гэта свядома, а не па чыёйсьці ўказцы. А па-другое, у яго ёсць час усё абдумаць і пакінуць семінарыю, калі ён не адчувае любові і шчырасці да сваёй справы. Любові да Бога, галоўнае.

Ксёндз Павел зняў сутану і сядзеў у штанах і швэдары. «Ён мог быць мне старэйшым братам», — думаў хлопчык, употай разглядаючы ксяндза.

Калі прыйшоў час класціся спаць, Косцік зноў спачатку распрануўся і лёг пад коўдру, а потым папрасіў прыбраць лямпу.

— Усё будзе добра, Косцік, не хвалюйся, — прамовіў ксёндз Павел, забіраючы лямпу, аднак чамусьці шэптам. — Ты ўбачыш дуб тады, калі гэтага захоча Ён. — І святар шматзначна падняў вочы да столі.

Калі ў пакоі стала цёмна, і толькі лёгкае святло прабівалася скрозь вокны, Косціку зноў зрабілася тужліва. Ён успомніў бацькоў, бабулю, свой пакой, падумаў, як мала часу праводзіў з маці і татам, усё больш блукаў у нейкіх уласных думках, і як яму самотна без іх.

На наступную раніцу яго разбудзіў ксёндз Павел і загадаў хуценька апранацца.

— Сёння мы пойдзем з табою ў школу, я пагавару з дырэктарам. Бо ты ж павінен вучыцца!

За акном было яшчэ цёмна і, Косцік здагадваўся, холадна. Мабыць, выгляд хлопчык меў няшчасны, таму святар пачаў зноў тлумачыць яму, навошта трэба ісці ў школу.

— Мы ж не ведаем, праз які час з'явіцца дуб. А раптам не праз месяц, а праз пяць гадоў.

Косцік здзіўлена падняў бровы. Пяць гадоў яму ўжо дакладна не хацелася тут знаходзіцца!

— Так-так! І што табе, не вучыцца? Пойдзеш у школу, тым больш ты кагосьці там ужо ведаеш.

Косцік кіўнуў.

— Думаю, мне не адмовяць.

Шлях у школу, як і ў яго часе, быў няблізкі. Дарогу праз вёску размыла, так што вырашылі ісці праз поле. Як ні дзіўна, дарога праз яго была больш сухой і прыемнай. Вакол тонкім слоем ляжаў снег. Было зразумела, што пры першых промнях сонца ён растане. Затым, перайшоўшы праз шашу (жвіроўку, у дзевяностых там ужо ляжаў асфальт), выйшлі на дарогу ў Куль. З комінаў дамоў ветла віўся дымок.

Косцік ішоў моўчкі і глядзеў сабе пад ногі. На куртку яго быў з:матаны тоўсты шалік, які даў ксёндз, рукі хлопчык саўгануў у кішэні, так што холад не даймаў, але размаўляць ўсё роўна не хацелася. Ён не жадаў ісці ў гэтую школу, бо не вельмі добра сыходзіўся з новымі людзьмі. З аднакласнікамі амаль не сябраваў, а тут яшчэ і новыя людзі, якія, між іншым, амаль усе памерлі да таго яшчэ як Косцік нарадзіўся. А цяпер ён павінен сядзець з імі ў адным класе. Толькі ж нічога не зробіш. Хлопчык уздыхнуў.

***Ганна СТАРЫКОВІЧ***

***Працяг у наступным нумары***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 36 000 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 15 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 45 600 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 11200 руб.***


Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.05.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,31. Тыраж 2399 экз. Заказ 1462. Кошт нумара ў розніцу 13 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**